АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа
Беларускі філіял Геаграфічнага таварыства СССР

**І. Я. ЯШКІН**

# БЕЛАРУСКІЯ ГЕАГРАФІЧНЫЯ НАЗВЫ

**Тапаграфія. Гідралогія**

**Выдавецтва „Навука і тэхніка“**
**Мінск 1971**

Я96
912+4

Рэдактар
доктар філалагічных навук
М. В. БІРЫЛА

**Яшкін І. Я.**

Я96 Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія. Рэд. М. В. Бірыла. Мн., «Навука і тэхніка», 1971.

256 с. АН БССР. Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. Беларускі філіял Геагр. т-ва СССР. 2800 экз. 1 р. 04 к.

У працы падаюцца мясцовыя беларускія геаграфічныя назвы, якія вызначаюць марфалогію зямлі, гідралагічныя асаблівасці вадаёмаў, раслінныя асацыяцыі і ландшафт. Паказана ўзнікненне новых геаграфічных тэрмінаў. Прыводзіцца як сучасны матэрыял, так і матэрыял архіваў, гістарычных і літаратурных крыніц. Усяго падаецца каля 5000 апелятываў, з іх 1710 рэестравых. — Бібліягр. 247—253.

7-1-5
66-71 912+4

*Светлай памяці бацькі*
*Якава Міхайлавіча*

## ПРАДМОВА

Беларускія геаграфічныя назвы вельмі багатыя і разнастайныя,— гэта жывыя гістарычныя помнікі. Кожны, нават самы маленькі, здавалася б, нязначны аб'ект на зямлі атрымаў сваё найменне. У жывой гаворцы, асабліва ў вытворчай практыцы, гэтыя назвы сустракаюцца вельмі часта. Вялікая колькасць іх зарэгістравана ў мастацкай літаратуры, гістарычных помніках, навуковых працах, артыкулах, слоўніках. Але яшчэ няма працы, дзе б гэты багацейшы матэрыял быў больш-менш абагульнены і сістэматызаваны. Вучоныя пры распрацоўцы тэарэтычных пытанняў не маюць магчымасці выкарыстаць ва ўсім аб'ёме беларускі тапанімічны матэрыял, што адмоўна адбіваецца на глыбіні і аб'ектыўнасці навуковых абагульненняў і вывадаў. Востра адчуваецца адсутнасць поўнага рэестра наменклатурных тэрмінаў, што сустракаюцца ў мясцовых назвах Беларусі, у працы ўстаноў, якім даводзіцца мець справу з правільным напісаннем беларускіх геаграфічных назваў.

Варта прыняць пад увагу і тое, што ў беларускай навуковай, педагагічнай і мастацкай літаратуры адны і тыя ж геаграфічныя тэрміны тлумачацца па-рознаму. І наадварот, многія аднатыпныя, тоесныя геаграфічныя аб'екты ў розных месцах атрымалі своеасаблівыя назвы.

Вывучэнне геаграфічных назваў мае вялікае практычнае значэнне. Многія з іх сталі ўласнымі назвамі населеных пунктаў, урочышчаў, флора, фауна і ландшафт якіх даўно змяніліся. Але па саміх назвах можна ўзнавіць тэрыторыю пашырэння ў мінулым пэўных траў, парод дрэў, жывёл, карысных выкапняў. На працягу значнага часу геаграфічныя назвы мяняліся, пераасэнсоўваліся, што ў залежнасці ад розных умоў, у тым ліку сацыяльных, нярэдка вяло да скажэння іх першапачатковага сэнсу. А сталае правільнае ўжыванне мясцовай назвы неабходна для культуры вуснай і пісьмовай мовы.

Укладаючы слоўнік, аўтар меў на мэце стварыць па магчымасці поўны даведнік апелятыўнай лексікі. Сабраны матэрыял з розных мясцовасцей Беларусі паказвае, што вялікая колькасць геаграфічных назваў мае агульнабеларускае пашырэнне, частка займае пэўныя раёны, а паасобныя з'яўляюцца вузка лакальнымі. Адзначаецца захаванне старабеларускай лексікі.

Слоўнікавыя артыкулы пабудаваны з улікам тапаграфічных і гідралагічных найменняў, якія замацаваны ў якасці літаратурных у «Беларуска-рускім слоўніку» (1962). Літаратурнае слова амаль заўсёды з'яўляецца апорным; усе іншыя сінонімы прыводзяцца пасля выразу «тое ж» з паметай месца бытавання. Усе словы даюцца ў арфаграфічным напісанні і толькі некаторыя — у фанетычным. Адлюстраваны асаблівасці націскнога вакалізму і зычных. Калі слова ў БРС адсутнічае, але зафіксавана ў многіх раёнах Беларусі, замест геаграфічных памет пасля тлумачэння ставіцца «паўсям.» (паўсямесна). Пры супадзенні значэнняў розных слоў каля аднаго з іх ставіцца «тое, што і».

У некаторых выпадках старыя тлумачэнні, узятыя з архіўных, лексікаграфічных ці гістарычных крыніц, падаюцца ў сучаснай рэдакцыі.

Нарэшце, пасля знака □ прыводзяцца ўласныя геаграфічныя назвы гарадоў, вёсак, рэк, азёр, урочышчаў, утвораныя ад апелятыва, які разглядаецца ў слоўнікавым артыкуле, з мэтай паказу тэрыторыі іх бытавання цяпер і раней, фанетыка-граматычнай эвалюцыі, пераасэнсавання і змянення шляхам перайменаванняў і г. д. У некаторых выпадках у дужках даецца сучасная афіцыйная назва. Выбухное г абазначаецца праз г′. Амонімы адзначаюцца лічбай справа зверху.

# СЛОЎНІК

## А

АБАЛО′НА. 1. Заліў ракі (Слаўг.). 2. Месца на сенажатным лузе, якое заліваецца вадой (БРС).

АБАЛО′НІШЧА. Абалона ракі (Слаўг.). Тое ж *абалоннішча, абалонніччa, абалоннівішча, абалоннівічышча, абаланішча* (Слаўг.).

АБАЛО′ННЕ. 1. Лужок, які прылягае да возера або да яго плавоў, заваняў (гл.), аднолькава даступных для касьбы і пашы (Віц. Нік. 1895); заліўное месца, луг каля ракі (Нас. АУ, Рэч.). Тое ж *абалонье* (Стол.). 2. Адкрытае роўнае месца; плошча, луг (Нас. АУ).

АБАЛО′НЬ. 1. Нізіннае месца, луг звычайна ў нізкай частцы каля ракі, які ў час разводдзя заліваецца вадой (Глуск. Янк. II, Слаўг.). Тое ж *абулонь* (Пол.). 2. Прастора паміж двума валамі, якія акружалі старажытны горад (Дзьяч.). □ в. Абалонь Віц. (Рам. Мат.).

АБВА′Л. Высокі бок у гравійным кар'еры, у глінішчы, які можа абвальвацца; стромы абрыў ракі (Слаўг.). Тое ж *абва́ліна, абва́ліччa* (Слаўг.).

АБВА′ЛЬНЯ. Месца, дзе абваліўся стромы бераг ракі, кар'ера, ямы (Слаўг.). □ ур. Абвальня каля р. Проні Слаўг.

АБВО′Д. 1. Ст.-бел. Мясцовасць, якая мае агульную гаспадарчую сувязь, уладу, кіраванне. Тое ж *абаполь* (Смален. Дабр.). 2. Участак зямлі, абкапаны канавай (Слаўг.).

АБВО′РАК. Месца, якое абарана кругом (Слаўг.).

АБ'Е′ЗД. 1. Кружная або часовая дарога (Рэч., Слаўг.). Тое ж *абмін* (Слаўг.). 2. Акружнасць, аколіца, граніца (Нас. АУ).

АБКО′П. 1. Канава кругом саду, пабудоў; роў з валам вакол старажытнага горада (Слаўг.). Тое ж *абка́п* (Слаўг.). 2. Тое, што і абвод 2 (Слаўг.). Тое ж *абкопішча, абкопічча, абкопнівічча, абка́пічча, абка́пішча, абка́пнішча* (Слаўг.).

АБЛА'М. Схілы блізкіх узгоркаў уздоўж рэчкі; нізіна, парослая хмызам; зараснік з лужкамі; аблога, якая зарасла кустамі (Слаўг.). Тое ж *абла́мішча, абла́мінне, абла́мічча, абла́мавічанне* (Слаўг.). □ ур. Аблам Слаўг.

АБЛА'ДА. Зямельныя ўладанні вакол фальварка (БРС), навакольная калгасная зямля; акруга, вобласць (Слаўг.).

АБЛІВА'КА. Галалёд (Бял., Мядз.).

АБЛІВА'ХА. 1. Зімні дождж, які замярзае на зямлі, на дрэвах, а на дарогах утварае галалёд (Беш. Касп., Бых., Дзярж., Пол., Рэч.). 2. Слота, халепа (Сміл. Шат.).

АБЛО'Г. Закінутае поле са слядамі ляхі і разораў (Бабр., Гом., Маз., Хойн. ДАБМ, Брэст. Нарысы 372, Дзярж., Смален. Дабр., Сядл. губ. Бес. 309). □ в. Слабада Аблог (1733) каля в. Ельня Слаўг. (ЦДГА БССР, ф. 2349, вып. 1, спр. 1, л. 78).

АБЛО'ГА. 1. Поле, якое не засяваецца год, два і болей (БРС). 2. Заложанае хмарамі неба (Зах. Бел. Др.-Падб.). 3. Пустое ворнае месца (Грыг., Слаўг.). □ ур. Аблога Слаўг.

АБЛО'ЖЖА. 1. Ускраіна лугу, акраіна сенажаці (Чашн. Касп.). 2. Пустуючая зямля (Слаўг.).

АБЛО'Й. 1. Дарога, якая пакрылася лёдам пасля адлігі ці ў час галалёду (Слаўг.). 2. Зімні дождж з марозам, галалёд; слізкасць (Лёзн.); шурпаты снег вясной (Смален. Дабр.). 3. Замёрзлая ў паветры або на рэчах у туманнае і марознае надвор'е пара; дробны снег, пылкі снежны слой (Сіроц. Касп.).

АБЛО'М. Глыба; цвёрды кавалак грунту, глебы (Слаўг.).

АБЛО'ННЕ. 1. Месца каля ракі, якое заліваецца ў час разводдзя вадой (Мін., Маг.). 2. Раўніна, роўнае поле (Мсціcл. Бяльк.). Тое ж *аблона, аблонь, аблоніна* (Мсціcл. Бяльк.), *аблонь* (БРС).

АБМЕ'ЖАК. Край нівы, палаcа з травастоем каля раллі (Бял., Віц. Нік. 1895, Слуцк. Сержп. 1911).

АБО'Р. Вялікі калгасны хлеў для кароў з абгароджанай пляцоўкай насупраць варот (Лёзн.).

АБО'РА. Скацінны двор, даржнік (Нас.); загарадзь для жывёлы (Барыс.); загароджанае месца пры хляве для вольнага выпуску кароў, коней, свіней (Кам., Рэч., Стол.).

АБО'РАГ. Лужок паміж засевам (Нас. АУ).



АБО'РАК. Абаранае кругом упадзіна на полі; сенажатная лагчына сярод поля (Гор., Мсціcл. Юрч., Нас., Расн. Бяльк., Азяр. Касп.).

АБО'РЫШ. Месца, якое прапушчана пры ворыве (Нас.).

АБРЫ'ВІНА. Лагчына каля гары (Сміл. Шат.).

АБРЫ'Ў. Стромы бераг ракі (Ветк., Лёзн., Ст.-дар., Слаўг.), кар'ера (Слаўг.); высокі бок гары (Слаўг.). Тое ж *акру́ча* (Ветк.).

АБРЭ'ЧАК. Зарослая рака; забалочаны поплаў на былым старарэчышчы (Сал.).

АБСА'ДА. Насаджэнні дрэў і кустоў вакол сядзібы, саду, дзара, хаты, паабапал дарогі, уздоўж вуліцы (Глуск. Янк. II, Слаўг., Шчуч.). Тое ж *абса́дка, вянок* (Слаўг.).

АБСЕ'ВАК. 1. Абнасенены ўчастак поля, лесу, лугу (Слаўг.). 2. Лес-самасейка; луг, які самаабнасеньваецца (Слаўг.). 3. Выпадкова незасеянае пры сяўбе месца на полі (Мсціcл. Бяльк., Слаўг., Хойн.).

АБСЕ'Ў. 1. Месца на раллі, прапушчанае пры сяўбе (Ветк., Рэч., Слаўг., Стол.). 2. Месца на полі, дзе амаль усё лета стаіць вада і расце трава (Стол.).

АБСО'ВА. Абвал, апоўзень (Слаўг.).

АБУГО'НІ. Шырокая паласа раллі або поля; гоні (Ветк.).

АБУГО'НКА. Палоска пасеву, раллі, поля (Ветк.).

АБУГО'НЯ. Загон раллі або неўзаранага поля (Мсціcл. Юрч.).

АБУЗМЕ'ЖАК. Частка поля з вельмі касым схілам на верхняй тэрасе, які немагчыма араць (Віц. Нік. 1895).

АБХО'Д. 1. Пэўны ўчастак лесу, поля, які абходзіць ляснік, палявы вартаўнік (Слаўг.). 2. Дарога кругом, у аб'езд (Слаўг.).

АБЦІ'НАК. Поплаў, лужок сярод поля ў выглядзе ўпадзіны, у якой збіраецца веснавая вада (Лід.). □ ур. Абцінак каля в. Бабры Лід.

АБША'Р. Прастора, тэрыторыя, наваколле; агромністая зямельная плошча (Сен. Касп., Нясв.). Тое ж *аба́пал, абаполь* (Слаўг.).

АБЫХО'Д. Наваколле, акруга; акружнасць мясцовая (Нас. АУ).

АВУ'ЛЬС. У актах. 1. Фальварак, звычайна без жыхароў, які належаў да чыйго-небудзь маёнтка (Карл., Гарб., Касц.). 2. Зямля, якая незаконна адабрана ад ма-

ёнтка; захопленая частка краю (Карл., Гарб.). ☐ Авульс Сакі і в. Сакі (1783) у Брэсцка-Кобрынскай эканоміі (Касц.); Авульс Рудзевіцкі (1783, 5 вёсак) у Гродзенскай эканоміі (Касц.); ст. Авульс каля Гродна.

АГАЁК. Невялікія кусты (Рас. ДАБМ).

АГАРО'Д. 1. Участак зямлі для вырошчвання гароднiны (БРС). Тое ж *арот* (Вор.), *гра́ды* (Варк. 1641 каля Быхава МЕВ, № 11, ч. афіц. чэрвень, 1906, 415, Слаўг.). 2. Сядзіба калгасніка; прысядзібны ўчастак (Жытк., Рэч., Слаўг.). 3. Угноеная зямля (Слаўг.). ☐ ур. Мару́шчын Агарод (поле) каля в. Кароцічы Стол.

АГАРО'ДА. Абгароджаны ўчастак зямлі (Слаўг.).

АГАРО'ДЧЫК. Града з кветкамі пад вокнамі каля хаты (Ст.-дар.).

АГА'РЫШЧА. Месца, дзе згарэла хата, двор (Паст.). Тое ж *агнёвіска* (Кобр.).

АГІ'БА. Багністае месца на балоце, дзе можна праваліцца (Чашн. Касп.).

АГНЯВІ'ШЧА. Месца, дзе раней быў раскладзены агонь (Нас., Смален. Дабр.). Тое ж *агнішча* (Рэч., Смарг.), *агнявіска* (Вор.).

АГРАМА'ДЗІНА. Вялікі абшар поля (Слаўг.).

АГРА'НЕЦ. Квартал жылых дамоў у горадзе (Байсагола ЛітССР).

АГРЭ'Х. Дрэнна апрацаванае або прапушчанае месца пры ўзорванні, сяўбе і баранаванні (Рэч., Слаўг., Шчуч., Слуцк, Сержп. 1911). Тое ж *агрэк* (Стаўбц.), *прокаўзень* (Слаўг.).

АДГО'Р. Частка ўзаранага ўроскідку поля (Іў. МДС).

АДДУ'ХА. Палонка ў лёдзе або незамярзаючае месца на вадзе, куды выходзіць рыба (Слаўг.). Тое ж *адду́хавіна* (Слаўг.).

АДЗЁНАК. Месца, дзе стаяў стог сена (Слуцк, Сержп. 1911, Ст.-дар.).

АДКО'С. 1. Намыты пясчаны выступ у рацэ пры закругленні берага (Слаўг.). 2. Схіл, пакат, пахонасць (гары, дарогі, канавы) (Зах. Бел. Др.-Падб., Слаўг.). Тое ж *адкосіна, адкосічча* (Слаўг.).

АДКО'САК. 1. Доўгая пясчаная каса, намытая вадой, у рацэ, возеры; мелкае месца (Слаўг.). 2. Прамень ад сонца ці веташнага месяца (Слаўг.). 3. Пучок праменняў на небе ў выглядзе сегмента, які можна назіраць пры захадзе ці ўсходзе сонца (Слаўг.).



АДЛО'Г. Абложная зямля (Гродз., Лід. ДАБМ). Тое ж *адлога* (Драг. ДАБМ, Ашм. Багушэвіч. Выбраныя творы, 1946, 41).

АДМО'КА. 1. Месца, дзе загінуў пасеў ад дажджоў (Рэч.). 2. Лажок у сярэдзіне ці ў канцы поля (Рэч.).

АДМО'ЧКА. Нізкае месца на полі, дзе адмякаюць усе пасевы (Жытк.).

АДМЫ'Ў. Частка сушы, якую адмыла рака (Слаўг., 1914 ЦДГА БССР, ф. 222, воп. 1, адз. зах. 393, л. 313). Тое ж *адмывіна* (Слаўг.).

АДНАБО'ЧКА. Вуліца (вёска) у адзін рад хат (Рэч., Шамякін. У добры час, 1953, 61).

АДНАВО'Р. 1. Поле, якое не было пад папарам (Слаўг.). 2. Ралля, узараная адзін раз пад яравыя або азімыя культуры (Глуск., Слаўг., Р. Сабаленка. Каралінцы, 1960, 194). Тое ж *аднаворка* (Слаўг.), *аднораль* (Кап.).

АДНО'ГА. 1. Заліў мора або ракі (Гарб.). 2. Адгалінаванне гары (Гарб.).

АДО'НАК. Месца, дзе стаяў стог сена (поўдзень БССР). Тое ж *адонне* (Слаўг.).

АДРО'. Месца ў лесе, дзе стаіць дрэва з седлаватым развіллем для вулея (в. Фарастаў Сал.). Тое ж *адор, адзёр* (Сал.). ☐ р. Адроў пр. Дняпра.

АДРУ'Б. Зямля гаспадара ў адным участку (Віц., Мін., Слаўг.). Тое ж *адру́бак* (Мін.). ☐ пас. Адрубы Люб., в. Адрубак Лаг., Докш.

АДРЫ'НА. 1. Будынак для сена (Дзярж.). 2. Халодны пакой (камора), які служыў для спання; спальня (Нас.). 3. Месца, дзе стаяў хлеў для сена (поўдзень БССР). Тое ж *адры́нец* (Нас.).

АДРЫ'НІШЧА. Месца, дзе стаяла адрына (Жытк., Стаўбц., Стол.); месца, дзе стаяў хлеў для жывёлы (Стол.). ☐ ур. Адрынішча (поле, сенажаць, паша) Стаўбц. (Прышч.).

АДРЫ'НКА. 1. Будынак, у якім ставяць сячкарню, складаюць мякіну (Стаўбц.). 2. Месца, дзе стаяў будынак для мякіны (Стаўбц.). Тое ж *адрынне* (Стаўбц.). ☐ в. Адрынкі Жытк.

АДСЕ'Ў. 1. Поле, з якога зжаты яравыя ці азімыя і па якому адразу ж сеюцца азімыя (БРС). 2. Адсеяныя пасевы (Слаўг., Стол.). Тое ж *аторак, атораванне, аторванне* (БРС).

АДСКО'ЧКА. Хутар, пасёлак, наогул невялікае паселішча, якое ўзнікла недалёка ад старога нас. п. (Слаўг.).

АДСТА'Н. Адстойнік, яма для адходаў пры перагонцы дзёгцю (пеку) (Гродз.).

АДСТУ'П. Адкрытая прастора паміж дварамі, ляснымі масівамі, пасевамі (Слаўг.).

АДСТУ'ПКІ. Выразаныя ў зямлі ступенькі пры пад'ёме на гару (Слаўг.).

АДСЫ'П. Частка лугу, якая замыта пяском у час вясенняга разводдзя ці летняй паводкі (Слаўг. 1914 ЦДГА БССР, ф. 222, воп. 1, адз. зах. 393, л. 313).

АДТО'КА. Рукаў ракі; заліў (Слаўг.). Тое ж *адточына, аточына* (Слаўг.).

АДХВО'СЦЕ. Затока ракі або возера (Слаўг.).

АДХЛА'НЬ. 1. Чорная бездань вельмі глыбокіх сцёкавых крыніц сярод багны (А. Карпюк. Дзве сасны, 1958, 44). 2. Прахалода пасля дажджу ў час летняй спёкі (Нас.). Тое ж *атхла́нь, адхла́н* (Нас.).

АДХЛЫ'Н. Сцёк, адыход, адкатванне назад рачной хвалі (Слаўг.).

АДХО'Н. Схіл гары, берагу (БРС).

АДШЫ'Б. 1. Бойкае, людпае месца, зручнае для зборышча (Слаўг.). 2. Адкрытае месца для вятроў (Слаўг.).

АЖЫ'ННІК. Зараснік ажыны Rubus caesius L. у лесе (БРС). Тое ж *ажы́ны* (Жытк.), *ажавіннік* (Слаўг.), *ажавіны* (Тал. Мядзв.), *жавіннік* (Крыч., Мсцісл., Слаўг.).

АЗЕРАВІ'НА. Затока (пры рэчцы); месца, прыдатнае для лоўлі рыбы (Пол.).

АЗІ'МІНА. Азімы пасеў, рунь (БРС, Нясв., Слаўг.). Тое ж *азі́мае* (Докш., Слаўг., Зах. Бел. Др.-Падб.), *азі́ма* (Навагр.).

АЗЯРО'Д. 1. Скразны вецер, пройма (Кар.). 2. Пераплёт на слупах, зроблены з жэрдзяў для прасушкі снапоў збожжа, сушэння сена, траў, бульбоўніку; месца, дзе стаіць такое прыстасаванне (БРС). □ в. Азяроды Мядз. (Лемц. Айк.), ур. Пад азерадáмі каля в. Яскавічы Сал.

АЗЯРЦО'. Невялікае возера (БРС). Тое ж *азе́рца, азёрушка, азе́рачка, азярча́к, возерца, вазярцовінка, азяро* (Слаўг.), *азёрка* (Пол.), *азярко* (Арш., Нас. АУ, Паст., Уш.), *азяро* (Азяр. Касп.). □ воз. Азёрка каля в. Чарсвяцы Уш., Святое азярко каля в. Бабінавічы Арш., в. Азярцы Клім.



АЗЯРЧЫ'НА. Старое рэчышча з вадой; возера (Слаўг., Даніленка. Наваселле, 1964, 20). Тое ж *азярычына* (Рудз.). □ в. Азярычына Пух.

АЗЯРЫ'НА. 1. Старое рэчышча з вадой (Мсцісл. Бяльк., Нясв.). Тое ж *вазяры́на* (Слаўг.). 2. Шырокае і глыбокае месца на рацэ (Докш.). 3. Лагчына; глыбокая яма, якая зарасла травой (Стаўбц.). 4. Астатак старога рэчышча, якое яшчэ мае сцёк вады ў раку (Рэч.). □ ур. Ліцвінава азярына каля в. Заспа Рэч.

АЗЯРЫ'ШЧА. 1. Месца, дзе было возера (Рэч.). 2. Агромністае возера (Слаўг.). Тое ж *вазяры́шча* (Слаўг.). □ в. Азярышча Рэч., воз. Азярышча Віц.

АЗЯРЭ'Ц. Пасёлак, вуліцы якога размешчаны паабапал возера (Слаўг.). Тое ж *вазярэц* (Слаўг.). □ вул. Азярэц у в. Гіжэнка Слаўг.

АКАЛО'ЗІЦА. Кружны шлях (Слаўг.).

АКА'П. Месца пад страхой, пад капяжом (Карпюк. Пушчанская Адысея, 1964, 288).

АКНО'. Водная прастора, яма сярод багністага балота (БРС). □ ур. Аконіцкае (поле) каля в. Пасека Ст.-дар.

АКО'ЛІЦА. 1. Наваколле (Беш. Касп., Слаўг.). 2. Вуліца ў вёсцы, дзе двары размешчаны ўроскідку (Крыч.). 3. Тып населенага пункта ў выглядзе комплексу ў 10—20 фальваркаў; шляхецкая вёска (Жучк., Зах. Бел.). 4. Агарожа вакол вёскі; праход у агарожы пры ўездзе ў вёску (ЛіМ, 1969, 10 жніўня). 5. Ускраіна вёскі, канец вёскі (Рэч.). 6. Кружны шлях (Пол.). 7. Першае або апошняе забудаванне вёскі (Зах. Бел. Др.-Падб.). 8. Макраватае месца за ракой, якое раней замярзае і дзе дзеці робяць каток з колам (в. Заспа Рэч.). □ в. Аколіца Кліч.

АКО'П [1]. 1. Земляны вал, насып з траншэяй (Слаўг.). 2. Капец бульбы, абкладзены саломай і абсыпаны зямлёй на зіму (Гарад. Касп.). 3. Бліндаж (Слаўг.).

АКО'П [2]. Абкапанае кругом месца; гарадок (Рэч., Слаўг., Карм.).

АКО'ПІШЧА. Месца, дзе быў акоп ці бліндажная яма (Слаўг.).

АКРА'ЕК. Край нізіны, ускраек лесу, берагавіна (Сал.). Тое ж *акраёк* (Слаўг.). □ ур. Акрайкі (балота) каля в. Яскавічы Сал.

АКРУ'ГА. Мясцовасць, якая мае агульную гаспадарчую сувязь, адны інтарэсы, адзінае кіраванне (Слаўг.).

АЛЕ'ШНІК. Абшар, які зарос альховымі кустамі; альховы лес (БРС). Тое ж *алёшаннік, альшэвіннік, альха́, лёшка, альхоўнівічышча, вольха, лёхі, альхоўнік, альхайня́к, альховіннік, алёхаўнік, алёшашча, алёхавінне, альхавішча, алёшанне, альхаўё, лешаннік, альхоўе, альховічышча, альховічча, альховішча, альхоўнічча* (Слаўг.), *алёшняк* (Слаўг., Гом. Грыг. 1851), *альша́тнік* (Дзяменцьеў. Геагр. БССР, 1952, 75), *альшэвіна* (Лаг.), *аляшня́к, альшэ́ўнік* (Мін. Станк. 1851, л. 39б), *альша́нік* (Пянкрат. Ведрыцкія напевы, 1965, 97), *альшэўнік* (Дуброўскі. Зямля маладзее, 1952, 13). □ в. Алёшавічы Шчуч., в. Альшоў Хоц., в. Альша́ны Шчуч. і Стол., ур. Алёшнік (лог) каля в. Чарсвяны Уш., в. Алёшня Рагач.

АЛЁС. 1. Мокрае месца; торф, тарфяное балота, дрыгва, зыбіна (БРС). 2. Забалочаны альховы лес (Віц. Рам. Мат., Касп., Маг. губ. вед. 1854, л. 1, Пар., Рэч., Слаўг., Стол.). Тое ж *вольс* (Слаўг.). 3. Нізкі, мокры луг; лясное балота, дзе расце трава (Бых. Рам. 1911, Кузн. Касп., Слаўг.). 4. Альховы лес, алешнік (Рэч.). □ ур. Кру́глы алёс (балота) Віц. (Рам. Мат.), ур. Алёс (мокры луг) каля в. Кліны Слаўг.

АЛЛІ'ЦА. Лужок на краю сядзібы (Сен. Касп.).

АЛЛЯ'НІ'ШЧА. 1. Поле, дзе рос лён (Слаўг., Смален. Дабр.). Тое ж *аллянінне, аляні́шча* (Мін. Станк. 1851, л. 39б), *алля́нішча* (Нас.). 2. Месца, дзе быў пасланы лён; сцелішча (Слаўг., Смален. Дабр.). Тое ж *аллянінне* (Слаўг.).

АЛЬМА'Н. Балота на месцы воднай затокі (Жытк.). □ ур. Альма́ны (балота) каля в. Беражцы Жытк.

АЛЬСА'. Тарфяное балота; забалочаны луг, часам з рэдкімі вольхамі; алешнік (Кузн., Сен. Касп., Слаўг.). Тое ж *вальса́* (Слаўг.), *альсьё* (у многіх месцах Беларусі), *альса́віна* (Смален. Дабр.). □ ур. Альса́ і Вальса́ (забалочаны луг) каля в. Віравая Слаўг.

А'ЛЬСЕ. Балота сярод лесу, якое завалена дрэвамі (Бабр., Слуцк. пав. Нас.).

АМУ'Т. Вір, яма; глыбокае і небяспечнае месца ў рацэ (Беш. Касп.).

АМША'НІК. Халодная пабудова, у якой трымаюць вуллі з пчоламі зімой (Слаўг.).

АМША'ННЕ. Месца, дзе стаяў амшанік (Слаўг.). Тое ж *амша́нічча, амшаннё, амша́нічанне* (Слаўг.).



АМША'Р. Нізіна, якая парасла мохам (Слаўг., Смален. Дабр.). Тое ж *амша́рынь* (Слаўг.).

АМША'РА. 1. Махавое месца, балота, часам з кустамі, дрэвамі, з азярцом на ім (БРС). Тое ж *імша́ра* (Слаўг.), *амшары́на* (БРС), *амша́рына* (Віц. Касп., Слаўг.). 2. Неўрадлівае поле, якое парасло мохам (Слаўг.). Тое ж *амша́рына* (Слаўг.). 3. Нізкі луг, які парос мохам, часам з кустамі, дрэўцамі (Слаўг.). Тое ж *амша́рына* (Лёзн. Касп.), *амшарня́* (Слаўг.).

АМШАРЫ'НА. Паніжанае месца, дзе расце лес рознай пароды, багун, ягады; прыбалоцце (Палессе Талст.); неўрадлівае месца, парослае мохам (Слаўг.).

АМША'РЫННЕ. Вялікі ўчастак, які парос мохам; забалочанае месца, махавое балота (Нас., Слаўг., Гом. Грыг. 1851, Слаўг.). Тое ж *амша́рышча* (Нас., Слаўг.), *імша́рышча* (Слаўг.).

АМЫ'Т. Вір (Лёзн.).

АНДА'ТАК. Невялікі дадатковы ўчастак поля; кароткая паласа (Ст.-дар.).

АПА'ДЗІНА. Упадзіна (Стол.).

АПА'РА. Небяспечнае вадзяное месца сярод дрыгвы; крынічнае акно (Лід. Араш. 92, Стол.). □ ур. Апара (поле) каля в. Кароцічы Стол.

АПА'РЫНА. Месца ў балоце, дрыгве, напоўненае вадой (БРС).

АПЛА'Ў. Мокры луг (Пол. Жак.).

АПЛЫ'Ў. Нетрывалы бераг ракі, рова, які аплывае, не можа быць стромым (Слаўг.).

АПО'КА. Камень, скала каменная (Нас. АУ); вапнавы камень (Слаўг.). □ г. Апочка Велікалуцкай вобл. РСФСР.

АПО'ЛЕ. У актах (1270). Некалькі асад (кожная асада ў сваю чаргу складалася з некалькіх вёсак), якія плацілі пэўную даніну, утваралі аполе (сама дань таксама называлася аполе) (Гарб.). □ в. Апаль, с. Антопаль Барыс. пав. (Расія, т. 9, 411).

АПО'ЎЗАК. Апоўзень (Касп.).

АПУ'ДЗІЛА. Небяспечны, страшны лес, дзе знаходзіліся разбойнікі (Ст.-дар.). □ ур. Апудзіла (поле) на месцы страшнага лесу каля в. Пасека Ст.-дар.

АПУ'ЦІНА. Месца на лузе з неўрадлівай пясчанай або балоцістай глебай, якое парасло травой апуціна Nardus stricta L. (Ст.-дар.).

АРАБІ′ННІЦА. Месца, багатае дрэвамі рабіны Sorbus (Глуск. Янк. I, 35). Тое ж *рабінаўка, рабіннаўка* (Слаўг.). □ ур. Арабінніца каля пас. Янкі Купалы Глуск.

АРАЛЛЁ. Ралля, ворыва; угоддзе (Беш. Касп., Лёзн., Шчуч.).

АРАЛЛЯ′. Нядаўна ўзаранае поле (Дубр., Кузн. Касп., Лёзн., Пол., Тал. Мядзв., Уш.); апрацоўка зямлі (Слаўг.). Тое ж *аральба́* (Кузн. Касп.), *ара́нне, арба́* і *арьба́* (Слаўг.), *ата́ра* (Мін. Шпіл. Заметка, 1853, л. 17), *арылля́* (Уш.).

АРЖА′. 1. Балота з вадой, якая мае вокіслы жалеза (Зах. Бел. Др.-Падб., Слаўг., Смален. Дабр.). Тое ж *ржа, ржа́ва* (Слаўг.), *аржа́вень* (Кузн. Касп., Слаўг.), *аржа́вец* (Мядз. Лемц. Дыс., Слаўг., Смален. Дабр.). 2. Жыта Secale (Грыг. 1851). 3. Від пшаніцы (руск. полба, стар. оркиш), якую даўней сеялі і на Беларусі (Даль III, 257, Грынч. III, 63). □ в. Аржа́вец Чэр.

АРЖА′ВІНА. Іржавая лугавая нізіна (Віц. Нік. 1895, Слаўг.). Тое ж *аршавіна* (Слаўг.), *аржа́віня* (Віц. Нік. 1895), *аржа́вінне* (Зах. Бел. Др.-Падб., Лёзн. Касп., Нас., Слаўг., Смален. Дабр.).

АРЖА′ЎКА. 1. Іржавае балота (Слаўг.). 2. Заліўны луг (Докш. МДС). □ р. Аржаўка і в. Аржаўка Слаўг., в. Аржаўка Касц.

АРЖА′НІШЧА. Поле, дзе зжата жыта (БРС). Тое ж *аржонне* (Маладз., Слаўг.), *аржы́ска* (Вор.), *аржэўнік* (Леп., Слаўг.), *аржышча* (Арш., Грыг. 1851, Навагр., Паст., Слаўг., Смарг., Смален. Дабр.), *ржэўнік, аржанішча* (Слаўг.).

АРО′МІНА. Угоддзе; выгода (Вілен.).

АРТЭ′ПА. Грузкае месца (Выс. Касп.). Тое ж *артэпель* (Выс. Касп.), *макрата́* (Слаўг.).

АРУ′Д. Месца для складвання снапоў (Віл. Гільт. 293), застаронак у гумне, засек у свірне (Глуск. Янк.). Тое ж *агру́д* (Слаўг.).

АРША′. Балота з камякамі жалезнай іржы; ніколі не перасыхаючая гразь з плёнкай вокісу жалеза паверх (Слаўг.). Тое ж *аршавіна* (Слаўг.). □ г. Арша́ (Орша) Віц., р. Аршы́ца пр. пр. Дняпра.

АРЭ′ШНІК. Зараснік арэшын, арэхавых кустоў (БРС). Тое ж *арэхаўка, арэх, арэхаўнік, рэшнік, рэшаннік, арахоўнік, арэшыннік, рэхаўнік, арэхаўе, арэхаўё, арашыннік, арэшнічча, арэшана, арахаўнічча* (Слаўг.), *арэшанне* (Пруж. пав. Гільт. 90, Слаўг.). □ ур. Арэхаўка (поле) каля в. Кульшычы Слаўг., в. Арэшнікі Мін.

АСА′. Асіна; асіннік (Лемц. Айк.). □ в. Аса Малар.

АСАВЕ′Ц. 1. Ссунутая зямля па беразе, па касагоры (Слаўг.). 2. Месца, якое парасло асіннікам (Зах. Бел., Сал., Стаўбц. Прышч.), багатае грыбамі асавікамі, падасінавікамі (Мін., Слуцк). □ ур. Асоўцы (паляна) каля в. Яскавічы Сал., в. Асавец (Бял., Віл., Маз.), в. Асаўцы́ Бяр.

АСАВО′К. Густы зараснік маладога асінніку, бярэзніку на расчышчаным месцы (Бяг., Смал. Жучк.).

АСА′ДА. 1. Насаджэнні вакол сядзібы, саду (Глуск. Янк. II). 2. Займанне жыллём або пад раллю скарбовай (казённай) зямлі з выплатай аброчнага падатку (Нас. АУ). 3. Аббудаванне, сяліцьба вакол чаго-небудзь (Нас. АУ). 4. Калонія, сяліцьба (Гарб.). 5. Зямля, падораная каралём на ленным праве (Гарб.). 6. У актах (1270). Некалькі вёсак, якія плацілі пэўную даніну, якая таксама называлася асадаю (Гарб.). 7. Умацаванае месца; пасяленне (Хрэст. па гіст. бел. м., 483).

АСА′ДАК. Муць, іл, пясок на дне вадаёма (Слаўг.).

АСАКА′. Балоцісты нізкі поплаў, дзе расце трава Carex (БРС). □ в. Асака́ Пух., в. Асака на Беласточчыне ПНР, ур. Асака (луг) каля в. Гіжэнка Слаўг.

АСАКО′ЎНІК. Мокрае месца, якое парасло асакой Carex (Дзеружынскі. Цуды ёсць на свеце, 1960, 34).

АСВЕ′Р. Студня з жураўлём (БРС).

АСЕ′ЛІНА. 1. Неаранае поле, пакінутае для пашы (Нас.). 2. Двор, хата, сядзіба (Мсцісл. Бяльк.). Тое ж *сяліжба* (Стол.).

АСЕ′ЛІЦА. 1. Дарога, якая праходзіць недалёка ад вёскі (Нясв.). 2. Зямельныя выгоды за сялом ці найчасцей род сенажаці (БРС). 3. Вёска, вуліца ў адзін рад хат (Крыч.). 4. Агароды на вільготнай глебе воддаль ад вёскі (Докш.). 5. Добра ўгноенае поле паабапал вёскі (Стаўбц. Прышч.). Тое ж *гноіны* (Слаўг.). 6. Наваколле, некалькі блізкіх вёсак (Слаўг.). 7. Лужок каля сядзібы (Мсцісл. Бяльк.).

АСЕ′ЛІШЧА. Месца, дзе была аселіца 3 (БРС).

АСЕ′ЧА. Участак лесу сярод высечкі (Слаўг.). □ ур. Асеча (лес) каля в. Гіжэнка Слаўг.

АСЁЛАК. Лугавіна на прысядзібным участку (Сміл. Шат.).

АСІ'ННІК. Асінавы лес, зараснік (БРС). □ ур. Асіннік (лог) каля в. Ганчароўка Слаўг., ур. Асіннік (луг) каля в. Бабінавічы Арш., ур. Асіннік (лес) каля в. Малева Нясв., ур. Асіннікі (луг) каля в. Заспа Рэч.

АСІТА'. Зараснік азёрнага чароту Scirpus lacustris L. (Пол.).

АСНІ'К. 1. Асінавы лес, зараснік асінніку (Жытк., Сал., Стол.). 2. Могілкі (Жытк.). □ ур. Асня́к (паша) Стаўбц.

АСТО'ЖЖА. Месца і плятнёвая агарожа вакол стога сена (Нас.).

АСТО'ЙНІК. Яма, дзе збіраецца і адстойваецца гнаявая жыжка (Рэч.).

АСТРАВІ'НКА. 1. Невялікі лужок сярод лесу або на зарастаючай драбналессем балоціне (Віц. Нік. 1895, Слаўг.). 2. Невялікі гай сярод лясной сенажаці (Віц. Нік. 1895). 3. Паляна сярод лесу (Рэч.).

АСТРАВО'К. Сухі грудок з сенажаццю або лесам сярод балота (Сал., Ст.-дар., Стол.). □ ур. Астравок (сенажаць) каля в. Пасека Ст.-дар., ур. Астраўкі (грудок) каля в. Яскавічы Сал.

АСТРО'Г. Стар. 1. Старажытная драўляная крэпасць. 2. Частакол з бярвенняў з завостранымі канцамі. 3. Турма. □ в. Астража́нка Лельч.

АСТРО'Ў. Востраў (Азяр. Касп.). □ в. Астроўна Віц., ур. Астроў (луг) каля в. Бабінавічы Арш.

АСТУ'Г. Месца, дзе ўбіты невысокі кол для прывязвання лодак, вялікі камень з жалезным прабоем ці калода, якая служыць для гэтай мэты (Зах. Дзвіна).

АСТУ'П. Гл. оступ. □ в. Асту́пішча Слуцк.

АСЦЯРО'Б. Расчышчанае месца сярод лесу (Чашн. Касп.).

АСЭ'ДАС. Сядзіба; калонія; хутар (Слуцк. К. Чорны. Раманы і аповесці, 1951, 517).

АСЯРО'ДАК. Поле сярод лесу, лугу (Стаўбц. Прышч.). □ ур. Асяродкі (поле) Стаўбц.

АТАПО'ЛЬЕ. Вялікі абшар, дзе раней было некалькі хутароў (Нясв.). □ ур. Атаполье (поле) каля в. Малева Нясв.

АТА'РЫЦА. Участак зямлі, якую селянін засяваў для сябе па дамоўленасці з панам (Нас.).

АТМЕ'Л. Мелкае месца ў возеры ў выглядзе пясчанай касы (Віц. Нік. 1895). Тое ж *вотміль, вотыміль* (Слаўг.).



АТО'КА. 1. Глыбокі рукаў ракі, рэчкі або возера; старажытнае рэчышча (Віц. Нік. 1895, Смален. Дабр.). 2. Востраў (Дзіс.).

АТО'РА. Вузенькі загон, які атрымаўся пасля таго, як узаралі шырокі загон; на нізкім полі загончык з дзвюма глыбокімі разорамі паабапал (Жытк.). Тое ж *атор* (Зэльв. Сцяцко), *аторыца* (Жытк.).

АТО'РАК. 1. Поле, узаранае ўпоперак загона, участка, сядзібы (Рэч). 2. Градка бульбы ў канцы нівы (Хойн.).

АЎЛУ'С. Тое, што і авульс 2; незаконна адаранае поле; прыараны да сядзібы ўчастак; дармавая маёмасць (Слаўг.). Тое ж *улу́с, улу́сы* (Слаўг.).

АЎСЯ'НІШЧА. Поле, на якім зжаты авёс (БРС); паша на месцы, дзе рос авёс (Мін. Станк. 1851). Тое ж *оўсішча, воўсішча, аўсішча, аўся́нне, аўся́ніска, оўсіска, воўсіска, аўсіска, аўсе́нішча, аўсянне́, гаўсянъіска, аве́сышча, аўся́нік, аўся́нка* (ДАБМ, к. 273), *аўёсішча* (Стол.), *аўся́нне, аўсішча, аўсе́нішча, аве́сішча, аўся́ннічышча, аўсе́нішча, аўся́нніччa, аўся́нічывішча* (Слаўг.).

АХА'БА. Лужына; балота; старое рэчышча (Грынч. III, 78). □ в. Прыха́бы Маг.

АХВО'СЦЕ. Месца за ўзгоркам і паваротам ракі (Рэч.). □ ур. Ахвосце (луг) каля в. Заспа Рэч.

АХО'ЖА. Вялікае балота (Сядл. губ. Бес. 310).

АЧАРО'Т. Зараснік трысцягу звычайнага Phragmites communis Trin. (Слаўг.).

АШЧАЛО'ПАК. Ухаба, выбоіна (Касп.).

## Б

БАБАНА'РЫЯ. Царкоўны бабінец, дзе стаялі жабрачкі-жанчыны (АЗР, т. IV, 45; Нас. АУ).

БАБІ'НЕЦ. Месца вакол царквы (Нясв., Сал.).

БАБО'ЎНІК. Балоцістае месца з зараснікам трылісніку Menyánthes trifoliata (БРС).

БАБРАВІ'НА. Месца, дзе вядуцца бабры (Сміл., Шат.).

БАБРО'ВІШЧА. Месца, дзе вяліся бабры (Нясв.). Тое ж *бабровыя гоны* (у актах), *баброўня* (Рэч., Скідз.). □ ур. Мала́я і Бальша́я Баброўня (луг) каля в. Заспа Рэч., в. Баброўня Скідз.

БА'ГМА. Грузкае балота, багна (Ветк., Сен. Касп.).

2. Зак. 613

БА'ГНА. 1. Тарфяністае, непраходнае балота без раслінасці (БРС). Тое ж *багна́* (Драг.), *бэгна* (Сміл. Шат.), *бэг'на* (Смал.), *патапе́ча, грузавіна́, грузата́, грузката́* (Слаўг.). 2. Гразь на вуліцы, на дарозе (Кар.); вялікая гразь (Бабр. Талст.). 3. Яма, напоўненая вадой і зарослая травой (Палессе Талст.).

БА'ГНІВА. 1. Балоцістае месца (Нас.). 2. Адталая зямля (Слаўг.).

БА'ГНІ'НА'. Багна, твань, дрыгва; гразкае, балоцістае і непраходнае месца (Нас., Слаўг.).

БА'ГНІШЧА. Дрыгвяністая багна (БРС). Тое ж *ба́гнішча* (Слаўг.).

БАГНО'. 1. Гразкае балота (Гродз. Карскі 1897, 2, Драг. Талст., Сядл. губ. Бес. 302). 2. Мокрая сенажаць (Гродз. Карскі 1897, 2). 3. Балота (Зах. Палессе Талст.). 4. Гразкае месца на балоце (Пін., Стол. Талст.). 5. Гразкае таністае бяздонне (Жытк.). 6. Участак мясцовасці з глебай больш цвёрдай, чым на балоце, прыбалоцце (на поўдзень ад Брэста Талст.).

БА'ГНЯ. Глыбокае месца ў рацэ (Стаўбц. Талст.).

БАГНЯ'. Непраходнае, небяспечнае, тваністае месца на балоце; гразкае балота (Слаўг.).

БАГО'Н. 1. Балота (Ваўк. Сцяшк., Слаўг.). 2. Нізкае тваністае месца (Зах. Палессе Талст., Скідз.). 3. Лясістае балоцістае месца (Зах. Палессе Талст.). 4. Высокае месца (Бяг. Талст.). 5. Зараснік багуну на балоце (Жытк., Слаўг.).

БАГО'ННЕ. 1. Заліўны луг (Чашн. Касп.). 2. Балота (Слаўг.).

БАГУ'Н. Зараснік багуну на балоце (БРС). Тое ж *ба́ганнік, багу́ннік, ба́ганнік, багульня́к* (Слаўг.), *ба́гун* (Тал. Мядзв.), *багольнік* (Сал., Слаўг.).

БА'ЕР. Нізіна, якая вясной затапляецца і куды разам з вадой трапляе рыба; рыбны садок (Зах. Бел.).

БАЖАНТАРЫЯ. У актах. Месца для ўтрымання і развядзення бажанаў (каўказскіх фазанаў) Phasianus colchicus (Слуцк. 1768 АВАК т. XII, стар. VIII).

БАЗ. Жывёлагадоўчая калгасная ферма (Арш.).

БА'ЗА. 1. Склад (БРС). 2. Зборачны пункт для жывёлы (Слаўг.). 3. Месца, дзе прымаюць і складваюць нарыхтоўку сена (Слаўг.).

БАЗА'Р. 1. Адкрытае месца, дзе адбываецца гандаль; гандлёвая плошча (паўсям.). 2. Гандлёвы дзень (Грыг. 1850). 3. Месца ў горадзе, мястэчку, дзе гандлявалі ўсім, апрача жывёлы (Ветк.).

БАЙДА'Н. 1. Месца, пакінутае для пашы (Нас.). 2. Адкрытае для ветру месца (Віц.). 3. Месца на неўрадлівай, пясчанай ці забалочанай сенажаці, дзе расце трава сівец Nardus stricta (Докш.). □ ур. Байдан (поле) каля в. Каменка Чав.

БАЙДАРЫНКА. Месца, якое зарасло ядлоўцам (Пін. Булг. 192).

БАЙРА'К. 1. Сухое рэчышча ў яры (Гом., Слаўг., Грыг. 1850). Тое ж *буйрак* (Грыг. 1850). 2. Месца, якое зарасло бур'янам, пустазеллем (Пін. Булг. 193).

БАЙСТРЫ'НЬ. Быстрыня, месца хуткага цячэння на рацэ (Слаўг.). Тое ж *байстрыня́, быйстрыня́, быйстры́нь* (Слаўг.).

БАКАВІ'НА'. 1. Затока ў рэчцы са стаячай вадой, дзе мочаць лён і каноплі (Слаўг.). 2. Край дарогі, броўка; бок, схіл дарогі (Нас., Слаўг.).

БАКАВІ'ЦКА. Прызба кругом варыўні (Ст.-дар.).

БАЛАТО'ЎЕ. Балоты; мясцовасць, багатая балотамі (Слаўг.). Тое ж *балатаўё, балатовічча, балатовішча, балатовічышча, балатоўнічча, балатня́* (Слаўг.).

БАЛАЦВІ'НА'. Малое балотца; балоцістае месца; забалочаная нізіна сярод поля або ў лесе; лужына; вадасцёкавая яма (Слаўг.). Тое ж *балаціна́, балацянка, балацвінка* (Слаўг.), *балаціна* (Глуск., Сал.), *балацянка* (Пар., Рэч., Усх. Палессе Талст.).

БАЛАЦЮ'ГА. Вельмі вялікае, звычайна непраходнае балота (Слаўг.). Тое ж *балацюжжа, балацюжышча, балацюгінне* (Слаўг.).

БАЛІНА. Глеба, насычаная солямі; саланчак (Нас. АУ).

БА'ЛКА. 1. Роў (Калінк.). 2. Гразкая яма на дарозе; гразкая дарога (Рэч.).

БАЛО'НА. Вялікае, адкрытае роўнае месца пры населеным пункце або ў полі, паляна (Нас.). Тое ж *балоніна, балонь* (Нас.).

БАЛО'ННЕ. 1. Тое, што і абалонне 1; заліўныя прырэчныя сенажаці (Бых., Ветк., Віц. Нік. 1895, Цэнтр. і Усх. Палессе Талст.). Тое ж *балонь* (Рэч., Слаўг., Цэнтр. і Усх. Палессе Талст.), *балонье* (Жытк., Стол.). 2. Луг, выган (АЗР, 1, 145, Гом., Грыг. 1850, Жытк., Маг. губ. вед., № 44, 1854, 792). 3. Балота каля ракі, нізіна

(р. Пціч Серб. 1915, Рэч., Чашн. Касп.). 4. Паляна, роўнае сярод лесу месца (Нас. АУ). 5. Нізкае месца, якое заліта вадой (Смален. Дабр.). 6. Азярына, старык на лузе (Ветк.). 7. Невялікае поле, якое не заліваецца вадой; выган для пасьбы жывёлы (Тур.). □ ур. Балонне (азярына на лузе) каля в. Шарсцін Ветк., ур. Балонне (поле сярод нізкага месца) каля г. Турава, ур. Балонь (нізкае месца) каля в. Заспа Рэч.

БАЛО'ТА. 1. Нізкае месца, якое парасло тоўстым слоем моху, журавінамі, дурніцамі, багуном і нізкарослымі рэдкімі дрэвамі; багна; дрыгва; балотная сенажаць (БРС). 2. Лес, часцей забалочаны; векавая пушча; глухое лясное месца (Лёзн., Слаўг., Сіроц. Касп., Смален. Дабр., Смален. Коз. 1965, 112).

БАЛО'ТЦА. Невялікае круглае балота; мачула (гл.) з больш доўгімі канцамі (Віц. Нік. 1895, Грыг. 1850, Рэч., Сміл. Шат., Слаўг.).

БАЛО'ЦВІНА. Невялікае балота, вялікая лужына, вадасцёкавая ўпадзіна (Слаўг.). Тое ж *балоцвініна, балацвéна* (Слаўг.).

БАЛО'ЦВІНКА. Маленькае сенажатнае балота на полі, у лесе, на лузе (Слаўг.). Тое ж *балоцітка* (Бел. дакастр. проза, 256), *балоцінка* (Палессе Талст.).

БАЛО'ЦІНА. Забалочанае месца; асобнае невялікае і вельмі гразкае балота сярод лесу або поля (Палессе Талст., Сміл. Шат.).

БАЛЬША'К. Вялікая грунтавая дарога (БРС).

БА'НІШЧА. Месца, дзе стаяла лазня (Мсцісл. Юрч., Слаўг.). Тое ж *бáння, бáніўе, бáніча* (Слаўг.).

БА'НЬКА. Яма на сухім месцы, напоўненая вадой, дзе расце лотаць (Стол.).

БА'НЯ. У стар. бел. літ. Яма круглай формы, у якой здабывалі жалеза, соль (Бяр. 116). Тое ж *бáна, балéя, дол, я́ма, ру́дня.*

БАРАБО'ЛІШЧА. Жарт. Месца, дзе расла бульба (Слаўг.). Тое ж *барабу́лішча* (Слаўг.).

БАРАВІКО'ВІШЧА. Месца ў лесе, дзе растуць баравікі Boletus (Краснап. Бяльк., Слаўг.). Тое ж *баравікоўшчына* (Бых.), *баравікайня́, баравіковічышча* (Слаўг.). □ в. Баравікоўшчына Валож.

БАРАВІ'НА'. 1. Чысты сасновы лес, бор (Слаўг.). 2. Пясчанае, неўрадлівае месца, якое парасло сасновым лесам (ЛМ 83, 302). 3. Грыбное месца ў сасновым ці змешаным лесе (Слаўг.). Тое ж *баравое* (Нясв., Слаўг., Шчуч.), *баровае* (Крыч.). 4. Паша ў хвойным, іглістым лесе, дзе расце верас і іншыя травы (Сміл. Шат.). □ в. Баравое Лельч., Пол., Чав.

БАРАЗНА'. 1. Глыбокая доўгая лінія, якая праведзена на паверхні глебы плугам, сахой, матыкай (паўсям.); вузкая доўгая градка, якая атрымліваецца пры акучванні пасеваў бульбы, буракоў (Нясв., Слаўг.); паглыбленне паміж градкамі бульбы для пераходу і сцёку вады (Слаўг.). 2. Палявая мяжа (АЗР 1, 125).

БАРАНАВА'ННЕ. Заскароджанае поле (Слаўг.). Тое ж *бараньбá, баранíчанне* (Слаўг.).

БАРАНАВІ'ШЧА. Паласа, занятая бараной пры баранаванні (Краснап., Слаўг.). Тое ж *баранá, баранíшча, барановішча* (Слаўг.).

БАРКА'Н. Узровень стаячай вады ў яме, на лузе ў час разводдзя (Слаўг.).

БАРО'К. Невялікі бор; невялікі лясок (Раг., Слаўг.). □ ур. Боркі каля в. Кульшычы Слаўг., ур. Казацкі Барок (група курганаў) каля пас. Чарнец Слаўг., в. Высокі Барок Краснап.

БАРО'ЎКА. 1. Месца, дзе растуць чарніцы Vaccínium mýrtillus L. (Слаўг., Гом. Грыг. 1850). 2. Пясчаная глеба, дзе рос бор (Слаўг.). □ ур. Бароўка (паша) каля в. Бабінавічы Арш., б.х. Бароўка каля в. Кульшычы Слаўг., в. Бароўка ў Крыч. старостве (Меер, 1786, 117).

БАРО'ЧАК. Невялікі, дробны сасновы лес (Нас. АУ).

БАРСУКО'ВІШЧА. Месца, дзе ёсць барсуковы норы (Слаўг.). □ ур. Барсуковішча каля в. Віравая Слаўг.

БАРЦЬ. Бортнае дрэва (Грыг. 1850).

БАРЫ'ШЧА. Пясчанае, неўрадлівае месца, якое зарасло сасновым лесам (Грыг. 1850). Тое ж *баравізна* (ЛМ 1585).

БАХАНЫ'. Ямы (Слаўг.). □ ур. Баханы (лес, поле) каля в. Шаламы Слаўг., в. Боханы Хоцімскага войтаўства Крыч. староства (Меер, 1786, 119).

БАХАТЫ'. Ямы, дзе здабываюць гліну (Слаўг.). □ ур. Бахаты (гліністыя кар'еры) каля в. Бязуевічы Слаўг.

БАХЧА'. Агарод у полі (Ветк.). Тое ж *баштáн* (Віл., Ів. ЛіМ, 6 лютага, 1968, Рэч.), *баштá* (Рэч.).

БА'ЦЬКАЎШЧЫНА. 1. Месца, сядзіба, вуліца, нас. п., краіна, дзе нарадзіўся чалавек (Нясв., Слаўг.). 2. Бацькавы ўладанні, месца, дзе бацька жыў, працаваў;

бацькава спадчына (Грыг. 1850, Нясв., Слаўг.). Тое ж *бáшчына, бáцьшчына* (Грыг. 1850), *бáцькiвiнá, бáцькавiна* (Слаўг.).

БАЧЫ'Ж. Ст.-бел. Пчальнік; месца, дзе трымаюць вуллі з пчоламі (Грыг. 1850).

БАЧА'ЖЫНА. Азярцо сярод грудка (Стол.).

БА'ШТА. Каланча; вежа; турма (Грыг. 1850, Нас., Нас. АУ, Чуб. 88). □ Башта Царская, Багуслаўская, Пятніцкая ў Смаленскай сцяне (Грыг. 1850).

БА'ЮР. Ставок; возера (Грыг. 1850).

БАЮ'Р. Гурба снегу (Зах. Палессе Талст.).

БАЮ'РА. 1. Ямка на дарозе, выбітая коламі (Стол.). 2. Яма на прырэчнай абалоні, у рацэ, выкручаная вадой (Стол.). 2. Глінішча (Зах. Палессе Талст.).

БАЮ'РЫНА. Кар'ер, запоўнены вадой (МДС).

БАЯВІ'СКА. 1. Месца бітвы, бою; пабоішча (Грыг. 1850). Тое ж *боiшча, баявiшча* (Грыг. 1850). 2. Месца розных спаборніцтваў; рысталішча (Бяр. 246). 3. Ток у гумне, дзе малоцяць снапы (Ліндэ, I, 1854, 141).

БЕГУНО'К. Лёгкі сухі пясок, які цячэ між пальцаў (Тал. Мядзв.). Тое ж *пясчýгá, iлок, пух, прысáк, прысок* (Слаўг.).

БЕЗАДШЧЫНА. У актах (1511). Маёнтак, які застаўся пасля смерці бясспадчыннага ўладальніка (Нас. АУ, Пол.).

БЕ'ЗАЎЕ. Месца, якое зарасло бузіннікам (Грыг. 1850).

БЕ'ЗДАНЬ. Глыбокае, багністае месца; бяздонне (БРС).

БЕ'ЗЛЮДДЗЕ. Ненаселенае, глухое, далёкае ад вялікай дарогі месца (Слаўг., Смален. Дабр.). Тое ж *бéзлюдзь* (Слаўг.).

БЕ'ЗМА. Гразкае, непрыкметнае месца, дзе загразае ці топіцца жывёла (Рэч.).

БЕ'ЗНА. 1. Багністае, вадзяное месца, якое зарасло чаротам; дрыгва (Слаўг., Стол.). 2. Невымерная глыбіня, бездань, вір (Слаўг.). Тое ж *скрдзьдóнная* (Слаўг.).

БЕ'ЗНІК. Малады бярозавы лес (Грыг. 1850).

БЕ'ЛКА. Нягразкае балота, якое зарасло травой (Жытк.). □ ур. Белкі (востраў і балота) каля в. Беражцы Жытк.

БЕЛЬ. 1. Балота, дзе пераважна расце бярэзнік (Бабр., Пар.). 2. Балотная сенажаць сярод лесу (Рэчыцкае Палессе Талст.). 3. Невялікае балота (Палессе Талст.). 4. Забалочанае, нізкае месца (Палессе Талст.). □ в. Бель Выс. (Касп.), в. Бель Крыч. і Крыч. староства (1726 ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 4, інв. 1160, ск. 124).

БЕ'ЛЬКА. Тое, што і бель 2—4 (Палессе Талст.).

БЕ'РАГ. 1. Частка сушы каля вады (паўсям.); круты, высокі бераг (Палессе). Тое ж *бэраг* (Цэнтр. Палессе Талст.). 2. Паласа лесу каля поля; лясная ўскраіна (Слаўг., Стаўбц.). 3. Ускраіна поля, нізіны, лугу (Слаўг., Ст.-дар.). Тое ж *скрай* (Слаўг.). 4. Прыстань (Слаўг.). □ ур. Берагí (луг на беразе р. Сажа) каля в. Крамянка Слаўг., ур. Бераг (луг) каля в. Віравая Слаўг.

БЕРАГАВІ'НА'. Край нізіны, бераг ракі, возера (Слаўг.).

БЕРАЖНІ'ЦА. Паласа тонкага лёду ўвосень або вясной уздоўж берага ракі, возера (Навагр., Пол., Слаўг.).

БЕРАЖНЯ'К. Дарога на беразе ракі (Нас.).

БЕРАЗА'К. Зараснік бярэзніку, бярозавы лес (Жытк., Сал., Слаўг., Стол.). Тое ж *беразя́к* (Слаўг.). □ в. Беразакі (Беразякі) Краснап., ур. Ёўкавы Беразакі каля в. Яскавічы Сал.

БЕРАЗНЯ'К. Бярозавы лес, гай, зараснік (Докш., Крыч., Нясв., Слаўг., Гом. Грыг. 1850). Тое ж *баразня́к* (Слаўг.), *беразýга, беразýха* (Віц. Рам. Мат.), *бéрка* (Беш. Касп., Віц. Нік. 1895), *берзнячок* (Слаўг. Маг. Грыг. 1850), *беразя́ка, беразня́* (Слаўг.).

БЕРАЛО'Г. Бярлога, логава мядзведзя, вожыка (Стол.).

БЕРАЛО'З. Ракіта Sálix frágilis L., зараснік «жоўтай лазы» (Стол.).

БЕ'РВА. Кладка з бярвенняў ці тоўстых жардзін на гразкім месцы (Жытк., Ст.-дар., Стол.). Тое ж *берба* (Стаўбц. Прышч.). □ ур. Бервы (балота з бярвеннымі кладкамі) каля в. Пасека Ст.-дар., ур. Бервы (балота, поле, лес) каля в. Аздамічы Стол., ур. Бервы (мосцік цераз балота) каля в. Беражцы Жытк., ур. Бервы Стаўбц.

БІЗУ'ННІК. Зараснік сітняку Scirpus lacustris L. (Глуск., Слаўг.).

БІЧАВІ'К. Паласа адчужэння паабапал дарогі (Мсцісл. Юрч.). Тое ж *бiчавáя, бiчавiна* (Мсцісл. Юрч.), *лiзéрт, рэзéрв, рэзéрва, лiзéрва* (Слаўг.).

БІЧА'Й. Бераг лужка, аборка (Мсцісл. Юрч.).

БІЧА'ЙКА. Вузкая незасеяная палоска каля палявой дарогі (Мсцісл. Юрч.).

БІЧАЎНІ'К. 1. Бераг, берагавая паласа ўсцяж р. Сажа (Слаўг.); свабоднае каля р. Дняпра месца (Рэч.). 2. Паласа адчужэння паабапал дарогі, шашы, шляху (Слаўг.).

БІЧА'ЎНІК. Луг наўсцяж ракі (Жытк.). Тое ж *бічоўнік* (Жытк.).

БЛІЗНЮ'К. Двайная баразна (МДС).

БЛО'ГА. Гл. аблога 1 (Крыч., Слаўг.). ☐ ур. Блога (пакінутае поле) каля в. Улукі Слаўг.

БЛО'ННЕ. 1. Тое, што і абалонне 1, балонне 1 (Смален. Дабр.). 2. Тое, што і балонне 2 (Слаўг., Гом. Грыг. 1850). 3. Тое, што і абалонне 2; поле, раўніна (Краснап. Бяльк.) ☐ ур. Блонне (1745) у Магілёве (ЮМ XXX, ч. I, № 39), ур. Блонне (гарадскі сад у Смаленску Дабр.).

БЛОНЬ. 1. Адкрытае месца, раўніна, поле (Нас.). 2. Роўнядзь, роўная нізіна (Мсцісл. Бяльк.). 3. Заліўны луг у нізкай частцы абалоння (Бабр.). ☐ в. Блонь у Бабр., Пух.

БЛО'ТНІЦА. Балотная расліна сіт Scroenus, Iurd., зараснік сіту (Грыг. 1850).

БЛЯКО'ТНІК. Месца, дзе на кустарніку расце блёкат, ядавітая расліна Hyoscyamus, Jund. (Грыг. 1850).

БЛЯХА'РНЯ. Месца, дзе беляць воўну, лён (Грыг. 1850).

БОК. 1. Бераг ракі, возера, дарогі (Горкі Маг. губ. Н. Дзятлавічы Гом. пав. Радч., стар. X, Нясв., Слаўг.). 2. Старана, край, вобласць, мясцовасць, краіна (Жытк., Нясв., Слаўг.). 3. Схіл гары; частка, старана лесу, поля, якая бліжэй знаходзіцца да краю (БРС).

БО'ЛЬВАР. Фальваракк (Слаўг.). ☐ ур. Больвар (поле) каля в. Рабавічы Слаўг., ур. Больвар (востраў) каля р. Ляснянкі Слаўг.

БОМ. 1. Выгаралая глыбокая яма ў тарфяным балоце, якая запоўнена вадой (Палессе Талст.). 2. Глыбокая яма ў рацэ (Палессе Талст.).

БОН. 1. Тое, што і бом (Палессе Талст.). 2. Месца, дзе рыбакі выцягваюць з вады сетку (Стол.).

БО'НДА. У актах. Доля, участак, асабліва зямлі, які даецца за выслугу (Нас. АУ).



БОР. 1. Чысты, стары, сасновы лес (БРС); хваёвы ці сасновы лес на высокім месцы, на сухім грудзе (Палессе Талст., Ст.-дар., Стаўбц.). 2. Высокі стары лес з розных парод (Ветк., Жытк., Сал., Стол.). Тое ж *бор чорны* (лісцёвы лес), *бор кра́сны* (лес сасновы і яловы) (Грыг. 1850). 4. Высокае сухое месца (Жытк.). 5. Пясчаная зямля (Жытк., Стол.). 6. Невялікая ўзвышанасць, пагорак, сопка (в. Арэхава Палессе Талст.). ☐ ур. Бор (поле) каля в. Горск Кобр., в. Бор Маладз., Пух.

БО'РТНЯ. У актах. 1. Дрэва з вулеем пчол у ствале; борць (Грыг. 1850). 2. Дрэва з межавымі знакамі. *Бортня вейская* — мяжа або граніца паселішча. *Бортня ралейная* — мяжа палявая (Грыг. 1850).

БО'ХАТ. Самае глыбокае месца ў ручаі або ў невялікай рэчцы (Тал. Мядзв.).

БРАДЗІ'ШЧА. Месца, дзе знаходзіцца брод цераз раку (Грыг. 1850).

БРАДО'К. 1. Невялікі і неглыбокі брод (Ветк., Слаўг.). 2. Невялікая ўпадзіна з вадой, якая знаходзіцца недалёка ад вытокаў ручая (Слаўг.). ☐ ур. Брадок каля в. Лясная Слаўг.

БРА'МА. Стар. Застава каля горада (Маг. губ. вед., 1854, 792).

БРА'НДМУР. Суцэльная каменная сцяна без акон у драўляным доме, якую будавалі на мяжы сядзібы ў старым горадзе, мястэчку. Без такой сцяны дом ад дома ставілі толькі на адлегласці шасці метраў (Гродна; Беласток, Бельск у ПНР (Вал.). Тое ж *брандму́рак* (Гродна).

БРОД. Мелкае месца ў рацэ, возеры, старыцы, балоце, па якім пераходзяць пешшу, пераязджаюць з возам (БРС). Тое ж *бред, брёд* (Віц. Рам. Мат.). ☐ ур. Тата́рскі брод паміж вв. Жыцін і Кромка каля р. Пціч (Серб. 1915), ур. Брод (лажок) каля в. Папоўка Слаўг. ур. Брадок каля в. Лясная Слаўг.

БРО'ДНІК. Зараснік вярбы Salix caprea L. (Азяр. Касп.). Тое ж *лаза́* (Слаўг.).

БРО'ЎКА. 1. Дзярновы край канавы, поля, дарогі, берага ракі, рэчкі (Слаўг.). 2. Дзярновая мяжа паміж участкамі поля (Слаўг.). 3. Край абрыву (БРС). ☐ в. Броўкі Мін.

БРУДА'. Гразь, балота (Смален. Дабр.).

БРУ'ДАСЬ. Мель (Смален. Дабр.).

БРУДЗЬ. Гразь, тонкая плянёнка, слой гразі; смуга на полі ранняй вясной (Гом. пав. Рам. 1891, 364, Слаўг.).

БРУЙ. Хуткі паток вады сярод ракі (Слаўг.). Тое ж *бруёвая вада́* (Слаўг).

БРУК. 1. Каменная маставая; дарога, выкладзеная каменнем (БРС, Грыг. 1850, Мін.). 2. Самая быстрыня ракі (Нас.). Тое ж *быстрата́, сцёржань* (Слаўг.). 3. Пясчаная водмель у рацэ (Смален. Дабр.). 4. Каменне (Ваўк. Сцяшк.).

БРУСНІ́ЧНІК. Зараснік брусвічніку Vaccinium vitis idaéa L. (БРС). Тое ж *брусле́нік* (Стол.).

БРУЯ́. Хуткі паток вады сярод ракі (Слаўг.).

БРУЯ́К. Мель (Кузн. Касп.).

БРЫГВА́. Непраходнае балота (Валож. Жак.).

БРЫ́ЛА. Камлыга зямлі (Грыг. 1850).

БРЫЛЕ́ЎНІК. Месца, якое зарасло травой дзядкамі Arctium tomentosum schrans (Беш. Касп.).

БУ́БЕН. 1. Месца, высокае і беднае травастоем (Нясв., Слаўг.). 2. Балота, якое можна перайсці (Пух.).

БУБЁН. 1. Высокае месца (Карм.). 2. Высокая і бедная травастоем паша (Слаўг.). □ ур. Бубён (высокі бераг з пясчанымі і крутымі схіламі) каля в. Глінкі Паштовай Карм., Бу́бны (азярына на лузе) каля в. Шарсцін Ветк.

БУГЛЁЎНІК. Месца, дзе багата дробных, акругленых вадой, каменьчыкаў (Гродз.). Тое ж *буглёк* (Гродз.).

БУГО́НЯ. 1. Ралля ці від ворыва, калі пасярэдзіне ўчастка ўзвышаецца пачатковая двайная баразна (Слаўг.). 2. Ворыва ўроскідку (Ветк.).

БУГО́Р. 1. Узгорак, пагорак, невялікая гара; узвышанасць; высокае месца; гара пяску (паўсям.). Тое ж *лабзыр, бузгорак, лабы́р, сугорак, лабы́нь, лабады́р, бугарок, лабырок, курганок, кургонак, бугра́віна* (Слаўг.). 2. Кучка зямлі, якую накапаў крот (Слаўг., Хойн.). □ ур. Бугор (высокі луг) каля в. Сіліна Поле Слаўг.

БУ́ДА. 1. У актах (1529). Новая сяліба, населены пункт у лесе, жыхары якога займаюцца вырабам дзёгцю, паташу, ардашу, салетры, клёпкі (Люб. 490, Грыг. 1850, Слаўг., Смален. Дабр., Быx. Рам. 1912, 3). 2. Збудаванне, будынак, жыллё, хата (Слаўг., Смален. Дабр.). Тое ж *буда́н, курэ́нь, халу́па, хі́жа* (Слаўг.). 3. Хата з дваровымі будынкамі, якая стаіць за паселішчам (Грыг. 1850). 4. Кірмашовая лаўка (Грыг. 1850). □ ур. Бу́ды (поле, сенажаць) каля в. Пасека Ст.-дар., в. Буда Дубр.

БУДА́. 1. Будка над ямай, дзе ляжыць бульба (Сцяшк.). 2. Салаш; дрэнны жылы будынак (Слаўг.).

БУДВО́РЫЦА. Выган за вёскай (Сіроц. Касп.).

БУДЗІ́ШЧА. Месца, якое занята дваровымі будынкамі (Грыг. 1850).

БУ́ДКА. 1. Вартоўня, старожка; двор у лесе, каля вялікай дарогі (Слаўг.). 2. Буда, салаш як часовае збудаванне для жылля (Слаўг.). 3. Будан для сабакі (Грыг. 1850, Слаўг.).

БУДЫ́МЕР. Высокае, адкрытае для вятроў месца (Стол.).

БУЁК. 1. Моцны вецер (Слаўг.). Тое ж *буя́к, буя́н* (Слаўг.). 2. Высокае, ветранае месца (Слаўг.). Тое ж *буя́к, буя́н* (Слаўг.).

БУЗА́. Рачны і азёрны іл; гразь; разведзеная гліна; твань з травою на дне вадаёма, гразкае балота (Віц. Нік. 1895, Кузн. Касп., Пол., Слаўг.). Тое ж *муць, дрюза́, дрюзя́, дрюзга́* (Слаўг.). □ ур. Бузя́ны рог (частка сушы, возера) каля в. Чарсвяны Уш.

БУЗГО́Р. Горка, узвышша (Слаўг.). Тое ж *бузды́р, лабады́р, лабы́р, бузгорак, бузгарок* (Слаўг.).

БУЙ. 1. Узгорак, адкрытае, ветранае месца (Лёзн., Нясв., Рэч., Слаўг., Сміл. Шат., Смален. Дабр.). 2. Высокае бойкае месца, плошча, тачок, дзе збіраюцца людзі (Слаўг.). 3. Моцны, халодны вецер (Лёзн., Мсцісл. Юрч., Рэч., Смален. Дабр.). 4. Схіл гары, узгорка, ніжэй якога мясцовасць ужо роўная (Слаўг.).

БУЙСТРА́. Быстрыня; месца хуткага цячэння ў рацэ (Жытк., Сал.).

БУК. Месца, куды падае вада з млынавага кола, ад чаго дно вадаспада робіцца глыбокім (Грыг. 1850).

БУ́КА. Глыбокае месца ў рацэ (Дубр.).

БУКО́ТА. Узгорак на лузе, на якім расце вяз (Слаўг.). □ ур. Букота каля в. Дабранкі Слаўг.

БУ́КТА. Глыбокае вірыстае месца ў рацэ на самым яе павароце, якое крыху ўдаецца ў сушу (Жытк., Мін., Навагр.). Тое ж *букота* (Слаўг.).

БУ́КЧА. Глыбокае месца ў рацэ; затока (Жытк.). □ в. Букча Лельч., Тур.

БУЛДЫ́ГА. 1. Цвёрдая няроўнасць на разбітай дарозе, мёрзлая гразь у выглядзе розных выступаў

(Слаўг.). 2. Скіба дзярністай зямлі на раллі, вялікія кавалкі сухой зямлі на заскароджаным полі (Слаўг.). Тое ж *булдыжына, убоіна, калдыба́, калдыга́, булдыжжа, субулдыжжа, субулдажжо, убоінне, убоіжжа* (Слаўг.).

БУЛЬБЯ'НІШЧА. Поле, дзе расла бульба (БРС). Тое ж *бульбаве́не* (Гродз.), *бульбе́нішча* (Віц., Слаўг., Уш.), *бульбе́йнішча* (Леп.), *бульбе́йнічча, бу́льбішча, бульбовінне, бульбавінне, бульбовічча, бульбовішча, бульбоўішча* (Слаўг.), *бульбоўнік* (Крыч., Паст., Слаўг.), *бульбоўнічча, бульбоўнішча* (Слаўг.), *бульбя́ніска* (Гродз.), *бульбя́нка* (Вор.), *бульбя́нне* (Маладз., Слаўг., Смал.), *бульбя́шнік* (Слаўг.).

БУЛЬВА'Р. Гарадскі сад (Клімавічы, 1913 Ярасл., 39).

БУЛЬДЫ'Р. 1. Бясплодны ўзгорак (Сен. Касп.). 2. Высокае, адкрытае месца; пукатая горка (Нас., Слаўг.). Тое ж *булды́р, булдырок* (Слаўг.).

БУР. Невялікае ўзвышша, якое парасло лесам (Палессе Талст.).

БУРАЛО'М. 1. Паламаны бурай лес (БРС). 2. Вялікая бура з дажджом і громам (Ветк.).

БУ'РВА. Хваля, вадзяны грэбень, падняты ветрам (Гом. пав. Рам. 1912, 178).

БУРВА'ЛАК. Невялікі ўзгорачак, сухое месца на нізіне (Маладз.).

БУРГУ'Н. Курган, узгорак; купіна, грудок (Мсцісл. Юрч. НС, 230).

БУ'РЦІ'ШЧА. Месца, дзе стаяў бурт бульбы, гною (Слаўг.).

БУРЧА'. Топкае месца (Лід. Араш., 92).

БУРЧА'К. Частка ракі з хуткім цячэннем; быстры ручай (Глуск. Янк. I, Палессе Талст.).

БУР'Я'Н. 1. Месца, якое парасло бур'янам, пустазеллем (Слаўг.). Тое ж *бурыя́н* (Слаўг.), *бур'яніна* (Грыг. 1850). 2. Навальніца з вялікім ветрам; бура (Стол.).

БУТ. Яма, траншэя з каменнямі; каменны падмурак печы ў хаце (Слаўг.).

БУ'ХТА. 1. Глыбокае месца ў рацэ на самым яе завароце; вір (Гродз., Бельск, Жытк., Сал., Стол.). 2. Выкручаная вадой яма на дарозе, на лузе ў час разводдзя (Стол.). ☐ ур. Бухта Просць каля в. Кароцічы Стол.



БУ'ХТАВІЦА. Гразкае месца на балоце (Пруж.).

БУ'ЧАЁ. Месца, пакрытае каменнямі, некалькі ўзвышанае (Кар.).

БУЯРА'К. Сухі дол (Калінк.).

БУЯ'ШНІК. Зараснік дурнічніку Vaccinium uliginosum L. на балоце (Жытк.).

БЫЙСТРА'. Паласа хуткага цячэння ў рацэ (Рэч., Слаўг.). Тое ж *быйстры́нь, быйстрыня́, бы́стрына́, быстрэча, пасяродак, быстры́нь, сцёржань* (Слаўг.), *бы́йстра* (Ветк.), *быстра́* (Грыг. 1850, Рэч.), *быстры́нка* (Гродз.), *быстра́к, быстрыня́* (БРС).

БЫР. 1. Густы, глухі змешаны лес на высокім сухім і пясчаным месцы (Кам., Радзеж Палессе Талст.). 2. Ралля на месцы лесу (Драг.).

БЫСТРЭ'Ц. Ручай, які мае хуткае цячэнне (Грыг. 1850). Тое ж *бы́стрык* (Грыг. 1850). ☐ в. Быстрык Маг.

БЯЗДО'ННЕ. Глыбіня, яма, дрыгва, вір (БРС). Тое ж *бяздонніца, прадонне* (Слаўг.).

БЯЗЛЕ'СІЦА. Тэрыторыя, бедная лесам (БРС). Тое ж *бязле́ссе* (БРС), *поле* (Слаўг.).

БЯЗО'ДНЯ. Бездань, невымерная глыбіня (Бяр. 2).

БЯЗГНО'ІЦА. Пустое поле, без гною (Слаўг.).

БЯЛІ'ЛЬНЯ. 1. Месца, дзе беляць воўну, лён (Грыг. 1850). 2. Лужок, узмежак, дзе беляць на сонцы мокрыя палотны (Слаўг.).

БЯЛЯ'НА. Зямля, якая мае белы колер; белая гліна (Грыг. 1850).

БЯРЛО'ГА. Мядзведжае логава (Бых., Кап., Кобр., Маладз., Слаўг., Смален. Дабр., Смарг., Стаўбц.), воўчае логава (Нар., Рэч.). Тое ж *бярлог* (Вор., Жытк., Кам., Нясв., Пол., Шчуч.).

БЯРО'ЗАВЕЦ. Бярозавы гай (Стаўбц. Прышч.).

БЯРЭ'ЗІНА. Бярозавы зараснік, лес (Грыг. 1850, Палессе Талст., Слаўг.). Тое ж *бяроза* (Слаўг.), *бярозавік* (Віл.), *бяроза* (Палессе Талст., Слаўг., Слуцк.). ☐ ур. Бярэзіна (балота) Слаўг., р. Бяроза (пр. пр. Дняпра), Бяроза (шлях ад Прапойска да Магілёва), ур. Бяроза (поле) каля в. Зялёная Дуброва Слуцк., ур. Бярозавік (балота) каля в. Засценкі Віл., Бярозаўка (назва вуліцы) у в. Свенск Слаўг., в. Бярозаўка Слаўг., г. Бяроза Брэсц.

**БЯРЭ'ЗНА.** Месца, якое зарасло бярэзнікам (Стол.). ☐ ур. Бярэзна каля в. Аздамічы Стол.

БЯРЭ'ЗНІК. 1. Бярозавы лес, гай (БРС). 2. Могілкі (Слаўг., Шчуч.). Тое ж *духоніна рошча* (Магілёў). ☐ ур. Бярэзнік (поле) каля в. Кароцічы Стол., ур. Бярэзнік (лужок з рэдкімі бярозкамі) каля в. Папоўка Слаўг.

БЯРЭ'СЦІШЧА. Месца ў бярозавым лесе, дзе гралі бяросту на выганку дзёгцю (Крыч.). ☐ ур. Бярэсцішча (узвышша) каля в. Дзягавічы Крыч.

БЯСЕ'ДЗІШЧА. Месца або пакой, куды збіраюцца людзі (Грыг. 1850, Слаўг.).

БЯСПУ'ЦІЦА. Вельмі дрэнная дарога; нягода (Слаўг., Чашн. Касп.). Тое ж *бяспуцце, бяспуцціна, бездараж, бездарожжа* (Слаўг.).

## В

ВАДА'. 1. Агульная назва наяўнасці ў населеным пункце ці ў гэтай мясцовасці водных аб'ектаў — возера, ракі, рэчкі, балота, мачулішчаў, крыніц (Слаўг.). Тое ж *вадазбор, вадзянка* (Слаўг.). 2. Разліў вады вясной у час разводдзя, летніх ліўняў, восеньскіх дажджоў, зімовых паводак і верхаводак (Ветк., Жытк., Слаўг., Стол.). Тое ж *вадаполь* (Смален. Дабр.).

ВАДАВА'Л. Вадаспад (Віл.).

ВАДАДЗЕ'Л. Водападзел паміж рэкамі, вадаёмамі (Касп.).

ВАДАЁМ. Месца збірання або захоўвання вады; ставок (БРС). Тое ж *вадавік, вадабадзь* (Вілен.).

ВАДАПО'Й. Месца, дзе пояць жывёлу (БРС). ☐ в. Вадапой Мін. (Лемц. Дыс.).

ВАДАСКІ'Д. Гідратэхнічнае збудаванне для зліванне лішку вады ў стаўку (БРС). Тое ж *ялаў, ялава, ялаво, рына* (Слаўг.).

ВАДАСПА'Д. 1. Спад вады пасля вясенняга разліву (Слаўг.). 2. Імклівы паток вады, які падае з вышыні (Слаўг.).

ВАДАСЦЁК. Месца на лагу, дзе патокам выліваецца вада з раўка (Слаўг.).

ВАДАЦЕ'Ч. 1. Крыніца, ручай, равок (Нас., Крыч., Слаўг.). 2. Вільготнае месца пад гарой, дзе з зямлі сочыцца вада (Лёзн.). ☐ ур. Вадацеч (мокрая, крынічная мясціна) каля в. Любаны Слаўг.

ВАДЗІ'ШЧА. Вялікі разліў, вялікая вада; бурнае разводдзе (Слаўг.). Тое ж *вадзянішча* (Слаўг.).



ВАЖНІ'ЦА. 1. Месца, дзе важаць грузы (Горкі Маг. губ.). 2. Вагавы хлеў (Маг. губ. вед., № 44, 1854, 793).

ВАЗО'Н. Выгін ракі на роўным месцы, парослы вакол алешнікам (Стаўбц.). ☐ ур. Вазоны каля в. Пруды Стаўбц.

ВАЗЯРЦ'О. Невялікае возера; малы старык (Ветк., Крыч., Слаўг., Шчуч.). Тое ж *вазёрца* (Лёзн.), *вазярцэ, возерка* (Ст.-дар.), *возерца* (Слаўг., Стаўбц.). ☐ ур. Вазярцо (лужок) каля в. Серкаўка Слаўг.

ВАЗЯРЫ'НА. 1. Старарэчышча, старыца з вадой на лузе (Слаўг.). 2. Зарослае возера, запушчаны ставок (Слаўг.).

ВАЗЯРЫ'ШЧА. Месца, дзе было возера (Нясв., Слаўг.). Тое ж *возерышча, вазярыне, вазёрня* (Слаўг.).

ВАЗЯРЭ'Ц. Гл. азярэц (Слаўг.).

ВА'КАРЫНА. Хваля, зыб на рацэ, возеры (Навагр.).

ВАКНО'. Гл. акно (Палессе Талст., Слаўг.).

ВАКО'ЛІЦА. Гл. аколіца 1—7 (Зах. Бел., Др.-Падб., Сен. Касп., Слаўг.).

ВАКО'НЦА. Прыроднае ці выкапанае на балоцістай амшары паглыбленне, прадаўгаватае азярцо (Віц. Нік.).

ВАЛ. 1. Штучны земляны насып у выглядзе вялікага бурта з грэбнем (Пол.), узгорка (Жытк., Тур.). 2. Нагорнуты экскаватарам доўгі грэбень кустоў з карэннем (Сал., Слаўг.). 3. Высокае месца, груд пасярод балота (Глуск. Янк. II). 4. Хваля, вадзяны грэбень, падняты ветрам (Гродз., Жытк., Тал. Мядзв.). ☐ ур. Вал Івана Грознага ў Полацку, ур. Вал (насып) Тур. (Кав. 340), ур. Вал (груд сярод балота) каля в. Клетнае Глуск.

ВАЛАКА'. Зыбкае балоцістае месца (Лельч.).

ВАЛАТО'К. Курган, магільны ўзгорак (Барыс. Расія, т. 9, 401). 2. Земляны капец, які некалі служыў арыенцірам, каморніцкім знакам і кіламетравым слупам (Барыс. Расія, т. 9, 401).

ВАЛАТО'ЎКА. 1. Магільны курган бронзавага веку; вялікі прыродны ўзгорак (БРС). Тое ж *валатаўка* (Віц., Пол., Алякс. 59). 2. Земляны капец, які некалі замяняў кіламетравы слуп (Барыс. Расія, т. 9, 401). ☐ с. Волатава каля Гомеля (Расія, т. 9, 537).

ВАЛАТО'ЎКІ. Могілкі (Сен. Касп.). ☐ в. Валатоўкі Шум., ур. Валатоўкі каля нас. п. Шайцерава Дрыс.

ВАЛБУ'КА. Невялікая няроўнасць на дарозе; кучка цвёрдай зямлі, маленькі ўзгорачак (Ветк., Слаўг.).

ВАЛБУ'ЧЧА. 1. Замерзлыя купіны, вялікія кавалкі мёрзлай зямлі на гразкай дарозе (Слаўг.). 2. Нараст клубам на дрэве (Слаўг.).

ВАЛВА'. Хваля, вадзяны грэбень, падняты ветрам (Ашм. і Лідск. пав., Віц., Гродз.).

ВАЛЕ'ШНІК. Абгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе (Слуцк.).

ВАЛІ'НА. 1. Руіны (Грыг. 1850). 2. Павал, буралом у лесе (Грыг. 1850).

ВАЛКА'Н. 1. Паламаны бурай лес (Рэч.). 2. Вялікі разбуральны вецер у час навальніцы; буран (Рэч.).

ВАЛМО'. Упадзіна, паглыбленне (Валож.).

ВАЛО'К. 1. Участак зямлі (Кобр.). 2. Нізкі бераг ракі (Кобр.). 3. Згрэбенае ў рад сена (Кобр.).

ВАЛО'КА. 1. Мера зямлі — 20 дзесяцін; участак зямлі 24 га (Барыс.); 18 га (Стаўбц.); надзел зямлі (Маладз.); участак зямлі няпэўнай меры (Шчуч.); паласа зямлі (Жытк.). 2. Галоўная пазямельная мера ў Літве і Польшчы (Гарб.). 3. Балота або нізкае, забалочанае, але праходнае месца, якое зарасло алешнікам, лесам (Ельск., Усх. Палессе Талст.).

ВАЛО'ТНІЦА. Месца, дзе размешчана група курганаў-валатовак (Віц. Рам. Мат.). □ ур. Валотніца (лес) у Веліжскім пав.

ВА'ЛЬНЯ. 1. Майстэрня, у якой валілі сукно (Слаўг.). 2. Лазня (Сал.). 3. Месца, дзе стаяла лазня (Стол.).

ВАЛЬНЯКІ'. Месца, дзе жылі людзі, якія мелі вольнасць ад прыгону; багатыя людзі (Слаўг.). □ х. Вальнякі каля в. Шаламы Слаўг.

ВАЛЬСА'. Тарфяное балота; забалочаны луг, часам з вольхамі (Слаўг.). □ ур. Вальса (забалочаны луг) каля в. Віравая Слаўг.

ВАЛЮ'ШНЯ. Месца, дзе стаяла майстэрня, у якой валілі сукно (Глуск. Янк. II, Слаўг.). Тое ж *валюш* (Гродз.), *валюша* (Жытк., Стол.).

ВАНДО'Л. Ухаба, выбай, калдоба (Беш. Касп.).

ВАПА'К. Залежы вапны (Слаўг.).

ВА'ПЕЛЬНЯ. 1. Месца, кар'ер, дзе здабываюць вапну (БРС). Тое ж *вапе́йніца* (Віц. Касп.), *вапе́льня* (Слаўг., Сміл. Шат.), *вапе́нніца* (Зах. Бел. Др.-Падб.), *ва́пніца, ва́пнішча* (Нас.), *вапно* (Нас. АУ). 2. Печ, месца, дзе абпальваюць вапну; вапенны завод (БРС). Тое ж *вапе́йніца* (Віц. Касп.), *вапе́льня* (Нас.), *вапе́нніца* (Віц. Касп.).

ВАПЕ'ННІШЧА. Месца, дзе складаюць вапнавы камень або ачышчаюць гашаную вапну (Нас.).

ВА'ПНА. Абпаленая вапністая зямля (БРС). Тое ж *вапня́к* (БРС), *звёздка* (Слаўг.).

ВАРНІ'ЦА. У актах. 1. Салярня, салярня (Гродз.). Тое ж *ва́рня, варэльня* (Грыг. 1850). 2. Завод, дзе варылі піва, мёд (Крыч. староства Меер, 1786, 99).

ВАЎКАЎНЯ'. 1. Яма для лоўлі ваўкоў (БРС). 2. Небяспечнае месца (Нас.). □ ур. Каля Ваўкаве́нькі Стаўбц. (Прышч.).

ВЕ'ЖА. Каланча (БРС). □ нас. п. Белая Вежа ў раёне Белавежскай пушчы (ПНР).

ВЕ'РАС. Суцэльны зараснік верасу Callúna vulgáris Salisb. (БРС). Тое ж *верасня́к, верасе́нь, верасу́га* (Слаўг.).

ВАРАТНІ'К. Доўгі загон (Колас, 1952, т. 4, 303); частка паласы, якая апрацоўваецца асобна (Кузн. Касп.).

ВЕРАЦЕ'. Расчышчаная палянка ў лесе (в. Шастовічы Палессе Талст.).

ВЕ'РАЦЕНЬ. 1. Старая народная мера зямлі, адлегласці (Шчуч.). 2. Частка ўзаранага поля; шырокая паласа (Палес. Лемц. Айк.).

ВЕРАЦЕ'Я. 1. Узгорак, узвышша сярод балота, часцей парослае арэшнікам (Беш. Касп., ЛМ, 77, 94, 106, 806). Тое ж *верацяя́* (Лемц. Айк.). 2. Падрыхтаванае пад поле месца (Лемц. Айк.). 3. Вугал або клін поля (Грыг. 1850). □ Верацейскае балота Арш. (Расія, т. 9, стар. 8), в. Верацеи Веліжскага пав. (Рам. Мат.), в. Верацейкі Докш.

ВЕРАЯ'. 1. Узгорак (Слаўг.). 2. Вароты з дзвюх палавін. (Слаўг.). 3. Шула, слуп у варотах або агароджы (Слаўг.).

ВЕРБАЛО'З. Зараснік куставога вербняку, ніцай лазы Sálix viminális L. (БРС).

ВЕРБАЛО'ЗНІК. Зараснік ракітніку Sálix frágilis L., вярбы Sálix pentándra L. (Глуск. Янк. II, Слаўг.).

ВЕ'РБАЎЕ. Месца, дзе багата расце вярбы (Слаўг.). Тое ж *вербаўё, ве́рб'е* (Слаўг.), *ве́рбна* (Стол.), *ве́рбнік* (Слаўг.). □ в. Верб'е Лаг., ур. Ве́рбна каля в. Аздамічы Стол., ур. Вербнякі́ (луг з зараснікам вярбы) каля в. Заспа Рэч.

ВЕРХАВО'ДКА. 1. Вада, якая разлілася зімой паверх лёду; слаі лёду на рэчцы над першым тоўстым ледаставам (Докш., Сен. Касп., Слаўг.). 2. Веснавая вада, якая разлілася на лузе пасля ачышчэння ракі ад лёду (Слаўг.). 3. Вада і ваданосны пласт у калодзежы, якія знаходзяцца вышэй пласта з крыніцамі і з крынічнай вадой (Смал.).

ВЕРХАЛЕДЗІЦА. 1. Вада паверх лёду на рацэ (Рэч., Стол.). Тое ж *верхалод, верхалодзіца* (Стол.), *верхалёдка* (Рэч.). 2. Лёд на рацэ, які намярзае паверх асенняга ледаставу (Жытк., Рэч., Стол.). Тое ж *верхалод* (Стол.), *верхалёдка* (Рэч.), *верхалодзіца* (Стол.).

ВЕ'РЦЕП. Старарэчышча з вірам (Маз.).

ВЕРЦЁЛА'. Вір у рацэ, возеры на месцы, дзе б'е крыніца (Усх. і Цэнтр. Палессе Талст.).

ВЕ'СКА. Населены пункт сельскага тыпу (Слуцк. пав. Сержп. Грам. 48). Тое ж *ўёска* (Ст.-дар.). □ в. Веска Староб.

ВЕСЬ. 1. Сельскі населены пункт (Слуцк. Сержп.). 2. Стар. Поле, ралля (Грыг. 1850).

ВЕСЯЛУ'ХА. 1. Лес з бяроз павіслых Betula Trendula Roth; бярэзнік (Дубр., Крыч. Меер 1786, 115). 2. Рознакаляровая вясёлка на небе (Ваўк. Сцяшк., Глуск. Янк. II., Маз., Росл. пав. Дабр., р. Пціч Серб. 1915, паўдн. ч. Слуцк. пав. Сержп. Прымхі, 12, Ст.-дар.).

ВЕСЯЛЬНІ'К. Лес з бяроз Bétula verrucósa Ehrh. (Лёзн.).

ВЕ'ТЛІЦА. Вярбовыя прысады каля дарогі (Слуцк.).

ВЕ'ЦЕР. 1. Адкрытае, ветранае месца (Слаўг.). 2. Веснавы вецер (Жытк.). Тое ж *вецёр* (Жытк.). 3. Віхор (Слаўг.).

ВЕ'ШКА. Тое, што і вітка 1, 2 (Слаўг.).

ВЕШНЯК. Вадзяны млын, які працуе толькі пры высокім узроўні веснавой вады (АВК, 4).

ВЁСКА. Населены пункт у сельскай мясцовасці, сялянская аселасць (БРС). Тое ж *в'ёска* (Ст.-дар.), *вёзка* (Ветк., Віц., Дубр., Маг.), *веска* (Дзіс. Дабр. ч. IV, 219). Параўн.: вёску Березовку (1708) Слаўг. (Лісты Пятра I, т. 8, вып. 2, 1951, 731, 732). □ в. Вёска Люб.

ВІ'ГАР. Глыбокае месца на балоце, яма, запоўненая ілам, вадой; азярына (Харомск Палессе Талст.).

ВІДО'КА. Віднае з усіх бакоў, адкрытае, высокае месца (Слаўг.). Тое ж *відоцы, лабок, лысагар, кол, далонь, тычок, вока, званіца, маяк* (Слаўг.), *відоліца* (Стол.).



ВІ'ЖАР. Яма ад выгаралага торфу і травы (Палессе Талст.).

ВІ'ЛКІ. Месца раздваення дарогі (Докш.).

ВІ'ЛЫ. Мясцовасць у выглядзе вузкай палоскі, якая заканчваецца ўчасткам квадратнай формы паміж рэчкамі пры ўпадзенні адной з іх у другую (Ст.-дар.). □ ур. Вілы (балота) каля в. Пасека Ст.-дар.

ВІПЦІ'ННІК. Вінаграднік; гароднінны сад (Нас. АУ).

ВІР. 1. Яма ў рацэ ці возеры, на паверхні якой назіраецца кругаварот вады; глыбокае месца ў рацэ, возеры або балоце (БРС). Тое ж *гаршчок, глыбічыня, вотмык, глыбачынь, закрутка* (Слаўг.), *мотмут* (Ветк.), *вукрут* (Палессе Талст.), *вірь* (Магіл. губ. вед. № 44, 1854, 793), *вырь* (Віц. Шэйн БП, 773), *макацёр* (Усх. Палессе Талст.). 2. Невялікая травяная яма з вадой на сухім месцы (Палессе Талст., Стол.). 3. Яма на лузе, якую выкручвае вада вясной (Рэч.). 4. Месца ў рацэ, дзе падмываецца бераг (Жытк.). 5. Месца ў рацэ або возеры, дзе часта топяцца людзі; усякае небяспечнае і невядомае месца (Лёзн., Нас., Слаўг.). 6. Быстры ручай; быстрыня ракі (Віц. Шэйн. БП, Нас.). □ ур. Васькаўскі Вір (луг) каля в. Рудня Слаўг.

ВІРО'К. 1. Глыбокае месца на рэчцы (Слаўг., Стол.). Тое ж *вірэц, вірцэ* (Стол.). 2. Адкрытае месца сярод дрыгвы (Стол.). 3. Глыбокае малое азярцо на грудку, на полі, круглая яма з травой на прырэчнай сенажаці (Стол.). Тое ж *вірак* (Стол.).

ВІ'СПА. Нізкі, пакаты пясчаны бераг (Цэнтр. Палессе Талст.).

ВІ'ТКА. 1. Мяжа на лузе, на пасеве з уторкнутымі жэрдкамі (Слаўг.). 2. Межавы знак, галіна з заламаным верхам або шосцік з пучком сена на самым версе; дарожны і водны арыенцір (Слаўг.). Тое ж *мета, граніца, знак* (Слаўг.). 3. Луг, дзе нельга пасвіць жывёлу пакуль не будзе скошан травастой (Слаўг.). □ ур. Віткі (поле) каля в. Гайшын Слаўг.

ВІША'Р. 1. Топкае балота, дзе траву косяць толькі па лёдзе або яна там зазімоўвае (Пар., Слаўг., Стол. Араш. 90). Тое ж *вішар* (Ст.-дар.), *віш* (Глуск. Янк. I, Сал., Стол.), *віша́* (Чырв.-слаб.), *вішэр* (Драг.). 2. Трава

ў выглядзе мурагу, якая не трэцца (Рэч.). 3. Месца на беразе, у затоцы, дзе ляжыць сухая балотная трава, рознае смецце пасля разводдзя (Драг.). 4. Благое балотнае сена (Драг., Пух. Шат., Сядл. Бес. 302). □ в. Вішар Калінк., ур. За Вішаром (поле) каля в. Чарнякоўка Слаўг., Віш — частка в. Зімніца Слаўг.

ВІ'ШКА. Тое, што і вітка 1, 2 (Слаўг.). □ в. Вішкавічы Чашн.

ВІШНЯ'К. Густы зараснік вішняў; вішнёвы сад (БРС). Тое ж *вішанне* (Пол., Слаўг., Смален. Дабр.), *вішаннік, вішнюгá, вішняччо, вішнік* (Слаўг.), *вішэннік* (Слаўг., Уздз.).

ВО'БЛІВА. Аблівака; коўзкая дарога ў час галалёду (Слаўг.). Тое ж *воблій, вобліўка* (Слаўг.), *вобліўя* (Мсцісл. Юрч., Слаўг.).

ВО'ГНІСКА. 1. Месца, дзе гарэў касцёр (Гродз.). 2. Дрыгвяністае балота (Гродз.).

ВО'ГНІШЧА. 1. Палаючы касцёр (БРС). 2. Месца дзе гарэў касцёр (БРС). 3. Пажарышча (Рэч., Сміл. Шат.). □ ур. Вогнішча (Тур. Кав. 340).

ВО'ДВА. Выток ракі (Маг.). Тое ж *водня* (Маг., Слаўг.). □ с. Водва Маг.

ВО'ДМЕЛЬ. Неглыбокае месца ў рацэ, возеры (БРС).

ВО'ДРУБ. Зямля ў адным участку (усяго пасёлка, аднаго гаспадара); хутар (БРС). □ пас. Водруб каля в. Зімніца Слаўг.

ВО'ДСЕЎ. Тое, што і адсеў 1, 2 (Мсцісл. Юрч., Слаўг.).

ВО'ДСТУП. Адкрытая прастора паміж лясамі, дварамі, будынкамі (Слаўг.).

ВО'ДЫ. 1. Мінеральныя воды, гразі; лячэбныя крыніцы (БРС). 2. Рыбныя водныя ўгоддзі (Стол.).

ВО'ЗЕРА. 1. Прыродны вадаём або штучны ставок (БРС). 2. Азярына, якая заліваецца вадой у час разводдзя (Ветк.). 3. Старык на лузе, які злучаецца з ракой старым рэчышчам або перасыхаючым ручайком (Рэч.). 4. Крыніца (Ветк.). 5. Азярышча (Ст.-дар.). □ ур. Зáсапскае Возера (поле) каля в. Заспа Рэч., ур. Возера (азярына, луг) каля в. Заспа Рэч., ур. Возера (сенажаць) каля в. Пасека Ст.-дар., в. Возера Уздз.

ВОЙ. 1. Самае хуткае цячэнне ў рацэ; стрыжань (Стол.). 2. Месца віхравога руху вады, дзе равец (гл.) упадае ў раку (Стол.).



ВО'ЙТАЎСТВА. Адміністрацыйная частка графства, роўная 250 000 квадратных дзесяцін зямлі (Меер, 1786, 3).

ВО'КА. 1. Незарослая частка былога вадаёма; невялікая водная паверхня на балоце (Слаўг.). 2. Вір на рацэ (Рэч.). □ ур. Чортава Вока (вір) на Дняпры каля в. Заспа Рэч.

ВО'КНА. Глыбокія ямы з вадой на балотнай сенажаці паблізу азёр або старых рэчышчаў (Стол.).

ВО'КНІШЧА. 1. Невялікае, але вельмі глыбокае прыроднае возера (Стол.). 2. Вір на рацэ, возеры, або незарослая вадзяная, вельмі глыбокая яма на грузкім балоце; гразкае месца на балоце (Нас., Вічын Палессе Серб. 1915, Чашн., Касп.). Тое ж *гакно* (Драг. Араш. 92, ПалессеТалст.).

ВО'КУТ. Абгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе (Кір.).

ВО'ЛАК. 1. Гужавая лясная дарога (Слаўг.). 2. Дарога, па якой вазілі (валачылі) таварны лес на рум (Слаўг.).

ВО'ЛАСЦЬ. 1. Адміністрацыйная адзінка, частка павету ў дарэвалюцыйнай Расіі (БРС). 2. У актах (1557). Горад і некалькі вёсак, якія належалі аднаму ўладару (Гарб.).

ВО'ЛМІНА. Катлавіна, мокрая ўпадзіна з травой (Чэрв.). □ в. Волма Чэрв.

ВО'ЛЬНІЦА. Месца, дзе рабіўся вольны, без водкупу, продаж віна (Нас.).

ВО'МШАР. Махавое балота, амшарына (Сміл. Шат.).

ВО'ПАЎЗЕНЬ. Апоўзень на схіле рова, гары, берага (Мсцісл. Юрч.).

ВО'РАНЬ. Узаранае поле, ралля (Слаўг.). Тое ж *арáнне* (Слаўг.). □ в. Ворань Леп.

ВО'РЫВА. 1. Узаранае для сяўбы поле; засеяны палетак (БРС). Тое ж *пáхаць, пáхата* (Слаўг.), *араллá* (Дубр.). 2. Ралля, якая ўзарана першы раз (Сен. Касп.).

ВО'РЫК. Скацінны двор, даржнік (Горкі Маг. губ., л. 1).

ВО'СТРАВА. Поле паміж лугамі (Уш.). □ ур. Вострава (поле) каля в. Чарсвяны Уш.

ВО'СТРАЎ. Частка сушы, якая акружана вадой ці балотам (БРС). Тое ж *войстраў* (Слаўг.), *штычына*

(Драг. вол. Гільт. 59), *гостраў* (Ваўк.). □ Зялезны востраў у балоце Чыстая Лужа каля в. Шаламы Слаўг.

ВО'СТУП. Гл. оступ (Беш. Касп.).

ВО'ТЛЫНЬ. Затока (Слаўг.).

ВО'ТМАЛАДЗЬ. Зараснік маладых парасткаў на бярозавых, альховых высеках (Жытк.).

ВО'ТМЕЛЕ. Пясчаная каса ў рацэ (Рэч.).

ВО'ТМУТ. 1. Вір на рацэ (Ветк., Слаўг.). Тое ж *узмýць* (Слаўг.), *вотмуць* (Цэнтр. і Усх. Палессе Талст.). 2. Ціхая глыбокая затока каля ракі (Рэч.). 3. Глыбокае месца ў рацэ (Палессе Талст.); чорная глыбіня (Слаўг.). □ воз. Узмуць (глыбокае возера) каля в. Віравая Слаўг.

ВО'ТМЫК. Глыбокае месца ў рацэ, дзе раней быў млын (Слаўг.).

ВО'ТМЫТ. Вір, яма; вельмі глыбокае месца ў рацэ ці возеры (Слаўг.).

ВО'ТЧЫНА. 1. Уладанні, абшар, спадчына ад бацькі ці дзеда; бацькаўшчына, дзедаўшчына (БРС). 2. Пасека; прыдатнае для пчол месца (Прысожжа Ляп., 1773, Кароцічы Стол.). Параўн.: «В сих лесах... Могилевской губ... Великорослой дуб снабдит флотские надобности, в липняках лутчая отчина или пчельники» (Ляп. 547); «В деревни Бируляхъ одна уволока и вотчина Боковщина» (Слаўг. 1634 ІЮМ, вып. XXX, ч. 1, аддз. 1, стар. 59, 60); вотчыч 'пчаляр' (Глуск. Янк. III, 20).

ВУ'ГАЛ. Частка сушы, якая вуглом уразаецца ў балоцістае месца ці сенажаць (БРС). Тое ж *вýгіл* (Слаўг.). □ ур. Вýгал (луг) каля в. Віравая, ур. Башмакоў Вугіл (поле, палянка паміж лесам і балотам) каля в. Серкаўка Слаўг.

ВУГЛЫ'. Тып паселішча без вуліцы, калі двары рэдка параскіданы па краю поля ўлукаткі (Слаўг.). □ в. Вуглы Ів., ур. Вуглы (лог, поле) каля в. Шаламы Слаўг.

ВУГО'Л. Месца, дзе межы поля ўтвараюць прамы вугал (Сал., Слаўг.).

ВУДО'БА. Месца, дзе побач з населеным пунктам знаходзіцца поле, лес, луг, папас і рэчка (Рэч., Слаўг.).

ВУ'ДЗЕРАК. Поле на месцы ўзаранага дзірвана, папасу; цаліна (Стол.).

ВУ'ЖАР. 1. Выпаленае месца ў лесе, на балоце (Стол.). 2. Яма ад выгаралага торфу і травы (Палессе Талст.). Тое ж *вужарына* (Сал., Палессе Талст.). □ ур. Падвýжар (поле, лес) каля в. Кароцічы Стол.



ВУ'ЛАЧКА. 1. Невялікая вуліца (БРС). 2. Завулак (Бых., Ветк.).

ВУ'ЛІЦА. Адзін ці два рады хат паабапал дарогі (БРС). Тое ж *'коліца* (Крыч.), *халýга* (у белар. азбукоўніках XVI—XVII стст. Судн. 317), *гýліца* (Брэст., Гродз. ДАБМ).

ВУ'ЛКА. 1. Невялікая вуліца (БРС). 2. Брукаваны завулак (Глуск. Янк. І, Сен. Касп.). 3. Дарога, якая праходзіць упоперак вёскі, прыкладна пасярэдзіне (Сміл. Шат.).

ВУ'СЦЕ. Месца ўпадзення ракі ў другую раку, возера, мора (БРС). Тое ж *вусцень* (Касц. Бяльк.). □ в. Вусце Чэрв., пас. Вусце каля в. Аздамічы Стол., ур. і воз. Вусці Слаўг.

ВУ'ХА. Глухое, зацішнае, непраходнае месца, звычайна мокрае, лясістае (Слаўг.). Тое ж *вýшка* (Краснап.). □ ур. Вýхава (балота) каля в. Кульшычы Слаўг., ур. Мядзвéжжае Вушка (глухое месца, лес) каля в. Калінаўка Краснап.

ВЫБО'ІНА. Паглыбленне; яма, выбітая коламі на дарозе, у каляіне (БРС). Тое ж *вы́бай* (Лёзн., Слаўг.), *вы́баіна* (Нясв., Слаўг.), *выбой* (Слаўг.).

ВЫ'ВАЗ. Цвёрдае месца на сенажаці, у лесе, па якому вывозяць лес, сена (Слаўг.).

ВЫ'ВАРАТ. Вывернутае з карэннямі дрэва і месца (яма), дзе яно расло (БРС). Тое ж *вы́варацень* (БРС), *вы́варацінa* (Глуск. Янк. І, Слаўг.), *вы́варатня, выварот-ніца* (Слаўг.).

ВЫ'ГАДА. Прыволле, добрае прыроднае для жыцця месца (БРС). Тое ж *раскоша, раскош* (Слаўг.).

ВЫ'ГАН. 1. Абгароджаная дарога, па якой ганяюць жывёлу на пашу (Жытк., Рэч., Стол.). 2. Месца, каля населенага пункта, дзе пастух збірае статак; блізкі выпас (паўсям.). Тое ж *пяток, крýжала* (Слаўг.). 3. Абгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе летам (Бабр., Слон., Стол.). 4. Паша (БРС). Тое ж *выган* (Палессе), *пáжа* (Слаўг., Слуцк.), *нáпаля, нáпаль, пáста, пáства, пáсцінне, пасёба, пашоба, пашчоба, пáшчаванне, поле* (Слаўг.). 5. Абгароджаная дарожка, праезд ад вуліцы да двара, да хаты (Слаўг.). □ ур. Выган каля в. Бабры Лід., Выган (вуліца) у Слаўгарадзе.

ВЫ'ГАР. 1. Месца, дзе згарэў лес, выгараў торф у балоце (БРС). 2. Балоцісты лужок сярод поля (Крас-

нап. Бяльк.). 3. Ралля на месцы выпаленага лесу (Віц. Нік. 1895). 4. Месца на лузе, на полі, дзе выпалена сонцам трава, пасеў (Слаўг.). 5. Выкапанае вадасховішча, штучны ставок недалёка ад хаты (Беш. Касп.). □ ур. Выгар (лес, поле) каля в. Шаламы Слаўг.

ВЫ'ГАРАДЗЬ. Абгароджаны ўчастак (Беш. Касп., Слаўг.).

ВЫ'ГАРАДНЯ. 1. Абгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе (Паст.). Тое ж *выгаражня* (Міёр., Рас.); *выгаражы* (Пол.). 2. Адгароджанае месца для жывёлы або птушак на двары (Смарг.).

ВЫ'ГАРКА. 1. Выгаралае месца на тарфяным балоце, якое напоўнена вадой (Віц. Нік. 1892, каля Дрысвяцкага возера Бел. дакастр. проза, 257, Сен. Касп., Слаўг.). Тое ж *гáры, вы́гаркі* (Віц., Нік. 1892). 2. Выпаленае месца ў лесе (Слаўг., Смален. Дабр.). 3. Выкапаная сажалка недалёка ад хаты (Беш. Касп.). 4. Упадзіна, дзе вясной доўга стаіць вада (Лёзн.). 5. Выгаралае лугавіннае месца (Віц. Нік. 1892).

ВЫ'ГІН. 1. Кругавы заварот ракі, калена (БРС). Тое ж *зáварацъ, зáхін, кручок, выгінáстасць, лучок, зáхісць* (Слаўг.), *вы́гіб* (БРС). 2. Паглыбленне, нізіна (Слаўг.).

ВЫ'ДМА. Пясчаны ўзгорак (БРС). Тое ж *вы́дзьма* (Копыль).

ВЫ'ДРАНКА. Поле сярод лесу на месцы аблогі (Слаўг.). Тое ж *вы́дзеркі* (Нясв.). □ ур. Выдранка (поле) каля в. Кульшычы Слаўг.

ВЫ'ДЫМКА. Дрыгва, зыбкае месца (Кобр. ДАБМ).

ВЫ'ДЗІРАК. 1. Выкарчаваны лес (Ваўк. Сцяшк.). 2. Цалінны ўчастак, які ўпершыню прыараны да поля (Стол.).

ВЫ'ЕМКА. Паглыбленне на дарозе, кар'ер, невялікае паглыбленне на полі, нізкае месца, нізіна (БРС). Тое ж *выем, выемак* (Слаўг.), *выямка* (Ст.-дар.). □ ур. Выемкі (1888) каля в. Азёры Чэр. (ЦДГА БССР, ф. 2214, воп. 1, адз. зах. 24, л. 39б).

ВЫ'ЖАР. 1. Незарослая, глыбокая, ніколі не замярзаючая, ілістая яма на балоце або ў лесе (Палессе Талст., Слуцк. Сержп. 1926, 155). 2. Месца, дзе калісьці выгарала балота, трава, лес; яма з вадой на месцы выгаралага торфу (Палессе Талст.). Тое ж *вы́жара* (БРС), *выжáры* (Ваўк. Сцяшк.). 3. Багністае балота (Лельч. ДАБМ, 993). 4. Малая яма, запоўненая вадой (Палессе Талст.).

ВЫ'ЖАРЫНА. Гразкае месца на балоце, на сенажаці (Сміл. Шат.).

ВЫ'ЗВАРАТ. Прамежак паміж плотам і полем, парослы ядомай травой (Глуск. Янк. I). Тое ж *вызвараціна* (Глуск. Янк. I), *запрáсілле, паўзполле, нáпаўзнáзагарóддзе* (Слаўг.).

ВЫКРУТА'СЫ. Выгін ракі (Сміл. Шат.).

ВЫ'ЛВА. Вадзяны грэбень, падняты ветрам; хваля (Веліжскі пав.). Тое ж *вы́лна* (Маладз.).

ВЫ'МАК. Месца, дзе вымак ці вымерз пасеў (Ветк.).

ВЫ'МАЧ. 1. Нізкае месца, дзе вымакае засеў ад дажджу (Мсцісл. Юрч., Рэч.). 2. Лажок у канцы ці ў сярэдзіне поля (Рэч.).

ВЫ'МЫІНА. Упадзіна, якая вымыта ліўнем, патокам вады (Слаўг.).

ВЫ'ПАЛЯ'НКА. Выпаленае месца ў лесе (Палессе Талст.).

ВЫ'ПАС. 1. Месца каля вады, дзе пасуць жывёлу (БРС). 2. Месца каля двароў, дзе пастух збірае статак; выган (Жытк.). Тое ж *вы́пасак* (Слаўг., Шчуч.), *вы́пуск, вы́пусак* (Слаўг.). □ ур. Выпасак (лог) сярод в. Шаламы Слаўг.

ВЫ'ПЛАЎ. Выток рэчкі (Слаўг.).

ВЫ'ПУК. Узгорак, акругленае ўзвышша (Слаўг.). Тое ж *пукáтасць, гары́стасць, букáтасць, узвы́шанасць, букатá* (Слаўг.).

ВЫ'ПУСТ. 1. У актах (XVI—XVII стст.). Зямля, карыстаннем якой пагашаюць доўг (Ул.-Буд. 65, Варк. Бых. 1641 МЕВ, № 11, ч. аф., чэрв., 1906, 415). 2. Месца засеву, якое страўлена, вытаптана жывёлай (Нас.).

ВЫ'РАЙ. 1. Поўдзень, цёплыя краіны, куды птушкі ляцяць зімаваць (БРС). Тое ж *вірэй* (Дзятлавіцкая вол. Гом. пав. Радч., стар. XVI), *ірай, вырья, ірій, выр'я, вырія, вырь* (Слаўг.), *вырый, выр* (Нас., Слаўг.). 2. Новы населены пункт, новая асобная гаспадарка (Слаўг.). Тое ж *навінá, пень, мéста, гняздо, балота* (Слаўг.).

ВЫ'РВІНА'. Абрыў на Дзвіне. □ в. Вы́рвіна Віц. (Рам. Мат.).

ВЫ'СЕЛАК. Населены пункт, хутар, які ўзнік на новым месцы з выхадцаў суседніх вёсак або з далёкіх перасяленцаў (Слаўг.). □ в. Выселак Віц. (Рам. Мат.).

ВЫ'СЕЧКА. 1. Месца, дзе высечаны пад поле або сенажаць увесь лес, кусты або зроблена выбарачнае прарэджванне (БРС). Тое ж *вырубка* (Слаўг.). 2. Участак у лесе з рэдкімі старымі дрэвамі-сямянкамі на месцы высечанага лесу (Слаўг.).

ВЫ'СКАДЗЬ. Вывернутае з коранем дрэва (р. Пціч Серб. 1915, 79).

ВЫ'СКІДЗЬ. Месца, дзе расло вывернутае дрэва (Глуск. Янк. І).

ВЫ'СПА. 1. Пясчаны ўзгорак, востраў, суша сярод вады, лугу ці балота (БРС). Тое ж *зáспа, зáсапка* (Слаўг.). 2. Рухомая пясчаная дзюна ў выглядзе вострава сярод Нёмана (Гродна, Навагр.). 3. Высокі бераг ракі (Пух.).

ВЫ'СТАЙ. 1. Абгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе (Уш.). 2. Стары лес (Слаўг.).

ВЫ'СТУП. Участак лесу, поля, лугу, які ўразаецца ў іншы масіў (Рэч.).

ВЫ'ТАҠ. Крыніца, возера, балота, з якога выцякае рака, ручай (Слаўг.). Тое ж *вытока, выцек, выпусак* (Слаўг.).

ВЫ'ХАД. Выйсце старыка ў раку па яе цячэнню (Рэч.).

ВЫ'ЦЕРАБ. Месца, ачышчанае ад хмызняку, лесу пад раллю або сенажаць (БРС). Тое ж *выцерабак* (Ваўк. Сцяшк., Нас., Слаўг.), *выцерабка* (Нас., Слаўг., Шчуч.), *выцерабкі, выцябкі* (Слаўг.).

ВЫ'ЦЕРАҠ. Месца ў пасевах збажыны, дзе ляжаў чалавек (Слаўг.).

ВЫЦЬ. 1. Умоўленая доля, пай, участак (Нас. АУ). 2. Частка вызначанай зямлі, якая заключала ў сабе 100 чвэрцяў пасеву (Нас. АУ).

ВЫШЫНЯ'. 1. Узвышша, гара (БРС). 2. Прастора, якая знаходзіцца высока над зямлёй (БРС). Тое ж *верх, вéрíх, вышынь, вы́сішча* (Слаўг.), *вышы́нь* (Докш.), *высакінішча, высокінь* (Чэр.).

ВЯЗНІ'К. Зараснік вязу (Стаўбц. Прышч.).

ВЯЗЬ. Вязкае балота, дрыгва (Віц. Шэйн, 774, Нас., Сен. Касп.).

ВЯЛАЎЦЫ'. Зб. Кустоўнік, кусты (Ваўк.). Тое ж *вілашнік, вілавáчаннік, вілавáчанне* (Слаўг.).

ВЯНГЛЯ'РНЯ. Прадпрыемства для вэнджання мяса, рыбы (БРС). Тое ж *вяндлярня* (БРС).



ВЯРБЕ'Ж. Зараснік маладой вярбы Salix (Слаўг.). □ в. Вербеж або Верба (Маг. 1654 АЮЗР XIV, дапаўн. да III т.), в. Вербеж Маг. (1850).

ВЯРХО'ЎЕ. Частка ракі каля яе вытоку (БРС). □ в. Вярхоўе Беш.

ВЯРЦЕ'П. Вялікі роў, які зарос кустамі (Слаўг., Смален. Дабр.).

ВЯРЭ'МА. Лазняк (Слуцк. Мал. 169).

ВЯРЭ'ЦЕЕ. Нізкае балоцістае, цяжкапраходнае месца (Усх. Палессе Талст.).

ВЯРЭ'ЦЕЙКА. Адарваны, падмыты край берага ракі (Зах. Палессе Талст.).

ВЯРЭ'ЦІ. Месца паабапал чаго-небудзь, на два ці чатыры бакі (Ст.-дар.). Параўн.: «У яго двор на чатыры вярэці», «Села птаха вяліка на дзве вярэці» (в. Пасека Ст.-дар.). □ ур. Вярэці (сенажаць паміж балотамі) каля в. Пасека Ст.-дар.

ВЯРЭ'ЦІЯ. Узвышанае сухое месца сярод балота (Цэнтр. Палессе Талст.).

ВЯСЁЛКА. 1. Бярэзнік Betula verrucosa Ehrh. (Лёзн.). 2. Рознакаляровая светлавая дуга на небе пасля дажджу (БРС). Тое ж *асёлка* (Чашн. Касп.), *рáдуга* (Ваўк. Сцяшк., Леп., Слаўг.), *весялýха* (Ваўк. Сцяшк.), *каромісіл* (Крыч.), *тэнча* (Ваўк. Сцяшк., Слуцк. Сержп. 1926, Смарг.), *тэнч* (Паст.), *цмок* (Смарг.), *дугá* (Кап., Слаўг.), *знаймён* (Ветк.), *каромісел* (Ветк.).

ВЯСНЯ'Қ. 1. Сад, які пасаджаны або перасаджаны вясной (Слаўг.). 2. Цёплы паўднёвы вецер (Слаўг.).

## Г

ГАДАВА'ЛЬНІҠ. Месца, дзе вырошчваюць саджанцы пладовых і дзікарослых дрэў (БРС).

ГАДЗЮ'ЧНІҠ. Месца, дзе вядзецца многа гадзюк (Слаўг.).

ГАЁЎҠА. Сядзіба лесніка (Стаўбц. Прышч.).

ГАЖА. Азёрная вапна (С. Цішкоў. Вырошчванне кукурузы ў БССР, 1959, 40).

ГАЗ. Вельмі шырокі брод у рацэ ці возеры (Леп.). □ ур. Газ на Красенскім возеры ў Дзісеншчыне, в. Гоза ці Газа Астр.

ГАЙ. 1. Невялікі зялёны ліссцёвы хмызняк або лес, пераважна бярозавы на ўзлессі, у даліне, каля ці сярод

поля (Арш. Ваўк. ДАБМ, Віц. Нік. 1895, Вор., Гарад. Кар. Круп. ДАБМ, Гарб., Лёзн., Маг. губ. вед. 1854, № 44, 793. Маладз., Навагр., Палессе Талст., Паст., Пін. пав. Булг. 194, Пух., Рэч., Скідз. ДАБМ, Слаўг., Слуцк. Мал. 169, Смален. Дабр., Смарг. ДАБМ, Тал. Мядзв., Тур., Уш., Шчуч.). 2. Невялікі ўчастак сасновага лесу сярод поля (Слаўг.) або стары сасновы лес, бор (Віл., Докш., Круп., Навагр., Рад. ДАБМ, Лаг., Ст.-дар.); яловы лес (Маладз., Мін., Слуцк. ДАБМ). 3. Наогул лес (БРС). 4. Парк, сад, сквер (БРС). 5. Могілкі (Арш. Бял. Гор. Круп. Тал. ДАБМ); лес на могілках (Глуск. Бых. ДАБМ, Круп., Крыч., Слаўг.). 6. Невялікі лес сярод балота (Палессе Талст.); невялікі багністы ўчастак на балоце з рэдкімі дрэвамі (Брасл. ДАБМ). 7. Дрэва з раскошнай каронай (Ветк.). 8. Луг, які зарос лазой (Малар. Пін. Стол. ДАБМ); луг каля лесу (Высок. ДАБМ); заліўны луг (Высок. Крыч. ДАБМ). 9. Балота (Сур., Навагр. ДАБМ); багністы ўчастак на лузе (Кліч. ДАБМ). 10. Участак поля (Бых., Лельч., Люб., Пух. ДАБМ). 11. Густое і вялікае пустазелле (Жытк.). □ ур. Мурашны Гай (сенажаць) каля в. Яскавічы Сал., Бернардзінскі Гай (сквер, сад) у г. Вільнюсе ЛітССР.

ГАЙНО. Логава (Маг., Тал.).

ГАК. 1. Намыты вадой паўвостраў у выглядзе вузкай паласы (Гродз., Мін.). 2. Неглыбокае месца ў рацэ, дзе намыта пясчаная каса (Гродз., Мін.). 3. Прырэчны роўны заліўны луг (Мін., Колас. Малады дубок). 4. Раней у Заходняй Беларусі і Ліфляндыі мера або ўчастак зямлі (Нас. АУ).

ГАЛ. Палянка ці з рэдкай раслiннасцю прастора ў лесе, на балоце (р. Пціч Серб. 1915, Слаўг., Смален. Дабр.). □ ур. Крынаў га́л каля в. Ржаўка Слаўг., ур. Гал (балота, выгар, луг) каля в. Забалоцце Слаўг.

ГА′ЛА. 1. Паляна, вялікае адкрытае месца сярод лесу (Глуск. Янк. I, Жытк., Кобр., Нар., Пар., Пол., Палессе Талст.). Тое ж *га́ло́* (Жытк.). 2. Шырокая балотная сенажаць без зарасніку ці з асобнымі кустамі, дрэвамі (Глуск. Янк. I, Пух.). 3. Куп'істая балотная сенажаць сярод лесу (Браг., Пол.). 4. Лясная высека (Жытк.). 5. Чыстае, адкрытае месца; свабодная прастора (БРС). □ ур. Га́ла (куп'істы луг сярод лесу) каля г. п. Брагіна.

ГАЛАВА′. Паўвостраў на павароце рэчкі; калена ракі (Жытк.).



ГАЛАВА′Ч. 1. Вялікая сасна на полі (Ваўк. Сцяшк.). 2. Векавы лес (Ваўк. Сцяшк.).

ГАЛАЛЁД. 1. Зімовы дождж, які замярзае ледзяной коркай на дарозе, дрэвах; лёд без снегу (БРС). Тое ж *галялёд, галалодзіца* (Сал.), *галалёдзіца* (Стол.), *галаледзіца* (Варк. 1603), *каўзота* (Варк. 1603, Слаўг.), *каўзе́ль, каўзу́ха* (Слаўг.). 2. Абледзянелая, коўзкая дарога зімой у час галалёдзіцы (Жытк., Лёзн., Слаўг., Стол.).

ГАЛАЛЯ′ДЗЬ. Сукаватае дрэва; месца ў ствале сасны, адкуль расце некалькі сукоў, найчасцей чатыры (Тал. Мядзв.). Тое ж *барсу́к, вілкі, рага́ль, барсу́чча, балбу́чча* (Слаўг.), *вілы* (Шчуч.), *рало* (Ст.-дар.).

ГАЛАШЧО′К. 1. Замёрзлая зямля без снегу (Брэст., Глуск. Янк. I, Слаўг.). 2. Моцны мароз на непакрытую снегам зямлю (Пух. Шат., Слаўг., Стол.). Тое ж *галашчока* (Гродна, Бельск.), *гале́ц* (Тал. Мядзв.), *галяка́, галашчокам, галя́ка, галя́к* (Слаўг.). 2. Першы лёд на балоце, на рацэ (Жытк., Пар., Стол.). 3. Мёрзлыя рунныя палі, груд з азімымі пасевамі (Брэст.). 4. Адкрытае месца, узгорак, дзе вецер здзімае снег; гальнае замёрзлае балота (Слаўг.).

ГА′ЛІНА. Асобная паляна ў лесе, асобная чыстая прастора сярод кустоў (Цэнтр і Усх. Палессе Талст.).

ГА′ЛКА. Месца паміж кустамі, дзе расце трава (Стол.).

ГАЛУ′ТВЫ. Замёрзлая зямля або гразь; груда (Віц.).

ГАЛЬ. Чыстае бязлеснае месца (Зах. Палессе Талст.).

ГА′ЛЯ. 1. Адкрытае месца сярод лесу, на балоце; сенажаць (Сал., Стол.). 2. Высокае, адкрытае месца; поле (Стол.). □ ф.-к Галя ў графстве Горы-Горкі Аршанскага дыстрыкту Полацкага ваяводства (АВАК XIII, 149). Тое ж *галь, голь* (Стол.).

ГАМА′РНЯ. 1. (XVIII ст.): Рудня, медзеплавільная майстэрня, плавільны завод (Крыч. Меер, 1786, 99, Нясв., Пар., Рэч., Слаўг., Чач.). 2. Шумнае месца; будынак музычнай установы; школа (Слаўг.). □ в. Гама́рня (Гразівецкая Ру́дня, Гразі́вец) Чэр. пав.

ГАМЛЫ′ГА. Вялікі кавалак цвёрдай зямлі на ўзараным ці засеяным полі (Слаўг.). Тое ж *га́лы* (Пол.).

ГАМЭ′ЛАК. 1. Неразбіты кавалак цвёрдай ці сухой зямлі на раллі (Слаўг.). 2. Вялікі камяк снегу, лёду са снегам (Слаўг.).

ГАНЁК. Вузкая і кароткая палоска зямлі; маленькія гоні (Рэч.). Тое ж *ганкі* (Рэч.).

ГАРА'. 1. Узвышша, любое высокае месца, высокі ўзгорак (БРС). 2. Невысокі марэнавы або пясчаны ўзгорак, звычайна круглы або закруглены ці стромкі з аднаго боку; гравійны пагорак (Рэч., Слаўг., Стол., Шчуч.). 3. Высокі бераг ракі (Дубр., Крыч.). 4. Высокае поле (Ваўк. Сцяшк., Рэч., Слаўг.). 5. Снежны пагорак; сумёт (Крыч., Слаўг.). □ ур. Жаромская Гара (лес, поле) каля в. Улукі Слаўг.

ГАРАВА'ТКА. Купка лесу на гары (Пол., Уш.).

ГАРАВІ'НА'. Невялікае ўзвышша, узгорак (Слаўг.). Тое ж *гарўшка, гаравінка, гаравік, гарэвіна* (Слаўг.).

ГАРАДНІ'К. Месца, абгароджанае або неабгароджанае для жывёлы ў полі або ў лесе (Мін.). Тое ж *гаража́нка* (Маладз.), *гаражня́* (Рас.).

ГАРАДО'К. 1. Насыпное гарадзішча, селішча; абароннае ўмацаванне; збудаванне язычаскаму многабожжу. Падобныя збудаванні, як указваў Зарыян Даленга-Хадакоўскі, знаходзяцца ў нас на кожнай квадратнай мілі і ўсюды аднастайныя (С. К. Кузнецов. Русская историческая география, вып. 1. М., 1910, 175). Тое ж *гарадзе́ц, гарадно, гаро́дня́, гарадзе́нка* (Д.-Хад. 1844, 5), *гарадзе́ц* (Слаўг. Рам. 1891, 173). 2. Абкапаны канавай участак зямлі, на якім можа размясціцца вёска ці малы горад (Рэч., Слаўг.). 3. Невялікі сучасны горад (БРС), раённы цэнтр (Слаўг.). Тое ж *гарадзе́ц* (Слаўг.). □ в. Гарадзец (1655) Бых. (АВАК XVIII, 862).

ГАРАДЗІ'ШЧА. Месца, дзе ў старажытнасці стаяў горад, гмах, высокі ўзгорак з ваеннымі абароннымі ўмацаваннямі ці было селішча (БРС). □ ур. Гарадзішча каля в. Улукі Слаўг.

ГАРАДЗЬБА'. Абгароджаны ўчастак (Слаўг.). Тое ж *гараджэнне* (Слаўг.).

ГАРА'НЫ. Невялікія горкі, узгоркі (Віц. Рам. Мат.). □ ва ўр. Горы (пяць узгоркаў) па абодва бакі ўзгоркавага масіву знаходзяцца вёскі, кожная з назвай Гараны або Горкі (Віц. Рам. Мат., 116), в. Новыя Гараны Пол.

ГАРБІ'НКА. Невялікая пакатая горка на роўным месцы; узгорак (БРС). Тое ж *гарба́ціна, гарбіна́* (Слаўг.).

ГАРБО'К. 1. Выпукласць на роўным месцы, горачка, выспачка, узгорачак (Слаўг.). Тое ж *гарбулёк* (Нас.), *горбік* (Слаўг.). 2. Узгорачак над долам, магільная горка (Бел. дакастр. проза, 232). Тое ж *магілка, магіла, бугарок, бузгарок* (Слаўг.).

ГАРБЫ'ЛЬ. Маленькае ўзвышэнне на роўным месцы (Віц. Касп., Слаўг.).

ГА'РКА. Нізкае месца, дзе вясной доўга стаіць вада; багністае месца, балота (Лёзн.). □ ур. Гарка каля в. Загараднае Лёзн.

ГАРЛАВІ'НА. Вузкі праход для вады; праліў (Слаўг.).

ГА'РЛЯ. Пажарышча; месца, дзе калісьці быў пажар (Ляхавічы Палессе Талст.).

ГАРО'Д. 1. Агарод (БРС). 2. Наогул абгароджаны ўчастак зямлі (Слаўг.). 3. Сядзіба калгасніка або вясковага жыхара (Арш., Гродз., Жытк., Слаўг.). 4. Добра апрацаваная і ўгноеная зямля (Слаўг.).

ГАРО'ДНЯ. Месца, дзе расце агародніна; агарод (Зах. Бел. Др.-Падб., Слаўг.).

ГАРО'ДЧЫК. 1. Кветнік, палісаднік перад вокнамі хаты (Бых., Глуск. Янк. II, Жытк., Рэч., Слаўг., Шчуч.). Тое ж *гару́нчык* (Рэч.). 2. Адгароджаны невялікі ўчастак з сонечнага боку пабудоў ці паміж пабудовамі, дзе вырошчваюць пладовыя саджанцы, зімовы часнок, клубнікy, агародніцкае насенне і расаду (Слаўг.). Тое ж *турок* (Слаўг.).

ГАРО'ДЗІШЧА. Месца, дзе быў агарод (Слаўг.). Тое ж *гра́дзішча* (Слаўг.).

ГАРО'ХАВІШЧА. Поле, дзе рос гарох (БРС). Тое ж *гарошышча, гарошанне, гарохнішча, гарохаўнівіння, гарохаўішча* (Слаўг.), *гарохаўе* (Глуск. Янк. II, Слаўг.), *гарохвінне, гарохвішча* (Нясв., Слаўг.), *гарахвя́нішча* (Глуск. Янк. II, Слаўг.), *гарахві́нне* (Пух. Шат.), *гарашышча* (Нясв., Слаўг.), *гарахавінне, гарахвя́нне, гараховішча, гарахві́нне, граховішча, гарашнявінне, гараховінне, гарахаўнянне, гарашня́нне* (Слаўг.). □ ур. Гарохаўе (лес) каля в. Беражыстае Крыч., вв. Вялікае Гарохавішча, Малое Гарохавішча Дзярж. (Лемц.).

ГАРУ'Н. Дрэва з нарастам, які ідзе на выраб труту. □ в. Гаруны Азяр.

ГАРЦО'ВІШЧА. 1. Прасторнае месца, дзе гуляюць дзеці, моладзь; фізкультурная пляцоўка (Слаўг.). 2. У актах. Месца для конных перагонак, вайсковай вывучкі, гімнастыкі.

ГА'РЫ. 1. Выгаралае месца на тарфяным балоце (Беш. Касп.). 2. Пажарышча, дзе лес выпалены пад раллю (Віц. Нік. 1892).

ГАРЫ'ЧЫК. Абгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе (Драг.).

ГАРЫ'ЧЫШЧА. Вельмі высокая, з крутымі схіламі гара; круты бераг (Слаўг.). Тое ж *гарышчышча, гарычавіна* (Слаўг.), *гарышча* (Слаўг., Сміл. Шат.).

ГАРЭ'ЛІК. Выгаралы ўчастак лесу (Докш.).

ГАРЭ'ЛІКІ. 1. Месца, дзе згарэў дом (Лаг.). 2. Выгаралае месца на тарфяным балоце (Віц. Касп.).

ГАРЭ'ЛІШЧА. Месца, на якім згарэў населены пункт ці лес (Дзярж. Лемц. Айк.).

ГАРЭ'ШНІК. Арэшнік (Стаўбц.).

ГАСПО'ДА. 1. Дом, кватэра (Нас. АУ). 2. Двор, асабліва княжацкі (Нас. АУ). 3. Дом або двор з усімі яго прыналежнасцямі (Гарб.). 4. Сядзіба, дом, гаспадарка якой-небудзь сям'і (Зах. Бел.). Параўн.: Прашчуры нашы жылі паасобнымі сялібамі — гаспадамі, здалёк адзін ад другога, і кожная гаспода мела свайго гаспадара і дружыну, як і цяпер кажуць, сям'ю («Лучынка» Літаратурна-навуковы месячнік беларускай моладзі, кн. II, 1915, стар. 11). □ в. Гаспода Чав. пав. (ЦДГА БССР, ф. 2191, воп. 5, адз. зах. 987).

ГАСЦІ'НЕЦ. 1. Старая дарога, абсаджаная дрэвамі, брукаваная (БРС). Тое ж *гасцёнец* (Кам.). 2. Заезны дом (Смален. Дабр.).

ГАТ. Загародка на рацэ або на балоце для затрымання рыбы (Брэст. 1663 АВАК, XVIII, 425, р. Пціч Серб., 1915, 107).

ГА'ТКА. 1. Сажалка, невялікі штучны вадаём (Крыч.). 2. Невялікая застава, плаціна (Нас., Крыч., Нас. АУ). 3. Пляцень цераз рэчку; выхад з возера, старыка для лоўлі рыбы нератам (Ветк., Стол.). Тое ж *гаток* (Жытк., Кар., Сал., Стол.). 4. Дарога на балоцістым, нізкім месцы з ламачча, галля і зямлі (Стол.). Тое ж *гаток* (Стол.).

ГА'ТЧЫНА. 1. Дарога на балоце (Слаўг.). 2. Вялікая плаціна, застава (Нас.). □ в. Гатчына Віц. (Рам. Мат.).

ГА'ЎНІК. У актах. 1. Зямля, якая належала лесніку; месца, дзе жыў ляснік, ляснічы. 2. Ляснічы, наглядчык за лесам (Нас. АУ). □ ур. Гаўнінкава (поле) каля в. Серкаўка Слаўг.



ГАЦІ'ШЧА. 1. Балота (Слаўг.). 2. Месца, дзе была гаць (Нас. АУ). Тое ж *гацішча* (Слаўг.). □ ур. Гацішча (балота) каля в. Кулікоўка Слаўг.

ГАЦЬ. 1. Дарога на балоце ў выглядзе землянога насыпу валам або з насцілу бярвенняў, галля (БРС). Тое ж *гачэнне* (Слаўг.). 2. Шлюз на рацэ, застава, запруда, плаціна, гаць (Смален. Дабр.). Тое ж *запінь* (Жучк.), *упын* (Слаўг.). 3. Багна (Беш. Касп.). 4. Пясчаная каса ў рацэ (Рэч.). □ ур. Гаць (поле) каля в. Пасека Ст.-дар., в. Гаць Круп., ур. Гаць (балота) каля в. Церахоўка (Слаўг.).

ГАЧО'К. 1. Невялікі ўчастак зямлі (Нас.). 2. Неглыбокае месца ў рацэ, дзе намыта пясчаная каса (Навагр.).

ГА'ШЧА. Густа зарослая лесам даліна (Слаўг.). Тое ж *гошча* (Слаўг).

ГВОР. Хваля, якая, б'ючыся аб бераг, стварае працяжны шум (Панямонне).

Г'Е'ЛДА. Неўрадлівая шаравата-белая глеба; зямля, якую цяжка апрацоўваць (Пол.). Тое ж *брак, нішчымніца, пасніца, пустальга* (Слаўг.).

ГІСЭ'РНЯ. Ліцейны завод (Я. Колас. На ростанях, 1, 1955, 345).

ГЛАБІНА'. Глыбокае месца на рацэ; таўшчыня торфу на балоце (Слаўг. 1914 ЦДГА БССР, ф. 222, воп, 1. адз. зах. 393, лл. 309, 316). Тое ж *глубыня* (Лёзн.), *глубачынь* (Слаўг.).

ГЛЕ'БА. 1. Верхні слой зямлі, багаты перагноем (БРС). 2. Кавалак зямлі, глыба, зямля, грунт (Гарб.).

ГЛЕ'ДЗІШЧА. 1. Высокае месца, адкуль далёка відаць вакол (Слаўг.). 2. Адкрытае ў нізіне месца (Слаўг.). Тое ж *глянішча* (Слаўг.). □ ур. Глянішча каля в. Віравая Слаўг.

ГЛЕЙ. 1. Зямля з вялікай дамешкай белай і шэрай гліны; прырэчная гліна (БРС). 2. Рачны іл, твань на дне вадаёма (БРС). 3. Гліна чырвонага ці жоўтага колеру, якая ідзе на будаўніцтва падмуркаў, печаў (Жытк.). 4. Зямля тыпу гліны сіняга колеру (Стол.). 5. Рудая зямля (Стол.).

ГЛЕ'ЙБНІК. Стар.-бел. Белая вогнетрывалая фарфоравая гліна, россып палявога шпату; каалін. Тое ж *гляйбец*.

ГЛЕ'ЙНІК. Стар.-бел. Суглінак, зямля з дамешкай шэрай гліны; падзол.

4. Зак. 613

ГЛЕЎ. Слізь на дне ракі (Віл.).
ГЛЁК. Балоцістае месца ў лесе (Смален. Дабр.).
ГЛІ'НА. 1. Зямля чырвонага або чорнага колеру, якая ідзе на выраб цэглы, на будаўніцтва падмуркаў, розных печаў (БРС). 2. Белая крэйда (Жытк., Стол.). 3. Глінiстая глеба; глінiстае поле (Слаўг.).
ГЛІ'НІШЧА. 1. Месца, дзе здабываюць гліну і робяць цэглу-сырэц; гліняны кар'ер (БРС). Тое ж *глінаўка* (Лёзн.), *глінішча* (Пін. пав. Карскі, 1897, 13), *глінніца* (Беш. Касп.). 2. Гліністы ўчастак поля (Мсціcл. Юрч., Слаўг.). 3. Цагляны завод (Слуцк. Мал. 170). □ ур. Глінішча (поле) каля в. Віравая Слаўг.
ГЛОД. Старое рэчышча, старык (Чав. Лемц. Дыс.). □ ур. Глодаўка (старык р. Проні) каля в. Ужжар Чав., в. Глоданка Лёзн.
ГЛУ'ПАСЦЬ. 1. Глухое месца, глуш (Сал., Слаўг.). 2. Апаўночы (Сал., Ст.-дар.); сярэдзіна ночы, позні час (Жытк., Слуцк. Сержп. Грам. 48, Стол.). Тое ж *глýпась* (Сал.), *глупáсь* (Ст.-дар.). □ в. Глýпікі (1654; в. Мірная з 1964) Мсціcл.
ГЛУТЫ'Р. Вялікі кавалак зямлі на раллі, глыба; неразбітая скіба ўзаранага цвёрдага поля (Мсціcл. Юрч.). Тое ж *глутыра* (Мсціcл. Юрч.).
ГЛУШ. 1. Глухое, ціхае, непраходнае месца ў лесе, у кустах; балота (БРС). Тое ж *глухмéнь* (Слаўг.), *глýша* (Бабр., Слаўг.), *глушка, глушатá* (Слаўг.), *глушыца* (Стол.). 2. Позні час, сумная цішыня; неспрыяльная пара: поўнач, вялікая спёка сярод дня, зіма, восень (Лёзн., Нас., Слаўг., Смал.). Тое ж *глухмéнь* (Слаўг., Шчуч.). 3. Бязлюднае, дзікае, далёкае ад дарог, неабжытае месца (Лёзн., Рэч.). □ пас. Глýша Бабр., ур. Глýшка (балота, рэчка) каля в. Урэчча Слаўг., ур. Глушыца (бухта) каля в. Кароцічы Стол.
ГЛУШЭ'Ц. Старарэчышча, рукаў ракі, ператвораны ў заліў (Макс. 197). □ заліў Глушэц Рагач.
ГЛЫ'БА. 1. Кавалак цвёрдай зямлі ці дзірвану на раллі (Слаўг.). 2. Грунт, абсунуты ў яму, капальню (Слаўг.). 3. Глыбокае месца ў рацэ, возеры (Стол.).
ГЛЫБІНЯ'. 1. Глыбокае месца ў рацэ, возеры; бездань (БРС). Тое ж *глыб* (БРС), *глыбачынь, глыбачыня́, глыбéж, глыбіж, глыбічынá, глыбічыня́, глыбакінь, глыбакіня́* (Слаўг.), *глыбінá* (Кап., Маладз., Слаўг.). 2. Яма, выбітая вадой (Ст.-дар.).



ГЛЫЖ. Вялікі кавалак, ком засохлай зямлі на раллі (Пол.). Тое ж *галыж* (Слаўг.), *глыжа* (Мсціcл. Юрч.), *глыжка* (Пол., Пух. Шат.).
ГЛЫЗА. Глыба лёду (Колас, 1952, т. 4, 184).
ГМАХ. Вялікае поле ў адным участку (Жытк.).
ГНЕЧ. Балота з непраходным зараснікам, непралазны гушчар (Стол.). Тое ж *гнéчышча* (Стол.).
ГНІ'ЛА. Гліна; гліністая глеба (Кузн. Касп.).
ГНЯЗДО'. Ямачка, выкручаная пяткай нагі ў час гульні дзяцей (Слаўг.).
ГОН. Плошча зямлі неакрэслена вялікага памеру; абшар (Ваўк. Сцяшк.).
ГО'НІ. 1. Вузкая і доўгая паласа раллі (БРС). Тое ж *гоня* (Тал. Мядзв.), *ганí* (Рэч.). 2. Частка палетка, якая апрацоўваецца асобна ад іншых (Зах. Бел. Др.-Падб.). Тое ж *атóрка* (Стол.).
ГО'РА. Круты схіл, абрыў гары, берага (Жытк.).
ГО'РАД. 1. Стар. Замак, населены пункт, які быў абнесены сцяной, абкапаны ровам; крэпасць. 2. Вялікае цывілізаванае паселішча, буйны цэнтр (БРС). 3. Высокі ўзгорак, гара на месцы затанулага горада (паводле паданняў). 4. Месца, лагер у час гульні ў лапту, дзе стаіць адна група і выбівае мячык у другой (Стол.). Тое ж *кáша* (Слаўг.).
ГО'РАН. Печ для абпальвання вырабаў з гліны (Слаўг.). Тое ж *ганчáр* (Слаўг.). □ ур. Горні (поле) каля в. Любаны Слаўг. на месцы в. Горні (1681), ці в. Горна (1750 ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 4, інв. 1556, лл. 213, 225), в. Горні (Хоц. Меер, 1786, 94).
ГОРБ. Невысокая пакатая горка; высокі ўзгорак (Маг., Мін. Лемц. Айк., Слаўг.). Тое ж *гарбýнчык* (Жытк.).
ГО'РБА. Насып зямлі; невялікі пагорак; сумёт снегу; пясчаная дзюна (Ваўк. Сцяшк., Я. Брыль. Птушкі і гнёзды, 1964, 19).
ГО'РВАЛЬ. Вузкі праход праз высокае месца, прамыты вадой (Рэч.). □ в. Горваль Рэч.
ГО'РКА. Невялікі ўзгорак (БРС). Тое ж *горбік* (Слаўг.). □ ур. Горкі (невялікая грыва на лузе) каля в. Крамянка Слаўг.
ГО'РЛА. Адтуліна ў глебе, адкуль б'е вада (Навагр.).
ГРАВЕ'ЙКА. Вялікая гравійная дарога (Слаўг.). Тое ж *гравéрка* (Сал.).

ГРА'ВЕЛЬ. 1. Бялявага колеру зямля з невялікімі каменьчыкамі рознай формы; гравій (Глуск. Янк. I, Нясв., Слаўг.). Тое ж *гра́віль* (Слаўг.). 2. Буйны пясок, жвір; парода з дробных каменьчыкаў (Ст.-дар.). Тое ж *гра́вік* (Ст.-дар.).

ГРАДА'. 1. Вузкая паласа ці квадрат узаранай зямлі на агародзе, акружаны амаль на глыбіню плуга разорамі, а на нізкім месцы канаўкамі (БРС). Тое ж *гра́да* (Жытк., Шчуч.). 2. Узвышша, прадаўгаваты ўзгорак сярод балота, паміж ручаёў, на лузе, які ніколі не заліваецца вадой (Глуск. Янк. II, Жытк., Лёзн., Маг. Лемц. Айк., Пух., Палессе Талст., Стол., Тур.). 3. Роўнае месца на лузе (Стол.). 4. Пясчаная каса на полі, у лесе (Жытк.). □ ур. Града́ (высокая сенажаць сярод балота) каля в. Пруды Стаўбц., вул. Града́ ў в. Бержцы Жытк.

ГРА'ДКА. 1. Баразна бульбы (Мсцісл. Юрч.). 2. Вузкая палоска ўзаранай зямлі (Кам.); вузкая і кароткая паласа ўскапанай зямлі на агародзе (Уш.). 3. Паласа высокай сенажаці (Стол.). 4. Прадаўгаватая мель (Палессе Талст.).

ГРАЖНЯ'. Абгароджаная дарога (Кузн. Касп.).

ГРАЗЬ. 1. Размоклая зямля на дарозе; багна, бруд (БРС). Тое ж *баўту́ха, калату́ха, калату́ша, блінцы, калані́ца, па́валка* (Слаўг.), *уме́т* (Кір. Тураўскі XII ст. Хрэст. па гіст. бел. м. 1961, 19, 504). 2. Гразкае месца, дзе падоўгу стаіць вада (Слаўг.). 3. Пыл, смуга на зямлі вясной (Слаўг.).

ГРАН. 1. Вузкая палоска, узараная ў склад пры сеянні бульбы на нізкім месцы. Паміж такімі палоскамі зроблены глыбокія разоры для сцёку вады (Стол.). 2. Баразна бульбы (Стол.).

ГРА'НА. Лінія, рыска, праведзеная на зямлі, ад якой дзеці пры гульні ў лапту дзеляць месца на «горад» і «поле» (Тур.). Тое ж *чарта́, лі́нія, чур* (Слаўг.).

Г'РА'НДЫ. Павал, дрэвы, паваленыя або зламаныя ветрам (Гарб.). Тое ж *поваль, гразалом, буралом, лом* (Слаўг.). □ в. Гра́ндзічы каля г. Гродна.

ГРАНІ'ЦА. 1. Лінія ў выглядзе вузкай палоскі зямлі, дзірваністай броўкі або разоры, якая падзяляе два сумежныя ўчасткі (Віц. Касп., Нясв., Рэч., Слаўг.). 2. Пратаптаны след на сенажаці ў час касавіцы паміж участкамі, на полі ў час уборкі; мяжа паміж калгаснымі лясамі (Слаўг.). 3. Умоўная мяжа паміж зямельнымі абшарамі



вёсак (Слаўг., Стол.). 4. Сцежка або дарожка на мяжы (Слаўг.). 5. Дзяржаўны рубеж (БРС). 6. Града, ляха (Віц., Пол.). □ пас. Граніца каля в. Рэкта Слаўг.

ГРА'НКА. 1. Градка, ляха (Жытк.). 2. Баразна бульбы, рад кукурузы, буракоў, морквы (Жытк., Стол.). 3. Баразна, якая ўтвараецца за плугам (Жытк.).

ГРАНТ. 1. Біты камень для рамонту дарог (Гродз.). 2. Гравій; буйны пясок, жвір (Гродз.).

ГРАНЬ. 1. Узгорыстая межавая лінія; дзірваністая броўка паміж участкамі (Нас. АУ, Сал., Слаўг., Станг 74, Стаўбц. Прышч.). 2. Межавы зямельны знак, які адзначаўся на дрэве, пад якім рабілася яма з вуголлем (АЛМ 1, ук., Герм. 188). □ в. Грані (Брэст. Лемц. Айк).

ГРАЧА'НІШЧА. Поле, на якім расла грэчка (Глуск. Янк. II, Нясв., Слаўг., Смален. Дабр.). Тое ж *грацавінне, грацкавінне, грацковінне, грацковішча, грача́нне, грачышнік, грачынішча, грачышча* (Слаўг.), *грацко́ўе* (Глуск. Янк. II, Мсцісл. Юрч., Нясв., Рэч., Слаўг., Смален. Дабр., Смал., Шчуч.), *грачышнік* (Смален. Дабр.), *грацковішча* (Смал.), *грэчанне* (Крыч.), *грэча́нішча* (Рэч.), *грэчанішча* (Сал.).

ГРОДЗЬ. Перагародка на рацэ з жалезных крукоў; ез (ЖР, т. III, нарыс IV, 45).

ГРУД. 1. Высокае месца, узгорак, узвышша сярод балотнай ці лугавой раўніны, якое не заліваецца вадой (БРС). Тое ж *грудок* (Ваўк. Сцяшк., Жытк., Сал., Слуцк. Мал. 171, Сміл. Шат., Шчуч.), *грудочак* (Пін. Булг. 194, Кобр. Бельск. пав. Гільт. 199, 124), *грудзе́ц* (Жытк.). 2. Мёрзлая зямля, гразь увосень (Рэч., Слаўг.). Тое ж *груды, грудок* (Шчуч.). 3. Лоўж дроў, галля, карчоў, звычайна ў лядзе (Слаўг.). 5. Пясок на горцы (Лельч.). □ ур. Пісараў груд (луг) Рэч.

ГРУ'ДА. 1. Замёрзлая зямля, гразь (Бял. Матэр., Лёзн., Нясв., Пол., Слаўг., Сен. Касп., Смал., Смален. Дабр., Шчуч.). Тое ж *груда́* (Ветк.). 2. Засохлыя камякі на полі (Жытк.). Тое ж *груддзе* (Сміл. Шат.), *камлыжжа, субулдыжжа.* 3. Куча рыхлай зямлі, лёду, галля (Слаўг.). 4. Вялікая глыба зямлі пры абвалах у кар'еры, яме (Слаўг.).

ГРУ'ДКА. 1. Купіна, купінка (Слаўг.). 2. Кавалак засохлай зямлі на раллі (Слаўг., Сміл. Шат.).

ГРУЗА'ЛА. Гразкае месца, багністае балота; дрыгва (Іван. ДАБМ). Тое ж *грузавіна́, грузно, грузало, грузата́,*

*грýзка* (Слаўг.), *грузатá* (Ветк.), *грузлé* (Зах. Палессе Талст).

ГРУНТ. 1. Глеба, ралля (Нас. АУ, Нас., Сен. Касп., Слаўг.). 2. Надзел зямлі; нераздзельная гаспадарка (Сміл. Шат.). 3. Прысядзібны ўчастак, зямля з забудовамі (Стол.). 4. Ніжнія пласты зямлі (Слаўг.). 5. Цвёрдае дно ў рацэ, возеры (Слаўг.).

ГРУШНІ'К. Месца, дзе растуць дзічкавыя грушы; садок з груш-дзічак (Жытк.). Тое ж *груш'é* (Жытк.).

ГРЫ'ВА. 1. Мель, якая раздзяляе ваду пры зліцці дзвюх рэк (Шчуч.). 2. Купка кустоў; кусты на лузе (Слаўг.). 3. Недакошаны пракос, недажаты ўчастак (Слаўг., Стол.). 4. Доўгі, выгнутай формы ўзгорак; гарыстае, прадаўгаватае ўзвышша на заліўных лугах, якое ніколі не заліваецца вадой (Ветк., Віц., Крыч., Міласл. Меер, 1786, Рэч., Слаўг.). 5. Узвышша; высокае, прадаўгаватае, аблямаванае лесам месца (Нас., Нас. АУ). 6. Броўка з травы вакол крыніцы (А. Карпюк. Дзве сасны, 1958, 44). 7. Града, узгорак, груд сярод балота, лугу або нізіннага лесу (Пар.). 8. Курган на ўзвышаным месцы сярод балота, які парос лесам (Смален. Дабр.). □ ур. Балабнёўская Грыва (разаранае ўзвышша на лузе) каля в. Каменка Слаўг.

ГРЫ'ДНЯ. 1. Дом, хата (Археагр. I, 148, Віц. XVI ст. Летапісец Ал. Гвагнін). Тое ж *грыня* (Віц. XVI ст. летапісец Гвагнін, Рам. 1912, 174. І. Пташнікаў. Чакаў у далёкіх Грынях, 1962). 2. Гумно, дзе складалі збожжа («Наша ніва»), 1914, № 38, 3).

ГРЫЧЫ'Н. Балота ці асушаны тарфянік (Ганц., Лун.). □ ур. Грычын (балота) каля ст. Лунінец (Расія, т. 9, стар. 42).

ГРЭ'БЕНЬ. 1. Прадаўгаватая, хвалістая вяршыня гары, вала, баразны на раллі (Слаўг.). 2. Невялікае прадаўгаватае ўзвышша, грыўка (Слаўг.). □ в. Грэбень Жытк., в. Грабянёва Маг.

ГРЭ'БЛЯ. Часовая насыпная дарога з бярвення, ламачча, галля і зямлі цераз балоцістае, гразкае месца (БРС). 2. Гразкае месца, дзе цяжка ці нельга праехаць (Ветк.). 3. Плаціна (БРС), гаць з млынам на рэчцы; ставок (Ветк., Лёзн., Пін. Булг., 194, Стол.). 4. Наогул усякі земляны вал (Тал. Мядзв.). 5. Невялікі масток (Стол.).

ГУБА'. Кавалак зямлі, які селянін мог узараць на працягу дня сахой (Гарб.).



ГУД. Шкляны, плавільны завод. Параўн.: *гýда* (Даль 1, 405). □ в. Новы Гуд, в. Стары Гудзені (К. 1778) каля в. Зябень Краснап., в. Гуды Лід.

ГУЗ. Вузкая доўгая палоска (Смален. Дабр.). □ ур. Крывагýз (поле) каля в. Шаламы Слаўг.

ГУК. 1. Адгаліноўванне дарогі (Слаўг.). 2. Тоўсты сук, разгаліна, ствол з голлем (Ст.-дар.).

ГУ'ЛЬБІ'ШЧА. Месца, пляцоўка, дзе адбываюцца гульні дзяцей, моладзі (Слаўг.). Тое ж *пятачок, гýльнішча* (Слаўг.). □ ур. Гýльнíшча (балота) каля в. Кулікоўка Слаўг.

ГУМЕ'ННІК. 1. Месца паблізу гумна, гумнішча (Нас. АУ). 2. Месца, дзе стаіць гумно (Бых. XVIII ці I пал. XIX ст. ЦДГА БССР, ф. 2191. воп. 2, адз. зах. 7).

ГУМНІ'САК. Пляцоўка перад адрынай (Гродз.).

ГУМНІ'ШЧА. 1. Месца, дзе стаяла гумно (Бял. Матэр., Глуск. Янк. II, Мсцісл., Рэч., Сал., Слаўг.). Тое ж *гýмнішча* (Жытк., Слаўг.), *гуннíшча* (р. Пціч Серб. 1915, 8), *гумéннішча, гумнéчча, гумнíчча, гумнíчышча, падгýмнічча, гумяннё, падгýмнішча, падгýменне* (Слаўг.). 2. Вялікае гумно (Мсцісл., Слаўг.). 3. Месца паблізу гумна; пляцоўка перад варотамі гумна (Бял. Матэр., Слаўг., Стаўбц.). Тое ж *перадгýмнічча, перадгýменне, гумяннё* (Слаўг.). 4. Месца каля гумна і іншых будынкаў, якое парасло травой (Пух. Шат.). 5. Лужок наўкола гумна (Меж. Касп.). Тое ж *гумéнне* (Сур. Касп.).

ГУМНО'. 1. Будынак з ёўняй, у якім складваюць збожжавыя снапы, малоцяць; клуня (Жытк., Слаўг., Стаўбц.). 2. Чыстая плошча перад гумном, дзе прасушваюць снапы, сена (Мін. пав. і губ. Шэйн 506). 3. Месца каля тока (гл.) і сяннога хлява, якое парасло травой (Пух. Шат.). 4. Лужок кругом гумна (Віц. Касп.).

ГУ'РА. 1. Гурба снегу (БРС). 2. Высокае месца, горка, узгорак (Жыт., Драг.). Тое ж *гýрка, пагýрак* (Драг.), *падгýр'е* (Слаўг.), *гýрачка* (Рагач.). 3. Вялікая снежная гара, якую абліваюць вадой для катання на санках (Рэч.). 4. Лоўж галля (Стол.). 5. Верх чаго-небудзь, насыпаная горка (Жытк.). □ ур. Гýры (1909) каля в. Слаўня Слаўг. (ЦДГА БССР, ф. 2193, спр. 129), Слабодка Гуры (1884, 1901) Арш. пав. (Макс. Пр., 35), в. Гурка Драг., вв. Гурькі, Белагýрава Віц. (Рам. Мат.).

ГУ'РБА. 1. Пагорак намеценага снегу (БРС). Тое ж *гурбá, гурбéнь* (Слаўг.), *калода* (Нас. АУ). 2. Узгорачак

зямлі, накапаны кротам (Лаг.). 3. Ст.-бел. (XI—XVII стст.). Жыллё (Уладз. 30).

ГУРГА′Н. Сухі пясчаны востраў сярод балота (Усх. Палессе Талст.).

ГУРДА′Н. Курган (Глуск. Янк. I).

ГУСНА′К. Гушчар лесу; густы зараснік асакі, чароту (Слаўг.).

ГУСТЫ′Ж. Стары лес, які зарос густым драбналессем, хмызам, лазой, крапівой, ажынай на нізкім месцы (Слаўг.). Тое ж *гусцвінь, гусцвіна́, гусцёж, гусціж, густы́ш, гусцёча, густэча, густата́, густота* (Слаўг.), *гусцві́на* (Хрэст. па гіст. бел. мовы, 1961, 464), *гусцёр* (Віц. Нік. 1895, Грыг. 1838—1840), *гусцёча* (Пар.), *гусця́ж* (Слаўг., Краўчанка. Над хвалямі Прыпяці, 1964, 164), *гусця́р, гусцярва́* (Віц. Нік. 1895).

ГУ′СЦЕ. Вусце; месца, дзе зліваюцца рэкі (Стол.). □ ур. Гу́сце (поле) каля в. Кароцічы Стол.

ГУ′ТА. 1. Шклаварня, плавільны ці меднаробчы завод (БРС). 2. Месца, дзе здабывалі попел і паташ (Бых. пав. Рам. 1912, 3). □ в. Гута Бых., в. Гута Паст., ур. Гута (поле) каля в. Віравая Слаўг.

ГУ′ШЧА. Густы лес, зараснік, дзе цяжка прайсці; нетры (Ашм. Ф. Багушэвіч. Выбр. тв., 1946, 49, беларускія азбукоўнікі XVI—XVII стст. Судн. 317, Жытк., Лёзн., Нясв., Слаўг., Стол., Шчуч.). Тое ж *гусня́, гусня́ча* (Слаўг.).

ГУШЧА′НЬ. Густы лес, зараснік з густым травастоем; забалочанае месца, дзе цяжка прайсці (Слаўг.). Тое ж *гушчына́, гушчы́нь, гушчыня́, гушчэнь* (Слаўг.), *гушчэча* (БРС), *гушчыно* (Віл.), *гушчыня́* (Лёзн.). □ ур. Гушчыно (балота) каля в. Засценкі Віл.

ГУШЧА′Р. Густы, непралазны лес; нетры (БРС). Тое ж *гушча́рь, гушчаррё* (Слаўг.), *гушча́рнік* (БРС), *гушча́рня* (Навагр.), *гушчарня́* (Нясв., Слаўг.), *гушчэр* (Пух., Рэч.). □ х. Гушча́р Мядз.

## Д

ДАБА′ВАК. Дадатковы ўчастак зямлі да сядзібы, які знаходзіцца ў другім месцы (Слаўг., Стол.). Тое ж *даба́йка, дабайное, даба́вінне* (Слаўг).

ДАБРАВО′ДНА. Месца, дзе добрая вада (Лемц. Айк.). Тое ж *любіж* (Гор.).



ДАКЛО′НЬ. Роўнае поле з балотцамі, якое мае невялікі нахіл да ракі (Слаўг.). □ ур. Даклонь (поле) каля в. Рабавічы Слаўг.

ДАЛАВІ′НА. Абложная зямля; аблога 1 (Лях.).

ДАЛЕЧЫНЯ′. Далёкае месца; даль, адлегласць, аддаленасць (БРС). Тое ж *далекіня́, далячы́нь, далякінь, далькатá, далечынá* (Слаўг.), *далячынá, далячыня́* (Сміл. Шат., Ст.-дар.).

ДАЛІ′НА. 1. Падоўжаная прырэчная ўпадзіна; нізіна (БРС). Тое ж *далíна* (Гом., Кап., Слаўг.). 2. Ніз (Жытк., Палессе Талст.). 3. Нізкае месца на полі, дзе стаіць вада (Стол.), 4. Доўгі сухадольны яр, які выходзіць да ракі (Гродз., Панямонне). □ ур. Далíна (луг) каля в. Бабры Лід., ур. Зялёная даліна (яр) Гродз. (Зап., 224).

ДАРЖНІ′К. 1. Абгароджаная паша (Мін.). 2. Абгароджанае месца ў полі для стаяння і адпачынку жывёлы (Лаг.). Тое ж *доржнік* (Нясв.). 3. Двор крыты, абнесены надворнымі будынкамі; скацінны двор (Тал. Мядзв.). Тое ж *даржэнь* (Тал. Мядзв.).

ДАРО′ГА. 1. Паласа зямлі, прызначаная для язды і хадзьбы (БРС). 2. Вуліца (Ваўк. Сцяшк., Слаўг.). 3. След на раллі або на сенажаці (Арш. XVI ст. Крап. 223, Слаўг.). 4. След на лузе ад капы сена, якую сцягваюць да стога (Рэч.). 5. След звярыны або птушыны на снезе (Слаўг.). 6. Сцежка, пратаптаная па траве ў лузе (Крыч., Слаўг.).

ДАРО′ЖКА. Палявая і наогул малаезджаная дарога (Слаўг.).

ДАЎБА′ННЕ. Ляда або поле, апрацаванае матыкай (Слаўг.). Тое ж *даўбаннё* (Слаўг.).

ДА′ЧА. 1. Вялікі ўчастак лесу, лясная дзялянка (БРС). 2. Паласа поля, сенажаці; прысядзібны ўчастак (Жытк., Слаўг.). 3. Уся зямля і ўгоддзі, якія належаць пэўнай вёсцы (Стол.). 4. Дараваная Екацярынай II зямля (Слаўг. Меер, 1786, 117). 5. Від населенага пункта тыпу засценка; сядзіба лесніка; лясніцтва (Слаўг.). ,

ДВАРЫ′ШЧА. 1. Месца, на якім размешчан двор (БРС). 2. Месца паміж гаспадарчымі пабудовамі (Смарг.). Тое ж *двор* (Слаўг.).

ДВАРЭ′Ц. Двор, памесце (Кобр. пав. Гільт., 65). Тое ж *памéсція, памéсце, холіварак* (Слаўг.). □ ур. Дварэцкі паля́дак (луг) каля в. Віравая Слаўг., в. Дварэц Валож.

ДВОР. 1. У актах (XVI ст.). Адміністрацыйны цэнтр пэўнай мясцовасці ў дзяржаўных маёнтках (Ліч.). 2. Дом, хата (Кузн. Касп., Слаўг., Шчуч.). 3. Месца пад жылым домам і гаспадарчымі пабудовамі разам з пляцоўкай перад домам (БРС). 4. Панская сядзіба, фальварак (БРС). 5. Месца, дзе стаялі пабудовы (Ст.-дар.). 6. Вялікая хата, дзе жыве нераздзеленая сям'я (Слаўг., Шчуч.). □ в. Новы Двор Мін., в. Стары Двор Паст., ур. Двор каля в. Малева Нясв.

ДВО'РЫШЧА. 1. Месца, дзе стаяў двор (Ветк., Слаўг., Ст.-дар.). Тое ж *дворнішча, дворнічышча* (Слаўг.). 2. Папялішча (Бых.). 3. Месца, дзе стаяў панскі дом (Жытк.). 4. Месца каля хаты, паміж с.-г. пабудовамі і хатай (Лёзн., Слаўг., Стол.). Тое ж *панадворышча* (Нясв.). 5. У актах (да пал. XVI ст.). Адзін двор або некалькі; частка сяла (Ул.-Буд., 4). Тое ж *служба, жрэбій* (Ул.-Буд., 4). 6. У актах. Вялікі дом. □ ур. Дворышча (поле) каля в. Кароцічы Стол., ур. Клімава Дворышча (лог і поле) каля в. Церахоўка Слаўг.

ДЗЕ'БРА. 1. Даліна ў выглядзе яра паміж гарамі, якая зарасла лесам (Кап., Нас., Слаўг.). Тое ж *дзébры* (Слаўг., Шчуч.). 2. Ручаёк паміж гарамі (Нас.).

ДЗЕ'ДАЎШЧЫНА. Месца, дзе жыў дзед; дзедава ўладанне; спадчына пасля дзеда (БРС). Тое ж *дзéдаўка, дзядзéўе* (Слаўг.), *дзедніна* (Нас. АУ), *дзéдзіна* (Нас. АУ). □ ур. Дзéдаўка (сенажаць) каля в. Церахоўка Слаўг., с. Дзедзіна Себеж. пав. (Рам. Мат.), в. Дзéдаўка Жытк.

ДЗЕЛ. Удзел (Нас. АУ).

ДЗЕЛЬ. Выдзеленая частка зямлі; паласа (Слаўг.).

ДЗЕ'ЛЬНІЦА. 1. Участак для рамонту дарогі або моста (Гарб., Нас. АУ). 2. Удзел; спадчынная частка маёнтка (Гродз. 1538 АВК, XVII, № 18).

ДЗЕНДЗІНА. Саляварны завод (Гарб.).

ДЗЕ'ННІК. Прастора пасярэдзіне двара паміж хлявамі (Віц. Шэйн, 502).

ДЗЕРНІНА'. Замуражэлае поле; цаліна, дзірван (Слаўг.). Тое ж *дзярніна, дзёран, дзярноўе* (Слаўг.), *дзярнінá* (Сміл. Шат.), *дзерніна* (Жытк., Тур.).

ДЗЕРЦЬ. Месца, дзе выкарчаваны лес, кусты ці распрацавана аблога пад поле; навіна (Мін. Лемц. Айк., Ст.-дар.). □ ур. Дзéрці (поле) каля в. Пасека Ст.- дар. Тое ж *вíдзерць* (Кам.).



ДЗЁНКА. Месца ці памост на балотнай сенажаці, дзе стаяў стог сена (Жытк.).

ДЗЁРАН. 1. Верхні слой глебы, які густа парос пырнікам, дзяцелінай; дзірван (БРС). Тое ж *дрэнь* (Кам.), *дзёрэн* (Слаўг.), *дзёрман* (Сміл. Шат.), *дзярно* (Азяр. Касп., Мсцісл. Юрч., Нясв., Шчуч.), *дзярнýх, дзярнýшша, дзярновіна, дзярнýчча, дзярновішча, дзярновічышча* (Слаўг.). 2. Поле, якое зарасло травой (Рэч.). 3. Рад пасеву буракоў, бульбы да акучвання; баразна (Ветк).

ДЗІРВА'Н. Запушчанае на многа гадоў і парослае травой поле; аблога (БРС). Тое ж *дзервáн, дзярвáн* (Брасл., Маладз.), *дзярвáн, дзярбáн* (Сміл. Шат.).

ДЗЮ'НА. Пясчаны ўзгорак (БРС).

ДЗЯДО'ЎНІК. Месца, якое густа зарасло дзядкамі Arctium tomentosum chrans (БРС). Тое ж *дзяды* (Слаўг.).

ДЗЯДЗІЗНА. У актах. Дзедаўскае ўладанне, спадчынны маёнтак, пазямельная ўласнасць (Гарб.).

ДЗЯДЗІ'НЕЦ. Двор сялянскай сядзібы; пляцоўка перад домам; пляцоўка каля ганку; стары вялікі двор (БРС). 2. Месца вакол царквы, дзе ёсць могілкі, у якіх пахаваны сваякі парафіян (Нас.). 3. Месца ў царкоўным бабінцы, дзе стаялі дзяды-жабракі (БРС). 4. Вялікае падвор'е ў выглядзе лужка з дарожкамі і кветнікамі перад галоўным домам у былых панскіх сядзібах (Віц. Нік. 1895). 5. Панскі двор (Стол.).

ДЗЯКО'ЎШЧЫНА. Участак зямлі, які належаў дзяку (Нас.).

ДЗЯ'ЛКА. 1. Палоска, выдзелены ўчастак пасеву, лугу, лесу (Жытк., Нясв., Сал., Стол., Шчуч.). 2. Кавалак зямлі, якім надзялялі малазямельных беларусаў у Польшчы (Зах. Бел., Стаўбц. Прышч.).

ДЗЯЛЯ'НКА. 1. Палоска, адмераны ўчастак логу, пасеву, лесу (БРС). Тое ж *дзялёнка* (Слаўг.). 2. Распрацаваны ўчастак лесу, ляда (Жытк.).

ДЗЯННІ'К. Абгароджанае або неабгароджанае месца ў полі або ў лесе для дзённага знаходжання жывёлы (Віц. Нік. 1895, Кузн. Касп.). Тое ж *пагон* (Жалуд., Маст.).

ДЗЯРЭ'ЎНЯ. 1. Вясковы населены пункт, дзе раней не было ні царквы, ні панскіх будынкаў; невялікі нас. п. (Ветк., Маг., Нясв., Шчуч.). 2. Стар. Паселішча ў лесе на высечаным месцы (Люб. ГР, 91). 3. Цэнтр вёскі (Маг.,

Нясв.). 4. Асобная сялянская сядзіба на водшыбе сяла ці ў лесе (Леант. 78), □ Дзярэўня — старая частка в. Любаны Слаўг.

ДЗЯ'ТЛАВІНА. Добры, сухадольны лог, дзе расце густы мурог, дзяцеліна белая Trifolium repens L. (Слаўг.). Тое ж *дзятліна* (Слаўг.).

ДЗЯЦІ'НЕЦ. 1. Стар. Крэмль — унутраная частка замка, горада. 2. Замчышча; месца, дзе быў дварэц, панскі замак (Кап. Серб. 1914, 76). 3. Пляцоўка каля хаты, абгароджаная надворнымі будынкамі (Зах. Бел.). Тое ж *панадвор'е, панадворычча* (Слаўг.).

ДО'БА. 1. Выгода — прыгожы ландшафт, добрая зямля, блізка лес, луг, вада (Слаўг.). 2. Пара, час (Слаўг., Стол.). 3. Суткі (Стаўбц., Шчуч.). Тое ж *судкі* (Слаўг.).

ДОЛ. 1. Паверхня зямлі (БРС). 2. Месца паміж узгоркамі; нізкае поле (Навагр., Пух. Шат., Слуцк. Мал. 172, Стаўбц., Шчуч.). 3. Яма, магіла (БРС). 4. Заліўны луг (Кобр. Гільт. 67). Тое ж *дул* (Кобр.).

ДО'НЯ. Невялікая рачулка (Слаўг.).

ДО'РКІ. Узараная аблога; поле сярод лесу (Слаўг.). Тое ж *дранне* (Слаўг.). □ ур. Доркі (поле сярод лесу) каля в. Кульшычы Слаўг.

ДОРФ. Залежы торфу; балота; поле на асушаным балоце (Слаўг. 1914 ЦДГА БССР, ф. 2084, воп. 1, адз. зах. 393, л. 313).

ДО'ЎБЛЯ. Узматычанае месца; ляда ці аблога, якая апрацавана ўручную (Слаўг.). Тое ж *даўбанне, даўбаць-це, матычанне, даўбанне* (Слаўг.). □ ур. Вайдоўбля (поле) каля в. Улукі Слаўг., ур. Даўбеншчына каля в. Гіжэнка Слаўг.

ДРАБНАЛЕ'ССЕ. Дробны лес; месца, якое парасло маладым лесам (Слаўг., Шчуч.).

ДРАВАСЕ'К. 1. Далёкае ад сплаву месца, дзе складаюць ссечаны лес (Віц. Нік. 1895). 2. Лес, прызначаны для высечкі на дровы (Слаўг.). □ ур. Дравасекі (поле) каля в. Гіжэнка Слаўг.

ДРАВАТО'ННЕ. Дрывотня, траскоўнік; месца, дзе захоўваюць і сякуць дровы (Мсцісл. Юрч.). Тое ж *драватоннік, драватонь, драватоня* (Мсцісл. Юрч.), *дравотня* (Жытк., Стол.).

ДРАЖНІ'К. Абгароджанае або неабгароджанае месца для жывёлы летам у полі або ў лесе (Кліч.). Тое ж *дрыжнік* (Бярэз.).



ДРАМНУ'ХА. Неўрадлівая, пясчаная глеба (Кар.).

ДРАМНЯ'К. Густы лес, драбналессе (ЛіМ, 1967 18/VIII).

ДРА'ЧА. 1. Мёрзлая, не пакрытая снегам зямля (Мсцісл. Юрч.). 2. Снег на дарозе, змёрзлы пасля адлігі (Мсцісл. Юрч.).

ДРОМ. Зараснік крапівы, ажыны, маліннніку, павоюбярозкі Convolvulus arvensis і іншай высокай травы ў лесе на нізкім месцы, у цяністых кустах, па равах (Слаўг.).

ДРУЗ. 1. Буйны пясок, востравугольныя абломкі, якія складаюць асадачную горную пароду; грант (БРС). 2. Перабітая і засохлая камякамі зямля (Сміл. Шат.). 3. Смецце з зямлёй (Кар., Слаўг., Сміл. Шат., Я. Купала. Вершы. Паэмы. 1958, 25). 4. Шчэбень, дробныя кавалачкі ад разбітага каменя, цэглы, шкла (БРС).

ДРУЗА'. 1. Гразь, твань, іл, смецце (Слаўг.). Тое ж *друзга, друзя, друзняк* (Слаўг.). 2. Густа парослыя крышталі на камені (БНТ). Тое ж *гранец, грацы* (Гродз.). 3. Смецце з зямлёй (Слаўг.).

ДРУЯ'К. Ралля, якая ўзарана плугам другі раз; паўторнае ворыва (Вілен.).

ДРЫВО'ТНЯ. Месца для дроў на двары; дрывяны склад (БРС).

ДРЫГВА'. Зыбкае балота, пакрытае тонкім слоем раслінасці (БРС). Тое ж *дрыгба, дрызьба, дрыгбіна* (Пол. Талст. 178), *дрыгвіна* (Слаўг.), *дзвіж* (Усх. Палессе Талст.), *дрігун* (Цэнтр. Палессе Талст.), *дрыч* (Віц., на паўн. усх. ад Оршы ДАБМ), *дрэгва* (Стол.), *дрягба* (Тал. Мядзв.), *дрягва* (Слаўг., Смален. Дабр., Тал. Мядзв.), *дрігва* (Слаўг., Смален. Дабр.), *дрігвіна* (Слаўг.), *дрогва* (Маг. губ. вед., № 44, 1854, 794), *дрогкінь, драгкіня, драгкінь* (Слаўг.), *драгва* (Ветк., граніца Ігум. і Бабр. пав., р. Пціч Серб. 1914, 4, Палессе Талст., Пух. Шат., Слаўг., Ст.-дар., Стол., Шчуч.), *драгба, дражка* (Віц., Беш. Касп.), *драгна* (Тур. Нав. 218), *здмух* (Брэст., Зах. Палессе Талст.), *дыхавіна* (Уздз. ДАБМ), *дыхля* (Хоц. Бяльк.), *пухля, пухня* (Слаўг.). □ в. Дражын (на мяжы Ігум. і Бабр. пав. Серб. 1914, 4).

ДРЫ'СА'К. Калчадан, камяк жалезнай балотнай руды (Гродз., Слаўг.). Тое ж *дрысга* (Навагр., Слаўг.).

ДУБ'Е'. 1. Дубовы лес (Стол.). Тое ж *дуб'е* (Нас. АУ), *дуб'ё* (Слаўг.), *дуб* (Слаўг.). 2. Магутныя, вялікія

дубы (Стол.). Тое ж *дуб'ё, дубаўішча, дубішча* (Слаўг.). ☐ ур. Дуб Круп., в. Добры Дуб Слаўг.

ДУБІНЁЎКА. Месца, багатае дубамі (Слаўг.). Тое ж *дубіноўка, дўбна, дўбня, дубовае, дўбраўка* (Слаўг.). ☐ ур. Дубінёўка (луг, поле) каля в. Урэчча Слаўг., в. Дўбна Кліч., ур. Дўбраўка (поле) каля в. Пасека Ст.-дар., ур. Дўбраўка (прырэчны луг) каля в. Беражцы Жытк.

ДУБНЯ'К. Участак лесу, дзе багата расце дубу; малады дубовы зараснік (БРС). Тое ж *дўбнік* (Віц. Нік. 1895, Слаўг.), *дубнік* (Докш., Жытк., Лёзн., Сал., Слаўг., Ст.-дар., Стол.), *дубы́* (Стаўбц.), *дубіна́* (Брэст., Гродз. Лемц. Айк., Слаўг.), *дубіна* (Валож., Слаўг., Палессе Талст.).

ДУБРО'ВА. 1. Дубовы лес, гай (БРС). Тое ж *дуброўкі, дуброўнае месца* (Слаўг.). 2. Лісцёвы лес (Зах. і Усх. Палессе Талст., Ст.-дар.). 3. Змешаны лес (Краснап. Бяльк., Крыч., Сал.). 4. Бярэзнік (Смарг.). 5. Сасоннік, хваёвы лес (Ст.-дар.). Тое ж *дуброўка* (Краснап. Бяльк.). 6. Трава, якая расце ў лесе або від кармавых траў (Цэнтр. Палессе Талст.). 7. Балота (Уш.). ☐ ур. Белая Дуброва (поле) каля в. Прудок Слаўг., ур. Дуброва (хваёвы лес) каля в. Пасека Ст.-дар.

ДУБРО'ВІЦА. Невялікі дубовы лес; гай (Сал.). ☐ ур. Дубровіца (дуброва) каля в. Яскавічы Сал.

ДУКТ. 1. Мяжа (лац. назва ў старых бел. актах і цяпер у Леп., Уш.). 2. Абвод граніц; гранічная лінія, якую вёў падкаморый на спрэчным месцы і абазначаў капцамі, насечкамі на дрэвах у лесе і пáлямі ў балоцістых месцах (Гарб., Вілен. 1753 АВАК, XII, 48).

ДУ'ЛА. 1. Багаты рыбай заліў ракі, які злучаецца з ракой або аддзелены ад яе наносным пяском (Смален. Дабр.). 2. Лужына (Сен. Касп.).

ДУНА'Й. Агульная назва вялікай ракі ў беларусаў (Рам. Мат., Слаўг.). ☐ Задуноўе — частка г. Віцебска за рэчкай Дунайкай (Шэйн БП, 776).

ДУ'НАЙ. Назва нязначных рачулак на Случчыне (Мал. 172). ☐ ур. Дўнай (поплаў і высахлая рэчка) каля в. Малева Нясв.

ДУРНІ'ШНІК. Зараснік дурнічніку Vaccinium uliginosum L. (БРС).

ДУХ. 1. Прасечаная пелька ў лёдзе ракі для лоўлі рыбы (Нас. АУ). Тое ж *дўхі* (Рэч.). 2. Цёплы летні вецер (бел. азбукоўнікі XVI—XVII стст. Судн. 307, Слаўг.).



# Е

Е'ДЖАР. Участак балотнай зямлі на выгары (Лемц. Айк.).

ЕЗ. Перагародка на рацэ, возеры і затоцы ў вузкім месцы для лоўлі рыбы або для закрыцця пераходу рыбе з аднаго месца ў другое (БРС). Тое ж *заездкі* (Расія, т. 9, стар. 274).

Е'ЛНА. Месца, якое густа парасло елкамі; яловы зараснік (Слаўг.). Тое ж *е́льня* (Слаўг.). ☐ в. Елна Краснап., в. Ельня Шчуч.

Е'ЛЬНІК. Яловы лес; зараснік з маладых ялін Pinus abies (БРС). Тое ж *е́лнік* (Ст.-дар.), *е́лле* (Мін.), *е́лнік, яллё, ельняччо* (Слаўг.). ☐ ур. Ельнік (балота) каля в. Яскавічы Сал., в. Ельнікі Пух.

Е'МА. Яма, упадзіна, паглыбленне ў зямлі (Палессе Талст.).

Е'РНІК. Месца на лузе, дзе расце трава аер Acorus (Глуск. Янк. I). Тое ж *я́рый* (Жлоб.), *я́вір, явіррё, я́вірнік, я́вірнішча, я́вірышча, явірняччо* (Слаўг.).

Е'РЫК. Роў, яр, яма (Калінк.); гразкая лужына (Стол.). Тое ж *ерýга* (Стол.).

Е'УЕ. Ёўня, сушня (Нас. АУ). ☐ нас. п. Еўе каля Вільнюса.

# Ё

ЁЛАЧКІ. 1. Зараснік з ёлачак (Стаўбц.). 2. Рэдкія ёлачкі сярод зарасніку алешніку (Слаўг.).

ЁМ. 1. Выпукласць на схіле гары; схіл пад'ёму на гару; месца, дзе дарога ідзе ўверх, падымаецца на ўзгорак (Слаўг.). 2. Бойкае месца на шляху (Слаўг.). Тое ж *паход, праход* (Слаўг.). 3. Высокае і адкрытае месца (Слаўг.). 4. Сярэдзіна чаго-небудзь (дарогі, поля) (Слаўг.). ☐ балота Заемнае (1752) каля г. п. Карма (АВАК XIII, 349) Карм.

# Ж

ЖА'БЕР. 1. Раска Lemna minor L. (Жытк.). 2. Студзяністыя ніцепадобныя зеленаватыя водарасці ў стаячай вадзе (Жытк.).

ЖАБУРЫ'ННЕ. 1. Трава, смецце, водарасці на рацэ (Гом. Радч. X, Слуцк. Сержп. Прымхі, 12). Тое ж *жабу-*

*рэнне* (Слуцк.). 2. Жабіна ікра (БРС). Тое ж *жабурэнне* (Мін.).

ЖАВІ'ННІК. Зараснік ажыны; месца, якое парасло ажынай (Беш. Касп., Слаўг.). Тое ж *жэвіннік* (Слаўг.).

ЖАЛАБІ'НА. Упадзіна ў зямлі, звычайна сухадольная (Слаўг., Шчуч.). Тое ж *нізінка, канáўка, скалдабінка* (Слаўг.).

ЖАЛАБО'К. 1. Доўгае паглыбленне, невялікая вузкая ўпадзіна; прыродная канаўка (БРС). Тое ж *жалýбайка, жалýбка* (Слаўг.). 2. Вадасцёкавы латок пры страсе (Слаўг.).

ЖАЛАМУ'ЗДЗІНА. Зараснік ядлоўцу Juniperus communis L. (Гарад. Касп.).

ЖАЛЬНІ'К. Старажытны могільнік, пакінутыя могілкі, малая магіла, якая абкладзена каменнем. Вядомы ў Сенненскім пав. на Беларусі і ў Паўднёвых Карпатах у Венгрыі (Д.-Хад. 376), у Наўгародскай зямлі і ў Польшчы (Нід., 218). □ ур. Жальбор каля в. Богіна Дзіс.

ЖАЛЬНЯ'. Могілкі (Шпіл.).

ЖАЛЯЗНЯ'К. Балотная жалезная руда (Слаўг.). □ в. Жалéзнікі Ветк.

ЖАРАЛО'. 1. Адкрытая, цёмная і вялікая адтуліна ў зямлі (БРС). 2. Яма на агародзе для бульбы, аплеценая ў сярэдзіне лазой (Ветк.). 3. Упадзіна з вадой карставага паходжання на высокім месцы, з якой б'е крыніца і выцякае рачулка (Слаўг.). 4. Крыніца, струмень; адтуліна ў зямлі, у ваданосным пласце, адкуль б'е струмень вады (Кап., Кобр., на поўдзень ад Нароўлі Палессе Талст.). Тое ж *жэрлó* (Сал., Ст.-дар.). 5. Вокнішча ў балоце, у незарослым вадаёме; грузкае месца (Ветк., Слаўг.). 6. Яма, якую выбіў паток вады вясной (Ст.-дар.). 7. Вірыстае месца на рацэ, дзе не замярзае вада зімой (Рэч.). 8. Праход у прасле (Крыч.). 9. Паток, ручай (Нас. АУ). Параўн.: Зъ Довгушки (озера) жереломъ въ Сребрній колъ (Нас. АУ 1693, 102). □ в. Жаролы, р. Жарало Слаўг.

ЖАРДНЯ'К. Лес, прыгодны на жэрдзе (БРС).

ЖАРСТВА'. Буйны пясок, дробныя каменьчыкі з разбуранага граніту (БРС). Тое ж *жаршня́* (Лёзн.), *жораст* (Сміл. Шат.).

ЖАРСЦВЯ'НКА. Жвірыстае поле (Стаўбц. Прышч.). □ ур. Жарсцвя́нкі Стаўбц., в. Жарствіцы, в. Жарстваніца Віц. (Рам. Мат.).



ЖА'ТВА. Поле з ураджаем збажыны (Крыч. староства Меер, 1786, 4). Тое ж *жатвá, жаццё, жáціва* (Слаўг.).

ЖАЎКЛЕ'Ц. Жоўты пясок; жоўтая пясчаная зямля (Слаўг.). Тое ж *жаўтапéс* (Сал.), *дзéдаў пясок* (Рэч., Слаўг.), *жаўцяк* (Пташнікаў. Чакай у далёкіх Грынях, 1962, 241), *жоўтапес* (Слуцк.), *жолква* (Палессе Талст.).

ЖАЎТАПЕ'САК. Пясчаны бераг, пясчанае дно, пясчаная глеба (Глуск. Янк. II).

ЖВІР. Гравій, буйны пясок або прамыты вадой рачны пясок (БРС). Тое ж *шчвыр* (Сен. Касп.), *джвыр* (Пух. Шат.).

ЖВІ'РАНКА. Гара са жвіру (Белар. дакастр. проза, 255).

ЖВІРО'ЎНЯ. Месца, дзе бяруць для дарог і будаўніцтва жвір, пясок (Бельск. пав. вв. Стральцы і Трокі Вілен., Гродз.).

ЖНЕ'ЎНІК. Зжатае поле ці жытнёвы іржэўнік (А. Бялевіч. З добрай доляй заручоныя, 1960, 48, Пух., Сміл. Шат.). Тое ж *жнівенне* (Нас.), *жнівішча* (Зах. Бел. Др.-Падб., Нас.), *жніўнік* (Лёзн. Касп., Хойн.).

ЖНІ'ВА. 1. Поле з нязжатай збажыной; пастаць, дзе жнуць збожжа (Слаўг.). Тое ж *жнéва, жніво* (Слаўг.). 2. Час жніва (Выс. Касп.). Тое ж *жнéва* (Слаўг.), *жніво* (БРС), *жнівá* (Ветк.).

ЖО'ЎКРЭНЕЦ. Пясчаны грунт, пясок (Пін. Дразд.).

ЖУ'ДКА. 1. Сцежка, пешаходная дарожка па мяжы, па разоры ці па дзірваністай межавой броўцы (Крыч.). 2. Дарожка паміж дварамі для язды на возе (Крыч). □ Іванкова жудка (сцежка) у в. Беражыстае Крыч.

ЖУ'ПА. Рудня, рудакопны завод, саляная капальня; яма; гара, адкуль дастаюць соль (Гарб.).

ЖУРАЛО'. Ручаіна на вуліцы пасля дажджу (Глуск. Янк. I).

ЖЫВАТО'К. 1. Невялікае крынічнае месца на балоце, якое не замярзае зімой (Жытк.). 2. Месца, дзе сцякае вада пасля дажджу (Усх. Палессе Талст.). Тое ж *жыватачына, жыватачывіна* (Слаўг.).

ЖЫВЕ'Ц. 1. Зялёны лугавы мох (Клім. Бяльк.). 2. Жоўты пясок (Краснап. Бяльк.). 3. Цвёрды грунт; верхні дзірваністы пласт глебы (Стаўбц.). 4. Крынічнае месца, дзе сачыцца вада (Рэч., Слаўг.). 5. Ваданосны пласт, з якога б'е крынічны струмень (Ветк.). 6. Зарослае старарэчышча, з якога яшчэ выцякаюць струменьчыкі вады

(Слаўг.). □ От того дуба... ольсом Живцами (1560) каля в. Ваўкавічы Чав. (Археагр. 3, 1867, 269).

ЖЫГУ'Н. Сухі, цякучы, вельмі тонкі пясок (Тал. Мядзв.).

ЖЫ'ЖКА. Гнаявы адстойнік; гнаясховішча (Шчуч).

ЖЫ'ЛА. 1. Забалочанае месца, зарослае старарэчышча, дзе яшчэ ледзь выступае вада (Слаўг., Стол.). Тое ж *жы́ліна* (Слаўг.). 2. Ваданосны слой, крынічная, вільготная паласа, крыніца сярод багны, падземны сцёк (Рэч., Сал., Слаўг., Смiл. Шат.). Тое ж *жы́ліна* (Лёзн., Рэч., Слаўг.), *жы́лка* (Жытк., Слаўг.). 3. Прадаўгаваты ўзгорак, каса (Слаўг.). 4. Вузкі, доўгі пласт у зямлі адной пароды (БРС) і адпаведна яму на паверхні, дзе расце адна парода дрэў, добры ці аднастайны травастой (Слаўг.). □ в. Жылічы Маг. (ЛіМ, 1966, 13/IX).

ЖЫРАВО'. Гразкае, зыбкае, багатае крыніцамі балота (Ваўк. Сцяшк.).

ЖЫРО'ЎКА. 1. Месца кармлення рыбы, звера (Слаўг.). 2. Востраў (Стол.).

ЖЫ'ТНІШЧА. Поле, на якім зжата жыта, іржэўнік (БРС). Тое ж *жы́тніска* (Вор.), *жытное* (Пол.).

ЖЭ'РДЗЕ. Густы, тонкі, малады лес, прыгодны на жэрдзе (БРС). Тое ж *жардзё, жардзяўня́к, жэрднік, жардзёўнік* (Слаўг.), *крёква* (Краснап.), *крю́чча, кру́чча* (Слаўг.).

ЖЭРЭМЯ. Месца, дзе жывуць бабры (Пін. 1648 АВАК, XVIII, 359).

## З

ЗААЗЕ'Р'Е. Месца за возерам, па той бок яго (Слаўг.). Тое ж *зазе́р'е* (Сал., Слаўг., Стол.), *зазе́рря* (Слаўг.), *завазе́р'я* (Арш. «Наш край», 1926, № 8—9, 49).

ЗААЗЯРЫ'ШЧА. Месца за былым возерам, каля азярышча (Слаўг.). Тое ж *завозірышча, зазе́рышча, заваз́ерычча, зазе́рнішча, зазяроўе* (Слаўг.).

ЗААЛЕ'ШША. Месца за альховым лесам, за алешнікам (Слаўг.). Тое ж *зальшэвінне, заляпе́шнічча, заляпе́шнішча, зале́шкаўе, заальховічча, зальхоўе, зальховічышча, залешша* (Слаўг.).

ЗАБАКО'ІНА. Затока ў рацэ (Ветк.). Тое ж *закаба́ліна* (Слаўг.), *закакару́чына* (Чэр.).



ЗА'БАЛАЦЬ. 1. Месца за балотам, па той бок балота (Гродз., Слаўг., Шчуч.). Тое ж *заболаць* (Слаўг.). 2. Тонкі слой плесні, раслінасці на паверхні стаячай вады ў вадаёме; забалочанае месца (БРС). Тое ж *на́валака* (Слаўг.). □ в. За́балаць Вор., Шчуч.

ЗАБАЛО'ННЕ. Месца за абалоннем, за падолам (гл.) Віц: (Рам. Мат.).

ЗАБАЛО'ЦЦЕ. Поле, сухадол, месца за балотам (Нясв., Слаўг., Шчуч.). Тое ж *за́балацце* (Рэч., Слаўг., Шчуч.), *забалаццё, забалаця́нне, забалатоўе, забалотнішча, забалоцішча, забалаці́шча, забалатнішча, забалоціча, заболацце, забалатэўе, заболатаўе, западза́балацце, запаназаболацце, заназабалаці́чча* (Слаўг.). □ в. За́балацце каля Зялёнага Лугу Мін., ур. За́балацце (луг) каля в. Заспа Рэч., в. Забалоцце Слаўг.

ЗА'БАЧ. Старык, частка ракі з затокай пры адным беразе (Ветк.). □ ур. Забач (старык на лузе) каля в. Шарсцін Ветк.

ЗАБЕ'ГА. Ухаб на санным шляху (Стол.).

ЗАБЕ'ЖНІЦА. Глухое, аддаленае месца (Выс. Касп.). Тое ж *адскока* (Сіроц. Касп.), *забе́жня* (Кузн. Касп.).

ЗА'БЕРАЖ. 1. Месца ў рацэ каля самага берага; край берага (Слаўг.). 2. Узбярэжжа, месца на другім беразе ракі (Слаўг.).

ЗА'БЕРАЖНІЦА. 1. Беражніца, паласа тонкага лёду ўвосень або вясной уздоўж берага (Рэч., Слаўг.). 2. Паласа травастою каля берага ракі, балота, возера. (Рэч.).

ЗАБЛО'ГА. Запушчаная ніва; аблога 1 (Віц. Шэйн, БП, 776).

ЗАБО'КА. Бяссцёкавая азярына на лузе, якая ніколі не перасыхае (Рэч.). □ ур. Забока (старыца) каля в. Заспа Рэч.

ЗАБО'РА. Скалістае ўзвышэнне на дне Дняпра; града, рад каменняў (Бых.). □ ур. Заборы (скалістыя ўзвышэнні на дне Дняпра).

ЗАБО'Р'Е. Месца, якое знаходзіцца за лесам, за борам (Віц. Рам. Мат.). □ в. Забор'е ці Заборы Віц. (Рам. Мат.), в. Забор'е (частка в. Пруды, яе вуліца) Стаўбц.

ЗАБО'РЫ. Род парогаў на Дзвіне (Віц. Рам. Мат.).

ЗАБО'РЫШЧА. Месца за борам (Слаўг.).

ЗАБО'ЧЫШЧА. Месца па баках чаго-небудзь; бок старыцы (Рэч.). Тое ж *забачэўе, забакі, закаба́кі*

(Слаўг.), *забочча* (Нас., Слаўг.). □ ур. Забочышча (луг) каля в. Заспа Рэч.

ЗАБРО'ДДЗЕ. Месца за бродам (Жытк., Слаўг.). Тое ж *забродзішча, забраддзё, забрадзя́ннё* (Слаўг.).

ЗА'ВАД. 1. Месца, дзе зроблена печ для вырабу шкла, для выпальвання вугалю, для выганкі смалы, дзёгцю (Маг. губ. Карскі, 3). 2. Новае месца пасялення; пачатак забудавання (Слаўг.). 3. Парода, звычайна гатунковае насенне (Слаўг.). 4. Пчальнік (Слаўг.). □ в. За́вад (цяпер частка в. Віравая), в. За́вад (Пчэльня) Слаўг.

ЗА'ВАДЗІ'ШЧА. Месца, дзе стаяў завод (Слаўг.). □ ур. Завадзішча Слаўг. (Спіс. 31).

ЗА'ВАДЗЬ. Затока, заліў (БРС).

ЗАВА'Л. Ссечаныя дрэвы, якія перагароджваюць дарогу (БРС).

ЗАВА'ЛЛЕ. Нахільныя саступы на схіле гары, узгорка (Рагач., Слаўг.). □ ур. Зава́лле каля в. Лучына Рагач.

ЗА'ВАНЬ. Заліў (Віц. Касп.).

ЗА'ВАНЬКА. Невялікі азёрны або рачны заліў (Віц. Нік. 1895). Тое ж *за́вання* (Віц. Нік. 1895).

ЗА'ВАРАТ. 1. Заварот ракі ці дарогі (Слаўг.). Тое ж *за́варатка, заварот, заваротка, за́варацень, повааратка, поварацішча* (Слаўг.). 2. Прылесак, узлесак, маладняк, драбналессе па краю буйнога асноўнага ляснога масіву (Слаўг.). Тое ж *подлессе* (Слаўг.).

ЗАВЕ'РБАЧЧА. Месца за вербамі (Слаўг.). Тое ж *заве́рбач'е* (Стол.), *заве́рбічча* (Слаўг.), □ ур. Заве́рбач'е (поле) каля в. Аздамічы Стол.

ЗАВО'Д. 1. Прамысловае прадпрыемства, фабрыка (БРС). 2. Месца, дзе стаіць печ для выпальвання цэглы, выганкі дзёгцю (Слаўг.). 3. Месца, дзе стаяць вуллі; пчальнік (Нас.). 4. Гаспадарчая ўстанова (Нас. АУ). □ ур. Завод (поле на месцы жалезаробчага завода, 1783) каля в. Віравая Слаўг.

ЗАВУГО'ЛЛЕ. Месца за пабудовамі (Беш. Касп., Слаўг.). Тое ж *заўголле, пазаўголле, пазаўгольнічча* (Слаўг.).

ЗАВУ'ЛАК. 1. Ціхая, з выйсцем у адзін канец, глухая вулка (Грыг. 1838—1840, Нясв., Слаўг., Шчуч.). Тое ж *заканаба́й* (Слаўг.). 2. Невялікая, звычайна вузкая вуліца, якая злучае дзве паралельныя (БРС). Тое ж *праву́лак, праканаву́лак, пераву́лак, пераволак* (Слаўг.).

ЗАГАВА'ЛІНА. Месца кругом хаты на шырыню звісаючай страхі (Слаўг.). Тое ж *пры́зба* (БРС), *загава́льня* (Краснап., Мсцісл. Бяльк., Смален. Дабр.), *зава́льня* (Бял. Матэр.).

ЗАГА'Й. Месца за гаем (Слаўг.). □ в. Загай Пух., ур. Загай (частка вёскі Кулікоўка) Слаўг.

ЗА'ГАРАД. Месца начнога стаяння жывёлы на далёкіх пашах (Навагр., Стол.). □ ур. Загарад (поле) каля в. Кароцічы Стол.

ЗА'ГАРАДА. 1. Месца летняга стаяння жывёлы (Слаўг.). 2. Загароджанае месца, часцей паміж домам і хлявамі для жывёлы (Азяр. Касп.).

ЗА'ГАРАДЗЬ. 1. Абгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе, а таксама каля хлява (БРС). Тое ж *загарода, зы́гарада* (Паст). 2. Загароджанае месца для пашы на выгане або каля гумна (Сміл. Шат.). 3. Наогул усякае абгароджанае месца (Слаўг.). 4. Агароджа (БРС). Тое ж *загарода* (БРС), *зы́гарада* (Паст.).

ЗАГАРО'ДДЗЕ. 1. Поле, месца за агародамі; глухое месца (Лід., Краснап. Бяльк., Слаўг.). Тое ж *за́гараддзе, заагародні́чанне* (Слаўг.). 2. Прастора, тэрыторыя за горадам; прыгарад (Драг.). Тое ж *загарадні́чча, загарадзі́чча* (Слаўг.). □ ур. Загароддзе (поле за агародамі) каля в. Бабры Лід., ур. Загароддзе — прыгарад Пінска (ЛіМ, 23/I 1968, 4); Загароддзе — назва паўночнай часткі Драгічынскага, Кобрынскага і Іванаўскага раёнаў Брэсцкай вобласці.

ЗАГА'ТА. 1. Яма або канава, воднае або балоцістае месца, заваленае каменнем і зямлёй; бут (БРС). 2. Прызба (Слуцк.).

ЗАГІ'Б. Лука, лукавіна ракі (Слаўг.).

ЗА'ГІБЕНЬ. Заварот дарогі (Слаўг.).

ЗАГО'Н. 1. Доўгая палаcа ворнай зямлі; гоні (Слаўг.). 2. Вузкая палоска; участак зямлі рознай велічыні; некалькі барознаў ворыва, засеву (БРС). 3. Палаcа, якую можна ўзараць за дзень (Лёзн.). 4. Высока ўзараная града на астраўках сярод балота (Палессе Серб. 1912). 5. Абгароджанае месца для жывёлы летам (Дубр., Кобр.).

ЗАГО'НАК. Месца для засады паляўнічых (Стол.).

ЗАГО'НЧЫК. 1. Невялікая палоска поля (Глуск. Янк. II, Стол.), 2. Невялікае адгароджанае месца для жывёлы (Дубр., Кобр.).

ЗАГО'Р'Е. 1. Месца каля гары, абшар па той бок гары, узгорка ці ўзвышша (Слаўг.). 2. Перадгор'е, спадзісты схіл гары (Слаўг.). Тое ж *загорря, загорычча, папаўзгорря, папаўззагорря, паназагор'е* (Слаўг.), □ ур. Загор'е (балота) Сал.

ЗАГРАНІ'ЧЧА. Месца, плошча за граніцай, па той бок ад зямельнай мяжы (Слаўг.). Тое ж *загранічаўе, загранічышча* (Слаўг.).

ЗАГРО'Б. Глыбокая яма ў рацэ, у зямлі; абрыў (Цэнтр. і Усх. Палессе Талст.). Тое ж *загробіна* (Цэнтр. і Усх. Палессе Талст.).

ЗАГУМЕ'ННЕ. 1. Месца, луг, поле за гумном, у канцы агародаў (БРС). Тое ж *загуме́нье* (Жытк., Стол.), *загу́менне* (Ветк., Лях.), *загуме́нніча, загу́мнеча, загу́мнічча* (Слаўг.). 2. Месца па другі бок сядзібы, у аддаленасці ад бойкай дарогі, ад вуліцы; глухое месца (Слаўг.). Тое ж *загу́менне* (Ветк., Лях.).

ЗАГУ'НЧЫК. Невялікі вузкі загон, узараны з двайной баразной пасярэдзіне, усклад (Ст.-дар.).

ЗАДАРО'ЖЖА. Месца, абшар за дарогай (Слаўг.). □ ур. Задарожжа (поле) каля в. Віравая Слаўг.

ЗАДВО'РАК. Задняя частка двара (Слаўг., Сміл. Шат.), *за́дваркі, задворря, задворычча* (Слаўг.), *задвор'е* (Слаўг., Стол.).

ЗАДВО'РНІЦА. Зямля па той бок заезнага двара (Слаўг.). □ ур. Задворніца (поле) каля в. Васькавічы Слаўг.

ЗА'ДМА.. Снежны занос (Слаўг.). Тое ж *за́дзьма, заду́ва* (Слаўг.).

ЗАДУБРО'ЎЕ. Месца за дубровай (Стол.). □ ур. Задуброўе каля в. Аздамічы Стол.

ЗАДУБЫ'. Месца па той бок дубоў, за дубамі (Слаўг.). □ в. Задубы (1800) каля в. Літвінавічы Гом.

ЗАДЫ'. Дальняя, задняя частка поля (Беш. Касп.). □ ур. Зады (поле, 1888) каля в. Азёры Чэр. пав. (ЦДГА БССР, ф. 2214, воп. 1, адз. зах. 24, л. 39б).

ЗАЕ'ЗД. Дарога, вельмі вузкі праезд у лесе, паміж пабудовамі, куды можна заехаць толькі заднім ходам або дзе нельга развярнуцца (Слаўг.).

ЗАЖО'Р. Месца на дарозе, якое вясной набракае вадой (Слаўг.).

ЗАЖО'РА. Прыроднае або выкапанае на балоцістай амшары вадасховішча (Віц. Нік. 1895).

ЗАІ'МАК. Гай; могілкі (Маг.).

ЗА'ЙМІШЧА. 1. Прастора, якую займае вада пры разліве ракі; участак, які займае жняя на полі, касец пры касьбе, жанчына на поліве (Слаўг.). Тое ж *заніма́нне, займа́нне, займаннё, постаць* (Слаўг). 2. Месца, прызначанае для раллі, угоддзя (да сярэдз. XVII ст. Нас. АУ).

ЗАКАБЕ'НЬ. Месца, выбітае вадой на лузе, якое перашкаджае касьбе (Стол.).

ЗАКАБО'ЎКА. Загіб ракі, лука (Ветк.). Тое ж *заканабоўка* (Слаўг.). □ ур. Папова Закабоўка (старыца на лузе) каля в. Шарсцін Ветк.

ЗАКАВУ'ЛАК. Невялікі глухі куток, рукаў; вузкая невялікая вуліца з выйсцем у адзін канец (БРС). Тое ж *закаву́ліна, заканаву́ліна* (Слаўг.), *заканаву́лак* (Нясв., Слаўг.), *закаба́ек* (Сен. Касп., Слаўг.), *закаба́лак, заканаба́ліна, за́каба́ліна́* (Слаўг.).

ЗАКАЗНІ'К. Запаведны лес, запаведнік (Шацк. Шат.).

ЗАКАКЛЮ'ЧЫНА. Загіб ракі (Слаўг., Смал.).

ЗАКА'ЛЛЕ. Месца за граззю, за багнай (Рэч.). □ ур. Закалле (луг) каля в. Заспа Рэч.

ЗАКАНУ'РАК. 1. Глухі рукаў, заход з адным выхадам (Зах. Бел. Др.-Падб., Слаўг.). 2. Куток, загароджанае месца на агародзе ці каля пабудоў; гародчык (Слаўг.).

ЗАКАТ. Прыток ракі, куды ў разводдзе імкнецца рыба, а пры спадзе вады наладжваецца ў вузкім месцы яе «лоўля ў закат» (Пін., Тур. Палессе ЖР, 1882, 347).

ЗА'КЛА. Выгін ракі (Стол.).

ЗАКЛЯ'СЛАСЦЬ. Заглыбленне, яма, упадзіна (Гродз.). Тое ж *захра́стка* (Слаўг.), *закля́стка* (Гродз.).

ЗАКО'Л. Месца на рацэ, кругом абгароджанае коллем для лоўлі рыбы (Гарб.).

ЗАКО'П. Абкапаны і неабкапаны зямлёй капец бульбы, буракоў (Лёзн.).

ЗАКО'С. 1. Месца, з якога пачынаюць касіць луг (Драг. Гільт., 14). Тое ж *закосак, закошанне* (Слаўг.), *закоса* (Драг. Гільт., 14). 2. Месца, якое выкашана за мяжой (Слаўг.).

ЗАКО'СА. Нявыкашанае месца ў выглядзе купкі (Драг. Гільт., 14).

ЗАКО'Т. Стромкі адхіл, скат берага пад вадой у рацэ ці возеры; глыбокае месца ў рацэ (Пол., Слаўг.).

□ ур. Закот (невялікая равінка) на заліўным лузе в. Папоўка Слаўг.

ЗАКО'ТА. 1. Затока, закрут, лука ракі або рачны заліў (Нас. АУ). 2. Месца на рацэ ці канаве, перагароджанае каламі, паміж якімі пакідаецца прасвет для нерата; ез (Пар.). 3. Нізкі луг, заліты веснавой вадой і аддзелены ад ракі высокім берагам з вузкім праходам, дзе пры спадзе вады робіцца ез для лоўлі рыбы (Ветк., Маг. Дэмб. т. II, 589). □ ур. Закота (равінка недалёка ад Сажа) каля в. Дабранка Слаўг.

ЗАКО'ТЧЫК. Мелкая затока (Слаўг.).

ЗА'КРУТ. Паварот, выгіб берага ракі (Слаўг.). Тое ж *закрўтка* (Слаўг.).

ЗА'КРУТКА. Вір (Слаўг.).

ЗАКУБА'НЬ. Невялікая затока на рацэ (Краснап. Бяльк.).

ЗАКУ'ЗІННЕ. Месца за кузняй (Слаўг.). Тое ж *закўзнічча, закузнечча* (Слаўг.).

ЗАКУСТО'ЎЕ. Месца за кустамі, па той бок кустоў (Слаўг., Стаўбц. Прышч.). Тое ж *закусточча, закўсцішча, закўстычча, закустэічча, закўсціння, закустэіння, закўсцічча, закустаўе* (Слаўг.).

ЗАКУ'ТАК. 1. Аддаленае ад галоўнай вуліцы месца; глуш (БРС). Тое ж *закўцце* (Віц. Касп.). 2. Закавулак; агароджа для жывёлы; хлеў (Лёзн. Касп., Слаўг.). Тое ж *закуць* (Слаўг.).

ЗА'ЛВАНЬ. Месца, дзе ў раку ўпадае другая рэчка ці ручай (Касц. Бяльк.).

ЗА'ЛЕЖ. 1. Зямля, якую не аралі многа гадоў; абложная зямля; цаліна (БРС). Тое ж *залег, залёгі* (Міёр.). 2. Пустка; поле, запушчанае і аддаленае ад сялібы (Мін. губ. 1864 Зял., 90). □ ур. Залега каля в. Шарсцін Ветк.

ЗАЛЕ'ССЕ. Месца за лесам (паўсям.). Тое ж *залесы* (Слаўг.). □ ф-к Залессе Леп., в. Залессе Петр., ур. Залесы каля г. Гомеля (К. 1838).

ЗАЛІ'ВІШЧА. Паніжанае або жолабападобнае месца на схіле гары, дзе збягае патокам вада вясной ці ў час вялікіх дажджоў (Слаўг.). Тое ж *вылій, залева, збег, плыццё* (Слаўг.).

ЗАЛІ'ПНІК. Месца за ліпнікавым зараснікам, за ліпавым лесам (Слаўг.). Тое ж *заліпішча, заліпічча, заліпнішча, заліпнічча, заліпняк, заліпачча, заліпняччо, заліпцам, заліпіннік, заліпаўе, заліпчаннік, заліпчанне* (Слаўг.).

ЗАЛІ'Ў. Водная прастора, якая ўрэзалася ў сушу (БРС).

ЗАЛО'ГА. 1. Месца, дзе можна схавацца і цікаваць птушку, звера або ворага (Вілен.). Тое ж *засака* (Вілен.), *засада* (БРС). 2. Гоні, пракос; паласа (Слаўг.).

ЗАЛО'ЖЖА. Месца за сухадольным логам, за заліўнымі сенажацямі (Слаўг.). □ в. Заложжа Чав.

ЗАЛО'М. 1. Лука, калена, круты паварот ракі, дарогі (Слаўг.). 2. Паварот поля пад прамым вуглом (Стол.).

ЗАЛО'НЬ. 1. Заліў ракі (Маг. губ. вед., 1854, № 45, 805). 2. Месца на сенажатным лузе, якое заліваецца вадой (Нас.).

ЗАЛУ'ЖЖА. 1. Месца за лугам, залугавая старана (Слаўг.). Тое ж *залуга* (Нас., Нас. АУ). 2. Месца за лужынамі (пагранічча Ігум. і Бабр. пав. Мін. губ., р. Пціч Серб. 1914, 4, Слаўг.). □ в. Залужжа (частка в. Пруды) Стаўбц.

ЗАЛЯ'ДДЗЕ. Месца за лядам (Слаўг.). □ ур. Заляддзе (поле) каля в. Пацяраеўка Слаўг.

ЗАЛЯСНІ'ЧЧА. Абшар, які знаходзіцца за ўгоддзямі лясніцтва (Слаўг.). □ ур. Заляснічча (поле) каля в. Папоўка Слаўг.

ЗА'МАК. Умацаванае жыллё феадала; месца, дзе былі феадальныя ўмацаванні, дзе стаяў палац (БРС). Тое ж *замчышча* (Мін.). □ ур. Верхні Замак і Ніжні Замак у Полацку, Гродна, ур. Замчышча ў Мінску і ў Капылі.

ЗАМАСТО'ЧЧА. Месца, прастора за мастамі, масткамі, каля мастоў (Слаўг.). Тое ж *замастовічча, замосце, замосцішча, замасцеўе, замасцічча* (Слаўг.). □ в. Замасточча Глуск., ур. Замасцеўе каля в. Дубня Слаўг., в. Замосце Кобр.

ЗАМЕ'ЖАК. Сенажатны ўзмежак каля поля, паўз дарогу (Лях., А. Чарнышэвіч. Праз зімы і вёсны, 1960, 25; яго ж: Світанне, 1957, 52).

ЗАМО'ЧЫШЧА. Месца за азярынай ці копанкай, у якой мачылі лён, пяньку, канатнік (Рэч.). □ ур. Замочышча (луг) каля в. Заспа Рэч.

ЗАМО'ШША. Месца за махавым балотам, за амшарынай (Слаўг.). Тое ж *замошыца* (Віц. Рам. Мат.). □ в. Замошша Люб., в. Замошыца Віц. (Рам. Мат.).

ЗА′НЕВА. Месца за нівай (Сал.). ☐ ур. Занева (луг) каля в. Яскавічы Сал.

ЗАО′ЛЬША. Прастора за альховым лесам (Лёзн.). ☐ в. Заольша Лёзн.

ЗАПАВЕ′ДНІК. 1. Вялікая пушча (Слаўг.). 2. Куток прыроды (флоры ці фауны), які ахоўваецца асобна (БРС).

ЗАПА′ДЗІНА. 1. Упадзіна паміж узгоркамі, глыбокі роў (Слаўг.). 2. Яма на месцы ўшчыльнення свежай зямлі (Слаўг.). Тое ж *за́падзь* (Слаўг.), *западлае ме́сца* (Слуцк. Сержп. Прымхі, 24).

ЗАПАЛЯ′ННЕ. Месца за палянай, за полем, па той бок поля (Слаўг.). ☐ б. х. Запалянне (Заполле, 1910 Спіс., 31), в. Запалянне Слаўг.

ЗАПА′СКІ. 1. Запасныя ўчасткі торфу (Нясв.). 2. Першы дзень, пачатак пасьбы жывёлы (Слаўг.). ☐ ур. Запаскі (залежы торфу, тарфяныя кар'еры) каля в. Малева Нясв.

ЗАПА′ШКА. 1. Узараная зямля (Ваўк. Сцяшк.). 2. Пераважна засеянае поле (Слаўг.). Тое ж *па́хата, па́хаць* (Слаўг.). 3. Прыаранае лішняе поле (Слаўг.). Тое ж *перапа́шка* (Слаўг.).

ЗАПЕСАК. Месца на лузе, занесенае пяском (Рагач.). ☐ ур. Сысін запесак (месца на беразе Дняпра) каля в. Лучын Рагач.

ЗА′ПЕСАЧЧА. Месца за пясчаным масівам (Рэч.).

ЗАПЛА′Ў. Месца за багністым плавам (Сал.), ☐ ур. Запла́ў (поле) каля в. Кульшычы Слаўг., ур. Заплаў каля в. Яскавічы Сал.

ЗАПЛЁССЕ. Месца за плёсам (Ветк.). ☐ ур. Заплёссе (старыца на лузе) каля в. Шарсцін Ветк.

ЗАПЛО′ЦЦЕ. Месца за плотам (Сміл. Шат.). Тое ж *заплотак* (Сміл.).

ЗАПО′ЛЛЕ. Месца па той бок поля (Слаўг.). Тое ж *запольнішча* (Слаўг.). ☐ б. х. Заполле (1910) Слаўг., в. Заполле Кар. і Маз., ур. Заполле каля в. Аздамічы Стол.

ЗАПРА′СІЛЛЕ. Месца за праслам (Слаўг.). Тое ж *запра́слічча, запра́снічча* (Слаўг.).

ЗАПРУ′ДА. Невялікі штучны вадаём на рацэ; плаціна, гаць (БРС).

ЗАПРУ′ДДЗЕ. Месца, абшар па той бок запруды, стаўка (Слаўг.). Тое ж *запру́дзік* (Слаўг.). ☐ в. Запруддзе Сен., ур. Запрудзік (сенажаць за былым стаўком на р. Пацэі) каля в. Бязуевічы Слаўг.

ЗАПРЭ′ТНІК. Запаведны лес, запаведнік (Арш.). ☐ запрэтнік Камароўшчына (лес) каля в. Бабінавічы Арш.

ЗАПЯСО′Ч. Старана, якая знаходзіцца за пяскамі (Нас. АУ).

ЗАПЯСО′ЧЧА. Месца за пясчанымі дзюнамі, за пясчанымі ўчасткамі (Слаўг.). Тое ж *запясочышча* (Слаўг.). ☐ в. Запясочча каля г. Турава.

ЗА′РАСНІК. Густы лес; густое драбналессе; малады парасnік, кусты, нетры (БРС). Тое ж *за́расень* (Рэч.), *за́расель* (Лёзн., Слаўг.), *за́расль* (Лёзн.), *за́раслі* (Навагр.), *зарасня́к* (Вор.), *за́расцень* (Крыч.), *за́расць*, (Жытк., Слаўг.), *за́расля* (Усх. Палессе Талст.), *зарослае* (Лельч.), *шалы́знік* (Слаўг.), *мышнік* (Коўна 1566—1567 Ант.). ☐ в. За́раслі Круп., х. Зараслі Мядз. (Лемц. Айк.), ур. Крышанова зарасць (поле) каля в. Шаламы Слаўг.

ЗАРАЎЧА′К. Месца за раўчаком, раўком (Слаўг.). Тое ж *зараўчаковішча, зараўчаччо, зараўчэшнік, зараўчакоўнішча* (Слаўг.). ☐ ур. Зараўчак (поле) каля в. Рудня Слаўг.

ЗАРО′ВІЧЧА. Прастора за ровам, па той бок рова (Слаўг.). Тое ж *зароўнічча, зароўе, зароўя, заровінне, зараўчаччо, заровічышча* (Слаўг.). ☐ вул. Зароўе ў г. Слаўгарадзе і ў г. п. Чэрыкаве (Дэмб. т. II, 139).

ЗАРО′Г. Від рачной затокі (Стол.).

ЗАРО′ЖАК. 1. Тупік (Стол.). 2. Від рачной затокі ці старыцы на лузе, у нізіне (Стол.).

ЗАРО′ЖКІ. Зрэзаны ўлукаткі ландшафт; звілістыя выступы лесу, поля, лугу (Сал.).

ЗАРУ′ЖЖА. Месца па той бок прыволля, па-за выгодай (Ст.-дар.). Тое ж *заўру́жжа* (Слаўг.). ☐ ур. Заружжа (лес, луг, рэчка) каля в. Пасека Ст.-дар.

ЗАРУІ′ННЕ. Тое, што і заружжа (Слаўг.).

ЗАРУЧЭ′ЎЕ. Месца за ручаём, за ручайкамі, дзе яны зліваюцца (Слаўг.). Тое ж *зару́чча, зару́чышча, заруччэўе* (Слаўг.).

ЗАРЭ′ЧЧА. Вялікая прастора за ракой, рэчкай; месца па той бок ракі (БРС). Тое ж *зарэчышча, заряччэўе, зарякоўе, зараковічча, заряковішча* (Слаўг.). ☐ ур. Зарэчча (балоцістьі стэп ад Пінска да Нобеля Серб. 1912, 93), в. Зарэчча (частка в. Зімніца) Слаўг.

КУ'БЛІ'ШЧА. 1. Чашападобная ўпадзіна (Слаўг.). 2. Ямка на пасеве, у пяску, зробленая курамі (Слаўг.). □ в. Кублішча Слуцк.

КУБЛО'. 1. Ямка на пасевах, у пяску, зробленая курамі (Жытк., Слаўг., Стол.). Тое ж *кўблё* (Сал.). 2. Буслава гняздо (Жытк.).

КУ'ДРА. Невялікі лясок, група дрэў, якія стаяць асобна (Стаўбц.). □ ур. Кудра Стаўбц.

КУ'ДЗЕРКА. Гаёк, лясок (Вілен., Гродз., Ковен. губ. Нас.). □ в. Кудзерка Пух., в. Кудзеркі Шчуч.

КУ'ЗАЎ. Тып паселішча, у якім двары размешчаны ўроскідку (Слаўг.). □ ур. Кузаў (поле) каля в. Кульшычы Слаўг.

КУЗНЕ'ЧЫШЧА. Месца, дзе стаяла кузня (Слаўг.). Тое ж *кўзенне, кузяннё, кўзнічышча, кўзнішча, кўзка, кузнёвішча, кузнявішча* (Слаўг.).

КУ'ЗНЯ. 1. Будынак, дзе ўручную куюць жалеза (БРС). 2. Дрэва ў лесе і мноства шышак пад ім, якія налушчыў дзяцел (Мсцісл. Крыв.).

КУКУРУ'ЗІШЧА. Поле, дзе расла кукуруза (Лаг., Леп., Лёзн., Навагр., Паст., Слаўг.). Тое ж *кукурўзнік* (Крыч.), *кукурызянішча* (Бых.), *какурўзніска* (Кам.), *какарўзішча* (Маз.), *какарўзнішча* (Сал., Слаўг.), *кукурўза, кукурўзка, кукурўзнік, кукурўзнішча, курккурўзнішча* (Слаўг.).

КУЛДО'БІНА. 1. Упадзіна, яма, калдобіна (Нас., Слаўг.). 2. Сажалка з чыстай пітной вадой (Віц. Шэйн, 4).

КУЛІ'СА. Прасека ў лесе (Краснап. Бяльк.).

КУЛЬ. Рагавое поле (Палессе Серб. 1914, 7). □ в. Кулі (Маг. Лемц. Айк.), в. Куль-Юзэфова (Гродз. Лемц. Айк.).

КУЛЬТУ'РА. 1. У актах. Апрацаванае поле (Гарб.). 2. Маладыя саджаны лес (Пар., Слаўг., Стол.). Тое ж *маларост* (Слаўг.), *маладняк* (Нясв., Слаўг., Шчуч.), *каматэт* (Ст.-дар.), *каміцёт* (Слаўг.). 3. Культурныя сеяныя травы (Глуск. Янк. I). □ ур. Культура (маладыя сасновы лес) каля в. Улукі Слаўг.

КУМА'. Вір у рацэ Гарыні (в. Вікаравічы Стол.).

КУМЕ'ЦЬ. Кавалак зямлі, які атрымаў селянін за працу (Вілен.).

КУМІНА'. Вір каля берага; месца, дзе вада заварочвае ў напрамку, супрацьлеглым цячэнню (Жытк.).



КУ'ПА. 1. Куча пяску (Кам.). 2. Кучка зямлі, якую нарыў крот; кратавінне (Бельск., Гродз.). Тое ж *кўпка* (Гродз.). 3. Гай з адной пароды дрэў на высокім месцы сярод лесу; кучка дрэў (Віц. Нік. 1895). 4. Перагной, чарназём (Азяр. Касп., Пол.). 5. Торф (Беш. Касп.). 6. У актах (1529). Населены пункт, дзе гоняць смалу, выпальваюць попел, робяць дубовыя брусы (ванчос), клёпку (Люб. 1893, 490).

КУПА'ЙЛА. 1. Мокрае месца; лужа (Ст.- дар.). 2. Месца, дзе купаецца свіння ў гразі (Стол.). 3. Ямка круглай формы на пяску, на засеяным полі, якую выграблі куры (Ст.-дар.).

КУПА'К. Участак або частка лесу з аднастайнай раслiннасцю (Зах. Палессе Талст.).

КУ'ПАЛКА. Месца ў рацэ, дзе купаюцца дзеці (Стол.).

КУПЕ'ЛА. 1. Балотца, круглая ўпадзіна сярод поля, лугу (Слаўг.). 2. Паглыбленне ў пяску, дзе купаюцца куры, або ў засеве, дзе яны выбіраюць зерне (Слаўг.). □ ур. Гаўрыльчыкава купела (паглыбленне з вадой) каля в. Шаламы Слаўг., ур. Купела (поле) каля в. Целяшы Слаўг.

КУПЕ'ЛІШЧА. 1. Упадзіна на месцы асушанага купела 1 (Слаўг.). 2. Мелкае месца з вадой, дзе купаюцца птушкі; лужына (Дзіс., Слаўг.). 3. Месца ў пяску, дзе купаюцца куры (Слаўг.).

КУПЕ'ЛНА. Месца, паглыбленне круглай формы (Стол.). □ ур. Купелна (поле) каля в. Кароцічы Стол.

КУП'Ё. Месца, багатае купінамі; куп'істы лог; купіны на балоце (БРС). Тое ж *кўп'е* (Ветк., Жытк., Рэч., Стол.), *кўп'е, кўпінне, купаўё,, купаўе* (Слаўг.). □ ур. Кўп'е (лужок) каля в. Папоўка Слаўг.

КУ'ПІНА'. Асобны ўзгорачак на сухім або вільготным лузе, у балоце; махавы балотны пагорачак (Беш. Касп., Віц. Нік. 1895, Нясв., Слаўг.). Тое ж *кўпіна* (Рэч. Стол.), *купіна* (Нясв., Шчуч.). □ в. Купінск Гродз., ур. Кўпіна (востраў сярод старыка на лузе) каля в. Улукі Слаўг.

КУПІНА'. Месца, ямка, дзе выгараў торф, якая ў дажджлівае лета запоўнена вадой (Слаўг.).

КУПЛЕНІНА. У актах (1539). Куплены ўчастак зямлі (Гродз. АВК XVII, № 18). Тое ж *кўпля, кўплішча, кўплінне* (Слаўг.).

КУ'ПНІК. 1. Месца на сухадоле, у балоце, багатае купінамі (Краснап. Бяльк., каля р. Пціч Серб. 1915, 6, Слаўг.). Тое ж *купнік* (Лёзн., Сур. Касп.), *купняк, ку́пніна́* (Слаўг.). 2. Наточаныя кратом кучкі зямлі (Слаўг.). Тое ж *купіннік* (Слаўг.).

КУРГА'Н. 1. Вялікі ўзгорак; высокае сухое месца сярод балота (БРС); старажытны магільны ўзгорак (Друцк., Копысь, на Проні Алякс. 59, Лёзн., Рэч., Сал., Слаўг.). Тое ж *ку́рган, кургон, кургонак, курганок, кургончык* (Слаўг.). 2. Куст (Беш., Чашн. Касп.). 3. Сумёт снегу (Слаўг.). Тое ж *ку́рган* (Ветк.). □ ур. Кургонкі каля х. Дубраўка Карм., ур. Рабінаўскі Ку́рган Слаўг., Гу́тараў Курга́н (грыва) каля в. Крамянка Слаўг., ур. Курганы каля в. Яскавічы Сал.

КУРГА'ННЕ. 1. Месца старажытных пахаванняў, дзе ёсць звычайна насыпныя магілы-курганы круглай формы (БРС). Тое ж *курганы́, курганнё* (Слаўг.). 2. Купіны, узгоркі (Беш. Касп.). Тое ж *курга́не* (Слуцк.). □ в. Курга́нне Слаўг.

КУРДО'ПНІК. Невялікі астравок (Гор.).

КУРДО'ЎНІК. Зараснік аеру, асакі (Маг. губ. вед., 1854, № 45, 1807).

КУРЭ'НЬ. 1. У актах. Адміністрацыйная адзінка. 2. Часовае збудаванне ў лесе ці полі; будан (поўдзень Беларусі Лемц. Айк.). 3. Прымітыўная хата (Слаўг.).

КУСТЫ'. Звычайна альховы зараснік; драбналессе (БРС). Тое ж *кустаўнік, кустоўнік, кусцянкі, кусцяўё, кустоўе, кусточча, кусцёўя, шалы́знік* (Слаўг.), *ку́сце* (Крыч.), *кусцё* (Паст.), *кусты́* (Крыч., Маз., Нясв.), *куста́рнік* (Нясв., Слаўг., Шчуч.).

КУТ. 1. Вугал поля; участак клінападобнай формы (Нясв., Палессе Лемц. Айк., Сал., Слаўг., Смал.). 2. Адасобленае, ціхае, глухое месца (Колас. Новая зямля). 3. Вугал, закавулак (Нас. АУ). □ в. Ку́тня Маг., б. х. Куты́ каля в. Александроў Бых., б. х. За́дні Ку́т каля в. Чарнякоўка Слаўг.

КУТПО'ЛЬЕ. Месца з выйсцем у адзін бок; тупік (Стол.). □ ур. Кутполье (поле) каля в. Кароцічы Стол.

КУ'ЧА. 1. Насыпаная горка пяску (БРС). 2. Кучка зямлі, якую накапаў крот (Слаўг., Хойн.). Тое ж *ку́чка* (Слуцк. Сержп. Грам. 54). 2. Калонія грыбоў, пралесак, купка дрэў (Слаўг., Шчуч.). Тое ж *ку́чка* (Слаўг., Шчуч.), *ла́піна́, лапянок* (Слаўг.).



## Л

ЛАБО'К. Высокае адкрытае месца, узгорак; выступ на раўніне, узвышэнне на роўным месцы (Слаўг.). Тое ж *лубок* (Слаўг.).

ЛАБЫ'ЗНІК. Былістае, куставое пустазелле на пустках, на развалінах, за плотам (Слаўг.). Тое ж *лабы́рнік* (Слаўг.).

ЛАБЫ'Р. 1. Выступ, узвышэнне на раўніне; высокае месца, горка (Кузн. Касп., Расн. Бяльк., Слаўг.). Тое ж *лубуро́к, лубы́р* (Слаўг.). 2. Кавалак засохлай зямлі (Касц. Бяльк.).

ЛАБЯ'К. Вяршыня ўзвышша, узгорак (Паст., Пол.). Тое ж *лаба́ціна* (Слаўг.).

ЛА'ВА. 1. Шырокая паласа (Стаўбц. Прышч.); зямельны ўчастак 2 га; зямельная мера (Стаўбц.); вялікае поле (Слаўг.). 2. Месца, дзе рэжуць торф на паліва (Ветк.). 3. Кладка; вузкі часовы мост на балоце (Шчыткавічы Слуцк., каля р. Пціч Серб. 1915). 4. Канец вуліцы (Слуцк., каля р. Пціч Серб. 1915). □ ур. Ла́вы (балотца сярод лесу) каля в. Пруды Стаўбц., ур. Ла́вы (поле) Стаўбц. (Прышч.).

ЛА'ВІШЧА. Месца, дзе была лава 3 (Лемц. Айк.).

ЛА'ВЫ. Быстрыны або дробныя перапады вады (Макс. 357).

ЛАГАВІ'НА. 1. Нізкая сенажаць у лагчыне (Сміл. Шат.); нізіннае месца (Маг. Лемц. Айк.). 2. Невялікі лог, узмежак, паша (Слаўг.). Тое ж *лагавіна́, лажкавіна́, лужкавіна́, лагаўнінка* (Слаўг.).

ЛАГВО'. 1. Месца, дзе знаходзіцца мядзведжы бярлог, дзе жыве воўчы вывадак, ляжаць свінні (Зах. Бел. Др.-Падб., Краснап. Бяльк., Пруж., Рэч., Стол.). Тое ж *лагаво́* (Рэч.), *лаго́ўя* (М. Танк. Янук Сяліба, 1957, 15). 2. Паглыбленне ў зямлі, па якому цячэ рака; рэчышча (Зах. Бел. Др.-Падб., Падзвінне).

ЛА'ГЕР. 1. Месца, дзе стаяла войска (БРС). 2. Абгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе (Гродз., Маг., Слон., Ст.- дар. ДАБМ Кам. 322). □ ур. Лагер (луг) каля в. Лясная Слаўг. Параўн.: «Из лагору от деревни Лесной» (1708 Лісты Пятра I, вып. 1, 1948, 170).

ЛАГУ'Н. Паглыбленне, упадзіна з вадой; азярына (Слуцк., Сержп. Прымхі, 24). □ ур. Лагуны́ Віц. (Рам. Мат.).

ЛАГЧЫ'НА. Шырокая нізіна; мокрае месца, глыбокая даліна, яма (БРС). Тое ж *лагчавіна* (Слаўг.), *лахчына* (Нас.), *лашчына* (Беш. Касп., Ветк., Касц. Бяльк., Лёзн., Рэч., Слаўг.), *лашчавіна* (Беш. Касп.), *лашчына́, лашчыніна, лашчэ́віна* (Слаўг.). □ ур. Вязовая лашчына ці Вязовы лог (сенажаць, кусты) каля в. Ка́біна Гара́ Слаўг.

ЛАЖБАВІ'НА. Месца паміж узгоркамі; катлавіна, лагчына (Слаўг.).

ЛАЖБАВІ'НКА. Нізкае месца на дарозе (Рэч.).

ЛАЖБІ'НА. Нізіна, месца паміж гор, пагоркаў (Слаўг., Шчуч.). Тое ж *лажбіна́* (Пол.), *лажбя́к* (Слаўг., Пол.). □ ур. Лажбіна (луг на беразе Нёмана, які парос лесам) каля в. Дакубава Гродз.

ЛАЖКАВІ'НА'. Кавалак логу сярод пасеву, лесу, за агародамі (Слаўг.). Тое ж *лажок* (Ветк., Слаўг.). □ ур. Лажкі (лог) каля в. Серкаўка Слаўг., ур. Бантэеў Лажок (поле) каля в. Целяшы Слаўг.

ЛАЗА'. Зараснік Salix viminalis L. (БРС) і Salix fragilis L. (Крыч., Слаўг.). □ в. Лозы Уш., ур. Лаза́ (луг) каля в. Бабінавічы Арш., ур. Лазовыя (лог, поле) каля в. Бязуевічы Слаўг.

ЛА'ЗНЯ. 1. Будынак, у якім мыюцца (БРС). 2. Гара са стромымі схіламі, на якой былі капліцы, касцёл (Бяс., 67).

ЛАЗНЯ'К. Месца, зарослае ніцай лазой, вербалозам (БРС). Тое ж *лазовішча, лазовічча, лазоўе, лазоўвічышча, лазовінне* (Слаўг.), *лазовіе* (Чав. Лемц.).

ЛАКНО'. 1. Месца ў рачной старыцы, якое зарасло травой (Жытк.). 2. Глыбокае месца сярод багны, дзе вада не замярзае (Жытк.).

ЛАМА'РНЯ. Гушчар, густы лес (Слаўг.).

ЛА'МІШЧА. Месца, дзе гарыць або гарэў касцёр (Паст.).

ЛАМО'ЎЕ. Балоцістае месца, дзе стаяць вялікія пні, ляжаць скрыжаваныя дрэвы (Віл.).

ЛАМЫ'. 1. Месца хованкі, асабліва зімой, лясных звяроў пад сукамі, галінамі, лапкамі дрэў, якія ляжаць на зямлі або нагнуліся да яе (Нас.). 2. Паламаны бурай лес (Слаўг.). □ ур. Ламове (балота з вялікімі пнямі і паваленымі дрэвамі) каля в. Засценкі Віл.

ЛАН 1. Стар. Адзінка пазямельнай меры. 2. Вялікае поле ў адным участку (К. Буйла. Выбр. тв., 1954, 146).



ЛА'ПІНА. 1. Невялікі ўчастак зямлі, лугу, лесу, ягадніку; палянка (Нясв., Слаўг.); месца, зарослае маліннікам (Уздз.). Тое ж *ла́пік, лашку́т, шматок, ме́ста, ме́сціна́, мясціна* (Слаўг.). 2. Частка паласы або сенажаці памерам да 10 кв. сажняў (Сміл. Шат.). 3. Пратаіна (Слаўг.). 4. Агрэх (Слаўг.).

ЛАСА'. Гладкая ціхая паласа на вадзе (Панямонне).

ЛА'ТАЧЫНА. Паверхня чыстай вады ў зарослым возеры (Касц. Бяльк.).

ЛАТО'КА. 1. Схіл гары (Уш.). 2. Невялікая сенажатная ўпадзіна паміж гор (Беш., Чашн. Касп., Уш.). □ ур. Гу́зікава Латока (парасннік на схіле гары) Уш.

ЛАЎЖО'. Месца, дзе ляжаў заяц (Віц., Пол.).

ЛА'ЎКА. Лука, луг. (Бяс.). Параўн.: На ла́ўца, на лаўца, На Янковой горе (Бяс., 149).

ЛА'ЎРА. Стар. Падземны ход, катакомбы. Тое ж *ла́ўрыя* (Слаўг.). □ Беларуская Лаўра (Куцеінскі мужчынскі Пакроўскі манастыр (1636) ва ўрочышчы Дубкі) («Наш край», 1926, № 8—9 (1—12), стар. 49).

ЛАХА'. 1. Рачны праток, рукаў (Вілен.). 2. Раздзельнае вусце ракі (Вілен.).

ЛАЧУ'ГА. Балота; буйное сена, балотная іржавая асака (Стол.). Тое ж *лацу́га* (Слаўг.).

ЛЕ'ДНІЦА. Месца, дзе зімой нарыхтоўваюць лёд (Уш.). □ ур. Ле́дніца (месца каля возера) недалёка ад в. Чарсвяны Уш.

ЛЕ'ЖБІШЧА. Месца ў пасевах ці ў траве, дзе ляжаў звер, чалавек (Слаўг., Стол.). Тое ж *ле́жня, ляжня́, калтобіна* (Слаўг.), *лёжка* (Слаўг.).

ЛЕ'ЖЫШЧА. 1. Месца, дзе быў пасланы лён; сцелішча (Слаўг.). 2. Месца, дзе ляжаў звер (Слаўг.).

ЛЕПЯТО'ХА. Густая гразь (Жытк.).

ЛЕПЯТУ'ХА. Вадкая гразь (Стол.).

ЛЕПЯХА'. Зараснік плюшчаю Sparganium L. (Жытк.). Тое ж *ляпёха* (Стол.).

ЛЕС. Вялікая плошча зямлі, якая зарасла дрэвамі (БРС).

ЛЕСАВА'Л. Месца, дзе складаюць ссечаны лес для сплаву; лесасховішча (Віц. Нік. 1895).

ЛЁСАВІНА'. Поле, дзе нядаўна быў лес (Сал., Слаўг., Чэр.).

ЛЕСАСЕ'КА. 1. Дзялянка лесу (БРС). 2. Памер штогодняй высечкі з ляснога ўчастка (БРС).

ЛЕСАЎШЧЫ'НА. Багатая лесам мясцовасць (Слаўг.). □ Лесаўшчына — паўночна-ўсходняя частка Слаўг. р-на.

ЛЕ'ТАВІШЧА. Летняе месцазнаходжанне чалавека, птушак, звяроў, статка (Слаўг.).

ЛЕ'ТНІК. Летняя дарога праз балота (Глуск. Янк. I, Маг.). Тое ж *лятнік* (Лёзн. Касп.).

ЛЕХ. 1. Папярочнік надзельнай палоскі сялянскай зямлі (Смален. Дабр.). 2. Знак, які робіцца ў час сяўбы зернавых, каб не засталося агрэхаў (Смален. Дабр.).

ЛЕШАКО'ЎШЧЫНА. Левабярэжжа Дняпра ніжэй г. Магілёва (Бых.).

ЛЕ'ШКА. Невялікая палоска; градка (Віц. Шэйн. БП, 779).

ЛЁГАЎ. Паламаны бурай лес (Слаўг.). Тое ж *лёгліна, лёгля, лоск* (Слаўг.).

ЛЁНД. Сухі шлях (Нас. АУ).

ЛЁНІШЧА. 1. Месца, дзе быў пасланы лён (Слаўг.). Тое ж *льнішча, алле́нішча* (Слаўг.). 2. Поле, дзе рос лён (Слаўг.). Тое ж *ле́навішча, лляні́шча* (Слаўг.), *льнішча* (Слаўг., Смален. Дабр., Стол.), *льня́нішча* (Дзярж., Слаўг.), *льне́нішча* (Слаўг.).

ЛЁХА. 1. Падземны ход (БРС). Тое ж *лёх* (Жытк., Нас., Нясв., Стаўбц., Тал. Мядзв.). 2. Склеп, падзямелле (БРС). Тое ж *лёх* (Жытк., Нас., Нясв., Стаўбц., Стол., Тал. Мядзв., Шчуч.). 3. Мышыная нара; яма (Нясв., Шчуч.). Тое ж *лёх* (Жытк., Нясв., Шчуч.).

ЛІЗЕ'РКА. Паласа адчужэння каля дарогі, шашы (Слаўг.). Тое ж *лізе́рт, рэзе́рв, рэзе́рва* (Слаўг.).

ЛІМА'Н. 1. Сутокі; расшыранае вусце ракі (БРС). 2. Берагавая частка балота, дзе амаль заўсёды стаіць вада (Слаўг.). □ ур. Лімáн або Лімáны (частка балота Чыстая Лужа) каля в. Шаламы Слаўг.

ЛІ'НІЯ. 1. Вузкая лесасека паміж лясньімі дзялянкамі (БРС), але без праезджай дарогі (Слаўг.). Тое ж *лі-не́йка* (Стол.). 2. Палявая пешаходная дарожка; шырокая сцежка (Крыч.). 3. Мяжа паміж палямі (Лёзн., Сал.). 4. Узровень стаячай вады, звычайна прыкметны па берагавых абрысах (Слаўг.).

ЛІ'ПІШЧА. Месца, дзе расла ліпа (Слаўг.).

ЛІПНЯ'К. Ліпавы лес Tilia, ліпавы зараснік (БРС). Тое ж *ліпа, ліпнік, ліпішча, ліпаўё, ліпавічча, ліпняччо, ліпічча, ліпнівічча, ліпішчаўе, ліпачча, ліпкі, ліпя́к, ліпча́, ліпня́, ліпіста, ліпста, ліпа́к, лычнік, лыкі* (Слаўг.), *ліпнік, ліпкі* (Жытк.). □ в. Ліпа і р. Ліпа каля Буда-Кашалёва, в. Вялікая Ліпаўка Хоц., пас. Ліпнік у в. Рэкта Слаўг., в. Ліпнікі Слуцк., ур. Наліпкі каля в. Беражцы Жытк.



ЛОБ. 1. Пярэдняя ад вёскі частка лугу (Крыч.). 2. Узгорак, узвышша (Крыч.). □ ур. Лобаўкі (частка лугу в. Людкоў) каля в. Асінаўка Слаўг.

ЛО'ВІШЧА. У актах. Месца, дзе ловяць звяроў, птушак, рыбу (Нас. АУ). Тое ж *ловы*.

ЛОГ. 1. Звычайна сухадольны луг паблізу вёсак, паміж палёў, каля рэчак, у неглыбокіх раўках (БРС). 2. Шырокая нізіна, даліна (БРС). 3. Балота, дрыгва, мокрае месца на лузе (Зах. Бел. Др.-Падб., Рэч., Стаўбц.). □ ур. Лог (поле) Стаўбц. (Прышч.), ур. Процкі лог (сенажаць) каля в. Шаламы Слаўг.

ЛО'ГАВІШЧА. Месцазнаходжанне звяроў (БРС); бярлога для жывёл (Слаўг., Стол.). Тое ж *логава* (БРС), *ло́гвішча* (Слаўг., Стол.), *логва* (Слаўг., Сміл. Шат., Шчуч.).

ЛО'ГВІНА. Месца, дзе качаўся конь (Слаўг.).

ЛО'ЖА. Паглыбленне, дзе цячэ рака, рэчка, крыніца; рэчышча (БРС).

ЛОМ. 1. Стар. Вадаём, пераважна рака (Рам. Мат., 131—132). 2. Вогнішча, палаючы касцёр (Паст.). □ ручай Лом (Віц. Рам. Мат., 131—132); в. Лом Сучкá Віц. (Рам. Мат., 152).

ЛОСК. Плоская нізіна, лагчына (Слаўг.). Тое ж *ля-вай* (Ваўк. Сцяшк. 56). □ с. Лоск Валож., ур. Лошчань каля в. Віравая Слаўг., паўстанак Лоскі за г. Рославам (Расія, т. 9, стар. 514).

ЛОЎЖ. 1. Куча галля (БРС). 2. Курган (Бабр.). Тое ж *лож* (Бабр. Бяльк.), *лоўжа* (Віц.). 3. Зараснік, драбналессе (Ветк.). □ в. Лоўжа Сіроц.

ЛУ'БІНІШЧА. Поле, дзе рос лубін (Сал., Слаўг.). Тое ж *лубя́нішча* (Слаўг., Ст.-дар.).

ЛУ'БКАМО'ЧЫШЧА. Абасобленая сажалка або затока, прызначаная для мачэння ліпавага лубу на лубовае лыка, рагозу (Слаўг.). □ ур. Лýбкамóчышча (каля р. Мочанкі) недалёка ад в. Ржаўка Слаўг.

ЛУБЯ'К. Гліністы ўзгорак (Кузн. Касп.).

ЛУГ. 1. Прырэчная сенажаць (БРС). 2. Сухадольны лог (Маз., Пух., Слаўг., Шчуч.). 3. Забалочаны лес, па-

рослы травой (Жытк., Палессе Талст.). 4. Лісцёвы лес на абалоні (Палессе Талст.); наогул лес (Віц. Шэйн., Бяс.). 5. Нізкае месца, запоўненае вадой (Зэльв. Сцяцко); невялікі вадаём у полі ці ў лесе (Лях., Свісл., Скідз., Шчуч. Араш. 90); вялікая ямка, дзе пояць кароў і мочаць лён (Кам.).

ЛУГАВА'ТКА. Прадаўгаваты, вузкі сухадольны луг (Мсцісл. Юрч.).

ЛУГАВІ'НА. Участак лугу на нізкім месцы; малы лажок (Слаўг.); сухадольная сенажаць у лесе (Слаўг.).

ЛУ'ЖА. 1. Калюга, якая застаецца пасля дажджу (паўсям.). Тое ж *лу́жына* (БРС), *лужа́віна, лужа́іна, лужаі́вінка, лужае́віна* (Слаўг.), *лу́жынка* (Лёзн.). 2. Яма з вадою (Мсцісл. Бяльк.). 3. Дрыгва; вялікае махавое балота (Кап., Рэч., Слаўг.). 4. Заліў ракі (Росл. Дабр.). 5. Бяссцёкавае, стаячае возера (Рэч., Слаўг.). □ ур. Чыстая Лужа (балота) каля в. Рабінаўка Слаўг., ур. Дубовая Лужа (поле) каля в. Гайшын Слаўг., ур. Чыстая Лужа каля в. Заспа Рэч.

ЛУЖА'ВІНКА. Лажок сярод поля; нізкае месца, дзе доўга стаіць вада (Жытк.).

ЛУЖО'К. 1. Невялікая лугавіна; сенажаць (БРС). 2. Некалькі дрэўцаў у лагчыне сярод поля (Стаўбц. Прышч.).

ЛУЖЧА'ВІНА. 1. Сенажатная лугавіна (Стол.). 2. Лужына вады (Слаўг.).

ЛУ'ЖЫШЧА. Поле на месцы ўзаранага лугу (Стаўбц. Прышч.). □ ур. Лужышча (поле, луг) Стаўбц.

ЛУКА'. 1. Выгіб ракі (БРС). Тое ж *лу́кавіна* (БРС). 2. Участак лугу каля выгібу ракі (паўсям.). Тое ж *лу́кавіна* (Нясв.). 3. Паляна на лузе, якая кругом амываецца вадой (Крыч.). □ Лука (азярына) каля в. Шарсцін Ветк., Лука — звілісты заліў р. Дзвіны (Рам. Мат.), ур. Лу́кі Заліўны́я (луг) каля в. Бабінавічы Арш., ур. Лука (луг) каля в. Дудзічы Пух.
Лу́кавіна (луг) каля в. Малева Нясв., ур. Лука (паляна на лузе) каля в. Беражцы Жытк.

ЛУ'МІНА. 1. Лужына, упадзіна, яма (Сен. Касп.). 2. Нізіна з адным відам расліннасці (Сен. Касп.).

ЛУ'МКА. 1. Паглыбленне ў зямлі (Чашн.). 2. Палонка (Чашн. Касп.).

ЛУНА'. Незарослае вадзяное месца ў балоце, якое адсвечваецца (Зах. Бел.).



ЛУ'НКА. 1. Града на агародзе (Слаўг.). 2. Шырокая разора (Пол.). 3. Ямка, якую выкапаў сабака лапамі (Нясв.). 4. Ямачка на раллі пры сяўбе бульбы квадратна-гнездавым спосабам (Шчуч.); ямачка наградзе для памідораў, капусты (Лёзн.); паглыбленне на градзе для пасеву агуркоў, морквы (Дзярж., Лёзн.). 5. Паглыбленне з вадой пад карэннямі вымытага куста на беразе перасохлай рэчкі (Лёзн.). 6. Невялікая палонка ў лёдзе на рэчцы (Віц. Нік. 1895, Зах. Бел. Др.-Падб., Лёзн., Нас., Сіроц. Касп., Смален. Дабр.). 7. Выкапаны вадаём (Лёзн.). 8. Вада пасля дажджу на дарозе; лужына (Лёзн.).

ЛУНЬ. Глыбокае небяспечнае месца на балоце (Гродз.). □в. Лу́нін Лун.

ЛУ'ЧАЙ. Зараснік рагозу Typha latifolia L. (Жытк., Стол.).

ЛУ'ЧКА. Малы лужок; сенажаць (Лёзн.).

ЛУЧКІ'. Выгіны, крывізна, павароты ракі; невялікія ўчасткі сенажаці на выгінах рэчак (Паст., Слаўг.). Тое ж *лу́чкі* (Стаўбц.). □ ур. Лучкі́ (луг) каля в. Бабінавічы Арш., ур. Лучкі́ (лужкі каля р. Пясчанкі) недалёка ад в. Папоўка Слаўг., якія ў сваю чаргу падзяляюцца на Лучкі́ Пе́ршыя, Лучкі́ Другі́я і Лучкі́ Трэ́ція.

ЛУЧО'К. Невялікі залом, выступ берага ў малой рэчцы (Слаўг.).

ЛУШЧАІ'НА. Лагчына, даліна (Пар.).

ЛЫ'СІНА. 1. Месца, дзе качаўся конь (Хоц.). 2. Праталіна (Дубр., Слаўг., Крыч., Чэр.). 3. Абложная пясчаная зямля (Палессе Лемц. Айк.). Тое ж *лысу́ха* (Палессе Лемц. Айк.).

ЛЫ'СІЦА. Неўрадлівае поле (Палессе Лемц. Айк.); высокае, лысае, непакрытае расліннасцю месца (Маг., Мін. Лемц. Айк.).

ЛЮБІ'Ж. Месца, дзе знаходзіцца крыніца з пітной вадой; прыгожае, з выгодамі месца (Гор., Стол.) □ в. Любіж Гор., ур. Любіж (поле), ур. Любін, ур. Любянец каля в. Кароцічы Стол.

ЛЮР. Прадушына ў лёдзе вясной (Нас.).

ЛЯ'БАЛАЦЦЕ. Месца (сенажаць, лес, кусты) каля балота (Слаўг.). Тое ж *ляболацце, каляболацце, калаболацце, калу́балацце, ляўзкалю́балацце, ля́балаць, лябалотнічча, лявўзбалаць, ля́збалацце, лябалоцічча, ляпоўзбалацішча, ля́ўзбалацце* (Слаўг.).

ЛЯВА'ДА. 1. Луг, абгароджаны для пашы жывёлы (Нас.). 2. Абгароджанае месца для стаяння жывёлы ў полі або ў лесе (Бял.); летняе стойла для кароў (Ветк.).

ЛЯГО'РЫЧЧА. Месца каля гары (Слаўг.). Тое ж *лягарре, лягарычышча, лягорре* (Слаўг.).

ЛЯГУ'МНІ'ЧЧА. Месца каля гумна або кругом яго: прастора перад гумнішчам (Слаўг.). Тое ж *легумнéчча* (Слаўг.).

ЛЯ'ДА. 1. Поле на месцы высечанага лесу (БРС) ці ляснога пажарышча (басейн Бярэзіны, Дняпра, Зах. Дзвіны і Сажа ДАБМ, К. 337). Тое ж *ляд* (Пруж.), *лядзь* (Люб. ГР, 92). 2. Наогул вялікае поле (Усх. Палессе Талст.); поле ў кустах (Жытк.); абложная зямля (Рэч.); пакінутая зямля (Уш.); неаранае са свірэпай поле (Слаўг.). 3. Сухі востраў сярод балота, на якім расце сасновы лес; бор (Маз. і Рэч. пав. Талст.); сухое балота (Рэч.). 4. Месца ў лесе, дзе па-бракан ьерску высечаны лес (Слаўг.); непрыбранае месца ў лесе, дзе секлі дрэвы, суцча (Віц., Дрыс., Паст. ДАБМ Кам. пп. 956—957). Тое ж *лядо, лядадо* (Слаўг.). 5. Паламаны навальніцай пасеў (Слаўг.); шкода (Брасл. ДАБМ Кам. п. 956). □ в. Ля́да Смал., ур. Ля́да Нар., ур. Ляда (палянка, поле, лес) каля в. Яскавічы Сал., ур. Дзéдава Ля́да (балота, лес, сенажаць) каля в. Рудня Слаўг.

ЛЯ'ДАВІЦА. Невялікі ўчастак ляда (Слаўг.). Тое ж *ля́дца, лядцо, ля́дзечка, ля́давічка, лядцовічка* (Слаўг.).

ЛЯ'ДЗІШЧА. 1. Месца, прыдатнае для ачышчэння ад зарасніку (Нас. АУ). 2. Вялікае ляда; месца, дзе было ляда 1 (Слаўг.). Тое ж *лядзішча* (Слаўг.).

ЛЯЖА'НЕЦ. Абложная зямля (Стаўбц. Прышч.). □ ур. Ляжанец (поле) Стаўбц.

ЛЯПЕ'ШНІК. Алешнік; альховыя кусты з гразкімі месцамі і сенажатнымі лажкамі (Слаўг., Сур. Касп.). Параўн.: *шелéпник* (с. Бярозаўскі Радок, Балагоўскі, р-н Калінінская вобл.). □ ур. Ляпешнік (балота і луг) каля в. Улукі Слаўг., ур. Ляпешнік (альховыя кусты) у в. Шаламы Слаўг.

ЛЯСЕ'НСТВА. Вялікі лясны масіў (Слаўг.). Тое ж *лясíшча, лéсішча, лясю́га, лесюгá, лесяю́га* (Слаўг.).

ЛЯСНІ'СТВА. Лясніцтва; акруга лясных дач (Нас., Слаўг.). Тое ж *ляснíчаства* (Слаўг.).

ЛЯСНІ'ЦА. Поле сярод лесу (Слаўг.). □ ур. Лясніца (поле) в. Папоўка каля балота Чыстая Лужа Слаўг.



ЛЯХА'. 1. Падоўжанае ўзвышша (Слаўг.). 2. Палоска раллі, якая засяваецца сяўцом уручную, ідучы ў адзін бок (Міласл. Бяльк., Слаўг.). Тое ж *лéшка* (Віц. Шэйн), *лях* (Міласл. Бяльк.). 3. Града ў агародзе; участак, дзе садзілі гародніну (Віл., Докш., Зах. Бел., Пол., Чашн. Касп.). Тое ж *лéха* (Крыв.). 4. Папярочнік надзельнай палоскі сялянскай зямлі (Смален. Дабр.). 5. Знак, які робяць (уторкваннем саломы) пры сяўбе, каб не было агрэхаў (Кузн. Касп., Слаўг., Смален. Дабр.). 6. Насечка, знак на стаячым дрэве для абазначэння межаў (Гарб.). □ в. Ля́ша Гродз., в. Віля́хаўка Бых., г. Ля́хавічы Баран. вобл.

ЛЯШЧЭ'ЎНІК. Зараснік ляшчыны, ляснога арэшніку (БРС). Тое ж *ляшчы́на* (БРС), *ляшчы́ннік* (БРС), *ляскоўнік* (Слаўг.). □ вв. В. Лéшчанка, М. Лешчанка Мсцісл.

## М

МАГДА'Н. Дзягцярны завод (Сен. Касп.).

МАГІ'ЛА. 1. Магільны насып (паўсям.). Тое ж *магілка* (Слаўг.). 2. Выкапаны дол, куды апускаюць труну з нябожчыкам (БРС). Тое ж *я́мка* (Слаўг.).

МАГУ'РА. Сумёт снегу (в. Церахоўка Слаўг.).

МАЁНТАК. Панскае памесце, фальварак (БРС). Тое ж *маéтнасць* (Нас. АУ), ст.-бел. *сялцо.*

МАЙДА'Н. 1. Абгароджанае або неабгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе, каля дома (Брэсц. ДАБМ, к. 232). 2. Месца, дзе знаходзіліся прамысловыя збудаванні лясных або рыбных промыслаў (Стол.), дзе выганялі дзёгаць і выпальвалі кавальскі вугаль (Бых. Рам. 1912, 3, Краснап. Бяльк., Слаўг.); яма, дзе гналі смалу (Мін. губ. Зял. 1864, 119). Тое ж *майда́нак* (раён Белавежскай пушчы, Гродз.). 3. Шырокая прастора; вялікая гала (Стол.). 4. Незабудаванае месца ў населеных пунктах, дзе збіраецца народ, дзе адбываецца гандаль; зборны пункт; узвышанае месца, узгорак (Пінскі пав. Булг. 196). 5. Вялікі абшар ворнай зямлі (Нясв.). 6. Зарослы хмызняком роў (Міласл. Бяльк.). 7. Вялікі двор у маёнтку (Ваўк. Сцяшк.). □ в. Майда́н Бых. (Рам. 1912, 3), ур. Майдан (лес) каля в. Беражцы Жытк., ур. Майдан (поле на месцы асушанага балота) каля в. Чарнякоўка Слаўг.

МА'КАВІ'ШЧА. Месца, дзе рос мак Pepaver (Слаўг.). Тое ж *ма́кавішча* (Сал.), *ма́чнік, макаўё, ма́ка́ўе* (Слаўг.).

МА'КАЎКА. Вяршыня гары, узгорка або дрэва («Звязда» 29/V 1966, Шчуч.). Тое ж *макушка, верх, верхавіна* (Слаўг.).

МАКРА'НКА. Паўнаводная рэчка (Бых.). □ р. Макранка Бых.

МАКРАТА'. Увільготненае, вадзяное, гразкае або балоцістае месца (БРС). Тое ж *макроцце, макрадзь, макрацё, макрадла, макранка, макраддзе, макрышча, мокрыча*, (Слаўг.), *мокрадзь* (Гродз. Гарб. 220, Маг. пав. 1654 АЮЗР, XIV (дап. да т. 3), 312), *макраеддзе* (Краснап. Лемц. Дыс.), *мокрае* (Бых.), *макрота* (БРС). □ в. Мокрадзь Лаг.

МАЛАДНЯ'К. Малады лес да прачысткі, лясны зараснік (БРС). Тое ж *моладзь* (Маладз.), *маларост, маладзена, маладзён* (Слаўг.), *маложа* (Сен. Касп.). □ в. Маложы Віц. (Рам. Мат.), в. Моладзі Лаг.

МАЛІ'ННІК. Зараснік маліны Rubus idaeus L. (БРС). Тое ж *маліны* (Арш., Гродз., Жытк., Пол.), *маліна* (Слаўг., Шчуч.).

МАРКО'ЎНІК. Сасновы абалоністы лес (Слаўг.).

МАРО'ЧНА. Балота; гразкая паляна сярод лесу (Цэнтр. Палессе Талст.). Тое ж *марочына* (Цэнтр. Палессе), *марочня* (Стол. ДАБМ).

МАР'Я'НКА. Невялічкі астравок (Маз.).

МАСЦІ'ШЧА. Месца, дзе быў мост і грэбля (Слаўг.). Тое ж *мосцішча, машчышча, мастоўе, маставішча* (Слаўг.). □ ур. Масцішча (балотца) каля в. Клетнае Глуск. (Янк. II), ур. Масцішча на левым беразе р. Рудніцы каля в. Рудня Слаўг., пас. Масцішча ў в. Рэкта Слаўг., ур. Машчышчы Стол.

МАХАВІ'К. Месца, якое парасло мохам (Слаўг.). Тое ж *махавіца* (Смален. Дабр.). □ в. Махавая (прыкладна з 1585 г. Махава) Чав., пас. Махавая (1929) каля в. Лютня Краснап.

МАХО'ЎКА. Невялікае балотца, у якім расце белы мох (сфагнум) (Слаўг.). □ ур. Махоўка і Махоўка Ладуркава (балотца) каля в. Любаны Слаўг., в. Машэцкая Слабада Слаўг.

МАЧА'ЖЫНА. Мокрае месца (Слуцк.). Параўн.: Па калдобінах, мачажынах і гацях Колькі зломана было калёс, карэтаў (ЛіМ, 4/XI 1966, 3).

МАЧА'РЫНА. Крынічнае месца (Ашм.). Тое ж *мачарня* (Слаўг.).



МАЧУ'ЛА. Прыродная, зарослая травой і лазняком сажалка, балотная лужына; круглая старыца (Віц. Нік. 1895). □ в. Мачуліна Ваўк.

МАЧУ'ЛІШЧА. 1. Затока, копанка, у якой мочаць лён, каноплі, палатно (БРС). Тое ж *мачылішча* (Рэч), *мачыла* (Докш.). 2. Месца, дзе раней мачылі ліпавае луцце, ліпавы луб, з якога рабілі мачулу (Слаўг.). Тое ж *мочышча* (Мін. губ. 1864 Зял.). 3. Месца, дзе была мачула; забалочаны вадаём; мокрае месца (Віц., Мін.). □ в. Мачулішча Лаг., в. Мачулішча Хал., в. Мачулішча Віц. (Рам. Мат.), ур. Мачулішча каля в. Лясная Слаўг.

МАЧЫ'ЛКА. Зыбкае махавое балота (Арш., Віц., Лёзн. ДАБМ)

МАША'РА. Махавое балота; пустка, парослая мохам (Слаўг.).

МАШО'К. Балоцістае махавое месца; невялікае балота; нізкі луг, парослы мохам; поле-пустка, парослае мохам (Слаўг., Стаўбц.). □ ур. Машок (лес) каля в. Гіжэнка Слаўг., ур. Машок (поле) каля в. Пруды Стаўбц., в. Машкі Віц. (Рам. Мат.), ур. Машкі (балота) каля в. Смалігаў Слаўг.

МАШЧО'НКА. Вымашчаная на нізкім месцы дарога (Слаўг.). □ ур. Машчонка даўгая і Машчонка (нізкі луг) ва ўр. Гарадок (лес) каля вв. Папоўка, Чачораўка Слаўг., вул. Машчэнка ў в. Чачораўка Слаўг.

МАШЫ'ШЧА. Месца, дзе ляжала куча моху (Слаўг.). Тое ж *мшышча, мошышча* (Слаўг.).

МЕ'ЖАНЬ. 1. Малаводдзе летам у возеры або рацэ (БРС). Тое ж *межаніна* (Вілен.). 2. Веснавы рух сокаў у дрэвах (Краснап. Бяльк.). 3. Летні час; сярэдзіна лета; касавіца (Смален. Дабр.). Тое ж *межаніна* (Смален. Дабр.).

МЕКІШЫ'. Покрыва мяккай травы на нізкіх месцах, у далінах (Жытк.).

МЕЛ. Мелавыя пласты, залежы мелу, мелавыя капальні (Слаўг.). Тое ж *мела* (Слаўг.). □ ур. Мел на беразе р. Пясчанкі каля в. Папоўка Слаўг., ур. Мелавыя горы каля г. Гродна.

МЕЛІЗНА'. Мелкае месца ў рацэ, возеры; мель (БРС). Тое ж *меліна* (БРС), *мелкаводзь, мелката, мялкоцце* (Слаўг.).

МЕЛЬ. Неглыбокае месца на рацэ, возеры, пясчаны нанос, доўгая каса ў рацэ, сажалцы (БРС). Тое ж *мель-*

*стынь, мялізна́, мялі́на́, мяліня́, мяльстыня́, мяльсты́нь* (Нясв.), *мялы́нь* (Слаўг.).

МЕ′РВА. Вязкае, зыбучае балота (Усх. Палессе Талст.).

МЕ′РГЕЛЬ. Сумесь гліны з вапнай Suarga Cretacea (БРС). Тое ж *мэргéль* (Слаўг.).

МЕ′РЛЕВІЦА. Старое рэчышча (Вілен.).

МЕ′СТА. 1. Стар. Частка горада, якая знаходзілася за сцяной замка. 2. Горад, мястэчка (Глуск. Янк. I, Жытк., Нясв., Пін. Булг. 196, Хоц. Бяльк.). 3. Рынак (Барыс. і Віц. пав. Шэйн 1886, Віц. і Маг. губ. Галатузаў 1852, Грыг. 1838—1840, л. 24, Жытк., Мсцісл. Бяльк.). 4. Любая прастора на зямлі; пункт (Ветк., Жытк., Мсцісл. Бяльк., Слаўг., Стол.). Тое ж *мéйсца* (Мін.), *мéсца* (Зах. Бел. Др.-Падб.), *мéсціна, мясці́на* (Слаўг.). 5. Павятовы горад (Нас. АУ). 6. Прастол (Нас. АУ). 7. Час (Нас. АУ). 8. Яўрэйскае пасяленне, аселасць (Слаўг.). □ вул. Мéста (частка вёскі Гіжэнка, дзе з 1849 да 1923 г. жыло яўрэйскае насельніцтва) Слаўг., Новае Места за Востраў Брамай — частка г. Нясвіжа за замкам.

МЕ′ТА. Мяжа, межавы знак, след, лінія, вешка, маяк; межавая насечка на дрэве (Слаўг.); лінія ў дзіцячай гульні (Рэч., Слаўг.). Тое ж *мéцішча* (Краснап., Слаўг., Чав., Чэр.).

МЕТАВІ′ШЧА. 1. Месца, дзе начуюць летам коні (Смален. Дабр.). Тое ж *нашлéг, начлéг* (Слаўг.). 2. Месца, дзе сеў пчаліны рой (Смален. Дабр.).

МЕ′ШАНЬ. Поле, якое ўзарана другі раз (Краснап. Бяльк., Сен. Касп., Слаўг.).

МІЖГО′Р′Е. Месца паміж гарамі (Слаўг.). Тое ж *міжыгар'е* (Пол.).

МІЖДАРО′ЖЖА. Месца, тэрыторыя, прамежак паміж дарогамі (Слаўг.). Тое ж *міждадарожжа* (Слаўг.).

МІЖРЭ′ЧЧА. Абшар паміж рэчкамі (Слаўг.). Тое ж *паміждýрэ̀чча, паміждадарэчча* (Слаўг.).

МІЛІ′ЦА. Зараснік азёрнага сіту Iuncus (Дзіс.).

МІЛЮГА′. Малаўрадлівая глеба (Пол.).

МЛЫН. Будынак, дзе мелюць зерне на муку (БРС); ставок (Стаўбц.). Тое ж *млін* (Жытк., Стол.). □ в. Млынок Лельч.

МЛЫ′НІШЧА. Прастора каля млына (Нас. АУ); месца, дзе знаходзіўся млын (БРС).

МО′ГІЛКІ. Месца, дзе хаваюць нябожчыкаў (БРС). Тое ж *магілкі* (Віц., Гродз. Маг. ДАБМ, к. 318), *моглiцы* (Брэсц., Маладз., Мін., Пін., Сал., Тур. ДАБМ), *магільнік* (Ашм., Брасл., Віц., Маг. ДАБМ), *могальнік* (Маладз. ДАБМ), *магіліцы* (Івац.), *магілле* (Краснап. Бяльк., Мін.), *могільнік* (Др.-Падб.), *моліца* (Гродз., Івац., Лагіш.), *магіляцы* (Віл.), *пясок, дом, шáхты* (Слаўг.), *духоніна рошча* (Магілёў), *божая ніва* (Віц. Нік. 1907), *мынка* (Мін. губ. Мядзв.). □ в. Магіліцы Івац.

МО′ЛЬБІШЧА. Стар. Месца язычаскага малення. Тое ж *бажніца, капішча, стадола.*

МОРГ. 1. Стар. Мера ворнай зямлі (БРС). 2. Участак раллі (Шпіл.). 3. Сялянскі ўчастак лугу; наогул сенакосны луг (Нас., Нас. АУ); лугавая зямля (Чач. 1726 ІЮМ, вып. 28 (ч. I), стар. У, 41). 4. Дадатковы ўчастак зямлі (Слаўг.). □ ур. Маргі (лог) каля в. Шаламы Слаўг., ур. Сямі̀маргíе (поле) каля в. Малева Нясв.

МОХ. 1. Балота; махавое балота; зарослае балота; нізкая балоцістая мясцовасць, парослая мохам і альхой (Віц., Маг., Палессе Талст., Ст.-дар.). 2. Ціна (Смален. Дабр.). □ в. Доўгі Мох Чав., в. Замошыца Віц. (Рам. Мат.), ур. Бондараў Мох (балота) каля в. Рэкта Слаўг., в. Мох каля г. Магілёва (К. 1800).

МУЛ. 1. Нанос на лузе каля рэчкі ў выглядзе твані, глею, ілу ў час веснавога разліву (Слаўг., Шчуч.); іл на дне возера, затокі (БРС); балота (Шчуч.); ілістае месца (Жытк.). Тое ж *мыл* (Жытк., Стол.), *мул* (Стол.), *мулéц* (Сал.). 2. Цякучы пясок пры капанні ямы (Стол.). Тое ж *мыл* (Стол.).

МУЛЬ. Месца на балоце, дзе ўтвараецца цячэнне вады пры змяненні яе ўзроўню (Палессе Талст.). Тое ж *муля́ка* (Палессе Талст.).

МУРАВА′. 1. Сухадольная сенажаць з добрай травой (БРС). Тое ж *мýрава* (Беш. Касп., Краснап. Бяльк., Нас., Слаўг.). 2. Газон (Зах. Бел. Др.-Падб.). 3. Ракіта звычайная (Зах. Бел. Др.-Падб.).

МУ′РАВА. 1. Зямля, якая не апрацоўваецца; аблога (Брэсц., Пін.). 2. Трава мурожніца Festuca elatior L. (Лёзн. Касп., Тал. Мядзв.); самае лепшае лугавое сена (Мін. Шпіл., Слаўг.).

МУРАВЕ′ЙНІК. Месца, дзе многа мурашыных купін (БРС). Тое ж *муравéльнік* (Маз., Навагр., Сал.), *муравéннік* (Навагр.), *муравіннік* (Слаўг.), *мурáшнік* (Зах. Бел. Др.-Падб., Кузн. Касп., Слаўг.), *мурáшкі* (Слаўг.),

*мýрава, мýраўнік* (Жытк.), *муравéй* (Ст.-дар.), *мураўё* (Ветк.). ☐ ур. Мурáшкі (няўдобіца, багатая мурашынымі купінамі) каля в. Красная Слабада Слаўг., ур. Мурáшкі (поле) каля в. Кульшычы Слаўг.

МУРО′Г. 1. Сухадольная сенажаць з сакавітай густой травой (БРС). Тое ж *мýраг* (Слаўг.), *муражы́на* (Сміл. Шат.), *мурожніца* (Стаўбц.), *муроўка* (Докш.), *дзя́тліна, дзя́тлавіна* (Слаўг.). 2. Утаптанае каля дарогі месца, густа парослае драсёнам птушыным Polygonum aviculare L. (Жытк., Слаўг., Стол.), дзяцелінай са спарышом Polygonum aviculare L. (Рэч.). ☐ ур. Мурожніца (поле) Стаўбц.

МУРО′ЖКА. Аблямаванне зелянінай градак, клумбаў; вузкая зялёная дзярновая аблямоўка дарожак у садах (Слаўг.). Тое ж *рабатка* (Зах. Бел.).

МУТ. Іл з вадой; каламута; твань; гразь (Мсцісл. Юрч., Слаўг.). Тое ж *муць* (Рэч., Слаўг., Смален. Дабр.).

МУТВА′. Канаўка з вадой; азярына (Нар.).

МУТВІЦА. Рыбалоўнае месца ў выглядзе заліва (Нас. АУ). ☐ ур. Мýцвіца (балота) каля в. Беражцы Жытк.

МУ′ЧАНІК. Зараснік талакнянкі Arctostaphylos uva ursi L. (Жытк.).

МУ′ЧКА. Густая сухадольная дзярніна сіўцу Nardus L. (Жытк.). Тое ж *мы́чка* (Рэч.).

МУШАРЫ′НА. Невялікая балоцістая мясцовасць, парослая мохам і альхой (Палессе Талст.).

МХЕ′НІШЧА. 1. Месца, дзе расце мох (Нас., Слаўг.). 2. Месца, дзе ляжаў мох (Слаўг.). Тое ж *мшы́шча, машы́шча* (Слаўг.).

МША′РА. Махавое балота; балоцістае месца, якое зарасло мохам, купінамі (Слаўг.). Тое ж *мшáрынне, мшáрышча* (Нас., Слаўг.).

МША′РНІК. Месца ў лесе, на балоце, якое парасло мохам (Усх. Палессе Талст.). Тое ж *мшáрня* (Слаўг.).

МЫ′ЗА. Стар. Дача, хутар; сядзіба з с.-г. пабудовамі, якая стаіць асобна ад нас. п.; мястэчка, маёнтак, вёска аднаго пана. ☐ мыза Марозінка каля в. Кульшычы, мыза Балотня, мыза Гайшы́н, мыза Крыштаполье Быx. пав. Маг. губ. (1854 ЦДГА БССР, ф. 2379, воп. 1, адз. зах. 17, лл. 18, 21б, 26б, 27).

МЫЛЕ′Ц. Суглінак (Краснап. Бяльк.).

МЫ′ЛЬНЯ. Лазня (Маг.). Тое ж *мы́йня* (Маг.), *мывалька* (Ваўк. Сцяшк.), *мы́лня* (Кап.), *мыўніца* (Віц., Маг., Мін. Шпіл. 1853, л. 11), *мовніца* (Троіцкі спіс Нестаравага летапісу). ☐ ур. Мы́льнішча (сухадольны луг) каля пас. Калінаўка Краснап., ур. Мыльніца (Макс., 357), ур. Мы́льнішча (лясная прыстань; плятнёвыя збудаванні ў рацэ) Быx. (Макс. Пр. 41).

МЫС. Клінападобны выступ поля, лесу, лугу; край лесу або абрыву (БРС).

МЫ′ТНІЦА. Мытная застава або кантора, дзе праводзіцца выплата за правозячыя тавары (БРС). Тое ж *мы́тня* (БРС), *мы́та* (Нас. АУ).

МЫШНІК. Участак, які зарос кустамі; зараснік (Ант.).

МЯЖА′. 1. Дзёрнавая броўка, разора, дарожка, знак паміж зямельнымі ўчасткамі (БРС). 2. Участак лесу паміж населенымі пунктамі (Брэсц.).

МЯЖНІ′ЦА. Палявая сцежка (Сен. Касп.).

МЯ′ДЗЕЛІНА. Поле, дзе расла люцэрна Medicago sativa, дзікая лясная канюшына (Маладз.). ☐ с. Мядзел Маладз.

МЯРЗЛЯ′К. Замерзлы выступ гразі (Кір., Слаўг.).

МЯРЛО′ГА. 1. Зімовы мядзведжы бярлог; воўчае логава (Барыс., Грыг. 1838—1840, Зах. Бел. Др.-Падб., Касц. Мсцісл. Бяльк., Крыч., Сен. Касп., Слаўг.); лісінае логава (Мсцісл. Бяльк.). Тое ж *мярлог* (Пол., Слаўг., Смален. Дабр.). 2. Прыкметная мясціна на раллі, на пяску, на траве, дзе качаўся конь, ляжаў звер (Арш.). Тое ж *кáчвішча* (Стол.).

МЯРЭ′ЧА. Непраходны густы лес на нізкім месцы (Крыч., Слаўг., Чашн. Касп.); непралазнае балота (Расн. Бяльк.); буралом і густы лес (Тал. Мядзв.). Тое ж *мірэ́ча* (Смален. Дабр.), *мярэчча* (Слаўг.).

МЯСТЭ′ЧКА. 1. Населены пункт паўгарадскога тыпу (БРС). Тое ж *мясцéчка* (Ветк., Навагр., Слаўг., Хоц. Бяльк.). 2. Рынак (Нас.). Тое ж *мясцéчка* (Нас.), *торг* (Быx., Маг., Слаўг.).

МЯСЦІ′НА. Невялікі ўчастак; месца, куток (БРС). Тое ж *мясцéчка* (Мсцісл. Бяльк., Слаўг.), *мéсцечка, мéсцінка, мéсцінаčка* (Слаўг.).

МЯТЛА′. Зараснік чароту Phragmites communis Trin. (Лёзн.). Тое ж *мятліца* (Стол.).

МЯЧЭ′ЎНІК. 1. Зараснік рагозу шыракалістага Typha latifolia L. (Слаўг., Чашн. Касп.). Тое ж *мечаўнік* (Слаўг.). 2. Зараснік касачоў Iris pseudacorus L. (Краснап. Бяльк.).

## Н

НАБО'Й. 1. Астаткі саннага шляху (Стол.). Тое ж *накát, лядок* (Слаўг.). 2. Частка дарогі, дзе ступае конь, запрэжаны ў воз (Стол.).

НАВІНА'. 1. Новае поле, цаліна на месцы расцяробу або ўзаранай сенажаці (Віц. Нік. 1895, Кобр., Крыч., Нар., Рэч., Сал., Слаўг., Ст.-дар., Стол.). Тое ж *навіна* (Ст.-дар., Хойн.), *навінка* (Слаўг.). 2. Даўно неаранае поле, аблога (БРС). 3. Новае месца пасялення (Слаўг., Слуцк. Мал. 118). Тое ж *навасáды* (Лемц. Айк.). Тое ж *навінка, навяк* (Слаўг.). 4. Новы ўраджай (Слаўг.). □ вул. Навіна́ ў в. Трасліўка Слаўг., ур. Наві́ны каля в. Чарсвяны Уш., Наві́нка — частка в. Кулікоўка Слаўг., ур. Наві́нка (поле) каля в. Кульшычы Слаўг., в. Наві́нка Гом.

НАВО'З. 1. Вялікі ўчастак поля, на якім размешчана некалькі хутароў (Нясв.). 2. Прыстань (Рэч. Макс. Пр.). 3. Участак угноенай зямлі побач з вёскай (Стаўбц. Прышч.). Тое ж *навозы* (Кар., Стаўбц.). □ ур. Навоз (поле) каля в. Малева Нясв., вул. Навозная ў в. Ванялевічы Кап., с. Навоз Рэч. (Макс. Пр.).

НАДБА'ВАК. Дадатковы ўчастак поля, лугу (Слаўг.). Тое ж *надбáўка* (БРС), *наддáтак, дáча, нандáча, наддáча* (Слаўг.), *наддáча, наддáчка* (Чашн. Касп.). □ ур. Наддáткі (луг) каля в. Віравая Слаўг., в. Наддáткі, х. Лясныя Наддáткі Мядз. (Лемц. Дыс.), ур. Наддáча (поле) каля в. Гайшы́н Слаўг.

НА'ДБЕ'РАЖЖА. Прастора, якая прылягае да берага ракі, возера (Слаўг.).

НАДВО'РАК. Двор каля хаты (БРС); прастора паміж хатай і гаспадарчымі пабудовамі (Нясв., Слуцк. Мал. 181, Сміл. Шат., Шчуч.).

НАДВО'Р'Е. 1. Месца па-за жылымі пабудовамі, за дваром; вольная прастора (Рэч., Слаўг., Ст.-дар.). 2. Месца на сялянскім двары паміж пабудовамі (Мсціслаў. Юрч. НС, 283, Нас., Слаўг., Слуцк. Мал. 181).

НАДЗЕ'Л. Старая мера зямлі ў некалькі дзесяцін (БРС); сядзіба калгасніка (Слаўг.); наогул участак зямлі (Лаг.).

НАДМАГІ'ЛЬНІК. Месца на горцы вышэй могілак (Мсціслаў. Бяльк.).

НАДНЯМО'НЕ. Прастора паабапал р. Нёмана (Стаўбц.).



НАДО'ВЕНЬ. Участак поля каля вёскі (Пол.).

НА'ЖМА. 1. Крынічнае месца на схіле ўзгорка, дзе заўсёды сочыцца вада (Зах. Бел. Др.-Падб., Слаўг.); гразкае месца (Нас.); дрыгвяное месца пад гарой (Слаўг.). Тое ж *нажым, нáціск, нáціскі* (Рэч., Слаўг.), *напор* (БРС). 2. Вялікая колькасць вады пад снегам або пад лёдам у час адлігі (Слаўг., Смален. Дабр.). Тое ж *нажым* (Слаўг., Смален. Дабр.), *нажор* (Мсціслаў. Юрч.), *нáстлыш* (Азяр. Касп.). 3. Прыліў вады ў рэчку; напор вады на плаціну (Слаўг.). Тое ж *напор, нáціск* (Слаўг.).

НА'КА'П. Насыпаны земляны вал, курган; магіла (Слаўг.). Тое ж *накоп* (Нясв., Рэч., Слаўг.).

НАКА'Т. След ад праехаўшай машыны ці каляіна ад калёс (Краснап. Бяльк., Слаўг.); дарога (Пух., Слаўг.).

НА'КРЫЗЬ. Перакрыжаванне дарог (Ст.-дар.).

НА'МАРАЗЬ. 1. Замёрзлая верхаводка на лёдзе; наслаенне лёду ад наплыву вады з крынічных месцаў (Нясв., Слаўг., Шчуч.). 2. Замёрзлая ў паветры або на рэчах пара; дробны снег, шэрань (Слаўг.).

НАМАСТЫ'Р. Манастыр (Слаўг.). □ вул. Намастырская (1577) у г. Магілёве (ІЮМ, вып. 32, ч. 1, 211).

НАМЫ'Ў. Намыты пясок, іл на лузе (БРС). Тое ж *нанос* (БРС).

НАМЯКУ'ША. Месца на лузе, дзе расце мяккая, ядомая трава (Докш.). Тое ж *намя́каць, мя́каць* (Слаўг.).

НАПЛЫ'Ў. 1. Наплыўшая мель у рацэ (Слаўг.). Тое ж *нáплынь, нáплыў* (Слаўг.). 2. Намыты на луг пясок, алювій (Клім. Бяльк., Слаўг.). Тое ж *наток, нáплыў* (Слаўг.). 3. Намытае вадой смецце (БРС). Тое ж *наток, нáплыў* (Слаўг.). 4. Нараст на дрэве на месцы адрэзаных сучкоў або хваравітае патаўшчэнне (БРС). Тое ж *нáплыў, кру́чанне, чачотка* (Слаўг.).

НАРА'. Паглыбленне пад зямлёй з выхадам на паверхню, выкапанае барсуком, бабром, лісой, пацуком, якое служыць ім жыллём (БРС). Тое ж *нор* (Лёзн.), *нурá* (Стаўбц.). 2. Гнілое незамярзаючае балота (Палессе Серб. 1915, 6). Тое ж *норы* (Стол.). □ ур. Лісíныя Норы (лес) каля в. Малева Нясв., ур. Лісíныя Норы (лес) каля в. Шаламы Слаўг., ур. Бабровы Норы каля в. Віравая Слаўг.

НАРЫ'НА. Замеценая снегам дарога (Беш. Касп.).

НАРЭ'З. Вялікі ўчастак зямлі пры хутарной сістэме (Рэч.).

НАСА'ДА. Алея, дрэванасаджэнні паабапал дарогі (Зах. Бел. Др.-Падб.). Тое ж *насáдка* (Слаўг.).
НАСЕ'ЛІЦА. Лужок за гумном (Сен. Касп.).
НА'СПА. 1. Насыпаны земляны вал (Слаўг.). 2. Малады лес на аблозе, пераважна бярозавы (Віц. Нік. 1895); наогул малады лясок (Лёзн. Касп.). Тое ж *нáспачка, нáсыпка* (Віц. Нік. 1895). 2. Гай на высокім месцы, якое выступае сярод навакольных нізін і роўнядзей (Віц. Нік. 1895).
НАСЦІ'Л. Дарога, насланая бярвеннем, голлем і пасыпаная зямлёй (БРС). Тое ж *насцёл* (Сал.).
НА'СЫП. 1. Штучнае земляное ўзвышэнне; курган (БРС). Тое ж *нáгарт, нáсаў, нáгартнішча* (Слаўг.).
НА'ТАП. Конскі след на дарозе, дзе ступае конь, запрэжаны ў воз (Слаўг.), на засеяным полі (Краснап. Бяльк.). Тое ж *тор, топ, следавішча* (Слаўг.).
НА'ЎЗБАЛАЦЦЕ. Месца ўздоўж балота (Слаўг.). Тое ж *наўзболацце, наўзбалаццё, наўзбалатвішча, напаўзбалотвічча, лякалябалотнічча, наўзпаўзбалатоўе* (Слаўг.).
НА'ЎЗБЕ́РАЖЖА. Месца ўздоўж берага ракі, возера (Слаўг.). Тое ж *наўзбярэжжа, напанаўзбéражжа* (Слаўг.).
НАЎЗВА'ЛЛЕ. Месца каля падэшвы гары, дзе звычайна бывае сенажаць (Слаўг.). Тое ж *навызвáлічча* (Слаўг.).
НАЎЗГО'РНІЧЧА. Месца каля вяршыні гары (Слаўг.).
НАЎЗЗАЗЕ'Р'Е. Узвышанае месца каля возера (Слаўг.). Тое ж наўзвазярышча (Слаўг.).
НАЎЗЛУ'ЖЖА. Месца ўздоўж лугу (Слаўг.). Тое ж *наўзлýжышча, наўзлýзенне* (Слаўг.).
НАЎЗРО'ВІЧЧА. Месца ўздоўж рова, яра, канавы (Слаўг.). Тое ж *наўзроўе, напаўзровішча* (Слаўг.).
НАЎКО'ССЕ. Схіл, бок пагорка (Уш.). Тое ж *наўкос, наўскасíна, наўсхонасць* (Слаўг.).
НАХІ'Л. Пакаты схіл гары, узгорка (БРС). Тое ж *нáхіл* (Беш. Касп.).
НАЦЁК. Пясчаны намыў з гары (Слаўг.); вапнавы нарост на столі вапнавай пячоры; сталактыт (Гом.). Тое ж *нáцек, поцек* (Слаўг.).
НЕБАКРА'Й. Частка неба пад гарызонтам; небасхіл (ЛІМ, 1966, VII, 2).



НЕДАБО'РАК. 1. Астатак участка, на якім яшчэ не дабралі лён, каноплі (Слаўг.). Тое ж *недаборкі* (Слаўг.). 2. Стагавішча з сенам (Слаўг.). Тое ж *недаборкі* (Слаўг.).
НЕДАКО'САК. Недакошаная частка сенажаці; малы ўчастак лугу (Рэч., Слаўг.). Тое ж *недакос* (Кузн. Касп., Нас.), *недакоскі* (Слаўг.).
НЕДАСЕ'ВАК. Пусты, недасеяны ўчастак поля; рэдка засеянае поле; нерассеянае насенне, астатак ад сяўбы (Слаўг.). Тое ж *недасéў, недасéвічча* (Слаўг.).
НЕ'МАРАЧ. Лясны, непраходны гушчар; глухое месца (Нас., Слаўг.); балоцістае месца ў лесе, якое завалена суччам (Мсцісл. Бяльк., Нас.). Тое ж *нéмарачча, немярэча, нéмерач* (Слаўг.), *немярэч* (Мсцісл. Бяльк.), *нéмерача* (Клім. Бяльк.), *немярэч, немярэчча* (Мсцісл. Бяльк., Смален. Дабр.).
НЕ'МЕНЬ. Мяжа, рубеж; ускраіна, канец чаго-небудзь (Вілен.). Параўн.: р. Нёман і Нéман (Гродз.).
НЕ'ПРАХАДЗЬ. Непраходнае балота, дрыгва (Пар. ДАБМ). Тое ж *нейсхадзімасць* (Слаўг.), *нытэча* (Сіманавічы Палессе Талст.).
НЕ'ПРЫК. Невялікая рэчка (Ст.-дар.). □ Нéпрык (рэчка і сенажаць) каля в. Пасека Ст.-дар.
НЕРАСЦІ'ЛІШЧА. Месца, дзе нерастуе рыба (БРС). Тое ж *нéрасцішча, нерасцéлішча* (Слаўг.).
НЕ'РУШ. Нярушанае грыбное месца (Я. Колас, 1952, т. 5, 462).
НЕ'ТРА. 1. Глыбокая яма, бяздонне (Нясв., Слаўг.). 2. Глыбокае месца на балоце (Стол.); вялікае непраходнае балота, дрыгва (Палессе Талст., Слаўг.). Тое ж *нéтры* (Рэч.). 3. Зараснік густога маладога лесу (Жытк., Палессе Талст.), непраходны лес, гушчар, пушча (Палессе Талст., Слаўг.). Тое ж *нéтры* (БРС). 4. Поле, якое ніколі не апрацоўвалася (Іў.)
НІ'ВА. 1. Апрацаванае, добра ўгноенае і засеянае поле (БРС). 2. Поле на месцы ўзаранай сенажаці (Тур.); невялікае поле ў лесе (Палессе Лемц. Айк.). 3. Зжатае поле (Слаўг.). 4. Суцэльны ўчастак зямлі аднаго гаспадара (Гродз., Навагр., Мін.). 5. У актах. Валока, якая складаецца з 24 хелмінскіх маргоў (Гарб.). □ в. Новая Ніва Чэрв., ур. Ніва каля в. Віравая Слаўг.
НІ'ЖНЯ. Нізкі луг (Слаўг.). □ ур. Ніжня (нізкі луг), ур. Таўкачоўская Ніжня (заліўны луг) каля в. Дабранка Слаўг.

НІЗ. 1. Нізкае месца каля асновы гары; дол; падгор'е (БРС). 2. Мясцовасць у ніжняй частцы цячэння ракі (Слаўг., Стол.).

НІЗІ'НА. 1. Раўніна, якая размешчана не вышэй як 200 м над узроўнем мора (БРС). 2. Нізкая даліна; вільготная прырэчная мясцовасць (БРС). Тое ж *нізіна́* (Палессе Галст., Слаўг., Сміл. Шат.), *нізіна́, нізбіна* (Рэч.). 3. Нізкае месца на полі, дзе доўга стаіць вада (Слаўг.). Тое ж *нізкота, ніскота* (Жытк., Стол.).

НІЗО'К. Падгор'е; невялікае паглыбленне, упадзіна (Слаўг.). Тое ж *нізінка* (Слаўг.). □ в. Нізок Уздз.

НІ'ЎКА. Засеянае поле; невялікая палоска (Жытк., Слаўг., Стол., Шчуч.). 2. Участак абгароджанага поля на месцы расцяробу (Стол.). □ ур. Ніўкі (поле, сенажаць) каля в. Яскавічы Сал., ур. Ніўкі (поле) каля в. Юшкі Шчуч., ур. Ніўкі (поле на месцы сенажаці) Тур.

НО'РМА. Зямельны надзел — 5 дзесяцін (Ветк.).

НОРТ. 1. Хуткае цячэнне, фарватэр ракі (Прынёманскі край). 2. Месца, якое агібае рака (Навагр.). □ ур. Норт (палетак) каля в. Альхоўка Навагр.

НОЎ. 1. Новае поле, дзе раней былі кусты, лес; цаліна; нанава ўзараная цаліна (Лёзн., Слаўг.). Тое ж *ноўка* (Краснап. Бяльк). 2. Новае месца пасялення (Слаўг.). 3. Новы ўраджай (Слаўг.). □ в. Ноў Лёзн.

НЯЎДО'БІЦА. Неўрадлівая зямля (БРС). Тое ж *няўдобіе* (Ветк., Лёзн., Слаўг.), *няўдоба* (Крыч., Рэч., Слаўг.), *нявыдоба* (Слаўг., Сміл. Шат.), *неўдаба́* (Слаўг.), *няўдобак* (Ваўк. Сцяшк.). □ ур. Няўдоба (балота) каля в. Серкаўка Слаўг., ур. Няўдобіе (луг) Слаўг.

## О

О'БЖА. 1. Палоска збажыны, абжатая з усіх бакоў (Слаўг.). Тое ж *вобжа, вобжавень, абжына́ха* (Слаўг.). 2. Стар. Наўгародская зямельная мера, якая змяшчала ў сабе ў трох палях па 15 дзесяцін, 80 сажняў у даўжыню і 30 у шырыню (Межевая Инструкция 1766 мая 25, гл. V, § 16); колькасць раллі, якую мог узараць селянін за адзін дзень (Русские достопримечательности, изд. Обществом Истории и Древностей Российских при имп. Московском унив. ч. 1, 136).



ОЗ. Насып (у Себежы) з хвалепадобным выгінам верхняга контуру, які выцягнуты ў напрамку руху ледніка (Расія, т. 9, 16).

ОЛЬС. Нізінны альховы лес (Жучк. 1968). □ р. Ольса, л. пр. Бярэзіны.

О'ПАЛЬ. Тое, што і аполе (Іван.). □ в. Опаль Іван.

О'ПАР. Месца на балоце, возеры, якое не замярзае зімой (Стол.).

О'РЫВА. Ворыва, узаранае поле (Стол.).

О'СТРАЎ. Востраў сярод балота; участак лесу сярод бязлеснай прасторы; палянка ў лесе (Палессе Талст.). □ ур. Чорны Остраў (поле, луг, балота, лес) каля в. Кароцічы Стол.

О'СТУП. 1. У актах. Месца ловаў у пушчах і рэках, а таксама права карыстання ў чужых ловах (АЛМ, 1, ук. XVII). 2. Квартал лесу (Пруж.). 3. Ачэплены, запаведны лес пры лоўлі звера (Нас. АУ). 4. Участак пушчы, адведзены для палявання (Стол.). □ в. Оступ Чэрв.

О'ТСЕЎ. Поле, на якім зжата і зноў пасеяна жыта (Стол.).

О'ТЧЫНА. Угоддзі (лес, участак зямлі), якімі карыстаўся бацька і дзе стаялі пчолы; пчальнік (Стол.).

О'ЎСЯНІШЧА. Поле, дзе рос авёс (Стол.). Тое ж *оўсішча* (Жытк., Слаўг., Хойн.). □ в. Оўсішча Сен. (Касп.).

## П

ПААЗЕ'Р'Е. Месца каля аднаго возера; тэрыторыя каля азёр; прыазёрны край (Зах. Бел., Слаўг.). □ Паазер'е Віленскае — адміністрацыйная адзінка ў Заходняй Беларусі да 1939 года.

ПАБО'ЙКІ. Страўленыя, пабітыя жывёлай або птушкай пасевы (Мсцісл. Юрч.).

ПАБЯРЭ'ЖЖА. Узбярэжжа ракі, край лесу, поля (БРС 1937). Тое ж *пабе́ражжа* (Слаўг.). *пабрэжжа* (Нас.).

ПАБЯРЭ'ЖНІЦА. Вуліца або дарога на беразе ракі (Слаўг.).

ПА'ВАДКА. Разліў вады па лёдзе ракі або ў час паўнаводдзя па лузе (Слаўг.). Тое ж *па́ваддзе* (Слаўг.), *па́вадзь* (Кап.), *па́вадкі* (Нас., Сен. Касп., Слаўг.), *паводка* (БРС), *паводдзе* (Слаўг.).

ПАВА'Л. Павалены бурай лес (БРС).

ПА'ВАЛКА. 1. Пялёнка, пласт пылу, гразі на зямлі пасля зімы (Слаўг.). 2. Покрыва плесні, раслiннасць на паверхні стаячага вадаёма, багны, гнойнай жыжы (Меж. Касп., Мсцісл. Юрч. НС, 283, Слаўг.). Тое ж *па́валака* (Нас., Слаўг.). 3. Павуцінне; туман, смуга (Мсцісл, Юрч. НС, 283, Слаўг.). Тое ж *павалока* (БРС).

ПАВАРО'Т. Паваротка дарогі, рог вуліцы, загіб ракі (БРС). Тое ж *пoўратка, поваратка* (Слаўг.), *паваротка* (БРС). □ Ніканаўская поваратка (месца, дзе дарога паварочвае на Слаўгарад) Быx.

ПАВІХА'. Месца, дзе стаіць сухая трава (Ст.-дар.).

ПА'ГАРАК. 1. Месца, вялікая прастора, дзе выгараў лес або балота (Слаўг.). Тое ж *пага́р'е* (Сен. Касп.), *пага́рка* (Беш. Касп.), *пагарэла́ўка* (Слаўг.). □ ур. Пагарэлаўка (луг) каля в. Улукі Слаўг.

ПАГАРЭ'ЛІШЧА. Месца, дзе быў пажар (Гродз., Нясв., Слаўг., Шчуч.). Тое ж *пагарэлле* (Зах. Бел. Др.-Падб.), *пагары́лле, пагары́лішча* (Палессе Талст.).

ПАГАРЭ'Ц. Дрыгва, нізкае, гразкае месца (Усх. Палессе Талст.).

ПАГЛЯ'Д. Адкрытае месца ; добрая бачнасць; далягляд, гарызонт (Слаўг.).

ПАГНО'Й. 1. Урадлівая, угноеная зямля (Зах. Бел. Др.-Падб., Слаўг.). Тое ж *пагнойкі* (Нас.), пагноі (Нас., Слаўг.), *пагноінне* (Гар., Слаўг.), *пагноішча* (Нас., Рэч., Слаўг.). 2. Месца, дзе ляжаў бурт гною; памыйная яма (Слаўг.). Тое ж *пагноішча* (Слаўг., Смален. Дабр., Хоц., Чэр.).

ПАГО'Н. 1. Месца прагону жывёлы на пашу (Глуск. Янк. I, Сал., Слаўг.). 2. Абгароджанае або неабгароджанае месца для адпачынку жывёлы ў полі або ў лесе (Жалуд., Маст.). 3. Штабель дроў ці будаўнічых матэрыялаў у лесе (Слаўг.). 4. След, сцежка, пратаптаная жывёлай у лесе, на лузе, на полі (Рэч., Слаўг., Ст.-дар.).

ПАГО'НЯ. 1. Вузкая лагчына, месца сцёку веснавой ці дажджавой вады (Палессе Талст.). 2. Месца прагону жывёлы на пашу (Слаўг.). □ ур. Пагоня (месца, якое заліваецца вадой) каля в. Кароцічы Стол.

ПАГО'РАК. Невысокае ўзвышша, палогі ўзрогак (БРС). Тое ж *пагорка* (Слаўг.).

ПАГО'СТ. 1. Сяло, у якім ёсць царква (Смален. Дабр.). 2. Могілкі (без царквы); могільнік каля царквы; цвінтар (Смален. Дабр., Стол.). Тое ж *пагосце* (Нас. АУ). □ в. Пагост Брэсц., Віц. (Лемц. Айк.).

ПАГРАБІ'ШЧА. Месца, дзе быў пограб (Жытк., Рэч., Слаўг.). □ ур. Паграбішча (луг) каля в. Заспа Рэч.

ПАГРАБЫ'. Месца, дзе закопваюць здохлую жывёлу (Сал.).

ПАГРАНІ'ЧЧА. 1. Паласа поля наўсцяж мяжы зямельнага абшару (Слаўг.). 2. Пагранічная зона (Слаўг.). Тое ж *паграні́чышча* (Слаўг.).

ПАГУЛЯ'НКА. 1. Аблога, пакінутае поле (Лемц. Айк.). 2. Панскі пляж, месца адпачынку паноў (у многіх месцах Беларусі). □ в. Пагулянка Брэсц., Віц., Гродз. (Лемц. Айк.).

ПАГУ'РАК. Пагорак, узгорак на лузе ці на полі (Віц. Нік. 1895, Дрыс. Бел. дакастр. проза, 257, Жытк., Палессе Талст., Паст., Сміл. Шат., Стол.).

ПАДАЗЕ'Р'Е. Месца каля возера (Слаўг.). □ в. Падазер'е (1827 ЦДГА БССР, ф. 2349, воп. 1, адз. зах. 4, л. 157), а цяпер вуліца ў в. Шаламы́ Слаўг., ур. Падазер'е або х. Андрэеўка Слаўг.

ПАДАЛЕ'ССЕ. Месца каля балота (алёсу), нізкага лугу (Гом., Слаўг.). Тое ж *падале́ссё* (Рэч.). □ саўгас «Падале́ссе» Рэч.

ПАДАЛЕ'ШНІК. 1. Месца каля альховага лесу, альховых кустоў (Слаўг.). Тое ж *падле́шша, падале́шша, падле́шнічча, падляпе́шнічча, падле́шышча* (Слаўг.). 2. Месца пад каронамі вольхаў (Слаўг.). 3. Зараснік травы Asarum europaeum L. у лісцёвых лясах (Маг. «Наш край», 1926, № 2—3 (5—6), 35). □ ур. Падалешнік (поле) каля в. Чарнякоўка Слаўг.

ПАДАСЕ'ЦЦЕ. 1. Месца, дзе стаяла асець або ёўня ў гумне (Слаўг.). Тое ж *падасе́цішча, падасе́тнішча, падосецце, падасе́тнівішча, падасяцішча, пад'ёвінне, пад'ёўнішча, пад'ёвіннічышча* (Слаўг.). 2. Яма перад печчу ў асеці; падасетны праход (Слаўг.). Тое ж *падосець* (Рэч.), *падосецце* (Слаўг.), *авоз* (Нас. 1850, стар. 2, л. 16), *похад* (Расн. Бяльк.).

ПАДАСІ'ННІК. Месца перад асінавым лесам, пад асінамі (Слаўг.).

ПАДАЎЗВА'ЛЛЕ. Месца каля падэшвы ўзгорка; сенажаць (Слаўг.). Тое ж *падва́лле, паду́звалле, падва́льнішча, падва́лічча* (Слаўг.).

ПА′ДБАЛАЦЦЕ. Месца наўсцяж балота (Слаўг.). Тое ж *падбалаццё, подбалацце, падбалоцце, па́дбалатнішча, падбалатоўе* (Слаўг.).

ПАДБЕ′РАЖЖА. 1. Месца, якое прылягае да берага ракі, балота; паласа лесу недалёка ад краю (Слаўг.). Тое ж *падбе́раззе, падбярэжжа, падбярэжышча* (Слаўг.). 2. Месца пад рачным ці азёрным берагам (Слаўг.). Тое ж *падбе́раззе, по́дбережжа* (Слаўг.), *падбярэжжа* (Слаўг., Смален. Дабр.). □ в. Падбярэжжа Пух.

ПАДБЕ′РАЗЗЕ. Месца каля бярозавага лесу, пад бярозамі (Слаўг.). Тое ж *падбяроззе* (Слаўг.), *падбярэзнішча, падбярэзішча* (Краснап.), *падбярэззе* (Бых., Слаўг.). □ в. Падбярэззе Віц., саўгас «Падбярэззе» Валож., ур. Падбярэззе (поле) каля в. Чарнякоўка Слаўг.

ПАДБО′Р'Е. Месца каля бору (Слаўг.). □ ур. Падбор'е (лужок) каля в. Папоўка Слаўг., б. пас. Падбор'е (1926) Васькавіцкага с/с Слаўг.

ПАДВАКО′ННЕ. Месца пад вокнамі хаты (Слаўг.). Тое ж *падвоканне* (Нас., Слаўг.), *падвокнічча, падвакнічча* (Слаўг.).

ПАДВО′РАК. Месца каля хаты; двор (БРС). Тое ж *панадворак* (БРС).

ПАДВО′Р'Е. 1. Месца, дзе быў двор; дворышча (БРС). Тое ж *панадворышча* (Нясв.), *падворычча, подвар'е, падвор'іка, падвор'ішча* (Слаўг.), *падворріка* (Слаўг., Смален. Дабр.), *падворышча* (Рэч.), *панадворак* (БРС). 2. Заезны дом, двор (Віл. Гільт., 273).

ПАДВЫШЭ′ННЕ. Узвышша, прыўзнятае месца (Слаўг.).

ПАДГАЁК. Невялікі малады сасоннік на краю лесу (Ст.-дар.). □ ур. Падгайкі Малы́е (лес) каля в. Пасека Ст.-дар.

ПАДГА′Й. Участак поля (Бярэз. ДАБМ, 511).

ПАДГАРА′. Ніжэйшы ўзгорак (Крыч.). □ ур. Падгара́ (ніжэйшы ўзгорак) каля в. Дзягавічы Крыч.

ПАДГАРО′ДДЗЕ. Сенажаць, якая знаходзіцца ніжэй агародаў і вясной заліваецца вадой (Слаўг.). Тое ж *подгараддзе, падгародзішча* (Слаўг.). □ ур. Падгароддзе (сенажаць каля агародаў) у в. Папоўка Слаўг., ур. Падгароддзе (1764) за Сажом, каля аколіцы Малашкавічы (ІЮМ, вып. 18, стар. 157, 158).

ПАДГАРО′ДЗІЦА. Прыгарадная вёска (Кузн. Касп.). Тое ж *подгараддзеўе* (Слаўг.).



ПАДГО′Р'Е. Месца каля падэшвы гары (Слаўг.). Тое ж *падгараўё, падгорнічча* (Слаўг.), *падгу́р'е* (Брэсц.). □ ф-к Падгур'е (1912) каля в. Усохі Слаўг.

ПАДГРА′ДДЗЕ. Месца на лузе, якое прылягае да грады (Палессе Талст.).

ПАДГРУ′ДАК. Падэшва грудка (Маладз.).

ПАДГУ′МНІ′ШЧА. Месца каля гумна або дзе стаяла гумно (Слаўг.). Тое ж *падгу́ме́нне, падгу́мнічча* (Слаўг.).

ПАДГУ′СЦЕ. Месца каля вусця ракі (Жытк.). □ ур. Нападгу́сце (сенажаць) каля в. Беражцы Жытк.

ПАДДУ′Б'Е. Месца каля дуба або пад дубам (Слаўг.). Тое ж *паддýббе, паддýбенне, паддýбічча, паддýбнічча, паддубкі, паддубе́нства, паддубы́* (Слаўг.). □ ур. Паддубы́ (поле), Паддубкі (поле, сенажаць), Паддýб'е (балота) каля в. Кулікоўка Слаўг., Паддýбічча (поле) каля в. Папоўка Слаўг.

ПАДДУБРО′ВА. Месца ўздоўж лесу (Нясв.). □ ур. Паддуброва (лес, кусты, поле каля лесу) недалёка ад в. Юшкі Шчуч.

ПАДДУ′ЛЛЕ. Месца пад каронай садовай грушы Pirus communis L. (Слаўг.).

ПАД'Е′ЗД. Дарога або роўнае месца, дзе можна пад'ехаць да чаго-небудзь (БРС).

ПАД'Е′ЛІЧЧА. Месца каля яловага лесу (Сал.). □ ур. Пад'е́ліча (балота) каля в. Яскавічы Сал.

ПАД'ЁМ. Участак дарогі, якая падымаецца ўверх па схіле гары (Слаўг.).

ПАДЗАМЁЦІШЧА. Месца каля агароджы з бярвенняў або дзе стаяў замёт (Ветк., Слаўг.). Тое ж *пудзумёцічча, падзамёцічча* (Слаўг.).

ПАДЗЕ′ЛА. Сенажаць, якая раздзяляецца на невялікія ўчасткі кожны год паміж членамі пэўнага калектыву (Слаўг.). Тое ж *падзе́лы* (Слаўг.). □ ур. Падзе́ла (сенажаць) і ўр. Падзе́лы (лясніцкая сенажаць) каля в. Люба́ны Слаўг.

ПАДЗЕ′М'Е. Падзямелле; сярэдневяковая пячора; кратовы хады; падземныя сцёкі вады (Слаўг.). Тое ж *падзе́ммя, падзе́мілля* (Слаўг.).

ПАДЗО′Л. Неўрадлівая шаравата-белая глеба на нізкіх землях (БРС). Тое ж *падзоліца* (Лёзн., Слаўг.), *падзолле* (Рэч., Слаўг.), *падзола* (Чашн. Касп.).

ПАДЗЬ. 1. Упадзіна, яма (Стаўбц. Прышч.). 2. Шкодная мядовая раса; іржаўныя грыбы, якія з'яўляюцца на

бабовых раслінах ад перамены надвор'я (БРС). □ ур. Падзь (нізкае поле) Стаўбц.

ПАДКАСЦЕ'ЛЛЕ. Месца, якое прылягае да касцёла (Чав.). Тое ж *падкасцёлле* (Чав.). □ ур. Падкасцёлле каля в. Доўгі Мох Чав.

ПАДКЛЕ'ТАК. Частка зямельных уладанняў, якая належыць каралеўскаму двару, знаходзіцца ў карыстанні асоб, якія служаць пры яго свірне або клеці (Нас. АУ). Тое ж *падклéт* (Нас. АУ).

ПАДКЛЕ'ЦЦЕ. Месца пад клеццю (Нас., Слаўг.). Тое ж *падклéтнішча, падклéтніцічча, падклéцічча* (Слаўг.).

ПАДКЛЁН. Кляновы лес Acer (Міласл. Меер, 1786, 121). Тое ж *паклен* (Міласл. Меер, 1786, 121).

ПАДКО'ВА. Поле, якое мае форму падковы (Слаўг.). □ ур. Падкова (поле) каля в. Папоўка Слаўг.

ПАДКО'КАЦЦЕ. Поле каля вялікай разгалістай сасны (Краснап.). □ ур. Падкокацце (поле) каля в. Калінаўка Краснап.

ПАДКО'РМАК. Участак сушы паўкруглай формы (Слаўг.). □ ур. Падкормак каля в. Бязуевічы Слаўг.

ПАДКО'ССЕ. Месца каля пясчанай касы (Слаўг.). □ в. Падкоссе Ігум.

ПАДКРУ'ЧЧА. Месца каля рачных кручаў (Карм., Слаўг.). Тое ж *падкручышча, падкручнішча* (Слаўг.). □ ур. Падкручча каля в. Валынцы Карм.

ПАДЛЕ'САК. 1. Малады гадавалы лес (Слаўг.). Тое ж *падýлéсак* (Слаўг.). 2. Нізкае маладое драбналессе ў старым лесе (БРС). Тое ж *падсáда* (Слаўг.), *падрост, подраст, падýраст* (Слаўг.).

ПАДЛЕ'СНЕ. Зямля, на якой расце лес (Сал.).

ПАДЛЕ'ССЕ. Поле (луг) каля лесу (Слаўг., Смален. Дабр.). Тое ж *поўзлессе, подлессе, падлясéўе* (Слаўг.), *падлéсце* (Смален. Дабр., IV, 627), *падлясéйкі* (Нясв.). □ в. Падлéссе і в. Падлясéйкі Нясв.

ПАДЛО'ГА. Роўны лог, які прылягае да рэчкі або балоцістага спуску (Віц. Нік. 1895); падэшва ўзвышша (Слаўг.).

ПАДЛУ'ЖЖА. Прастора, якая прылягае да заліўнога лугу ўздоўж ракі (Слаўг.). □ в. Падлужжа Мсцісл., ур. Падлужжа (поле, луг) каля в. Папараткі Слаўг., в. Падлужжа Глуск., ур. Падлужжа Мсцісл. (1651 МЕВ, 21 мая 1896, № 15, ч. неаф., 271).



ПАДМЕ'ЖЖА. Месца каля мяжы (Слаўг.). Тое ж *падмéжышча, падмяжэўе* (Слаўг.).

ПАДНО'ЖЖА. 1. Месца каля гары, падгор'е (БРС). 2. Месца, дзе ходзяць і ездзяць; бойкая мясціна (Рэч.).

ПАДО'Л. 1. Месца каля падэшвы гары; схіл гары да ракі (Гарад. Касп.). 2. Нізкая мясцовасць, нізіна (Смален. Дабр.). 3. Месца на беразе возера, ракі, дзе ёсць драўляны памост і дзе мыюць бялізну (Ветк., Мсцісл., Слаўг.). Тое ж *подал* (Мсцісл. Юрч.). 4. Узбярэжжа ракі (Нас.). □ ур. Мяхвёдаўскі падол (месца каля рэчкі) у в. Шаламы́ Слаўг., ур. Падол (яма з вадой) у в. Кульшычы Слаўг., ур. Падол (падножжа Уладзімірскай горкі) у г. Кіеве.

ПАДО'ННЕ. Подсціл, памост, месца, дзе стаяў стог сена (Слаўг.). Тое ж *падонкі, падонь* (Слаўг.). □ в. Падонкі Маладз.

ПАДО'РА. Ст.-бел. 1. «Пашенный лес», г. зн. сенажаць на месцы высечкі, якая ўзарана пад поле (Віц. Рам. Мат.). Тое ж *падорка.* 2. Расчышчанае месца пад раллю ў лесе. 3. Дом у лесе для паляўнічых. 4. Хлеў на сенажаці ў лесе. Тое ж *падорня.* □ ур. Падора (лес) Віц. (Рам. Мат.).

ПАДО'СКІ. Месца каля асінніку (Слаўг.). Тое ж *падосні* (Слаўг.). □ ур. Падосні (поле) каля в. Рабавічы Слаўг., ур. Падоскі (лес) каля в. Кульшы́чы Слаўг.

ПАДПА'Р. Месца на балоце, дзе не замярзае ні вада, ні багна (Стол.).

ПАДПЕ'ЧЫШЧА. Месца, дзе быў падпечак (Слаўг.). Тое ж *падпéччышча* (Слаўг.).

ПАДПО'Р. 1. Прыліў, напор веснавой вады ў рэчку, лагчыну (Віц. Касп.). 2. Застой вады ў дрэнажных збудаваннях, канавах (Жытк., Слаўг.).

ПАДПРУ'ДДЗЕ. Месца каля стаўка (пруда), каля плаціны (Крыч.). □ ур. Падпруддзе (луг) каля в. Дзягавічы Крыч.

ПАДПЯРЭ'СЕЛКА. Месца каля перасяленчай вёскі Пярэселка (Гродз.). □ в. Падпярэселка Гродз.

ПАДПЯ'ТНІШЧА. Месца, якое знаходзіцца недалёка ад вугла поля з каморніцкім капцом (Сал.). □ ур. Падпятнішча (поле) каля в. Яскавічы Сал.

ПАДРЭ'ЧЧА. Высокае месца каля ракі (Бабр.). □ в. Падрэчча Кір.

ПАДСА'Д. Поле, якое прымыкае да саду (Слаўг.).

ПАДСА́ДА. 1. Збажына другога ўсходу ці пасля кушчэння (Ветк., Рэч., Слаўг.). 2. Маладая і нізкая трава ў высокім травастоі (Рэч., Слаўг., Смален. Дабр.).

ПАДСКЛА́Д. Двайная баразна, якая ўтвараецца пры ворыве ўсклад (Навагр.).

ПАДСЛЕ́ПЕТ. Бортнае дрэва, у якім вядуцца дзікія пчолы (Рэч.). ☐ ур. Падслепет (луг) каля в. Заспа Рэч.

ПАДСЛІ́ЎЕ. Месца каля сліў Prunus demestica, пад каронамі сліў (Слаўг.). Тое ж *падслівічча, падсліўнічча, падсліўнічышча, падслівянішча* (Слаўг.).

ПАДСМУ́ЖЖА. Невялікая частка зямлі, якая прылягае да доўгай і вузкай паласы, да смугі (Гарб.).

ПАДСО́ЧКА. 1. Сасновы лес, у якім робіцца падсочванне дрэў на корані для збірання смалы-жывіцы (БРС). Тое ж *падсе́чка* (Слаўг.), *падра́ска, падра́сіна* (Вілен.). 2. Месца, дзе высечаны падсочны лес (Слаўг.). ☐ ур. Падсочка (лес) каля в Шаламы Слаўг.

ПАДСТРЭ́ШША. Месца каля будынка пад страхой (Сен. Касп., Слаўг.).

ПАДУЗГО́РАК. Месца каля вяршыні ўзгорка (Краснап. Бяльк.).

ПАДУ́ШКА. Багна, дрыгва (Палессе Талст.).

ПАДХА́ТКІ. Месца каля вартаўнічых або прамысловых хатак (Рэч.). ☐ ур. Падхаткі каля в. Заспа Рэч.

ПАДЦЕ́ННЕ. Месца пад дрэвамі з густой каронай або ў цяньку за будынкамі; паўночны схіл узгорка (Лёзн., Слаўг.). Тое ж *падце́нніца* (Ветк., Слаўг.).

ПАДЦЁКІ. Наносы пяску з поля на сенажаць; крынічныя струменьчыкі на схіле ўзгорка, на лузе (Слаўг.).

ПАДШЫ́Ў. Зараснік-самасейка на месцы ляда (М. Багдановіч. Вершы, 1967, 59).

ПАДЫГРУ́ШКА. Месца пад каронай грушы (Віц.). Тое ж *падыйгру́шша, падыйгру́шнішча, падыйгру́шачча, падыгру́шышча* (Слаўг.).

ПАД'Я́БЛАННЕ. Месца пад каронай яблыні (Слаўг.). Тое ж *пад'я́бланічча, пад'я́бланавішча* (Слаўг.).

ПАД'ЯЗЕ́Р'Е. Месца непадалёку ад возера (Слаўг.). ☐ вул. Пад'язер'е (б. х. Андрэеўка) і вул. Пад'язерре (б. в. Падъезерье) у в. Шаламы Слаўг.

ПАД'ЯЛІ́НЕЦ. Зараснік ядлоўцу (Докш.).

ПАД'Я́М'Е. Месца каля ямы, капальні, глінішча (Стол.); пад пагоркам з укапаным плавільным горнам (Арш.). Тое ж *пад'я́мічча, пад'я́мнічча* (Слаўг.).



ПАЖАРНІ́ЦА. 1. Месца, дзе быў пажар (у лесе ці населеным пункце) (Палессе Талст., Слаўг.). Тое ж *пажа́рышча* (БРС), *пажары́шча* (Крыч. Бяльк., Нясв., Палессе Талст., Пух., Рэч., Сал., Слаўг.), *пажарні́шча, пажарні́чышча* (Слаўг.), *пажары́ска, пажэ́рышча, пажа́р* (Палессе Талст.). 2. Зараснік травы Calamagrostis epigeios Roth. на месцы ляснога пажарышча (Слаўг.). Тое ж *пажарні́шча, пажарні́чышча* (Слаўг.). ☐ ур. Пажарышча (лажок) каля в. Папоўка Слаўг.

ПА́ЖМА. Крынічнае месца, дзе прасочваецца вада (Слаўг.). Тое ж *пажэ́м* (Слаўг.).

ПАЖО́ГА. Гразкае, крынічнае, з халоднай вадой месца (Слаўг.). ☐ р. Пажога (л. пр. р. Пясчанкі) каля в. Шаламы Слаўг.

ПАЗ. Тарфяны кар'ер на балоце, дзе рэзалі на паліва торф (Рэч.).

ПАЗАГАРО́ДДЗЕ. Месца за агародамі, за сядзібамі (Рэч., Слаўг.).

ПАЗАГУ́МЕ́ННЕ. Месца за гумном; глухое месца (Слаўг.). Тое ж *пазагу́менне* (Рэч.), *пазагу́мнічча, пазагумне́чча, пазагумне́чышча* (Слаўг.).

ПАЗАДВО́Р'Е. Прастора за дварамі; глухое месца (Слаўг.).

ПАЗАКРУШЫ́ННЕ. Месца за зараснікам крушыны (Слаўг.). Тое ж *пазакру́шнішча* (Слаўг.).

ПАЗАПРА́СІЛЛЕ. Месца па другі бок прасла, уздоўж агарода (Слаўг.). Тое ж *пазапра́слічча, пазапра́ссе* (Слаўг.).

ПАЗАЧАРЭ́ШША. Месца за цераходўскімі агародамі (в. Цераходўка Слаўг.).

ПАЗВЫ́ШША. Узвышша паміж возерам і ракой (Слаўг.). Тое ж *падвы́шша* (Слаўг.).

ПАЗГО́РАК. Узгорак (Жытк.).

ПАЗЁМ. 1. Гарызонт; гарызанталь (Слаўг.). 2. Чарназём; зямля, багатая перагноем; торф (Слаўг.).

ПАЗО́РЫШЧА. Публічнае месца (Слаўг.). Тое ж *пазор* (Слаўг.).

ПАЗЫ́Б. Паласа хвалістай паверхні вады на рацэ ў ціхую пагоду (Слаўг.).

ПАЙ. 1. Адмераны, выдзелены ўчастак лугу, лесу, засеву, поля; палоска (Слаўг.). Тое ж *па́йка* (Ветк., Рэч., Сал., Слаўг.). 2. Яма з вадой на балоце (Зах. Палессе Талст.).

ПАКА′Т. Лагчынка на схіле ўзгорка, дзе сцякае паток веснавой ці дажджавой вады (Слаўг.). Тое ж *пакатавіна, пакатасць, ход* (Слаўг.).

ПАКА′ЦВІНА. Яма, паглыбленне з пакатымі берагамі на дарозе, на полі, на лузе (Слаўг.). Тое ж *пакоцвіна* (Слаўг.).

ПАКЛА′Д. Залежы карысных выкапняў (БРС). □ в. Паклады Крыч.

ПАКО′ПІШЧА. Магіла; могілкі (Нас. АУ).

ПАКО′С. 1. Паласа сенажаці на шырыню ўзмаха касы (Ветк., Рэч., Слаўг., Стол.). Тое ж *пракос* (БРС). 2. Скошаная сенажаць (Стол.). Тое ж *пакосіска* (Брэсц.), *пакосішча* (Слаўг.), *пакосы, пакоша, пакошля* (Глуск. Янк. II), *пакош* (Баран., Мін.). 3. Сенажаць другога ўкосу; атава (Стол.).

ПАКО′Т. 1. Вымашчаная дарога на балоце (Сен.); 2. Схіл узгорка (Слаўг.). Тое ж *покат* (Слаўг.).

ПАКО′ТВІШЧА. Месца, дзе качаўся конь (Слаўг.).

ПАЛАВІ′ЧЫШЧА. 1. Зжатае поле, на якім расла палавіца-пшаніца (полба, аржа) (Нас.). 2. Зерне наогул (Зах. Бел. Др.-Падб.).

ПАЛАЗАВІ′НА. Санны след; выбітая палазамі каляіна (Слаўг.). Тое ж *палазня́* (Пол.), *палазінец* (Стол.).

ПАЛАННЯ′. Месца на рацэ, дзе не замярзае вада (Ветк., Рэч.).

ПАЛАСА′. Адмераны ўчастак поля, лугу, пожні, засеву; шнур зямлі (БРС). Тое ж *палоса* (БРС), *палоска* (Ветк., Глуск. Янк., Слаўг.). □ ур. Палоса (поле) Стаўбц., в. Палоскі Чав. (Опис. Могил. музея, 1898, 76).

ПА′ЛАЧНІК. Малады лес (РБС).

ПАЛЕ′СІЦА. Лясное месца (Нас.).

ПАЛЕ′ССЕ. Лясістая і балоцістая мясцовасць (Рэч., Слаўг.). □ Палессе — лясная частка Столінскага р-на, в. Палессе Палескай вол. Маг. губ., Палессе — паўднёвая частка Беларусі.

ПАЛЕСЦІ′НА. Пясчанае, неўрадлівае месца (Гродна). □ ур. Палесціна — левабярэжжа Нёмана ў г. Гродна.

ПАЛЕ′ТАК. 1. Аблозжная зямля (Лельч.). 2. Абшар поля, дзе сеюць звычайна адну культуру (БРС); наогул поле, зямля (Ваўк. Сцяшк.); невялікі ўчастак поля (Стаўбц. Прышч.); нязжатая збажына (Глуск. Янк.). 2. Ворнае поле, якое дзеліцца на роўныя часткі (Мін. Зял., Нясв.) для севазвароту (Нясв.). □ ур. Палетак (лес) і Палеткі (поле) Стаўбц. (Прышч.).

ПАЛІГО′Н. Вялікі ўчастак поля, дзе праходзяць вайсковыя вучэнні (БРС). Тое ж *манеж* (Ваўк. Сцяшк.).

ПА′ЛІК. Межавы калок з надпісам прозвішча, каму адмераны ўчастак поля, сенажаці, пасеву; адмераная пайка (Слаўг.). Тое ж *паль* (Палессе, Лемц. Айк.).

ПА′ЛІЧЧА. Месца з палямі ад былога моста (Слаўг.).

ПА′ЛКА. Паласа; участак, адмераны драўляным брыгадзірскім цыркулем або палкай, роўнай яго даўжыні (Слаўг.). Тое ж *казёл, казюлька, казу́лька* (Слаўг.). □ в. Па́лкі Бых.

ПАЛО′Й. 1. Абалонь; упадзіна, бераг лугу (Даль, III, 263). 2. Праліўны дождж (Лях. Араш. 92). □ х. Палой (Спіс., 1910, 29), а цяпер в. Палоеўка Чав.

ПАЛО′М. Новае поле на месцы расчышчаных трактарам кустоў; цаліна (Лёзн.). □ ур. Палом (поле) каля в. За́гараднае Лёзн.

ПАЛО′НКА. Прасечаная ямка ў лёдзе (БРС). Тое ж *па́найка* (Мсцісл. Юрч.), *па́нейка* (Зах. Бел. Др.-Падб.), *па́нійка, па́няйка, па́нюйка* (Слаўг.), *па́нійка, па́ныйка* (Смален. Дабр.). □ в. Палонка Свісл., р. Палонка, р. Паланéйка Віц. (Рам. Мат.).

ПАЛО′НЬ. Чыстае, адкрытае месца без лесу і кустоў, свабоднае для пашы або касьбы (Зах. і Цэнтр. Палессе Талст.).

ПА′ЛУЖ. Месца каля лугу (Чэр.). □ в. Палуж Чэр.

ПАЛУСА′ДНІК. Кветнік пад вокнамі хаты (Рэч.).

ПАЛХАВІ′НА. Купка зямлі, якую нарыў крот (Гродз.). Тое ж *полх, палхавіны* (Гродз.).

ПАЛЫ′НЯ′. Гладкая паласа на вадзе, якая ўтвараецца ад моцнага, раптоўнага павеву ветру (Гродз.).

ПАЛЯВІ′ЦА. Бязлесная прастора, палявая старана (Краснап.). □ Палявіца (вв. Клясін, Малíшына, пас. Буходзькава) Краснап.

ПАЛЯ′Д. Аблозжная зямля (Пін.).

ПАЛЯ′ДАК. 1. Поле, якое першы раз арэцца пасля высечкі лесу (Сен. Касп., Слаўг.). Тое ж *паля́дка* (Краснап. Бяльк.). 2. Аблозжная зямля на месцы ляда на другі, трэці год (Слаўг.). □ ур. Антонава Паля́дка (поле) каля в. Кульшычы Слаўг., ур. Паля́дкі (луг) каля в. Дабранка Слаўг., ур. Лагу́таў Паля́дак (лес) каля в. Любаны Слаўг.

ПАЛЯ́НА. 1. Луг або поле; невялікая роўная прастора сярод лесу (БРС); гальная сенажаць сярод балота (Ст.-дар.). Тое ж *паля́нка* (Жытк., Лёзн., Рэч., Ст.-дар., Стол.). 2. Поле на месцы высечанага лесу, узаранае першы раз (Рэч.); поле на грудку сярод балота або лугу (Рэч., Стол.); асобнае поле (Сал.). Тое ж *паля́нка* (Рэч., Сал., Стол.). □ ур. Кулі́нкіна Палянка (лог) каля в. Шаламы Слаўг.

ПАЛЯЎШЧЫ́НА. Вялікая бязлесная (без заліўных лугоў) тэрыторыя (Слаўг.). □ Паляўшчына (вв. Рагі, Прудок, Добры Дуб, Рэкта) Слаўг., Паляўшчына (вв. Сакалоўка, Лабанаўка) Чэр.

ПА́МЕГ. Хмызняк (Сал.). Тое ж *памяжок* (Сал).

ПАМЕ́ЛЬНІК. Малады сасоннік-самасейка; густое драбналессе, кусты (Стол.).

ПАМЕ́СЦЕ. Зямельныя ўладанні памешчыка; двараэц (БРС).

ПАМЁТ. Абложная зямля (Леп., Пол.); пустуючая зямля (Кузн. Чашн. Касп.). □ в. Памё́тнікі Пол., ур. Памёт (высокая гара) каля в. Чарсвяны Уш.

ПАНАДВО́Р'Е. Неабгароджанае месца (Ст.-дар.); вольная прастора (Слаўг.).

ПАНІЗОЎЕ. Нізіна, нізкае месца ў ніжнім цячэнні ракі (Жытк.). □ в. Панізоўе Віц.

ПАПАДГО́РЫЧЧА. Спадзісты і зручны для ворыва схіл гары; месца каля падэшвы гары (Слаўг.). Тое ж *пападгорычышча, падпадгор'е* (Слаўг.).

ПАПАДЗАГО́РЫЧЧА. Пакатасць гары ці ўзвышша (Слаўг.).

ПАПА́Р. 1. Незасеяная ралля, якая рыхтуецца для пасеву азімых (БРС). Тое ж *папа́рына* (Глуск. Янк., Сал.). 2. Поле пасля зжатага жыта (Ст.-дар.). 3. Паша на адпачываючым адзін год полі (Слаўг.).

ПАПА́С. Паша, выпас (БРС).

ПАПАЎЗГО́Р'Е. Месца на спадзістым схіле гары, паміж вяршыняй і падэшвай (Слаўг.). Тое ж *папаўзгорычча, папаўзгорычышча, папаўзгорре, папаўзгоркінне* (Слаўг.).

ПАПАЎЗРЭ́ЧЧА. Месца ўздоўж рэчкі (Слаўг.). Тое ж *папаўзрэчышча, панапаўзрэчышча* (Слаўг.).

ПА́ПЕРНІК. Зараснік папараці (Слаўг.). Тое ж *па́парацъ* (БРС), *па́перэтнік* (Сал., Слаўг.), *па́пнік* (Слаўг.).



ПАПЕ́РНЯ. Ст.-бел. Папяровы млын (XVI—XVII стст.). □ в. Паперня Лід., в. Паперкі (1745), а цяпер в. Па́параткі (Па́паратка, Па́парацъ) Слаўг.

ПАПЛАВІ́ШЧА. Сенажаць на абалоні (Ст.-дар.). □ ур. Паплаві́шча (сенажаць) каля в. Пасека Ст.-дар.

ПАПЛАВО́К. Невялікі сухадольны лажок у канцы агародаў (Ветк.). Тое ж *паплоўчык* (Глуск. Янк. II).

ПАПЛА́Ў. Заліўны луг (Слаўг.); нізіна каля балота, на якой расце мурог (Стол.). Тое ж *паплаве́* (Палессе Талст.).

ПАПО́ЎКА. Зямля, угоддзі, якія належалі царкве, папу і прычту (Слаўг.). □ ур. Папоўка (сенажаць) каля в. Любаны Слаўг., р. Папоўка каля в. Целяшы Слаўг., в. Папоўка Слаўг.

ПАПЯЛІ́ШЧА. Месца, дзе згарэў дом, двор (БРС); вогнішча (Быx., Смарг.). Тое ж *папялі́ска* (Нас. АУ), *папялённе, попелішча* (Жытк.), *папалішча* (Смарг.), *попелішча* (БРС), *попільішча* (Навагр.).

ПАПЯРО́ЧКА. Папярочны ўчастак поля, палоска, папярочная баразна, наогул папярочнае ворыва, якім закругляюць доўгі загон (Слаўг., Стаўбц. Прышч.); папярочная дарожка (Стаўбц.. Прышч.). Тое ж *папярэчка* (Слаўг., Стаўбц. Прышч.), *пяра́к* (Пух. Шат.).

ПАР. 1. Зямля пасля ўборкі пасеваў, якая служыць пашай для жывёлы (Мін. Зял. 1864). 2. Зябліва, асенняе ворыва (Рэч.).

ПА́РАНІНА. 1. Папар; адпачываючае адзін год поле, на якім сеюць азімыя (Жытк., Касц. Бяльк., Лёзн., Маз., Нас., Слаўг., Стол.). Тое ж *па́рына* (Мсціcл., Слаўг.), *пар* (паўсям.), *па́рініна* (Касц. Бяльк., Слаўг.). 2. Пакінуты папар пад пашу; аблога (Крыч., Слаўг.); часовы папас на папары (Лёзн., Слаўг., Тал. Мядзв.).

ПАРАСА́ДНІК. Кветнік, гародчык для расады і высадкаў (Слаўг.). Тое ж *пілі́са́днік* (Слаўг.).

ПАРАСЛЯ́. Бор; чысты радкаваты сасновы лес, у якім мох і дзе-нідзе рэдкія травінкі або верасок расце (Нар.). Тое ж *парасле́* (Нар., Палессе Талст.), *парость* (Жытк.).

ПА́РАСНІК. Зараснік; малады лясок; драбналессе (БРС). Тое ж *парасля́* (Сал., Стол.), *пароснік* (Лёзн.), *па́руснічак* (Калінк.), *парасе́лькі* (Маз., Талст.), *па́расць* (Мсціcл. Юрч.), *порасць, па́рась, порась* (Слаўг.), *паросцень* (Краснап. Бяльк.), *порасля* (Стол.).

ПАРАХРЭ'СТ. Месца, дзе перакрыжоўваюцца дарогі (Рэч).

ПАРНЯ'. Месца, будынак, дзе парацъ і гнуць абады, дугі, палазы (Краснап. Бяльк., Слаўг.). □ ур. Парня (луг) каля в. Крамянка Слаўг.

ПАРО'Г. Камяністае ўзвышэнне на дне ракі (БРС).

ПА'РУ'БКА. Браканьерская суцэльная ці выбарачная высечка ў лесе (Слаўг.).

ПАРЭ'ЧЧА. Месца каля рэчак і рачулак (Слаўг.). Тое ж *падрычча* (Кам.), *панадрэчча* (Слаўг.). □ в. Парэчча Леп., в. Парэчча Кастр.

ПАС. 1. Лесапаласа; нешырокая паласа лесаахоўнай зоны (Слаўг.). Параўн.: «На Вóлзі пысадзілі дубóвыя пасы́» (в. Віравая Слаўг.). 2. Састаўная частка вясёлкі (Стол.).

ПАСА'Д. Стар. Рад дамоў, вуліца ў два рады хат; слабада, пасяленне рамеснікаў.

ПАСА'ДА. Сядзіба (Хоц. Бяльк.). □ в. Пасада Гродз. (Лемц. Айк.).

ПАСА'ДЗЕЦ. Стар. Невялікі горад. □ в. Пасадзец Віл., в. Пасадзец Плешч.

ПАСА'ДКА. Прысады дрэў каля вуліцы, вакол хаты, двара, паабапал дарогі, кругом саду (БРС). Тое ж *прасáда*. Параўн.: Сярод прасад — гасцінец біты (Я. Купала).

ПА'САДКА. 1. Небяспечнае, непрыкметнае і глыбокае месца; незакапаны калодзеж без верхняй часткі зруба (Слаўг.). 2. Пастка для пацукоў, ваўкоў, лісіц (Слаўг.).

ПА'СЕКА. 1. Поле на месцы высечанага лесу (БРС); ляда (Смал.). 2. Месца, дзе стаяць ці стаялі вуллі (паўсям.). 3. Месца, дзе высеклі лес (БРС). Тое же *пасéка* (Слаўг.). 4. Участак лесу, прызначаны для высечкі (БРС). 5. Паша, выпас; луг на месцы высечанага лесу (Барыс., Стаўбц.). □ в. Пасека Ст.-дар., ур. Вашчы́лава Пасека (поле, лес) каля в. Шаламы Слаўг., ур. Ананьева Пасека каля в. Ст. Каменка Слаўг., ур. Пасека (луг) каля в. Пруды Стаўбц.

ПАСЕ'ЛІШЧА. 1. Месца, дзе быў старажытны населены пункт (БРС). 2. Пасяленне, населены пункт (БРС).

ПАСЕ'ЛЯ. Сядзіба, двор; дворышча (Жытк., Стол.).

ПА'СЕЧ. Месца, дзе высеклі лес пад поле, сенажаць **(Слаўг.)**.



ПАСЁЛАК. 1. Невялікае пасяленне недалёка ад вёскі, горада (БРС). 2. Новая вуліца ў вёсцы, якая ўзнікла з жыхароў-высяленцаў (Слаўг.). □ вуліцы ў в. Кáбіна Гарá Слаўг.: Крамя́нскі пасёлак, Рудня́нскі пасёлак.

ПА'СІШЧА. 1. Абгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе (Віл.). 2. Месца, дзе быў пчальнік. (Слаўг.). □ ур. Пасішча (поле) каля в. Шаламы Слаўг.

ПАСМЕ'ЦІЦА. Месца, на якое выкідваюць смецце (Грыг., 1838—1840).

ПАСТАЎНІ'К. 1. Месца, для адпачынку жывёлы ў полі або ў лесе (БРС). 2. Невялікая сенажаць каля агарода (Уздз.). 3. Абгароджаная паша (Стаўбц. Прышч.). 4. Малады, рослы лясок (Лун.). □ ур. Пастаўнік (абгароджаная паша) Стаўбц.

ПАСТА'ЦЬ. Паласа паспеўшага жыта (Краснап. Бяльк., Нас.).

ПАСТО'Й. 1. Абгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе (Мядз., Слаўг.). Тое ж *пастоішча* (Слаўг.). 2. Месца, дзе збіраюцца і падоўгу стаяць людзі; рынак (Слаўг.). Тое ж *пастоішча, пастая́нне* (Слаўг.).

ПА'СУШ. 1. Сенажаць з зазімавалай травой (Рэч., Слаўг.). Тое ж *пáсушнік* (Глуск. Янк. II). 2. Сухая папарацъ у лесе ўвосень. (Слаўг.).

ПАСЫ'. Пуціна, тракт (Летопись Самовидца. Кіеў, 1878, 395).

ПА'СЬІНЫ. Парасткі ад карэння сліў, лазы, парэчкі, вішняў або вакол бярозавых, вярбовых пнёў (Слаўг., Ст.-дар.).

ПАСЯЛЕ'ННА. Сельбішча; плошча, занятая пасялішчам (Стол.). □ ур. Пасяленна (поле) каля в. Кароцічы Стол.

ПАСЯРО'ДАЎКА. Цэнтр, сярэдзіна вёскі (Слаўг.). □ Пасяродаўцы — вуліцы в. Любáны Слаўг.

ПАТАЛО'ЧЫШЧА. Месца, дзе адпачываў чалавек (Мін., Я. Колас, т. 6, 1952, 279). Тое ж *паталоча, поталач* (Слаўг.).

ПАТАПЕ'ННЕ. Месца, якое заліваецца вадой у час дажджоў, разводдзя, навадненння (Слаўг.).

ПАТАПЕ'ЧА. Багністае балота (Мсцісл., Слаўг.). Тое ж *патапéнне* (Слаўг.).

ПАТА'ШНЯ. Ст.-бел. Месца ў лесе, дзе было прадпрыемства, на якім выраблялі паташ. □ в. Паташня Віц., Гродз., Маг. (Лемц. Айк.).

ПАТО'К. Ручай, невялікі струмень вады ад крыніцы або ў час сцёку дажджавой ці веснавой вады (Маз., Паст.).

ПАТО'КА. Праточны ручай у балоце, які звычайна не замярзае і з'яўляецца вытокам ракі ці рэчкі (Шчуч.). □ в. Патока Шчуч.

ПАТО'ПА. Месца, якое заліваецца вадой; абалонь; навадненне; вялікія дажджы; непраходнае балота, дрыгва (Слаўг., Чав.). Тое ж *патоп* (Слаўг.).

ПАТРА'ВА. Страўлены жывёлай травастой на лузе, пасеў, усходы лесу (БРС).

ПАЎВЕ'РАЦЕНЬ. Стар. Мера зямлі, адлегласці (Я. Колас, т. 3, 1952, 45).

ПАЎВЫ'СПА. Пясчаны паўвостраў (БРС).

ПАЎГЕ'КТА'РА. Сядзіба калгасніка (Маг.). Тое ж *паўгэктара, паўгэктар, паўгектáр* (Слаўг.).

ПАЎДЗЁН 1. Абгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе (Докш., Круп.). 2. Паўднёвая частка свету, поўдзень (Грыг. 1838—1840, Слаўг.). Тое ж *паўдня́* (Слаўг.). 3. Паўднёвы, сонечны схіл гары (Слаўг.). Тое ж *паўдзéнне, паўдзёнак* (Слаўг.).

ПАЎЗБАЛО'ЦЦЕ. Месца ўздоўж балота (Слаўг.). Тое ж *паўзболацце* (Слаўг.).

ПАЎЗБЕ'РАЖЖА. Месца ўздоўж берага ракі, поля лесу, лугу (Слаўг.). Тое ж *паўзкрáечча, паўзбярэжжа, пáўзберажжа, пáўзберазенне, пáўзбéражанішча* (Слаўг.).

ПАЎЗБО'ЧЧА. Месца на схіле канавы, узгорка (Слаўг.).

ПАЎЗВА'ЛЛЕ. Ніжняя адхонная частка гары, узгорка ў выглядзе ўступаў; падэшва гары (Слаўг.).

ПАЎЗГО'Р'Е. Перадгор'е, схіл гары ў выглядзе ўступаў, наплываў; частка схілу гары ніжэй вяршыні і вышэй узвалля (Слаўг.).

ПАЎЗГРАНІ'ЧЧА. Месца паабапал мяжы і ўздоўж яе (Слаўг.). Тое ж *паўзмéжжа* (Слаўг.).

ПАЎЗГУ'МНІ'ЧЧА. Месца вакол гумна; за агародамі (Слаўг.).

ПАЎЗДАРО'ЖЖА. Месца, паласа ўздоўж дарогі (Слаўг.). Тое ж *пры́даражжа, пры́дараж, прыдарожжа* (Слаўг.). □ ф-к Прыдарожжа (Віц. К. 1851).

ПАЎЗКАНА'ВІЧЧА. Мéсца паабапал ці каля канавы (Слаўг.). Тое ж *прыканáвічча, прыканáвінне, паўзканáвічышча, паўзканáвішча* (Слаўг.).



ПАЎЗЛЕ'ССЕ. Месца ўздоўж лесу (Слаўг.). Тое ж *поўзлессе, паўзлéсішча* (Слаўг.).

ПАЎЗЛО'ЖЖА. Край логу або край поля ўздоўж логу (Слаўг.).

ПАЎЗЛУ'ЖЖА. Прасцяг уздоўж лугу (Слаўг.). Тое ж *прылу́жжа* (Слаўг.).

ПАЎЗНІ'ЗЗЕ. Месца каля падэшвы гары, паміж гор, узгоркаў (Слаўг.).

ПАЎЗПО'ЛЛЕ. Месца ўздоўж поля (Слаўг.).

ПАЎЗПРА'СІЛЛЕ. Месца каля прасла і ў сярэдзіне абгароджанага ўчастка (Краснап. Бяльк., Слаўг.). Тое ж *паўзпрáслічча, паўзпрáснічча, прáснічча, прáслішча, прáслінне* (Слаўг.).

ПАЎЗРО'ВІЧЧА. Месца каля рова (Слаўг.). Тое ж *паўзроўе, прыроўе, прыровічча* (Слаўг.).

ПАЎЗРЭ'ЧЧА. Прырэчная сенажаць (Слаўг.). Тое ж *прырэчча, прырэчышча* (Слаўг.).

ПАЎРЭ'ЗА. Участак зямлі 36 га (Стол.).

ПАЎСТА'НАК. Невялікая чыгуначная станцыя (БРС).

ПАЎЧВЭ'РТКА. Палавіна чацвёртай часткі гектара (Стол.).

ПАХАДЫ'. Глухія патаемныя мясціны, сцежкі; хованкі (Ст.-дар.). Тое ж *хады́* (Слаўг.).

ПА'ХАНЬ. Узаранае ці засеянае поле (Слаўг.). Тое ж *пáхаць* (Лёзн., Слаўг.), *пáхата* (Рэч., Ст.-дар.), *пашня́, пашэнька* (Слаўг.).

ПА'ХАЦЬ. Поле, засеянае ўпершыню (Докш.).

ПАХО'ВІШЧА. Бліндаж (Гродз.); месца хованкі ад ворагаў; сховішча (Слаўг.).

ПАХО'Д. Бойкае месца, дзе ходзяць і ездзяць (Слаўг.).

ПАХО'НАСЦЬ. Адхон, спад гары, берага (Нясв., Слаўг.).

ПАХО'Ў. Пограб, склеп (Гродз., Зах. Бел. Др.-Падб.).

ПА'ЦЕПНІК. 1. Дробны хмызняк; кусты (Віц., Нас., Тал. Мядзв., Сен. Чашн. Касп., Слаўг.). Тое ж *пáцяпнік* (Мсцісл. Юрч., Слаўг.), *пашы́йнік* (Лёзн.), *поцябнік* (Слаўг.), *поцяпнік* (Слаўг., Смален.). 2. Дробныя бярозавыя дровы (Маг. губ. вед., 1854, № 47, 843).

ПА'ЦЕПНІШЧА. Абшар дробнага зарасніку; месца, дзе высечаны нізкарослы параснік (Слаўг.). Тое ж *поцябнік, поцябкі* (Слаўг.).

ПАЦЁКІ. 1. Намывы пяску пасля ліўневага дажджу (Мсцісл. «Маладосць», 1968, №12, 44). 2. Тоненькія ручайкі на крынічным месцы; мокрае месца (Слаўг.). Тое ж *поцяк, поцякі, поцягі, пацягвіны* (Слаўг.).

ПАЦЯ'ЖЫНА. Лагчына паміж грудоў, узгоркаў; нізкае месца падоўжанай формы (Стаўбц.). □ ур. Пацяжына (сенажаць, лес) Стаўбц. (Прышч.).

ПАЦЯРО'Б. Сенажаць на месцы высечанага лесу або высерабленых кустоў (Лях.). Тое ж *пацярэбак* (Стол.), *поцяраб* (Гарад. Касп.), *поцераб* (пагранічча Ігум. і Бабр. пав. Мін. губ. Серб. 1915, 4, Стол.). □ в. Цёрабут Мін. (Серб. 1915, 4).

ПАЧЫ'НАК. 1. Новае поле на месцы ляда (Слаўг.). Тое ж *пачын* (Слаўг.). 2. Першая сяліба; выселак, маленькая вёсачка; новасялібнае месца (Нас. АУ). Тое ж *пачын* (Слаўг.). □ в. Замошша Пачынак Віц. (Рам. Мат.), г. Пачынак Смален. вобл.

ПА'ША. 1. Месца, дзе пасецца жывёла (БРС). Тое ж *пажа* (Глуск. Янк. І, паўдн. ч. Слуцк. пав. Нарысы, 108, р. Пціч. Серб. 1915, 39, Сал., Стол.), *падбішча* (Маз.), *пазвішча* (Сал.), *пазбішча* (Леп., Слаўг.), *паства* (Жытк., Нас. АУ, Рэч., Слаўг., Уш.), *паста* (Зах. Бел. Др.-Падб., Слаўг.), *паствіска* (Нас. АУ), *паставень* (Сядл. губ. Бес. 310), *пасціва* (Слаўг.), *пасцьва* (Нас. АУ), *пасавіска* (Зах. Палессе Талст.), *пасвішча* (Гродз., Смарг.), *пасбішча* (Лаг.), *пзбішча* (Докш.). 2. Ворная зямля (Нас.).

ПАШНЯ'. 1. Поле, засеянае збожжам (Слаўг.). Тое ж *пашніца* (Слаўг). 2. Ралля (Нас., Сміл. Шат.). 3. Насенне ўсіх збожжавых культур, лёну, канопляў, бульбы, гародніны (Слаўг.). Тое ж *пашніца* (Слаўг.).

ПАШЫБЕ'НЬ. Ухабістая дарога (Вілен.).

ПАЯЗЕ'Р'Е. Месца ўздоўж возера, па той бок яго (Слаўг.). □ в. Паязер'е (1792 ЦДГА БССР, ф. 2349, воп. 1, спр. 1, л. 77) каля в. Шаламы Слаўг.

ПЕ'ЛІКА. Жоўты пясок (Барыс.).

ПЕ'ЛЬКА. 1. Прасечаная палонка ў лёдзе на рацэ (БРС); глыбокае месца ў стаячай вадзе (Пар.). Тое ж *пеля* (Пар.). 2. Паглыбленне круглай формы, часта з вадой (Ст.-дар.); невялікая махавая або сенажатная нізіна з вадой сярод поля (Глуск., Палессе Талст., Пар., Ст.-дар.). Тое ж *пель, пелка* (Глуск. Янк. І), *пель, пеля* (Палессе Талст., Пар., Ст.-дар.). 3. Больш сухое месца сярод балота, часам парослае хмызняком (Палессе). Тое ж *пеля, пея* (Палессе Талст.). □ ур. Пеля ці Піля (поле з балотам) каля в. Пасека Ст.-дар.

ПЕНЬ. 1. Частка спілаванага ці зламанага дрэва, якая засталася пры зямлі (БРС); месца, якое займае пень (БРС). Тое ж *пнішча, пенішча, пёнік* (Слаўг.), *пніва* (Нас.). 2. Неабжытае месца; будучае поле і новае пасяленне, сяліба, звычайна на месцы лесу (Рэч., Слаўг.). 3. Калода, вулей пчол (Слаўг.).

ПЕРАБЕ'ЖЫШЧА. Адкрытае або зручнае месца для перабягання звяроў з аднаго ляснога масіву ў другі (Слаўг., Сміл. Шат.).

ПЕРАБРО'Д. Мелкі брод; месца, дзе пераходзяць і пераязджаюць раку, азярыну (Глуск. Янк. І). Тое ж *пераброддзе* (Віц., Слуцк.). □ в. Пераброддзе Міёр.

ПЕРАВАЛО'КА. Месца, дзе што-небудзь пераваланкавалі (лодку, сетку) (Рэч.). □ ур. Перавалока (луг) каля в. Заспа Рэч.

ПЕРАВА'РА. Піваварня (Нас. АУ).

ПЕРАВЕСІШЧА. Стар. Гай для лоўлі птушак; месца, дзе перавешваліся на дрэвах або на пастаўленых калах сеткі для лоўлі птушак (Іпацьеўскі летапіс, 945 г.).

ПЕРАВО'З. Месца, дзе перавозяць цераз раку (БРС).

ПЕРАВО'Р. Пераааранае поле пасля капання бульбы; другі раз узаранае поле; вымаклы і другі раз заараны пасеў (Слаўг.). □ ур. Перавор (поле) каля в. Яскавічы Сал.

ПЕРАВУ'ЗІНА. Перашыек; вузкая частка паўвострава («Наш край», 1926, № 8—9 (1—12), 49).

ПЕРАВУ'ЛАК. Папярочная вуліца (Нясв., Слаўг. Стол., Шчуч.).

ПЕРАГО'Н. 1. Месца на полі, праз якое пераганяюць жывёлу з адной пашы на другую (Слаўг.). Тое ж *перагонная пожня* (Хоц.). 2. Месца цераз рэчку, дзе пераганяюць статак на другі бок (Краснап. Бяльк.). 3. Вузкая і доўгая паласа раллі (Азяр. Касп.). 4. Пераналачны пункт; заезны двор; адлегласць паміж заезнымі дамамі (Слаўг.). □ в. Перагон Слаўг.

ПЕРАДО'Л. Месца, дзе доўга стаіць вада і вымакае пасеў; ніз, нізкая мясцовасць (Стол.).

ПЕРАКАВІ'К. Градка, якая арэцца ўпоперак паласы, калі нельга правесці плугам па даўжыні да самага канца загона (Сміл. Шат.).

ПЕРАКА'ЛЛЕ. Адлегласць паміж двума аб'ектамі; прамежак (Жытк.). □ ур. Перакалле каля в. Беражцы Жытк.

ПЕРАКА'Т. Мелкая частка ракі (БРС). □ б. пас. Перакат (1926) Васькавіцкага с/с Слаўг.

ПЕРАКО'П. 1. Месца, перакапанае ровам, канавай, траншэяй, звычайна на дарозе, кругом саду, у лесе на выпадак пажару (Краснап. Бяльк., Слаўг., Шчуч.). Тое ж *перака́п* (Слаўг.). 2. Перакапаны канавай перашыек паўвострава (Рэч.). Тое ж *пяракоп* (Рэч). □ ур. Перакоп (луг на востраве, за перакапанай канавай) каля в. Заспа Рэч.

ПЕРАКО'С. 1. Месца на сенажаці, скошанае за скрыўленай мяжой пэўнага ўчастка (Нас., Слаўг., Сур. Касп.). Тое ж *перакосак* (Слаўг.). 2. Неахайна скошаны ўчастак лугу, які перакошваюць другі раз (Слаўг).

ПЕРАКРО'СТАК. 1. Месца скрыжавання дарог, вуліц (Бых., Докш., Леп., Маз., Слаўг., Хойн.). Тое ж *перакрост* (Смарг.), *перакростка* (Маладз.), *перакрэст* (Смарг.), *перакросна дарога* (Маз.), *перакрэсна дарога* (Жытк.), *крыжава́я дарога* (Слаўг.), *перахростак* (Уш., Слаўг.), *перахростка* (Гродз., Слаўг.). 2. Месца, дзе раздвойваецца дарога (Бых.).

ПЕРАЛА'ГА. 1. Плошча зямлі, узараная да адпачынку (Слаўг.). 2. Хваля дажджавых хмар увосень (Слаўг.).

ПЕРАЛА'З. Месца, дзе пералазяць цераз агароджу, каля якой ёсць па адной ступеньцы паабал; пераход, вароты з асобных адсоўных жардзінак (БРС). 2. Месца, дзе перабягаюць звяры (Смален.). □ ур. Пералаз (балота) каля в. Бахань Слаўг.

ПЕРАЛЕ'САК. Невялікі лес, які аддзелены палянамі ад іншых лясных участкаў, або рэдкі лес, які злучае лясныя масівы (Крыч. Меер, 1786, 112, Нясв., Слаўг., Шчуч.). Тое ж *перале́сянак* (Слаўг.). □ б. х. Пералесянкі (Свенскаполле) Слаўг.

ПЕРАЛЁТ. Прастора паміж чым-небудзь; водступ паміж тэлеграфнымі слупамі, паміж дварамі ў вёсцы (Слаўг.).

ПЕРАЛО'Г. 1. Абложная зямля (вярхоўе рэк Бярэзіны, Віліі, Нёмана, Шчары і сярэдняе цячэнне Пцічы ДАБМ, к. 275, Мін. Нарысы 372, Мін. Зял. 1864, 90, Ст.-дар., Шчуч.). Тое ж *паралога* (Жытк.), *пласкі́* (Ганц.). 2. Луг сярод поля або лесу (Пух. Шат.). □ ур. Пералог (поле) каля в. Юшкі Шчуч.

ПЕРАЛО'М. Поле, якое ўзарана і засеяна ўпершыню (Паст.); ляда; узараная аблога (Слаўг.).

ПЕРАМЕ'Л. Мелкае месца ў возеры або рацэ; брод (Стол.). Тое ж *перамі́л* (Сал., Ст.-дар.), *пераме́ль* (Слаўг.).

ПЕРАПА'ШКА. Частка поля, прыараная да другога ўчастка (Слаўг.).

ПЕРАПРА'ВА. Месца, дзе перапраўляюцца цераз раку паромам, уброд (БРС).

ПЕРАРО'БКА. Ст.-бел. (XVI ст.). Нанава распрацаваная зямля (Ул.-Буд., 1892, 46).

ПЕРАСЕ'Ў. 1. Поле, на якім вымак пасеў і якое другі раз засеяна (БРС). 2. Паверх засеянае поле другім насеннем (Слаўг.). 3. Густа засеянае (звыш нормы) поле (Слаўг.).

ПЕРАСКО'К. Вельмі блізкая адлегласць (Нас.).

ПЕРАСМЫ'К. 1. Водападзел, узвышша паміж рэчкамі, вадаёмамі (Слаўг.). Тое ж *перамы́чка* (БРС). 2. Вузкая палоска лесу паміж палямі (Слаўг.).

ПЕРАСТО'Й. Стары, смалісты, без абалоні, векавы лес (Слаўг.).

ПЕРАТО'К. 1. Месца, дзе ў перыяд паводкі працякае вада (Мін. Лемц. Айк.). 2. Праход, рукаў, які злучае азярыну з ракой (Стол.). □ в. Ператок Стол., в. Ператок Люб., в.Ператокі Стаўбц.

ПЕРАТО'ЧЧА. Пляцоўка, выбітая глінай, якая знаходзіцца перад гумном (Сміл. Шат.).

ПЕРАХВА'Т. Перашыек паміж балотамі, азёрамі, лясамі (БРС). Тое ж *пера́чап, перачэп, перашчы́п* (Слаўг.).

ПЕРАХО'Д. 1. Месца, зручнае для пераходу, цераз раку, з аднаго лесу ў другі (БРС). 2. Частка шляху, якую можна прайсці, не адпачываючы (БРС). □ ур. Пераходы (вузкая палоска зямлі паміж узгоркамі) каля в. Чарсвяны Уш., в. Пераходцы Леп.

ПЕРАШЫ'ЕК. 1. Вузкая паласа зямлі паміж балотамі, азёрамі, лясамі, узгоркамі (БРС). Тое ж *перашэ́ек, перашы́ена* (Слаўг.). 2. Праліў паміж азёрным востравам і берагавой сушай (Слаўг.). □ вул. Перашыек або Карэльскі Перашыек (1939—1940) у в. Шаламы Слаўг.

ПЕРЕЯ. Ст.-бел. (да XVII ст.). Старана вуліцы (Бел., 472).

ПЕРШЫНА'. Навіна; поле, якое ўзаралі ўпершыню (Вср.).

ПЕСКАВА'ТКА. Месца на лузе з пясчаным намывам (Слаўг.). □ ур. Пескава́тка (заліўны луг на пр. б. р. Проні) каля в. Улукі Слаўг., якое падзяляецца на Ма́лая Пескаватка, Вялікая Пескаватка, Блізкая Пескаватка і Дальняя Пескаватка; вул. Пескавацкая (1803) у Віцебску.

ПЕСКАВА'ЦІК. Месца з пясчаным грунтам, з пясчаным наносам, звычайна каля крыніцы (Віц.). □ крыніца Пескавацік Віц. (Рам. Мат.).

ПЕСЧУГА'. 1. Вялікі пясок; мясцовасць багатая незамацаванымі пяскамі (Жытк. Слаўг.). Тое ж *пешчура́* (Ваўк. Сцяшк.), *пяшчу́га, пешчуга́, пяшчуга́н, пешчаніца, пешчына́, пешчаўня́, пешчачок, пяшчу́жышча, пешчу́рня,* (Слаўг.), *пешчуга́* (Стол.). 2. Пясчаная, неўрадлівая зямля (Слаўг.).

ПЕЧКУРЫ'. Стромы схіл берага, у якім гняздзіцца калонія берагавых ластавак (печкуроў, або гранкоў) Riparia riparia L. (Віц.). □ур. Печкуры (схіл гары) каля в. Чарсвяны Уш.

ПЕ'ЧЫШЧА. 1. Месца, дзе стаяла варыстая ці прамысловая печ для выганкі дзёгцю (БРС); месца, дзе будзе класціся варыстая печ; вялікая печ (Слаўг.). 2. Месца для жылля; сялянскі двор (АЛМ, 1, 601). □ ур. Печышча (лес) каля в. Пасека Ст.-дар., ур. Аўла́савы Печышчы (лес) каля в. Кашалеў Слаўг., в. Печышча Глыб., Кобр., Светл.

ПІК. 1. Вяршыня гары, узгорка (БРС); неабароненае ад вятроў месца (Слаўг.). 2. Тупік; узвышаны куток паміж возерам і канавай (Слаўг.). 3. Пікта, вар, вадкая густая смала; дзёгаць, гудрон (Слаўг.), □ ур. Пік ці Гаўрыльчыкаў Пік (куток логу паміж возерам і канавай) каля в. Шаламы Слаўг.

ПІКАВА'РНЯ. Прадпрыемства, дзе варылі гудрон для прасмольвання канатаў (Слаўг.). □ ур. Пікаварня (паўднёвая частка г. Прапойска) Слаўг.

ПІКЕ'Т. Участак асушанага балота, звычайна квадратны, паміж пікетамі і калектарамі (Смал.). □ ур. Пікет або На пікетах (асушанае балота) каля в. Усяжкі Смал.

ПІ'ЛЬНЯ. Лесапільны завод (БРС). Тое ж *пільніца* (Лемц. Айк.). □ в. Пільня ці Пілна Чэр.



ПІСА'ГА. Іржавая паласа на вадзе; мазутная плёнка, пляма ў забруджаным вадаёме (Слаўг.).

ПІ'ТНЯ'. Карчма, лаўка (Слаўг.).

ПЛАВО'К. Невялікі плаў; дрыгвяністае балота (Жытк., Стол.).

ПЛАВУ'Н. 1. Смецце, раслінныя рэшткі, нанесеныя вадой на карэнні дрэў, на кусты, у заліў у час разводдзя (Віц. Нік. 1895). 2. Цякучы пясок (Ветк.).

ПЛАВЫ'. Азёры, багатыя рыбай, пакрытыя зыбкім і непраходным дзірвановым зараснікам (Віц. Нік. 1895); зыбкае балота (Слаўг.).

ПЛАВЫ'НЯ. Плывучы востраў (Смален. Дабр.).

ПЛАН. 1. Сядзіба калгасніка (Ветк., Нясв., Рэч., Слаўг.). 2. Зямля былога сталыпінскага хутара (Нясв., **Слаўг.).**

ПЛАСЦІ'НА. Плаціна на рэчцы; ставок (Арш.).

ПЛАЎ. 1. Забалочаны вадаём; зыбкае бязлеснае балота, дрыгва; гразкае месца (Жытк., Палессе Талст., Слаўг., Стол.). Тое ж *паду́шка* (Жытк.), *пла́ўлі* (Усх. Палессе Талст.). 2. Заліўны луг каля ракі або возера (Стол.). 3. Нізіна, месца, дзе рака працякае цераз балота (Касп.). 3. Дзірвановы пласт, кусты, смецце — усё, што падымае вада ў час разводдзя (Ветк., Люб. Талст.).

ПЛА'ХА. Вялікая суцэльная плошча зямлі, пасеву; доўгая і шырокая паласа (Слаўг.). □ ур. Плаха (балота) каля в. Добры Дуб Слаўг.

ПЛАЦ. 1. Ст.-бел. (XVII—XVIII стст.). Зямельны ўчастак у горадзе. 2. Прысядзібны ўчастак (Стаўбц., Прышч.). □ ур. Плацы́ (поле) Стаўбц.

ПЛЕС. 1. Глыбокае месца на балоце, дзе заўсёды знаходзіцца вада (Сядл. губ. Бес., 310). 2. Прырэчная сенажаць, якая заліваецца вадой у час разводдзя (Глуск. Янк.). 3. Забалочаныя берагі азёр (Палессе Талст.). □ в. Плесы каля Гомеля (К. 1838).

ПЛЕШ. Голае месца ў засеве (ад вымакання, вымярзання, няроўнай сяўбы, страўлення жывёлай); агрэх (БРС). Тое ж *плех* (БРС). □ в. Пляшыўцы (Зялёная з 1964) Тал.

ПЛЁС. 1. Шырокае роўнае і спакойнае месца на рацэ без паваротаў (БРС). Тое ж *плёса* (Жытк., Сал., Стол.). 2. Возера, зарослае расліннасцю; балота; нізкі заліўны луг (Бабр. Талст.). Тое ж *плёса* (Палессе Талст.), *плёса* (Ветк., Палессе Талст.). 3. Невялікі заліў

на рацэ або возеры; ціхая завадзь (Браг., Зах. Бел. Др.-Падб., Смален. Дабр.). Тое ж *плёска* (Краснап. Бяльк.). 4. Мелкае месца ў рацэ або возеры (Смален. Дабр.). 5. Хвост у вялікай рыбы (Нас.); вясло (Смален. Дабр.). □ в. Плёсы Бабр., Маладз., ур. Плёса (азярына на лузе з выйсцем у Сож) каля в. Шарсцін Ветк., ур. Плёса (чыстая частка возера за асітой, чаротам) каля в. Чарсвяны Уш., воз. Плясно каля Смаленска, ур. Пляснá (поле, кусты, рэчка Плясёнка) каля в. Ржаўка 2 Слаўг.

ПЛЁЦЯ'НАК. Абгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе (Іван.).

ПЛІ'ТА. Вялікая льдзіна; крыга (Лёзн.).

ПЛІТА'. Засохлы камяк зямлі на засеяным полі (Стол.).

ПЛУГ. Вузенькі шнур зямлі, які можа заняць плуг на ворыве (Слаўг.).

ПЛЫВУ'Н. Нанесены разводдзем пясок (Краснап. Бяльк.). 2. Пласт цякучага пяску пры капанні ямы (Рэч.).

ПЛЫНЬ. Цячэнне вады (БРС).

ПЛЮГО'ТА. Размяклая зямля ў час працяглых халодных дажджоў; гразь (Ст.-дар.). Тое ж *плюхаць* (Ст.-дар.), *пляхоцце* (Рэч.), *плюхоцце* (Слаўг.).

ПЛЮ'ШНІК. 1. Зараснік аеру Acorus calamus L. (БРС). Тое ж *плёшнік* (Жытк., Стол.), *пляшнік* (Жытк.). 2. Зараснік плюшчаю Sparganium simplex Huds. (Браг.). Тое ж *плюшчáй* (БРС), *плюшчы́ннік* (Пол.), *плюшчэй, плюшчаіннік* (Слаўг.).

ПЛЮШНЯ'К. Месца на балоцістых лугах, дзе расце асака, плюшчай, цыкута ядавітая Cicuta virosa L. (Рэч.).

ПЛЯЖ. Месца каля ракі, возера, дзе адпачываюць і загараюць людзі (БРС).

ПЛЯНТА. Мяжа (Палессе Лемц. Айк.).

ПЛЯ'НЦЫ. Месца, дзе вырошчваюць садовыя саджанцы, паркавыя дрэўцы (Нясв.).

ПЛЯСНІ'ЦА. Тонкі лядок на рацэ (Віц.).

ПЛЯЦ. 1. Сядзіба калгасніка (БРС); былы сталыпінскі водруб, хутар (Слаўг.). 2. Прастора вакол царквы, цвінтар (Стол.). 3. Ст.-бел. (XVII—XVIII стст.). Поле бою. 4. Пэўная частка зямлі пад домам або сенажацю (Нас.). 5. Месца, якое займае чалавек стоячы (Нас.). 6. Пэўная частка зямлі, палоска на агародзе (Слаўг., Смален. Дабр.).



ПНЕ'ВІШЧА. Месца (поле), на якім засталіся пні ад ссечанага лесу (Нас.). Тое ж *пянёўе, пёння* (Слаўг.), *пнішча* (Сал.). □ ур. Пнішча (поле) каля в. Яскавічы Сал.

ПНІ'ШЧА. 1. Нявыкарчаваны высечаны лес (Ваўк. Сцяшк.). 2. Месца, дзе стаяў пень ад спіленага дрэва (Жытк., Слаўг.). Тое ж *пéнішча, пнéшча* (Слаўг.). 3. Новае поле яшчэ з пнямі (Варк. 1641 МЕВ, № 11, ч. аф., чэрв., 1906, 415).

ПО'ВАЛЬ. Месца ў лесе, дзе павалены бурай дрэвы (Слаўг.).

ПО'ГАР. Выгаралае месца на балоце, ямка (Віц., Маг., Палессе Талст.). □ в. Погары Віц. (Рам. Мат.).

ПОД. Месца, дзе знаходзіцца памост для збожжа на высокіх слупах (Стол.). Тое ж *пады́* (Стол.).

ПО'ДКУП. Месца ў лесе, дзе стаіць дрэва з вуллем (Сал.).

ПО'ЖНЯ. 1. Засеянае збожжам поле; іржышча (Бабр. Брэсц. Глуск. Гродз. Жытк. Маз. Пін. Стол. ДАБМ, к. 271, Лёзн., Сал., Слаўг.). 2. Сухадольная сенажаць і паша; невялікі лужок сярод поля (Віц. Нік. 1895, Докш., Віц. Сен. Касп., Слаўг., Смален. Дабр., Тал. Мядзв., Уш.). Тое ж *пожань* (Сен. Касп.), *пожанька, пожанка* (Віц. Нік. 1895, Сен. Чашн. Касп., Слаўг.). 3. Заліўны луг (Ветк.). □ в. Пожынкі Сен., ур. Пожанька (балота) каля в. Людкоў Слаўг., ур. Шырокая пожня (сенажаць) каля в. Чарсвяны Уш., ур. Пожня (луг каля р. Пацэ) недалёка ад в. Сьенск Слаўг.

ПО'ЗДЗІР. Тонкая снегавая корка да шарану, тонкі шарон (Слаўг.).

ПО'ЙМА. 1. Месца, якое залівaецца ў час разводдзя; заліўны луг (БРС). Тое ж *поймішча* (Віц. Рам. Мат.). 2. Вялікі разліў вады на лузе вясной (Рэч.). 3. Травастой, заліты вадой, выйшаўшай з берагоў ракі; сена з затопленага лугу (Нас., Слаўг.). 4. Праход, рукаў, які злучае возера з ракой (Стол.). □ в. Поймішча каля Дзвіны Віц. (Рам. Мат.).

ПО'ЛЕ. 1. Зямля, апрацаваная для пасеву; бязлесная прастора (БРС). Тое ж *пэ́ле* (Ст.-дар.). 2. Паша; сухадольны луг (Лёзн., Слаўг., Стол.). Тое ж *пóлё* (Ваўк. Сцяшк.). 3. Месца ў дзіцячай гульні ў лапту паміж дзвюма паралельнымі рыскамі, дзе стаіць каманда, якая ловіць мячык (Слаўг., Стол.); спартыўная пляцоўка (БРС). □ ур. Палí каля в. Пасека Ст.-дар., Поле — уз-

вышаны край на паўднёвы ўсход ад Навагрудка да Слуцка і ўпоперак з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад ад Пясочна да Мядзведзічаў (Серб. 1914, 74), Поле — прастора на поўнач ад Пінскага пав. (Булг., 197), Палявое войтаўства Крыч. староства (Меер, 1786, 92), в. Сіліна Поле Слаўг., ур. Белахвостава Поле (месца на лузе) каля в. Крамянка Слаўг.

ПО'ЛЕЖАНЬ. Месца на траве, дзе адпачываў хто-небудзь (Слаўг.). Тое ж *пролежань, вылежань* (Слаўг.).

ПО'ЛІВА. Пасеў, засмечаны пустазеллем, які трэба палоць (Ветк., Глуск. Янк. II, Слаўг.). Тое ж *палоцце* (Ветк., Слаўг.).

ПОЛЬ. Ст.-бел. Поле, зямля; палі (Нас. АУ). □ в. Краснаполь Краснап. (1750 ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 4, інв. 1556, л. 227), в. Аполь Іван., ф-к Антопаль Слаўг. (К. XIX ст.).

ПО'ЛЫСЬ. Гладкая, роўная паверхня вады (Слаўг.). Тое ж *пролысь* (Слаўг.).

ПО'МУТ. Мутнасць, мутная вада (Нас.).

ПО'ПАР. 1. Зараснік пырніку Agropyrum repens P. B. (Стол.). 2. Поле, узаранае вясной пад жыта (Глуск. Янк. I, Рэч.); узараная зямля, якая зарасла травой (Рэч.).

ПО'ПЛАЎ. 1. Заліўны луг; наогул сенажаць (БРС). Тое ж *поплава* (Ст.-дар.). 2. Раслінны пласт на паверхні вады ў стаячым вадаёме; зарослае месца на возеры (Люб., Слаўг.). 3. Палявая паша, палявая трава (Рэч.). 4. Шырокае месца на рацэ (Касц. Бяльк.). 5. Смецце, мох, голле, дровы, якія выносяцца вадой на бераг ракі ў час разводдзя (Бых., Ветк., поўнач Маг., Пол. Талст.). 6. Вялікая сетка для лоўлі рыбы зімой (Стол.). □ в. Паплавы́ Бярэз., ур. Поплава (луг) Ельск., ур. Поплаў (нізкі лог) каля в. Урэчча Слаўг., р. Паплавы́ (1910) каля в. Ржаўка Слаўг.

ПО'ПЛІСАК. 1. Месца, куды са страхі капае вада; капеж (Жытк.); кроплі дажджу, якія капаюць са страхі (Жытк.). 2. Кароткачасовы рэдкі дождж (Жытк.).

ПО'СТАЦЬ. 1. Участак збажыны, які займае жняя (БРС). Тое ж *кусок, плаха* (Слаўг.). 2. Частка паласы ў даўжыню (Беш. Касп.). 3. Месца ў полі, дзе стаяць снапы (Ваўк. Сцяшк.).

ПО'ЎДЗЕНЬ. Частка свету, супрацьлеглая поўначы (БРС).



ПО'ЎРЭЙ. Вырай; поўдзень, цёплыя краіны, куды ляцяць птушкі зімаваць (Стол.).

ПО'ЦЕК. 1. Паглыбленне, жалабок раўка, сярэдзіна сухога рэчышча, дзе ў час дажджу ці вясной цячэ вада (Слаўг.). 2. Паніжанае месца на адложыстым схіле ўзгорка, дзе звычайна збягае вада (Слаўг.).

ПО'ЯС. Гладкая ціхая паласа вады пасярэдзіне ракі (Слаўг.). Тое ж *паясок* (Слаўг.).

ПРАБО'Й. Яма, выбітая вадой; вельмі глыбокае месца ў рацэ, возеры (Ст.-дар.). Тое ж *прабоіна* (Ст.-дар.), *выкаба́іна, выкабай* (Слаўг.).

ПРАВА'РНЯ. Піваварны ці вінакурны завод (Нас.).

ПРАВА'ЛЛЕ. 1. Прорва, праваліна паміж гор (Чэр. Бяльк.). 2. Правал, выпадзенне грунту; западзенне мяккага грунту ў ямцы (Нас., Слаўг.).

ПРА'ВІРЖЫНА. Адтуліна, разгароджанае месца ў агароджы або ў паркане (Тал. Мядзв.).

ПРАВУ'ЛАК. Завулак; вуліца з выйсцем у адзін канец (Беш. Касп., Рэч., Слаўг.). Тое ж *пракаву́лак* (Хоц. Бяльк.), *праканаву́лак* (Слаўг.).

ПРА'ГА. Ст.-бел. 1. Агароджа з жэрдзя з варотамі ў канцы вёскі. Тое ж *прога*. 2. Брамка, веснічкі. Тое ж *прога*. □ нас. п. Прага каля р. Вісла (Статистический обзор государственных имуществ за 1858 г. СПб, 1861).

ПРАГА'Л. 1. Адкрытая прастора, сенажатная паляна ў лесе, паміж кустамі, на балоце (БРС). Тое ж *прага́ліна, прага́лка* (БРС), *прага́лачак* (Стол.). 2. Пралёт, водступ, пакінуты паміж хатамі, узгоркамі, лясамі (БРС). 3. Адна вялікая праталіна (Слаўг.). Тое ж *прага́лка* (Слаўг., Стол.).

ПРАГО'Н. 1. Абгароджаная або неабгароджаная дарога, па якой гоняць жывёлу на пашу, вадапой (БРС). 2. Дарога да былога панскага двара (Нясв.); праезд ад хаты да вуліцы (Слаўг.). 3. Часовая паша для жывёлы (Слаўг.). 4. Адлегласць паміж двума парамі калоў у прасле (Слаўг.). □ ур. Ля прагона (поле, луг) каля в. Малева Нясв.

ПРАГУЛЯ'НКА. Былыя панскі пляж ці месца адпачынку (у многіх месцах Беларусі). □ ур. Прагулянка каля в. Кулікоўка Слаўг.

ПРАГУМЕ'ННЕ. Чыстая плошча перад гумном, дзе прасушваюць снапы, збожжа, сена (Мін. Шэйн, 506). Тое ж *прыгуменне* (Я. Колас, т. 4, 1952, 12).

ПРАДО'ННЕ. Вельмі глыбокая яма, вір; бездань (Мсціcл. Юрч., Нас., Слаўг.).

ПРАДУ'ХА. Палонка ў лёдзе на рацэ, возеры, у якую выходзіць рыба (Слаўг.).

ПРАДУ'ХЛІНА. Незамярзаючае месца ў балоце (Лёзн. Касп.).

ПРАЁМ. Прамытае месца на гаці, дарозе; вырваная вадой частка дамбы (Слаўг.).

ПРАЖО'РА. Прыроднае ці выкапанае на балоцістай амшары вадасховішчнае паглыбленне, прадаўгаватае азярцо (Віц. Нік. 1895). Тое ж *прожар, пражор* (Слаўг.).

ПРАЖЫ'ЛІНА. Крынічнае прадаўгаватае месца (Слаўг.).

ПРАКІ'ВА. Зараснік крапівы Urtica dioica L. (Жытк.).

ПРАКО'П. Пракапанае паглыбленне, канава (Слаўг.). Тое ж *прокап* (Слаўг.).

ПРАЛЕ'САК. Сцежка, паласа ў лесе; рэдкі лес, які чаргуецца з палямі, палянамі (Кузн. Касп., Слаўг.).

ПРАЛЁТ. Прастора паміж чым-небудзь, пакінуты адкрыты водступ (БРС).

ПРАЛІ'Ў. Вузкая паласа вады паміж вострывам на возеры і берагам; водны перашыек (БРС).

ПРАЛО'З. Свабоднае, гальнае месца паміж кустамі лазы на вадзе; пратока (Стол.). Тое ж *гальвінка* (Стол.).

ПРАМЕ'НАК. Прамежак, праход паміж хлявамі, хатамі (Жытк.).

ПРАМІЖУ'Т. Пэўны адрэзак адлегласці, поля; вузкая палоска паміж больш шырокімі (Ветк.).

ПРАМІ'К. Прамое рэчышча ракі; прамая кароткая пуціна, сцежка (Рэч., Слаўг.). Тое ж *прамізна* (Нас.).

ПРАМЫ'ВІНА. 1. Размытае вадой месца ў дамбе, гаці (БРС). Тое ж *прамыіна* (Слаўг.), *прамоіна* (Нясв. Слаўг., Шчуч.). 2. Незамярзаючае, прамытае месца на быстрыні ракі (БРС). Тое ж *прамыіна* (Слаўг., Смален. Дабр.), *прамоіна* (Нясв., Слаўг., Шчуч.).

ПРАПО'Й. Магутны вір, які ўтвараецца пры ўпадзенні р. Проні ў Сож («Советская Белоруссия», 13 июня 1945 г.).

ПРАРЫ'Ў. Месца на плавáх, дзе можна праваліцца (Палессе Талст.).

ПРАРЭ'З. Каляіна, выціснутая коламі на палявой дарозе (Слаўг.). Тое ж *поразь, проразь* (Слаўг.).



ПРАСВЕ'Т. 1. Гальнае, асветленае месца ў лесе; край лесу, дзе відаць поле (Слаўг.). 2. Прагаліна паміж узгоркамі (Слаўг.). Тое ж *просвет, просвецъ* (Слаўг.).

ПРАСЕ'КА. Ачышчаная ад лесу і кустоў паласа ў лесе, якая раздзяляе лясныя кварталы, служыць граніцай участка, дарогай (БРС). Тое ж *просека* (Слаўг.).

ПРАСЁЛАК. 1. Адлегласць паміж вёскамі (Нас. АУ, Слаўг.). 2. Грунтавая дарога паміж невялікімі населенымі пунктамі (БРС).

ПРАСТРА'МАК. Прастора, невялікая адлегласць (Стол.).

ПРАСЦЕ'НАК. Прамая дарожка (сцежка) паміж двума палямі (Выс. Касп., Гом., Мін., Нас.); палявая дарожка ў канцы палосак (Рэч.).

ПРАСЦЕ'НЬ. Прамая дарога (БРС); кароткі шлях напрамік (Нас.). Тое ж *прамéц, прасцяк, прамік, прамічка* (Слаўг.), *прамізна* (Нас.).

ПРАСЦЯ'Г. Прастор, шырыня, абшар; вялікая плошча чаго-небудзь (БРС). Тое ж *просць* (Слаўг.).

ПРАСЯ'НІШЧА. Поле, дзе расло проса (БРС). Тое ж *прасянéчніска* (Кам.), *прасянне, просішча, просінішча, прасянішчаўе, прасянішчывічышча* (Слаўг.).

ПРАСЯРО'Д. Востраў на рацэ (Усх. Палессе Талст.).

ПРАСЯРЭ'Д. Каса пасярод ракі; выспа на рацэ (Стол.).

ПРАТА'ЛІНА. Месца, дзе растаў снег і паказалася зямля (БРС). Тое ж *пратáлак* (Рэч.), *пратáлка* (Беш. Касп., Рэч., Слаўг.), *пратáлачка, пратáлінка, праталок, пратáлічыня, пратáлініна, пратáлінне* (Слаўг.).

ПРА'ТВА. Пастаяннае месца каля вады, на рэчцы, дзе мыюць бялізну (Глуск. Янк. I, Жытк., р. Пціч Серб. 1915, Стол.). Тое ж *прáцвішча* (Стаўбц. Прышч.), *прáцьва* (БРС). □ ур. Прáцвішча (сенажаць) Стаўбц. (Прышч.).

ПРАТО'КА. Праліў; рэчка, рукаў, які злучае два вадаёмы (БРС). Тое ж *праток* (Шчуч.).

ПРАТО'ЧЫНА. Месца, дзе сочыцца вада; крынічная мясціна (Ветк.).

ПРАХ. Зямля, пыл; пыл ад згніўшага (Слаўг.); прах (БРС).

ПРАХА'ДСКАЯ. Месца, алея ў садзе, дзе раней паны прагульваліся пешшу (Слаўг.). Тое ж *прахáдзкая* (Слаўг.).

ПРАХАЛО'ДА. Цяністае месца непадалёку ад вады («Звязда», 31 мая 1966 г.); пад зялёнымі шатамі дрэў (Сачанка. Пакуль не развіднела, 1966, 248). □ в. М. Ухалода Барыс. («Звязда», 9 снежня, 1966 г.).

ПРАХО'Д. Месца, па якому пераходзяць; перашыек (Сал.); бойкае месца (Слаўг.). □ ур. Праход (сенажатны перашыек) каля в. Яскавічы Сал.

ПРАЯ'ВА. Глыбакаводная яма (Жытк., Стол.).

ПРО'ВАР. Вінакурны завод (Грыг. 1838—1840).

ПРО'ВАРЫШЧА. Месца, дзе быў провар (Віц. Рам. Мат.). □ в. Проварышча і ўр. Проварышча Віц. (Рам. Мат.).

ПРО'ГАЛЬ. Прагаліна, прастора, водступ паміж чым-небудзь (Слаўг.). Тое ж *гáлвінка, прогалішча* (Слаўг.).

ПРО'КАЎЗЕНЬ. Агрэх пры разорванні радка бульбы (Слаўг.).

ПРО'ЛУБКА. 1. Глыбокае месца; бездань, прорва (Слаўг.); багністае і глыбокае месца ў рэчцы (Лёзн., Слаўг.); правал (Мсціcл. Юрч.). Тое ж *проламка* (Смал.), *пролабка* (Мсціcл. Юрч.), *пролыбка* (Слаўг., Смален. Дабр). 2. Палонка ў лёдзе на рацэ (Віц. Нік. 1895, Бял. Матэр., Грыг. 1838—1840, Зах. Бел. Др.-Падб., Мсціcл. Бяльк., Сен. Касп., Слаўг.). Тое ж *проламка* (БРС), *пролабка* (Мсціcл. Юрч.), *праломка* (Навагр. XIX ст. КПЖ, 38), *проруб, прорубка* (Слаўг.), *палонка* (Кам., Стол.).

ПРО'ПАСЦЬ. 1. Глыбокае месца на балоце, у рацэ; бяздонне (Нясв., Рэч., Слаўг., Стол., Шчуч.). 2. Глухое месца (Слаўг.). □ р. Пропасць (цяпер р. Проня) Слаўг. (1627 Книга Большому чертежу; 1560 Археагр. т. 3, 1867, 267).

ПРО'ПАШ. Узараная зямля, ралля (Стаўбц. Прышч.). □ ур. Пропашы (поле) Стаўбц. (Прышч.).

ПРО'ПУСК. 1. Месца, дзе раку можна перайсці ўброд (Слаўг). 2. Агрэх пры разорванні радка бульбы (Слаўг.). □ ур. Пропуск (брод цераз р. Проню) каля в. Красная Слабада Слаўг.

ПРО'РАЗЬ. 1. Рукаў, вадзяная пратока (басейн Дняпра Макс., 244). 2. Маладая нізкая трава сярод рослага травастою (Слаўг.).

ПРО'РВА. 1. Месца, якое размыта вадой; прарыў плаціны (БРС), дарогі, гаці (Жытк., Слаўг.). Тое ж *про-*



*рыў* (Слаўг.). 2. Бяздонне (БРС). 3. Глыбокая яма, вымытая вадой (Нас., Нясв., Расторгуев. Словарь брянских говоров, Слаўг.). 3. Вокнішча ў балоце (Пруж. ДАБМ, 980, Слаўг., Смал., Стол.). 4. Завадзь (Касц. Бяльк.).

ПРО'РЫНЬ. Капаны шырокі і глыбокі суднаходны канал (Целяханы Івац.). □ **Агінская прорынь (Агінскі канал)** каля г. п. Целяханы Івац.

ПРО'СТКА. 1. Ход ракі па цячэнню; прастора (Рэч.). 2. Выпроставаючая пратока, якая прарывае намыўны перашыек (басейн Дняпра Макс., 197).

ПРОСЦЬ. Частка ракі (Слуцк. Сержп. Грам., 4). □ бухта Просць р. Гарыні каля в. Кароцічы Стол.

ПРО'ТМА. Бездань (Слаўг.). Тое ж *проціма, протня* (Слаўг.), *процьма* (Нясв., Слаўг.).

ПРО'ЦЕРАБ. Месца, дзе высечаны лес; расцярэбленыя кусты (Сал., Слаўг.). □ ур. Процераб Мікала́йкаў каля в. Яскавічы Сал.

ПРО'ЦЕЧ. Незамярзаючае месца на рацэ, возеры (Гар. 1929, 42).

ПРО'ШЧА. 1. Месца каля крыніцы, у лесе, дзе раней збіраліся на багамолле (Нас. АУ, Нас., Мін., Пін., Слуцк. Серб. 1915, 42, Сержп. Прымхі, 7, 23, Чашн. Касп.). 2. Крыніца, струмень крынічны (Маг. губ. вед., 1854, № 47, 344). 3. Капліца (Чашн. Касп.). □ ур. Хочанкава прошча ці Хочанкава крыніца каля в. Шаламы Слаўг.

ПРУГМЕ'НЬ. Свабоднае месца паміж пабудовамі, двор (Ваўк. Сцяшк.). Тое ж *пругуме́не* (Нясв.), *прыгуменне* (Кам.).

ПРУД. 1. Плаціна на рэчцы і млын пры ёй; штучнае возера, ставок (Барыс., Віц. Касп., Грыг. 1838—1840, Лёзн., Нас., Нас. АУ, Маз., Маладз., Стаўбц., Тал. Мядзв., Шчуч.); сажалка (Крыч.). 2. Вятрак (Мсціcл. Бяльк.). 3. Курган, высокае месца, якое агібаецца ракой (Слаўг.). □ в. Стары Пруд Чэрв., в. Пруды Стаўбц., в. Прудок Слаўг., в. Прудок Косельскі Карм., ур. Гарадзе́цкі Пруд (курган, які агібае р. Крупка) каля в. Закрупец Слаўг.

ПРУДЗІ'ШЧА. Месца, дзе быў ставок з млынам (Паст., Слаўг.). Тое ж *пру́дзішча* (Нас. АУ). □ в. Прудзішчы Смал.

ПРУТ. 1. Стар. Пазямельная мера — 1/300 частка морга (Дэмб. т. 1, 171), пяць сажняў з доляй (Нас.

АУ, 394 б). 2. Малады парастак; садовы саджанец (Слаўг.).

ПРЫІАЗЕ'Р'Е. Абшар, які прылягае да возера (Міёр., Слаўг.).

ПРЫ'БАЛАЦЦЕ. 1. Балота, якое парасло бярозай і альхой (Зах. Палессе Талст.). 2. Месца ўздоўж балота (Слаўг.).

ПРЫ'БАР. 1. Месца або паселішча, якое знаходзіцца каля абалоні ракі (Бых., Слаўг.). 2. Месца каля бору (Слаўг.). □ в. Прыбар Бых.

ПРЫ'БЕРАЖАНЬ. Лёд каля берага ракі (Ваўк. Сцяшк.).

ПРЫ'БЕРАЖЖА. Узбярэжжа (Слаўг.).

ПРЫБО'РАК. Гаёк, які прымыкае да лесу (Смален. Дабр.).

ПРЫБО'РАЧАК. Махавое месца, якое прымыкае да хваёвага лесу, бору (Смален. Дабр.).

ПРЫБО'Р'Е. Месца, дзе выганялі дзёгаць і выпальвалі вугаль (Бых. Рам. 1912, 3). □ в. Прыбор'е Бых. (Рам. 1912, 3).

ПРЫВО'ЛЛЕ. 1. Свабоднае, шырокае месца, прастор (БРС). 2. Прыдатнае месца, дзе блізка ёсць рэчка, лес, луг, поле (Слаўг.). Тое ж *воля, раздолле, прыволіца, прываль* (Слаўг.). 3. Стар. Месца, якое памешчык уступаў сялянам для выгану жывёлы. 4. Свабоднае месца на лузе (Нясв.). □ в. Прыволле Слаўг.

ПРЫВО'РАННЕ. Прыараная зямля (Слаўг.). Тое ж *прыпаш* (Нас. АУ).

ПРЫГА'ЛАК. Невялікая палянка ў лесе на месцы пажару (Сміл. Шат.).

ПРЫГАЛО'ВАЧ. Узаранае і пасеянае поле ўпоперак загона (Стол.).

ПРЫГА'НАК. Месца каля ганка (Касц.). Тое ж *прыганачча, калягáначча* (Слаўг.).

ПРЫ'ГАНЬ. Выпас, куды прыганяюць кароў да пастуха; згон (Слаўг.). □ в. Прыгань Кругл.

ПРЫ'ГАР. Месца, дзе выгарае ад сонца пасеў, травастой (Слаўг.).

ПРЫ'ГАРАД. 1. Гарадское прадмесце (БРС). 2. Агароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе (Светл.). 3. Малы горад, які прыпісаны да вялікага (Нас. АУ).



ПРЫГАРАДАК. Малы гарадок (Нас. АУ).

ПРЫГО'РАК. Высокае месца, узгорак; узгорачак (БРС). Тое ж *прыгарак* (М. Танк. Янук Сяліба, 1957, 12), *прыгорачак* (Навагр.).

ПРЫ'ГРЫЗЬ. Паша, дзе жывёлай з'едзена ўся трава (Слаўг.).

ПРЫГУМЕ'ННЕ. 1. Абгароджанае месца каля гумна, дзе ставяць торпы немалочанага збожжа (БРС). 2. Месца каля гумна (Глуск. Янк. II, Краснап. Бяльк., Мін., Сміл., Шат., Ст.-дар.). 3. Задворак; загуменне (Слаўг.). 4. Абгароджанае месца перад гумном, дзе сушаць снапы на сонцы (Жытк., Стол.). Тое ж *прыгумéнак* (Жытк.), *прыгумнік* (Бых. Рам. 1912, 20).

ПРЫД. Нізкае мокрае месца (Лёзн.). □ ур. Прыдзіна (поле) каля в. Зáгараднае Лёзн.

ПРЫДА'ТАК. Дадатковы ўчастак поля да сядзібы або палоскі; кароткая палоска (Рэч., Стаўбц.). □ ур. Прыдáткі Пéршыя Стаўбц. (Прышч.).

ПРЫДЗВЕ'РАННЕ. Месца каля дзвярэй хаты (Слаўг.). Тое ж *прыдзвéрнічча* (Слаўг.).

ПРЫДО'БА. Багатыя, выгодныя прыродныя ўмовы (Глуск. Янк. I, Слаўг.). Тое ж *прыўдобіца, прыўдоба, прыўдобіе, прыдаб, прыдаба* (Слаўг.).

ПРЫДУ'ХА. Гразкае месца, дзе не замярзае вада зімой (Рэч.).

ПРЫЗА'ГАРАДАК. Загароджанае месца для жывёлы ці птушак на двары (Сал.).

ПРЫЗАГРУ'ДАК. Месца ў полі або ў лесе, дзе стаіць летам жывёла ў час гарачыні (Жытк.).

ПРЫ'ЗБА. Земляны насып уздоўж вонкавых сцен хаты (БРС). Тое ж *прызва* (Рэч.).

ПРЫ'ЗНАК. Месца на былым дворышчы (Рэч.).

ПРЫ'КАНАВАК. 1. Невялікая, кароткая канаўка; дадатковае адгалінаванне канавы (Жытк.). 2. Месца каля канавы (Стол.). Тое ж *прыканáвічча, прыканáвінне, прызаканавéнне, прыканáвічышча, прыканáўнік, прыканáўе* (Слаўг.).

ПРЫ'КІДКА. Двайная баразна (Стол.).

ПРЫ'КЛЕ'ЦЦЕ. Месца каля клеці; ганкі пад паветкай у свірне, клеці (Слаўг.).

ПРЫКУ'ЗЕННЕ. Месца каля кузні (Слаўг.). Тое ж *прыкýзнічча* (Слаўг.).

ПРЫЛІА'СКА. Вялікая дарога (Гарад. Касп.).

ПРЫЛЕ'САК. Невялікі дробны лес, які знаходзіцца на полі або на краю ляснога масіву (Зах. Бел. Др.-Падб., Рэч., Слаўг.). Тое ж *прылéсніччa, прылéсенне, прылéссе, прылясоўе, прыляснíчча, прылясóвічча* (Слаўг.).

ПРЫЛЁПАЎКА. Невялікая вуліца, прыбудаваная да цэнтральнай (Слаўг.). □ в. Прылéпы Лаг., пас. Прылёпаўка каля в. Драгунск Рагач., вул. Прылёпаўка ў в. Васькавічы Слаўг.

ПРЫЛУ'КА. Месца каля рачной лукі (Слаўг.). Тое ж *прылýчча, прыўлýкі* (Слаўг.).

ПРЫМО'Л. 1. Тое, што і бухта 1, 2; вір. (Стол.). 2. Круты, высокі бераг (Палессе Талст.).

ПРЫМЫ'ЛЬНІШЧА. Месца, дзе быў прылазнік (Слаўг.).

ПРЫ'ПАР. Зацішнае, сонечнае месца; санцапёк (Пол., Слаўг.). Тое ж *прыпарка, прыпёка* (Слаўг.), *прыпёк* (БРС), *прыпáрка* (Лёзн.).

ПРЫ'ПАРАМАК. Месца, дзе прыстае да берага па-ром (Рэч., Слаўг.). Тое ж *прыпаромак* (Слаўг.), *прычáн* (Браг.), *прыпарань* (Бых). □ ур. Прыпарамак (луг) каля в. Гайшын Слаўг.

ПРЫ'ПЕЧ. 1. Пясчаны спадзісты бераг («Савецкі Саюз. Беларусь», 1967, 301). 2. Пясчаны нанос каля берага ракі (Палессе). □ р. Прыпяць.

ПРЫ'ПЛАЎНІК. Невялікі заліў на рэчцы, куды прыбівае кару, трэскі, смецце; рачныя наносы, іл (Усх. Палессе Талст.).

ПРЫПЫ'НІШЧА. Прымітыўнае або часовае жыллё; схо́вішча, патаемнік (Слаўг.). Тое ж *прыстáнішча, прыцапýнішча* (Слаўг.), *прытýлішча* (Зах. Бел. Др.-Падб., Слаўг.).

ПРЫ'РАВАК. Невялікае адгалінаванне рова; рукаў; равочак (Слаўг., Чэр.). Тое ж *прыраўчук* (Слаўг.).

ПРЫ'РВА. Яма на балоце, у торфе (Зах. Палессе Талст.).

ПРЫРО'БАК. Ачышчанае ад зарасніку месца; участак раллі (Нас. АУ). Тое ж *прыробка* (Нас. АУ).

ПРЫРЭ'ЗАК. Невялікі дадатковы ўчастак зямлі (Слаўг.). Тое ж *прырэзка* (Слаўг.). □ ур. Прырэзка (частка дзяржаўнага лесу, адведзеная для калгаса) каля в. Футар Краснап.

ПРЫСА'ДА. 1. Насаджэнні вакол хаты, сядзібы (Бых. 1641 МЕВ, № 11, ч. аф., чэрвень, 1906, 415, Глуск. Янк. II). 2 Алея; вялікая абсаджаная дарога; зона адчужэння паабапал дарогі (Сміл. Шат.). Тое ж *прысáддзе* (Маг.), *прысáды* (БРС). 3. Дастyпнае месца, да якога можна пад'ехаць (Стол.).

ПРЫСА'ДЗЬБА. Сядзіба пры хаце (Стол.).

ПРЫСА'ДНІК. 1. Парк (Зах. Бел. Др.-Падб.). 2. Непладовае дрэва ў агародзе (Зах. Бел. Др.-Падб.).

ПРЫСЕ'ЛАК. 1. Месца для сялібы (Сміл. Шат.). 2. Малы пасёлак, хутар (Нас. АУ, Сміл. Шат.). Тое ж *прысёлак* (АЛМ, 1, 20, 284). □ в. Прысёлкі Лаг.

ПРЫСЛО'Н. Сонечная старана, паўднёвы бок (Пол.).

ПРЫСМА'ЛАК. Зямля, якая відаць з-пад снегу на зімовай дарозе (Сміл. Шат.).

ПРЫСО'С. Нізкае, вільготнае месца з глейкай глебай (Чэр. Бяльк.).

ПРЫСТ. 1. Прамая дарога (Пін.). 2. Цячэнне вады на балоце (Пін.). Тое ж *прыстачка* (Пін.).

ПРЫ'СТАНЬ. Месца на беразе, прыстасаванае для прычалу параходаў (БРС). Тое ж *прыстаць, прыстáнішча* (Слаўг.). □ ур. Параходская Прыстань у г. Слаўгарадзе, ур. Бáрышнева Прыстань, ці Бáрышнае (рум) каля в. Дабранка Слаўг.

ПРЫСТУ'ПКІ. Месца на схіле гары, дзе зроблены земляныя ступенькі (Рэч.).

ПРЫСЯЛЕННЕ. Абгароджаная зямля каля сяла (Нас. АУ).

ПРЫТО'КА. Рака або рэчка, якая ўпадае ў другую раку (БРС).

ПРЫ'ТХА. Палонка ў лёдзе, куды выходзіць рыба (Слаўг.). Тое ж *прытхалле, прытхаль, прытхіль, прытхля* (Слаўг.).

ПРЫТЫ'КА. Месца стаяння барак у вусці р. Пачайны (Макс., 122).

ПРЫ'ЦЕРАБАК. Дадатковы ўчастак поля або сенажаці на месцы выцерабленых кустоў, лесу (Слаўг.).

ПРЫШЫ'Б. Бойкае, людное месца (Слаўг., Смален. Дабр.).

ПРЭНТ. 1. Баразна бульбы (Мін., Смал.). 2. Стар. Паземельная мера, якая раўнялася 2 1/7 сажня (Гарб., Дэмб., 1, 1882, 171), дзесятай частцы каморніцкага ланцуга або пяць сажняў з доляй (Нас. АУ, 394 б). 3. Мяжа, зарослая травой (Стол.).

ПУЖО'У. Месца ў лесе, дзе многа вялося змей, гадзюк, вужоў (Слаўг.). Тое ж *пыжоў* (Слаўг.). □ ур. Пужоў (непраходны лес, гушчар) каля в. Серкаўка Слаўг., ур. Пыжоў і Пыжоўскае балота (1911 ЦДГА БССР, ф. 2193, спр. 12, лл. 18, 19), в. Пужоў (Серкаўка) Слаўг.

ПУҚ. Выпуклая, акругленая ўзвышаная мясцовасць (Слуцк. Адам., 8), Тое ж *пукáтасць* (Слаўг.). □ в. Пýкава Қап., в. Пукі Міёр., ур. Пукшына (поле) каля в. Бабінавічы Арш.

ПУ'НІШЧА. Месца, на якім стаяла пуня (хлеў); вялікая пуня (Віц. Нік. 1895, Выс. Қасп., Слаўг.). □ ур. Пунішча пад Гарадком каля в. Шаламы Слаўг., ур Пунішча (луг) каля в. Віравая Слаўг., ур. Пунішча (лог) каля в. Беражыстае Қрыч.

ПУСТАДО'ЛЛЕ. Абложная зямля (Қамар., Нясв.).

ПУ'СТАҚ. 1. Месца ў лесе, дзе закопваюць здохлую жывёлу (Віц. Нік., 1895). 2. Былая лесасека (Віц. Нік., 1895).

ПУСТА'ТКА. Невялікая постаць (Мсцісл. Юрч.).

ПУСТАЎШЧЫ'НА. Неўрадлівая зямля (Стол.).

ПУСТА'ЦЬ. Зжатая паласа, участак (Мсцісл. Юрч.).

ПУ'СТКА. 1. Зарослы, запушчаны ўчастак поля (БРС). 2. Пустое, неўрадлівае поле (Выс. Қасп., Стол.), ялавіна (Слаўг.). Тое ж *пýстата* (Рэч.), *пустальгá* (Слаўг.), *пýсташ* (Росл. Бяльк., Слаўг.). *пустыр* (Слаўг., Стол.). 3. Незасеянае поле (Росл. Бяльк.) □ ур. Пýсткі (поле) каля в. Қароцічы Стол.

ПУСТО'ША. Запушчанае, занядбанае поле або лес (Зах. Бел. Др.-Падб.).

ПУСТЫ'НЯ. 1. Пустая, неўрадлівая зямля (Зах. Бел. Др.-Падб., МДС, Слаўг.). Тое ж *пусты́нь, пýстыш* (Слаўг.), *пустэ́ча* (Глуск. Янк. I). 2. Закінутае поле (Слаўг.). 3. Ціхае глухое месца (Слаўг.). □ в. Пусты́нкі Мсцісл., в. Пусты́ Асавéц Маг.

ПУСТЭ'ЛЬГА. Пусткавы, запушчаны, занядбаны кут (Зах. Бел. Др.-Падб.).

ПУСТЭ'ЛЬНЯ. 1. Неўрадлівае поле (Зах. Бел. Др.-Падб. Слаўг.). 2. Пустое месца; глуш (Зах. Бел. Др.-Падб.).

ПУ'СЦЕЖ. Пустая неўрадлівая зямля, якая зарасла лесам (Рэч.).

ПУХІ'Р. Уздуцце багны ў выглядзе бурбалкі, якая падымаецца з дна дрыгвы, калі апошняя зацягвае штонебудзь у свае нетры (П. Броўка. Қалі зліваюцца рэкі, 1957, 128).



ПУХЛЕ'Ц. Рыхлая зямля светлага колеру (Лёзн.); шэра-белая глеба (Пол.). Тое ж *пухляк* (Лёзн.).

ПУХЛО'. Небяспечнае месца, гразкае вокнішча на балоце; багна (Жытк.).

ПУ'ЦІҚ. Струменьчык вады на крынічным месцы (Беш. Чашн. Қасп.).

ПУ'ЦІНА. Месца, парослае травой, цвёрдай пуцінай (Ст.-дар.).

ПУЦІ'НА. Дарога, сцежка; зімовая дарога (БРС).

ПУЦІ'ШЧА. Балоцістае месца на злучэнні ракі Пцічы і яе прытока Арэсы (Серб. 1915).

ПУЦЬ. 1. Чыгунка (БРС). Тое ж *пуця́* (Гродз., Слаўг.). 2. Вельмі далёкая дарога, на вялікую адлегласць (Арш., Лаг., Слаўг.).

ПУЦЯВІ'НА. След дарогі, мала ўезджаная дарога (Зах. Бел. Др-Падб., Слаўг.).

ПУЦЯВІ'ШЧА. Вуглавое злучэнне дзвюх дарог; скрыжаванне; пераважна лясны шлях (Віц. Нік. 1895, Смален. Дабр.). Параўн.: На Пуцявішчы у Панаса, Ён там ля лазні блізка жыў (Тарас на Парнасе, 1953, 67).

ПУЧО'Қ. Невялікае шляхецкае памесце (Віц. Шэйн, 3).

ПУ'ШЧА. 1. Вялікі, густы, непраходны, векавы лес (БРС); пераважна ліпавы (Тал. Мядзв.); густы зараснік у лесе (Жытк.). 2. Непраходныя балоты (Палессе Талст.). 3. Бязлюдныя, глухія, лясныя месцы (Нас. АУ, Слаўг.). □ Белавежская пушча Брэсц., ур. Пушча (поле) каля в. Кліны Бял.

ПУШЧУ'ГА. 1. Вялікая пушча; векавы лес (Слаўг.). 2. Неўрадлівае поле, пустка (Слаўг.).

ПЧАЛЬНІ'Қ. Месца, дзе стаяць вуллі з пчоламі (БРС). Тое ж *пчэ́льня* (Кузн. Қасп., Слаўг.). □ в. Пчэльня Слаўг.

ПШАНІ'ЧЫШЧА. Урадлівае поле, дзе расла пшаніца (Докш., Жытк., Лаг., Леп., Нясв., Рэч., Слаўг., Шчуч.). Тое ж *пашанічышча* (Слаўг.). *пшані́чнішча* (Жытк., Маз., Пух., Хойн.), *пшанітнішча* (Слаўг., Смарг.), *пшóнішча* (Лёзн., Маладз., Навагр., Паст., Слаўг.), *пшоннішча* (Сміл. Шат.), *пшоніска* (Ваўк. Сцяшк.), *пшонна аржы́шча* (Навагр.), *пшэнішча* (Крыч., Слаўг., Уш.), *пшэнне, пшанéўе* (Слаўг.).

ПШЫ'ЕНКА. Перашыек (Слаўг.). Тое ж *пяройціська, пярэціськ* (Слаўг.).

ПЯНЕ'УЕ. Месца, дзе стаяць пні ад ссечанага лесу (БРС). Тое ж *пёння, пянéвічча, пянёўе* (Слаўг.).

ПЯНЬКО'ВІШЧА. Месца, дзе мочаць каноплі (Краснап. Бяльк.). Тое ж *пянькýчышча* (Краснап. Бяльк.).

ПЯРО'КРЫЖКІ. Месца скрыжавання вуліц, дарог (Слаўг.). Тое ж *пяряхростка* (Гом., Гродз.), *пярэкрыж, пярэхрасткі, пярэкрыжкі* (Слаўг.).

ПЯРЭ'ЖАР. Пясчанае поле, на якім выгараюць пасевы (Мін. Лемц., 15).

ПЯРЭ'ПЛАТ. Прыстасаванне ў выглядзе вялікай і высокай лесвіцы для высушвання снапоў (БРС).

ПЯРЭ'РВА. Размытае месца на дарозе, прарваная плаціна (БРС). □ ур. Пярэрва (поле) Стаўбц. (Прышч.).

ПЯРЭ'СПА. 1. Намытая вадой каса (БРС). 2. Пясчанае прадаўгаватае ўзвышэнне на полі (Слаўг.). □ в. Пярэспа Люб., вв. Вялікая Пярэспа і Малая Пярэспа Сен., ур. Пярэспа, ці Пярэспы (поле) каля в. Віравая Слаўг.

ПЯСО'К. 1. Сыпучыя крупінкі цвёрдых мінералаў (БРС). 2. Пясчанае месца; пясчаная неўрадлівая глеба; пясчаны бархан на полі (БРС). Тое ж *пéсак, пясчурá, пясчы́шча* (Слаўг.), *пясчугá* (Слаўг., Стаўбц.). □ ур. Пяскоў лог каля г. Гомеля (К., 1837), в. Пясочнае Кап.

ПЯТА'. 1. Месца на вуглавым павароце поля, дзе знаходзіцца каморніцкі капец (Стол.). 2. У актах (1577). Прыкметнае чым-небудзь месца, ад якога пачыналі межаванне зямельных угоддзяў; межавы пункт (Брэсц. АВАК, XVIII, 20, 29). □ в. Пятоўскае Віц. (Рам. Мат.).

ПЯТАК. Высокае, люднае месца (Слаўг.).

ПЯТАЧО'К. Пляцоўка або памост, прыстасаваны для танцаў моладзі (Рэч.).

ПЯ'ТРА. Месца паміж прымёрзлым да берага лёдам і вадой, якое ўтвараецца пры спадзе веснавой вады (Пар.). Тое ж *п'ятра* (Жытк.).

ПЯЧО'РА. 1. Падземны ход, падзямелле (БРС). Тое ж *пячэра* (БРС), *пяшчэра* (Кап., Слаўг., Шчуч.). 2. Паглыбленне; нара ў вадзе (Нясв.). Тое ж *пячáра* (Слаўг.). □ в. Пячáры Касц.

ПЯШЧА'НКА. Рэчка, якая мае пясчанае дно (Слаўг., Шчуч.). □ р. Пішчанка (984 р. Пішчань, пр. пр. р. Сажа) Слаўг.

ПЯШЧЫ'НА. Пясчаны ўчастак зямлі (Докш.).



## Р

РАБІ'ННІК. Зараснік рабіны Sorbus aucuparia; лес, у якім багата расце рабіны (БРС).

РАБІ'НАЎКА. Месца, дзе расла рабіна (Слаўг.). □ в. Рабінаўка Слаўг.

РАВЕ'Ц. Равок, пракапаны ўпоперак лукі, які злучаецца з ракой і прызначан для лоўлі рыбы (Стол.).

РАВІ'НКА. Паніжэнне на роўным полі; жолабападобнае паглыбленне на схіле гары, паміж узгоркамі (Слаўг.).

РАВО'К. 1. Звычайна сенажатная ўпадзіна паміж узгоркамі (Слаўг., Чэр. Бяльк.), дзе часта цячэ ручай (Бых., Рагач.). 2. Ставок на сухадольнай упадзіне (Слаўг.). 3. Канаўка (БРС). □ ур. Брагідоўскі равок каля в. Заспа Рэч., ур. Давыдзёнкаў равок (ручай, сенажаць) каля в. Шаламы Слаўг., воз. Равок каля в. Кульшычы Слаўг.

РАВЯ'К. Вялікі равок (Карм.). □ ур. Равякі каля в. Казіміроў Карм.

РАГАЗА'. Зараснік чароту Scirpus lacustris L. Тое ж *мячэўнік* (Слаўг.).

РАГА'ЛІНА. Сукаватае дрэва (Нясв.). □ в. Рагáлін (К. 1809), ці Рагáльня Слаўг.

РАГА'ЛЬ. 1. Сукаватае дрэва (Слаўг.). 2. Лось (Слаўг.). □ ур. Рагалёва поле і Рагалькова балотца каля в. Шаламы Слаўг.

РАГА'ТКА. 1. Загарода на дарозе; застава, шлагбаум (Слаўг.). 2. Выступ сушы, які ўдаецца ў вадаём (Слаўг.). 3. Скрыжаванне дарог (Слаўг.). □ ур. Рагáцік (луг) каля в. Крамянка Слаўг., Рагáткі (месца, дзе сыходзяцца рагі вуліц) у в. Любаны Слаўг.

РА'ГІ. Ручайкі пасля дажджу; струменьчыкі вады на крынічным месцы (Нясв.). Тое ж *рэгі* (Маладз.).

РАГО'З. Зараснік рагозу Typha latifolia L. (Стол.). (Слаўг.). Тое ж *рагознік, рагоза* (Слаўг.). □ саўгас «Рагазнянскі» Кобр., б. х. Рагознае, р. Рагозна (К. 1773), ур. Рагожнае каля в. Ржаўка Слаўг.

РАЗВІ'ЛІНА. Месца, дзе дарога раздвойваецца (БРС). Тое ж *развілка* (Маладз., Рэч., Слаўг., Хойн.), *размініна, размінка* (Слаўг.), *раз'éзд* (БРС).

РАЗДАРО'ЖЖА. Месца, дзе сыходзяцца, скрыжоўваюцца вуліцы, дарогі (БРС).

11. Зак. 613

РАЗДО'Р. Поле або сенажаць на месцы выкарчаванага лесу (Стаўбц. Прышч.). □ ур. Раздор (сенажаць) Стаўбц.

РАЗЛО'Г. 1. Раздолле, прастор, шыр, даль (БРС). Тое ж *раскоша* (БРС). 2. Сухадол, роў, яр, шырокая нізіна (Вілен.). 3. Рыхлая, мяккая глеба (Гарад. Касп.).

РАЗМЫ'Ў. Месца, размытае вадой (Быx., Маг., Слаўг., Чав.).

РАЗО'К. Невялікі ўчастак сенажаці, поля; рэз (Сміл. Шат.).

РАЗО'РА. 1. Канаўка, жалабок паміж барознамі бульбы, буракоў, які атрымліваецца пры акучванні (БРС). Тое ж *разорына* (БРС). 2. Глыбокая і шырокая баразна, равочак паміж загонамі пры ворыве ўроскідку або каля мяжы пры ворыве ўсклад (Беш. Касп., Браг., Дубр., Жытк., Кобр., Маз., Рэч., Сал., Слуцк. Сержп. Грам., Стол., Шчуч.). Тое ж *разорына* (Дубр., Нас.), *разор* (Лёзн., Смален. Дабр.), *разорва* (Зах. Бел. Др.-Падб.).

РАЙ. Месца з вельмі прыгожым краявідам і ўрадлівай зямлёй (Слаўг.). □ в. Рай Мсцісл., в. Раіны Азяр., в. Райск Бельскага пав. у ПНР.

РАКА'. Пастаянны водны паток значных памераў з прыродным цячэннем па рэчышчу ад вытока ўніз да вусця (БРС). Тое ж *рэка* (Арш., Вілен. Карскі, вып. 3, 1900, 91, Жытк., «Наша Ніва», 1913, № 20, 1, Рэч., Сал., паўднёвы захад Слаўг., Ст.-дар., Стаўбц., Стол., Шчуч.).

РАКІ'ТНІК. Зараснік ніцай лазы Salix rosmarinifolia L., якая расце на пясчаных берагах рэк (БРС) або вербалозу Salix pentandra L. (БРС). □ ур. Ракітнікі (луг) каля в. Гіжэнка Слаўг.

РА'ЛЯ. Тоўсты сук, адгалінаванне, два ствалы з аднаго кораня (Жытк.). Тое ж *ра́ла* (БРС).

РАЛЛЯ'. 1. Узаранае поле (БРС). Тое ж *ралле́* (Мсцісл. Бяльк.), *раллё* (Віц. Шэйн. БП, 783, Крыч., Слаўг.), *ральба́, ра́ліва, раццё* (Слаўг), *ралья* (Воран., Жытк., Кап., Навагр., Нясв., Рэч., Сал., Стол., Шчуч.), *раля́* (Зэльв., Рэч., Хойн.), *роля* (Ваўк. Сцяшк., Нас., Пін. Булг., 198), *ролья* (Пін. Булг., 198), *роль* (Нас. АУ, Я. Колас. Паэмы, 1946, 281). 2. Пар, зямля, якую не аралі на працягу года (Быx.).

РАМЕ'ННІК. Зараснік бабоўніку Menyanthes trifoliata L. (Жытк.).



РАМЕНЬ. Вялікі балотны лес (вв. Сялецкая і Ушакі Крыч. Меер, 1786, 121, 122, «Наш край», 1926, № 8—9 (11—12), 19). Параўн.: *рамение* 'лес па краю раллі' (Сразн. III, 65).

РАМЯ'. Рукаў ракі (Капацэвічы Маз.).

РА'НДА. Шынок (Маг. губ. вед., 1854, № 48, 865).

РАСА'ДНІК. 1. Абгароджанае месца, дзе сеюць расаду, вырошчваюць насенне з высадкаў (БРС). Тое ж *пылыса́днік, параса́днік* (Слаўг.). 2. Гадавальнік для вырошчвання садовых і дэкаратыўных дрэўцаў (Слаўг.).

РАСКО'П. Паглыблены і расшыраны вадаём; расшыраная частка канавы, дзе мыюць бялізну, пояць жывёлу, мочаць каноплі; паглыбленне, кар'ер, глінішча (Слаўг.). Тое ж *раскоп'е, раскопінне, раскопішча, раскапані́чча* (Слаўг.). □ ур. Раскоп'е каля в. Урэчча Слаўг.

РАСКО'С. 1. Луг з купінамі і пнямі (Сен. Касп.). 2. Двайны пакос (Хоц. Бяльк.).

РАСКРЭ'СТ. Перакрыжаванне дарог (Стол.). Тое ж *растані́* (Слаўг.), *раскрэсы* (Ветк.), *растаня́* (Рэч.), *растанцы́* (Глуск. Янк. II, Пар.).

РАСПА'ШКА. Упершыню ўзаранае поле (Стол.). Тое ж *распахата́* **(Слаўг.).**

РАСПУ'ЦЦЕ. 1. Месца, дзе дарога раздвойваецца; развілка (Маладз., Слаўг.). Тое ж *расход* (Ст.-дар.), *расход дарог* (Сал.), *разыходные дарогі* (Стол.), *растанцы́* (Маз.). 2. Бездарожжа вясной або ўвосень; гразь; паводка; адталая зямля (Зах. Бел. Др.-Падб., Нар., Слаўг., Смален. Дабр.). Тое ж *распу́ціца* (Рэч., Слаўг.), *растоп, растопіца, растаропа* (Слаўг., Стол.), *растароп* (Слаўг.), *растроп* (Смален. Дабр.), *растаропі́ца* (Мсцісл. Бяльк., Нас., Слаўг.).

РАССА'. Густыя заграснікі розных водных траў тыпу рагалісніку Ceratophyllum demersum L., урэчніку Potamogeton natans L. і інш., якія добра ядуць рыбы, вадаплаўныя птушкі і іншыя жывёлы (Віц. Кузн. Касп.).

РАСТО'Ў. Востраў сярод балота, на якім расце высокі лес (Віц. Рам. Мат.). □ ур. Растоў (балотны востраў з высокім лесам) Віц. (Рам. Мат.).

РАСЦЯРО'Б. 1. Месца, расчышчанае ад кустоў, лесу пад раллю або луг (БРС). Тое ж *расцяробы* (Хоц. Бяльк.).2. Балоцістая нізіна ў лесе (Смален. Дабр.). □ ур. Расцяробы (луг) каля в. Бабінавічы Арш., ур. Сіпаў Расцяроб (поле) каля в. Калінаўка Краснап.

РАСЦЯРО'БА. 1. Аблога, зарослая кустамі, драбналессем (Слаўг., Смален. Дабр.). 2. Месца, дзе высечаны лес, але яшчэ нераспрацаванае пад поле (Смален. Дабр.), зарослае хмызняком (Бял. Матэр., Слаўг.). Тое ж *расцяробы* (Слаўг., Хоц. Бяльк.).

РАЎДО'НЬ. Рачная нізіна; шырыня рэчышча, абалоні і заліўных лугоў (Кап.). Тое ж *раўдá, раўдáнь* (Кап.). Параўн. прыгаворку: Пáне Я'не-Пабіяне, пáсвіў кóні на раўдóні (в. Макраны Кап. Вас.).

РАЎНІ'НА. Роўнае поле (БРС). Тое ж *раўнінá* (Зах. Бел. Др.-Падб., Кап., Рэч., Слаўг.), *раўнядзіна* (Віц. Нік. 1895), *раўнядзь* (Віц. Нік. 1895, Крыч., Лёзн., Слаўг.), *раўкінь, роўніца, раўнічáнь* (Слаўг.). □ в. Раўніна Рагач. (К. 1778).

РАЎЧАВІ'НА'. Мелкі сухадольны равок, пракапаная канаўка (Слаўг.). Тое ж *раўчáг* (Слаўг.).

РАЎЧА'К 1. Неглыбокі роў з вадой, на дне якога цячэ паток (Бых., Жытк., Нас., Слаўг., Шчуч.). 2. Адгаліnаванне ракі; ручай (БРС). 3. Канаўка пад капяжом хаты для сцёку вады (Рэч., Слаўг.). Тое ж *раўчачок* (Рэч.). 4. Калдобіна (Грыг. 1838—1840). 5. Абмялелая рэчка (Слаўг.). □ р. Раўчáк каля в. Зімніца Слаўг.

РАЎЧУ'К. 1. Ручай, рачулка (БРС). Тое ж *раўчок* (Краснап. Мсцісл. Бяльк.), *раўчэка* (Стол.). 2. Нізіна або канава, па якой амаль заўсёды цячэ вада (Стол.). Тое ж *равéц* (Стол.). 3. Пракапаная канаўка пад капяжом (Нясв., Слаўг., Стол.). Тое ж *раўчэка* (Стол.).

РАЎЧЫ'НКА. Невялікае прадаўгаватае паглыбленне ў зямлі (Слаўг.). Тое ж *жалобчынка* (Слаўг.).

РАЧА'ЛІНА. Балотная рэчка (М. Танк. Янук Сяліба, 1957, 3).

РАЧА'ДЗЬ. Старое рэчышча ракі (Чашн. Касп.).

РАЧУ'ЛКА. Невялікая рэчка (БРС). Тое ж *раччонка* (Віц. Нік. 1895, Слаўг.), *раччўшка* (Віц. Нік. 1895, Мсцісл. Бяльк., Слаўг.), *рэччанка* (Слаўг.).

РАЧЫ'ШЧА. 1. Старарэчышча (Стаўбц.). 2. Багністае месца на зарослым рэчышчы (Стаўбц.). □ ур. Рачышча (луг) каля в. Беражцы Жытк.

РЖА'ВА. Гразкае, іржавае балота з вокісам жалеза ў вадзе; балота з жалезнай рудой (Віц. Рам. Мат., Слаўг.). Тое ж *ржа* (Жытк., Нясв., Слаўг., Стол.), *ржáвец, ржáвіна, ржавінá, рыжавіна* (Слаўг.). □ в. Ржава Віц. (Рам. Мат.).



РЖАВЕНЬ. Крыніца на багністым глыбокім балоце (Глыб. ДАБМ, 42).

РЖА'ЎКА. 1. Балота з іржой (паўсям.). 2. Крыніца, ручай у раўку (Смален. Коз., 118). □ в. Ржаўка Слаўг.

РЖЫ'ШЧА. 1. Зжатае поле (БРС). Тое ж *ржонне* (Смален.), *ржэўнік* (паўсям., апрача поўдня БССР ДАБМ, к. 269), *рожня* (Хойн.). 2. Поле, на якім зжата жыта (амаль паўсям. ДАБМ, к. 271). Тое ж *ржыска* (Ваўк. Сцяшк., Вор. ДАБМ, к. 271), *ржанішча* (Слаўг., Смален. Дабр.), *ржэўнік* (Бых., Лёзн. Касп., Мін., Слаўг., Сміл. Шат., Уш. ДАБМ, к. 271), *ржоўнік* (Бабр., Слуцк. ДАБМ, к. 271), *ржонне* (Маладз. ДАБМ, к. 271), *ржонішча* (Мін. і поўнач Гродз. ДАБМ, к. 271), *ржынішча* (Маладз., Мін. ДАБМ, к. 271), *ржáнішча* (Бабр. Гом. Слуцк. ДАБМ, к. 271).

РОГ. 1. Вугал вуліцы (БРС). 2. Выступ, клін поля, лесу, лугу; лука, паварот ракі; клінападобная частка балота (Жытк., Крыч., Нясв., Рэч., Сал., Слаўг.). □ ур. Дзéдаў рог (луг) каля в. Віравая Слаўг., ур. У рагáх (лес) каля в. Яскавічы Сал., ур. Піля́вы рог (выступ поля, лугу, лесу) каля в. Заспа Рэч., ур. Зая́зкі рог (балота) і ўр. Мулкоў рог (балота) каля в. Беражцы Жытк., ур. Пéршыя (Другія, Трэція) ражкí (выступ поля, лесу) каля в. Дзягавічы Крыч., ур. Бузя́ны рог (частка возера) каля в. Чарсвяны Уш.

РОЙСТ. Балота, балоцістая мясцовасць (Воран.). Параўн.: У пушчы ляжыць скарб закляты за ройстам у гушчы (Ф. Багушэвіч. Выбр. тв., 1952, 49). □ ур. Райсцяны (1593) на Вілен. (АВАК, XI, 50).

РО'ЙСТА. 1. Месца, дзе дарога раздвойваецца (Вілен.). 2. Балота (Ашм. Ф. Багушэвіч, верш. «Праўда»). 3. Няўдобіца (Іў.).

РО'ЙСТВА. Выпас для жывёлы (Нясв.). □ ур. Ройства (папас) каля в. Малева Нясв.

РО'ЙСТЫ. 1. Раздарожжа (Вілен.). 2. Скрыжаванне дарог (Вілен.). □ в. Ройсты Свянц.

РО'ЛЬНЯ. Большая палова прысядзібнага ўчастка калгасніка ў полі, які кожны год даецца на новым месцы (Стаўбц., Шчуч.).

РОМ. Простор, свабоднае месца; абшар (Зах. Бел. Др.-Падб.).

РО'СКІДКА. Узаранае ўроскідку поле з разорай пасярэдзіне загона (Нясв., Смал., Сміл. Шат., Стол.).

РО'СТАНЬ. 1. Месца, дзе перакрыжоўваюцца дарогі, вуліцы (БРС). Тое ж *ростані* (Маг. губ. вед., 1854, № 48, 865, Рагач., Рэч., Слаўг.), *ростанкі (*Віц. Нік. 1895, Нас., Смален. Дабр.), *ростанькі* (Грыг. 1838—1840, Пол., Рэч., Слаўг., Ст.-дар.). 2. Месца, дзе дарога раздвойваецца (БРС). Тое ж *ростані* (Рэч.), *ростанькі* (Краснап. Бяльк., Леп., Слаўг., Хоц.), *ростанкі* (Ст.-дар.), *растане, растані* (Слаўг.). 3. Дарога на бязлеснай мясцовасці; шляхі зносін (Віц. Рам. Мат.).

РОЎ. 1. Глыбокае канавападобнае паніжэнне, вымытае веснавымі ліўнямі; штучная глыбокая канава (БРС). 2. Крыніца (в. Шэкі Арш.). 3. Паглыбленне, упадзіна паміж затонамі (Стол.). 4. Круглай формы яма на высокім месцы для захавання бульбы зімой (Віл., Ст.-дар.). □ ур. Та́нкавы Роў каля Слаўгарада, вул. Роў (1750) у г. Прапойску (ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 4, інв. 1556, л. 219), ур. Байцоў Роў (луг каля р. Пацэя) недалёка ад в. Свенск Слаўг., ур. Роў (кусты) каля в. Улукі Слаўг., ур. Грутаў Роў (крыніца) каля в. Шэкі Арш.

РО'ЎНЯДЗЬ. Роўная паверхня поля; раўніна; гладкая паверхня вады (БРС). □ в. Роўнядзь Лаг.

РО'ШЧА. 1. Гадаваны ўчастак лісцёвага лесу каля населенага пункта; гарадскі парк (Рэч., Слаўг.). 2. Малады бярозавы лес, бярэзнік (Крыч.). 3. Могілкі (Магілёў). □ ур. Рошча (парк) у г. Слаўгарадзе, ур. Дарахве́іхіна рошча (бярозавы і сасновы лес) каля в. Бабінавічы Арш., ур. Рошча (бярозавы і хваёвы лес) каля в. Любаны Слаўг.

РУБ. Ст.-бел. Ускраіна (вёскі, зямлі, дзяржавы); мяжа. □ ур. Ру́банаў Ку́рган каля в. Ст. Каменка Слаўг., ур. Рубры́на каля в. Кароцічы Стол.

РУБЕ'Ж. 1. Мяжа (БРС). 2. Цвёрды выступ зямлі на роўным месцы; вузкая броўка (Слаўг.). □ в. Рубе́ж Кліч., в. Рубеж Чэрв., ручай Рубежнік Віц. (Рам. Мат.), в. Рубяжэвічы Ст.-дар.

РУДА'. 1. Балотная жалезная руда (БРС). 2. Балота з камякамі жалезістай іржы і вадкай іржавай плёнкай паверх вады (Барыс., Ваўк. Сцяшк., Навагр., Паст., Слаўг., Стаўбц.). Тое ж *ру́дзішча* (Стаўбц. Прышч.), *рудовіна* (Навагр.). 3. Гразь на дарозе (Сен. Касп., Слаўг.), у балоце (Стаўбц.). 4. У актах. Млын для размолвання руды. □ ур. Руда (балота, сенажаць) каля в. Пруды Стаўбц., ур. Бальшая Руда (балота) у басейне р. Нёмана (Серб., 1912, 84), ур. Ру́дзішча (поле) Стаўбц. (Прышч.).



РУ'ДКА. Крыніца з іржавай вадой (Слаўг.). Тое ж *ру́дзэка* (Слаўг.).

РУ'ДНЯ. Ст.-бел. Руднік для апрацоўкі балотнай жалезнай руды; жалезаплавільны і меднаробчы заводы (Нас.), паташны завод (Нас. АУ). □ Гамарня або Гразівецкая Рудня Крыч., в. Рудня Слаўг.

РУ'ЖА. 1. Куст, кустоўнік Rosa (БРС). 2. Калонія раслін мальва лесавая Malva sylvestris (Меж. Касп.). 3. Суша, высокае месца (Беш. Касп.). □ г. п. Ружа́ны Гродз.

РУІ'НА [1]. Рэшткі разбуранага будынка (БРС); вайна (Грыг. 1838—1840, Тал. Мядзв.). Тое ж *руніна* (Дзятлавіцкая вол. Гом. Радч., 1888, стар. XII).

РУІ'НА [2]. Прыволле, выгода (Слаўг.).

РУКА'Ў. Адгалінаванне ад рэчышча ракі, возера (БРС). Тое ж *рука́віна* (Слаўг.).

РУМ. Месца каля ракі, куды звозяць зімой лес для сплаву; лясная прыстань (Пух. Шат., Сен. Касп., Слаўг., Стол.). Тое ж *ру́мішча* (Віц. Рам. Мат.), *рюм* (Віц. Нік. 1895, Слаўг.). □ ур. Рум (каля Сажа) Слаўг., в. Рум Валож.

РУХЛЯ'К. Сумесь гліны або пяску з вапнай Suarga Cretacea (Крыч. Меер, 1786; Маг. М. В. Фурсов. Описание Могилевского музея, 1898, 76).

РУЧАВІ'НА. 1. Перасыхаючая рэчка; сухадольны равок (Слаўг.). 2. Самае хуткае цячэнне (Слаўг.).

РУЧАЁК. 1. Малая рэчка (Навагр., Слаўг.). 2. Веснавы, дажджавы, крынічны струмень (Слаўг.).

РУЧАІ'НА. 1. Перасыхаючы ручай; веснавы ці дажджавы паток (Слаўг., Сміл. Шат.). 2. Вільготнае месца, дзе сочыцца крынічная вада і адкуль пачынае цячы ручай (Рэч., Слаўг.).

РУЧА'Й. 1. Невялікая рэчка, паток; рачулка (БРС). Тое ж *ручэй* (Ветк., Крыч., Леп., Лёзн., Маз., Маладз., Паст., Слаўг., Смал. Дабр., Стол.), *руччэй, руччэвіна, руччэйка* (Слаўг.). 2. Месца, дзе ў зямлі праходзіць ваданосны пласт; крынічная жыла (Стаўбц.). 3. Струмень дажджавой або снегавой вады; ракапаная канаўка кругом хаты (Слаўг.). Тое ж *ручэй* (Лёзн., Слаўг.), *руччэй* (Слаўг.). □ р.Руча́й (Пачайна) у басейне Дняпра (Макс., 86), Дубе́нскі руча́й каля в. Дубня Слаўг., в. Глы-

бокі Ручэй Мядз., б. х. Халодны Ручэй (1926) каля в. Старынка Слаўг.

РУ'ЧАЙ. Быстрая рэчка (Лях. Кап., Слаўг.). □ р. Сіні Ру́чай каля в. Дабранка Слаўг., Аўтула́зкі Ру́чай, Су́ські Ру́чай, Ліпскі Ру́чай каля пас. Калінаўка Краснап., ур. Ру́чай каля в. Кульшы́чы Слаўг., в. Філіпаў Ручай (з 1727 года) Крыч. (AGAD w Warszawie, Ar, Dział XXV, s. 1935, л. 187).

РУЧВО'. Рэчышча ракі; фарватэр (РБС, 238).

РУ'ЧКА. Пракос (Нар.).

РУ'ЧЧА. 1. Выгода, прыволле, дзе ўсе ўгоддзі побач (Слаўг.). 2. Месца, дзе працякае ручай (Лёзн., Рэч.). 3. Старое рэчышча ручая з шырокім дном (Лёзн.). □ ур. Ру́чча (поле, бярэзнік) каля в. Любаны Слаўг.

РУЧЧА'. Бязводны летам і пара́ўнальна багаты вясной і ў час паводкі ручай; палявая або лугавінная нізіна (Віц. Нік. 1895).

РУЧЧАВІ'НА. Пачатак рэчышча ручайка, які выцякае з крыніцы (Віц. Нік. 1895). Тое ж *вы́цек* (Слаўг.).

РУЧЧЫ'. Месца, дзе зліваюцца ручаі ў рэчку; багатае крыніцамі месца (Слаўг., Уш.). Тое ж *ру́ччы* (Слаўг.). □ ур. Руччы́ (сенажаць) каля в. Серкаўка Слаўг., ур. Руччы́ і Камянны́я Руччы́ (крынічнае месца) каля в. Чарсвяны Уш.

РУ'ЧЫ'ШЧА. Месца паабапал ручая або там, дзе цёк ручай; сухое рэчышча ручая (Слаўг.).

РУШНЯ'РНЯ. Ст.-бел. Майстэрня, фабрыка, дзе робяць ружжы.

РУШЧЫ'ЗНА. Рускі бок; Расія (Нас.). Тое ж *расе́йшчына, расія́ншчына, русакоўшчына* (Слаўг.).

РЫ'БНІК. Вадаём, дзе разводзяць рыбу (БРС).

РЫ'ГА. Ст.-бел. 1. Ліман. 2. Рачное вусце, дзе рака падзяляецца на рукавы пры ўпадзенні ў мора; сутокі ракі. 3. Князь, начальнік, ваявода (Гарб.).

РЫЖЭ'Ц. 1. Белавата-жоўты пясок, які залягае ніжэй ворнага пласта глебы (Тур. «Наш край», 1929, № 12 (51), 42). 2. Торф на балоце; балота з вокісламі жалеза ў вадзе (Палессе Талст.). Тое ж *ры́жэць* (Сіманавічы Палессе Талст.).

РЫ'МА. Купіна ў вадзе (Н. Дзятлавічы Гом. Радч., XVI). Параўн.: под ри́мами, т. е. кочками, купьями в воде (Радч.).

РЫ'НА. 1. Прыстасаванне для адводу, сцёку вады, пакатае месца, па якому сцякае вада (БРС), звычайна на млынавае кола; ставок (Слаўг.). 2. Прорва, бездань (Слаўг.). 3. Жолаб, які ўтвараецца пры сутыкненні пад прамым вуглом двух бакоў дахаў сумежных пабудоў (Слаўг.); капежная труба (Гродз., Слаўг.). 4. Вялікая гурба снегу, занос (Слаўг.).

РЫ'НАК. Адкрытае месца, дзе гандлююць таварамі (БРС).

РЫСТА'ЛІШЧА. Стар. Месца для вайсковай вывучкі, гімнастычных спаборніцтваў; іпадром (РБС, 593).

РЫ'ЦВІНА. 1. Ямка, выкапаная свіннямі (Слаўг.). Тое ж *рытво, рытвіна́* (Слаўг.). 2. Ямка пад вадой (Слаўг.). 3. Паглыбленне на дарозе, выбітае коламі (Беш. Касп.). 4. Паглыбленне ад разрыву снарада ці бомбы (Лёзн.).

РЫЧА'ДЗЬ. Месца, дзе бярэ свой пачатак рэчка (Дубр.).

РЫЧА'ЛЬ. Невялікі ручай паміж ракой і балотам (Сен. Касп.).

РЫ'ЧКА. 1. Непраходнае балота, дрыгва (Палессе Талст.). 2. Участак вады на балоце (Палессе Талст.).

РЫШТ. 1. Сцяжынка побач з дарогай, за канавай; броўка каля канавы (Слаўг.). 2. Роў, ручай, вадасцёкавая канава (Віц. Касп., Зах. Бел. Др.-Падб., Мсцісл. Бяльк., Слаўг.). 3. Высока скошаная балотная сенажаць, дзе пракосы ляжаць над вадой (Стол.). □ вул. Рышт (і заходняя частка горада за ровам) у г. Слаўгарадзе, ур. Рыштот Бых. (Дэмб. II, 1884, 169).

РЫШТО'К. Вадасцёкавая канаўка (БРС), выкладзеная каменнем уздоўж брукаванай вуліцы або дарогі (Маладз.).

РЫШЦЬ. Канава (Маг. губ. вед., 1854, № 48, 865, Слаўг.).

РЭ'ВЕНЬ. Прыродная яма на балоце, дзе звычайна ловяць рыбу (Палессе Талст.).

РЭЗ. Участак, паласа поля або сенажаці (Беш. Касп., Гарб., Глуск. Янк. II, Грыг. 1838—1840, Слаўг., Сміл. Шат.); тры загоны (Жытк.); участак зямлі 72 га (Стол.), 10 дзесяцін (Стол.). □ в. Разкі Слаўг., ур. Рэзкі (поле, прымеранае пазней) недалёка ад в. Папоўка Слаўг., воз. Разно Люцынскага пав. (Расія т. 9, стар. 445).

РЭ'ЗА. Глухія, пустэльныя і гразкія месцы (Гарб.). □ г. Рэжыца і р. Рэжыца Віц.

РЭЗЕ′РВ. Паласа адчужэння каля чыгункі, шашы (Слаўг.). Тое ж *рэзе́рва* (Слаўг.).

РЭ′ЗКА. 1. Вузкая палоска лугу, поля (Бял. Матэр.). 2. Мера зямлі каля 10 дзесяцін (Стол.).

РЭ′ЗНІК. Густыя зараснікі ў стаячай вадзе рагалісніку Ceratophyllum demersum L. (Слаўг.).

РЭ′ПІШЧА. Новае поле, ляда, дзе раней першай культурай сеялі рэпу (Мін. Лемц. Дыс., 203, Рэч., Смален. Дабр.). □ х. Вялікае Рэпішча, х. Малое Рэпішча Мядз., ур. Рэпішча (луг) каля в. Віравая Слаўг.

РЭ′ЎКА. Стар. Сухая, доўгая града на балоце, парослая лесам (руск. релька). Параўн.: Сымон Рэўка з-пад Барысава (псеўданім Ф. Багушэвіча).

РЭХ. Паласа раллі або сенажаці (Сміл. Шат.).

РЭ′ЧКА. 1. Невялікая рака, рачулка (БРС). Тое ж *рячэнка, рячонка* (Слаўг.). 2. Мясцовасць, дзе ёсць нізіны і азёры (Стол.). □ ур. Хамíшына Рэ́чка каля в. Кароцічы Стол., ур. Апана́сава Рэчка і Глыбокая Рэчка каля в. Яскавічы Сал.

РЭ′ЧКІ′. Малыя азёрцы на балоце (Стол.).

РЭ′ЧКІ. Месца, дзе ёсць рачулкі, ручайкі, крыніцы (Віл.). □ ур. Рэчкі (луг, дзе былі рачулкі) каля в. Засе́нкі Віл.

РЭ′ЧЫШЧА. Месца, дзе цякла рака (БРС). Тое ж *рочышча* (Слаўг.), *рочадзь* (Вілен.). □ ур. Рэчышча каля в. Аздамічы Стол.

РЭ′ШНІК. Зараснік арэшніку (Крыч., Слаўг.).

## С

САД. 1. Участак зямлі, засаджаны пладовымі дрэвамі, ягаднікамі (БРС). 2. Грыбная калонія ў лесе (Слаўг., Слуцк.). □ ур. Кавалёў Сад (поле) каля в. Гіжэнка Слаўг., ур. Ста́рый Сад (поле) каля в. Кульшычы Слаўг.

САДАВІ′НА′. 1. Сад (Слаўг.). 2. Адно пладовае дрэва ў садзе (Слаўг.).

САДЖО′НКА. Прысады (Пол.).

САДЗІ′БА. 1. Зямельны ўчастак, на якім знаходзяцца хата з пабудовамі, сад (Слаўг.). 2. Хата з пабудовамі (Нас.). 3. Засяленне, выган (Нас. АУ).

САДНО′. Дрэва, на якім стаіць вулей (Стол.).

САДО′К. 1. Невялікі сад пладовых дрэў (БРС). 2. Невялікая сажалка, у якой разводзяць рыбу (БРС).



3. Скрыня для ўтрымання ў рацэ жывой рыбы (Нас.). Тое ж *саж* **(Стол.).**

СА′ЖАЛКА. 1. Капаны вадаём, невялікае штучнае возера (БРС). Тое ж *са́джалка* (Азяр. Касп.), *са́джаўка* (Сядл. Бес., 146); пасля 1861 г. штучны вадаём для мачэння толькі льну (Віц. Нік. 1895). 2. Рыбны садок (БРС); глыбокае месца, дзе вядзецца рыба (Олтушскае возера Палессе Талст.). Тое ж *са́джаўка* (Зах. Палессе Талст.), *са́жаўка* (Бельск. ПНР, Гродз., Нас.). 3. Старык ці прыродная з вадой упадзіна (Паст.), круглая яма (Стол.). 4. Палонка ў лёдзе на рацэ (Нас.). □ Е′дмусева са́жалка каля в. Драгунск Рагач., ур. Марозавы Сажалкі (востраў на балоце Чыстая Лужа) каля в. Кульшычы Слаўг., ур. Сажалкі каля в. Любаны Слаўг., ур. Дзедава Сажалка Мсцісл. **(Юрч.).**

СА′ЖАННІК. Дарога, абсаджаная бярозамі (Сен. Касп.).

САКА′. Балоцістая, нізкая сенажаць, дзе расце асака Carex (Грыг. 1838—1840, Слаўг.). □ ур. Сака́ (грыва на лузе каля р. Проні) недалёка ад г. Слаўгарада.

САКМО′. След, знак ад падэшвы нагі на раллі, пяску (Гродз.). Тое ж *знак* (Слаўг.).

САКО′ЛЛЕ. Аддаленыя, глухія месцы навокал (Слаўг.). □ азярына Саколле каля в. Шарсцін Ветк.

СА′ЛА. 1. Абведзенае лініяй месца (пры гульні ў лапту), дзе можна спыніцца, выбіўшы мячык, калі не ўдаецца дабегчы назад да «горада» (Стол.). 2. Жалезістыя плямы на паверхні вады (Віц. Нік. 1895).

САЛАМЯ′. Праліў (дыялектнае паўночнае ў наўгародскіх помніках — А. Г. Преображенский. Этимологический словарь русского языка, 1958, 354). □ вв. Саланец, Саланевічы, Саламір'е Пол. (Бах.), в. Саломерычы Мін., в. Саланí Стаўбц.

САЛАНЧА′К. Крыніца з салёнай вадой (Гродз.). Тое ж ст.-бел. *баліна.*

САЛА′Ш. 1. Будка, будан; часовае збудаванне з галля, лапак, сена для жылля летам у лесе, на лузе (Я. Колас. Дрыгва, 1946, 90). Тое ж *будала́ш* (Слаўг.), *буда́ч, буда́ш* (Чэр.). 2. Месца каля кураня (гл.), будкі (Маз., Стол.).

САЛО′МЕНІЦА. Нізкае месца (Пол.). □ ур. Саломеніца і ўр. Саломінка (участак яловага лесу, паша) каля в. Залессе Пол.

САНЦАПЁК. Зацішнае, адкрытае месца, дзе прыпякае сонца (БРС).

САНЦО'ВІШЧА. Поле, дзе рос сланечнік Helianthus annus (Слаўг.). Тое ж *сончышча, санцоўе, санцэвішча, санцавішча, санчавінне* (Слаўг.).

САРАБО'ЙНЯ. Вялікі хлеў у маёнтку, які служыў для складвання кармоў (Тал. Мядзв.).

СА'СКА. Ст.-бел. Плавільная печ; рудня. ☐ в. Саска-Ліпка Нясв. (Лемц. Дыс. 226).

САСО'ННІК. Месца, парослае сасной; сасновы лес (БРС). Тое ж *сасновец, сасновіца, сасноўка, сасноўца, саснюга́* (Слаўг.), *сасня́к* (Докш., Жытк., Леп., Нясв., Слаўг., Шчуч.). ☐ ур. Сасоннік (балота) каля в. Кулікоўка Слаўг., ур. Сасновец (узвышша сярод абалоні) каля в. Ст. Каменка Слаўг., ур. Сасновіца (поле) каля в. Ржаўка Слаўг., вул. Сасноўка ў в. Рудня Слаўг., ур. Сасноўка (возера ў сасновым лесе) каля в. Ст. Каменка Слаўг., ур. Сасноў каля в. Заспа Рэч.

САСО'ННІЧАК. Малады сасоннік (Слаўг.).

САЎГЕ'ЛЬ. Коўзкае месца, каток (Чашн. Касп.).

САХРА'Н. Лес, пакінуты расці на доўгі тэрмін (Сур.).

СВЕ'РЖАН. Цвёрды ўчастак абалоні ракі (Лемц. Айк.).

СВІНАРЫ'Я. Гразкае месца, дзе купаюцца свінні (Стол.).

СВІНЕ'Ц. Зараснік цвёрдага сіўцу Nardus stricta L. (Мсцісл., Пол.). Тое ж *свіннік, свінцюх* (Мсцісл.). ☐ в. Свінка Кап., в. Свіная каля г. Дуброўны (Меер, 1786).

СВІННАРЫ'Й. Глыбокая яма-логава, якую выкапалі свінні (Рэч.).

СВІНТА'Р. Царкоўны двор (Тал. Мядзв.). Тое ж *свінтар* (Мсцісл.).

СВО'ЙЧЫНА. Месца, дзе нарадзіўся чалавек, дзе жыве радня; айчына, зямляцтва (Уш.). Тое ж *свойшчына* (Слаўг.), *свошчына* (Нясв.).

СВЯНТА'Р. Ганкі, пляцоўка перад уваходам у царкву (Вілен.).

СЕ'ДАЛА. Месца, дзе чалавек вельмі часта бывае; абжытае месца (Кар.).

СЕ'ДЖА. Месца, дзе знаходзіцца засада на ваўкоў з прынадай (Сен. Касп.).



СЕ'ДЗЕНЬ. Месца, дзе быў двор; старое селішча; дворышча (Лёзн.).

СЕ'ЖА. 1. Рыбны садок на рацэ (Гарб.). 2. Перагародка на рацэ, на вузкіх праходах пры спадзе вады; закота (Маг. Дэмб., т. 2, 590).

СЕ'ЛІЦА. 1. Сенажатка, лужок на краю сядзібы (Віц., Касп.). 2. Месца, дзе быў двор, сядзіба (Жытк., Стол.). ☐ ур. Селіца каля в. Беражцы Жытк., ур. Селіца каля в. Кароцічы Стол.

СЕ'ЛІШЧА. 1. Месца, дзе быў двор, сядзіба (Глуск. Янк. II, Маз., Ст.-дар.). 2. Месца, занятае рознымі пабудовамі (Гарб.), двор; сядзіба (Глуск. Янк. II, Маг. 1577 ЮМ, XXX, 1903, 71, Ст.-дар.). 3. Месца, дзе раней было паселішча, вёска (Жытк., Рэч., Сал., Ст.-дар.). Тое ж *се́льшча* (Ст.-дар.). 4. Наогул месца пасялення (Лёзн. Касп., Слаўг.). Тое ж *се́льбішча* (БРС), *се́льнішча* (Слаўг.). ☐ ур. Се́лішча (поле на месцы б. паселішча) каля в. Яскавічы Сал., ур. Селішча (луг) каля в. Заспа Рэч., в. Селішчы Ашм., в. Селішча Пін., Слаўг., Уш.

СЕ'ЛІШЧКА. Невялікае паселішча, вёсачка (Нас. АУ).

СЕНАЖА'ТКА. Сенажатны лажок (Нас.); невялікая сенажаць (Стол.). Тое ж *сенажа́цька* (Жытк.) *сынага́цька* (Ст.-дар.), *сынажа́тка* (Сміл. Шат.).

СЕНАЖА'ЦЬ. Нізінная, пакрытая травой прастора, прыгодная для пашы і пакошы (БРС); месца касьбы (БРС). Тое ж *сенакос* (паўсям.), *снажа́тка* (Рэч.), *сенажа́ցця* (Касц. Бяльк.), *сыногаць* (Ст.-дар.), *сяножаць* (Жытк., Стол.), *саножаць* (Тур., Карскі, вып. 2), *санажа́ць* (Вор., Навагр., Паст.), *сыножаць* (Глуск. Янк. I), *сынажа́ць* (Сміл. Шат.). ☐ ур. Му́дрыкава сяножаць каля в. Кароцічы Стол., ур. Снажа́тка (луг, паша) каля в. Заспа Рэч.

СЕНЬ. Цяністае месца пад дрэвамі (Смарг.).

СЕРАДЗІБО'Р. Месца ў глыбі лесу, на тэрыторыі ляснога масіву (Браг., Люб.). Тое ж *сярэ́дбар* (Стол.). ☐ в. Серадзібор Люб., ур. Сарабор (1560) каля в. Хварасцяны Слаўг. Параўн.: прозвішча Серадзібар (Браг. Кор.).

СЕРБАЛІ'ННІК. Зараснік ажыны Rubus caesius L. (Віц. Кузн. Касп., Лёзн.). Тое *сурмалíннік* (Віц. Касп.).

СЕ'ЯНКА. Пасеяны лес (Стол.).

СІБЕ'Р. Пагібельнае месца (Сміл. Шат.).

СІВАБА'ВІНА. Пясчаная неўрадлівая светлага колеру глеба з прымессю чарназёму; падзол (Стаўбц.). Тое ж *сівапе́с* (Сал.), *сівабáйня* (Стаўбц.), *сіве́ц* (Ст.-дар.).

СІВЕ'Ц. Луг, дзе расце цвёрдая трава сівец Nardus stricta L. (Слаўг.). □ ур. Даўгія Сіўцы (поле) каля в. Свенск Слаўг.

СІГ. Паласа шырынёй у адзін крок; вялікі крок (Зах. Бел. Др.-Падб., Слаўг.). Тое ж *сіге́нь, сігаве́нь, сяге́нь, сяге́ль* (Слаўг.).

СІ'ЛЕГА. Зараснік кошыкавай лазы Salix viminalis L. (Жытк., Стол., Тур.). Тое ж *шылега* (Стол.).

СІНЬЦЕ'Ж. Балотная сенажаць, якую косяць толькі па лёдзе (Пух. Шат.). □ ур. Сіньва Лях. («Звязда», 23 кастрычніка 1966), в. Сінягоў (на месцы балота) Ст.-дар.

СІПУ'ГА. Глеба з прымессю глею (Дзярж.).

СІРАСІ'К. Шэры пясок паўз балота, каля вады (Палессе Талст.).

СІТА'. 1. Сярэднеазёрная водмель, якая прыгодна для рыбалоўства і зарасла чаротам Phragmites communis Trin., сітняком Scirpus lacustris L. (Віц. Нік. 1895). Тое ж *трыстá* (Віц. Нік. 1895). 2. Зараснік сітняку Scirpus lacustris L. (Кузн. Касп., Міёр., Смален. Дабр.). Тое ж *сіт, сітнік* (Выс. Касп., Лёзн., Маг. губ. вед., 1854, № 48, 865, Сал., Слаўг., Стол.), *жáбічы сітнік* (Стол.), *сітнічок* (Уш.), *сітня́к* (Рэч.). 3. Зараснік чароту Phragmites communis Trin. (Віц.). Тое ж *сітнік* (Стол.). □ в. Сіцяне́ц Староб., р. Сіціца каля в. Зімніца Слаўг. і р. Сыціца (1783) каля в. Зімніца Слаўг., в. Сітніца Лун., в. Малая Сітна Пол., ур. Сітнікі (лог) каля в. Чарнякоўка Слаўг.

СКАЛА'. 1. Гравійны ўзгорак; гравійная глеба (Нясв., Слаўг.). Тое ж *сколка* (Слаўг.). 2. Камяністая глеба (Зах. Бел. Др.-Падб.). 3. Цвёрды грунт; гліністая глеба (Азяр. Касп., Барыс., Крыч., Навагр., Паст.). 4. Вапняк (Кузн. Касп.). 5. Вялізны камень, агромністы валун (Смален. Дабр., Уш.). 6. Буры балотны жалязняк, якім выкладаюць сцены скляпоў, ям у зямлі (Ветк.). 7. Стромы гліністы бераг ракі, бок калодзежнай ямы (Смал.). 8. Цвёрды, скалісты бераг (Навагр., Смарг.). 9. Круты абрыў на Дняпры ў выглядзе навіслага пласта торфу (Бых.). 10. Балотная руда ў выглядзе тонкага пласта жалезнай сіні ў рэчышчы Дняпра супраць г. Ст. Быхава (Расія, т. 9, стар. 18). 11. Празрысты, лёгкі мінерал, т. зв. «чортаў палец» (Жытк.). □ ур. Скала (залежы фасфарытаў) каля в. Стайкі Мсцісл. («Савецкая краіна», 1932, лістапад, № 11 (25), 14), гравійныя ўзгоркі ў в. Шаламы Слаўг.: Кірэева Гарá або скалá, Гаўрыльчыкава Скала, Мішачкава Скала, Кукалёўка.



СКА'ЛКА. Цвёрды камень, крэмень, які ідзе на выраб млынавых камянёў, а раней скарыстоўваўся для здабывання агню; залежы крэменю (БРС). Тое ж *скаліца* (Віц.).

СКАПЕ'Ц. 1. Каморніцкі межавы насып (Глуск. Янк. I). 2. Куча бульбы круглай формы, накрытая саломай і абсыпаная зямлёй (Глуск. Янк. I, Ст.-дар.). 3. Невялікі земляны насып (Глуск. Янк. I).

СКАРАДА'. 1. Азімыя ўсходы, асенняя рунь (Бабр. Маз. Слуцк. ДАБМ, к. 268, Пар.). Тое ж *рунь* (БРС). 2. Вясеннія ўсходы яравых (Хойн.). □ в. Скарада Віл., в. Скароднае Ельск.

СКАРАДЗЬБА'. Пабаранаванае поле (Мсцісл. Юрч., Слаўг.). Тое ж *скароджанне, скародзьбінне, скараджэнне* (Слаўг.).

СКАСАГО'Р. Пакаты бок гары (Слаўг.). Тое ж *скасагорыца* (Слаўг.).

СКАСІНА'. Схіл гары (Слаўг.). Тое ж *скат* (Клім. Бяльк., Нясв., Слаўг., Уш., Шчуч.), *склон* (Нясв., Уш., Шчуч.), *наўскасінá* (Слаўг.).

СКВАР. 1. Вогнетрывалая гліна (Чав.). 2. Гарачыня, летняя спёка; засуха (Мсцісл. Бяльк., 201). □ ф-к Скварск Чав. (Описание Могилевского музея, 1898, 76).

СКІ'РДЗІШЧА. Месца, дзе стаяла тарпа саломы ці збажыны (Слаўг.).

СКЛАД. Узараны загон з двайной баразной пасярэдзіне (Жытк., Крыч., Мсцісл. Юрч., Нясв., Рэч., Слаўг., Смал., Стол., Шчуч.). Тое ж *скід* (Лёзн.), *складок* (Нясв., Слаўг.).

СКЛАДНЯ'. Месца, дзе знаходзіліся розныя панскія склады, свірны (Слаўг.).

СКОС. 1. Схіл, бок узгорка; адхон гары (Слаўг.). Тое ж *скот* (Глуск. Янк. II). 2. Скошаная сенажаць, пакоша (Бых.).

СКРАЙ. Край гары, абрыву, берага ракі (Слаўг.).
СКРО'ЗЬДО'ННЕ. Вельмі глыбокая яма карставага паходжання; бездань (Слаўг.). Тое ж *скорзьдонне*, *скрдзьдонніца* (Слаўг.).
СКРЫЖ. Камяністая грыва пад вадой (Гродз.).
СКРЫЖАВА'ННЕ. Месца, дзе перасякаюцца дзве дарогі, вуліцы (БРС). Тое ж *скрыжаванні* (Рэч.), *скрыжавень, скрыжня* (Слаўг.).
СКРЫ'НЯ. Упадзіна, лагчына, якая нагадвае сабой скрыню (Уш.). □ ур. Скрыня (лог) каля в. Воталава Уш.
СКРЫ'П'Е. Месца, дзе багата на дубовых пнях, карэннях расце грыбоў-паразітаў скрыпніку Agaricus procerus (Слаўг.). Тое ж *скрыпнік, скрыпень* (Слаўг.), *скрыпель* (Усх. Палессе, Рэч. Moszyński. O sposobach badania kultury materialnej prasłowian, 1962, 122, Слаўг.). □ ур. і б. пас. Скрып'е каля в. Целяшы Слаўг.
СКУ'ДЗЕЛЬ. Гліна (Даль, IV, 212). □ г. п. Скідзель Гродз. вобл.
СЛАБАДА'. Ст.-бел. 1. Пасяленне, якое карысталася «свабодай», павіннаснымі льготамі (АЛМ, I, 207). Тое ж ст.-бел. *слабодка*. 2. Вуліца ў два рады хат. 3. Прыгарад, прадмесце. 4. Галоўная вуліца, цэнтр вёскі (Дзятлавічы Гом. Радч., стар. XIV). □ вв. Красная Слабада, Крывая Слабада (Лебядзёўка) Слаўг., вв. Чарсвяцкая Слабада і Гушчанская Слабада Уш., в. Слабодка Бых.
СЛАЦІ'НА. Крыніца з салёнай вадой; салярня (Бяр., 116). Тое ж *росул* (1596 «Лексіс» Л. Зізанія Хрэст. па гіст. бел. м. 1961, 256; Бяр. 1627, 116).
СЛЕД. 1. Адбітак чаго-небудзь (нагі, калёс) на траве, раллі, засеву, пяску (БРС). 2. Каляіна на дарозе і месца, дзе ступае запрэжаны конь (Лёзн., Слаўг.). 3. Паласа за бараной пры баранаванні (Слаўг.); месца на лузе, па якому цягнулі капу сена (Слаўг.). 3. Дарога (Нас. АУ); сцежка (Слаўг.). 4. Часовая мяжа на сенажаці паміж участкамі (Слаўг.). 5. Тонкая нітка ледзь бачнай удалечыні шашы, дарожкі, сцежкі паміж дзялянкамі ў лесе (Слаўг.). 6. Старая мера зямлі (Станг, 74); участак, які апрацоўваецца сіламі аднаго чалавека (Ашм. 1485 Записки ЛМ, III книга Ул.-Буд. 1889, 206—207).
СЛІВО'ЎНІК. Слівавы сад; насаджэнні сліў Prunus domestica L. (Віл., Слаўг.). Тое ж *сліўняк, слівашнік* (Слаўг.), *сліўнік* (Жытк., Слаўг., Ст.-дар., Стол.).



СЛІЗГАТА'. Коўзкая дарога ў час галалёдзіцы; бездарожжа (Слаўг.). Тое ж *слізмень, слізката, слізота* (Слаўг.).
СЛІ'ЗГАЎКА. Каток, дзе катаюцца дзеці зімой (Нясв.).
СЛЯГА'. Агрэх пры разворванні бульбы (Уш.).
СМАЛЬНІ'К. Смаловы лес (Жытк.).
СМАЛЯ'РНЯ. Месца, дзе была спецыяльная печ для гонкі смалы, дзёгцю; смалакурня (БРС). Тое ж *смалакурка, смалякоўня, смалярка, смалянка, смалячка* (Слаўг.), *смольня* (Гродз.). □ ур. Смольня каля г. Гродна.
СМАРО'ЗНІК. Непраходны лес, дзе многа зарасніку, бураломy (Жытк.). Тое ж *смурызнік, сумурызнік* (Жытк.).
СМЕ'ТНІК. Месца, куды высыпаюць смецце; памыйная яма; гнаявая куча (БРС). Тое ж *сметнішча* (Бых., Слаўг., Тал. Мядзв.), *смецціішча, смяццішча* (Мсціcл. Юрч., Слаўг.), *сметнівішча* (Слаўг.), *сурныўка* (Смален. Дабр.).
СМУГ. Ст.-бел. 1. Вузкая і доўгая палоска поля, доўгі лужок і наогул усё тое, што мае выгляд паласы (Гарб.). 2. Міжгор'е, цясніна (Гарб.).
СМУГА'. 1. Тое, што і смуг 1, 2 (Слон. пав. 1576 АВАК, XVIII, 29, Стаўбц. Прышч.). 2. Невялікае цячэнне на балоце (Палессе Талст.); багністая пратока (Стол.); вузкая забалочаная нізіна, рэчышча (Жытк.). Тое ж *смуга* (Палессе Талст., Стол.), *смужавінка* (Жытк.). 3. Тонкая плёнка гразі, пылу, павуціння на зямлі пасля зімы (Мін., Слаўг.). Тое ж *іржа* (Мін.). 4. Непраходнае балота, багна; гразкае месца (Гарадз. ДАБМ, 413 п.). Тое ж *смуга* (Кар. Араш., 91, Стол.), *смугліна* (Нов. ДАБМ, 424 п. на к.), *смугарына* (Нов. ДАБМ, 416 п.). □ ур. Смуга (паша) Стаўбц. (Прышч.).
СМУРО'ДНІК. Зараснік чорных парэчак Ribes nigrum L. (Слаўг., Стол.). Тое ж *смурода, смуродзіннік* (Слаўг.).
СМУЧА'Й. Зараснік падвею Eriophorum vaginatum L. (Стол.). Тое ж *пухоўкі, пурхоўкі, чарнагалоў* (Слаўг.).
СМЫК. Перашыек (Слаўг.).
СНЕГАВІ'ЦА. Тоўстае снежнае покрыва; глыбокі снег (Стаўбц.).

СНЯЖНІ'ЦА. Ніжні пласт снегу з вадой; вада пад снегам (Лёзн., Стол.).
СО'БІННЕ. Асобнае пасяленне, адзінокі хутар (Слаўг.).
СО'ДНІ. Задарожжа (Дзіс.).
СО'ПКА. 1. Вялікі курган, старажытная магіла круглай формы (Віц., вярхоўі рр. Дрысы і Ловаці Алякс., 59). Такая назва курганаў ёсць у Наўгародскай вобл. (Хадакоўскі. Данясенне, 368). 2. Купіна (Кузн. Касп.). 3. Пясчаны ўзгорак (Петр., Смален. Дабр.). □ ур. Халмоўская Сопка (гара), Сопкі (гара) Віц. (Рам. Мат.).
СО'ТКА. Участак зямлі, роўны сотай частцы гектара (БРС).
СО'ТКІ. Сядзіба калгасніка (Зах. Бел., Слаўг., Стол.); палова прысядзібнага ўчастка ў полі (Глуск. Янк. II).
СПАД. 1. Нахіл гары (БРС). Тое ж *спа́дзіна* (Шчуч.), *спа́дзістасць* (БРС). 2. Змяншэнне вады ў час разводдзя (БРС).
СПА'ША. Страўленая паша; патрава (Слаўг.). Тое ж *спа́сцівенне, спа́сцінне, спа́шчаванне* (Слаўг.).
СПІЖА'РНІШЧА. Жарт. Клець, прыбудаваная да сяней для складвання гаспадарчых рэчаў, або частка хлява ці хлеў для сена, кармоў (Слаўг.).
СПІНА'. Высокі груд на лузе (Рэч.). □ ур. Конская Спіна́ (груд на нізкім лузе) каля в. Заспа Рэч.
СПЛАЎ. 1. Багністае, зыбкае балота (Палессе Талст.). 2. Смецце, ламачча на беразе ракі пасля разводдзя (Рэч.).
СПУСК. З'езд з гары (БРС). □ ур. Спуск каля в. Беражцы Жытк.
СПУ'СКАЛКА. Месца, дзе з гары катаюцца на санках дзеці (Стол.).
СПУСТ. 1. Праход для вады ў плаціне; шлюз каля млына (Жытк.). 2. Вазярышча; месца, дзе разбуран млын на рацэ (Жытк.). □ ур. Спуст (луг, кусты, брод цераз раку) Жытк.
СТА'ВІШЧА. Месца на рэчцы, дзе была плаціна або млын (Нас.); зручнае месца для пабудовы заставы і млына (Нас. АУ). Тое ж *ста́ўнішча* (Кір.), *стаў* (Паст.). □ в. Ста́ўнішча Кір.
СТАВО'К. 1. Азярцо, сажалка, штучнае возера; запруда; млын (БРС). Тое ж *ста́вік* (Стаўбц.), *стаў* (БРС). 2. Запруджаная нізіна, дзе гадуюць рыбу (Рэч.).



СТАДО'ЛА. 1. Стар. Язычаскае мольбішча, храм у язычнікаў. 2. Хлеў для коней (Чашн. Касп.); вялікі даржнік, скацінны хлеў (Нас.); хлеў на заезным двары (Крыч. Бяльк.); вялікі хлеў для збажыны ў панскіх гаспадарках (Віц. Нік. 1892, 35); павець (Маг. губ. вед., 1854, № 48, 865); халодны будынак (Слаўг.). 3. Ёўня ў гумне; гумно (Смален.). □ в. Застадолле Сен. (Касп., 33), с. Стадолішча Смален. вобл., в. Стадолічы Лельч.
СТАДНІ'ЦА. Абгароджанае месца на пашы для начлегу коней (Стол.).
СТАЖА'Р'Е. Памост або месца, дзе стаялі ці звычайна ставяць стагі сена (БРС). Тое ж *стажа́р* (Рэч.), *стажа́рня* (Пол.), *стажа́рышча, стагавінне, стаговішча, стогавішча, стажар'ё* (Слаўг.), *стагаві́шча* (Слаўг., Ст.-дар.), *стожышча* (Нас., Слаўг.), *сціжа́р'е* (Кар.), *сцяжа́р'е* (Стаўбц.). □ ур. Стажа́ркі (луг) каля в. Заспа Рэч.
СТА'ЙКІ. 1. Малады бярэзнік каля старога лесу (Рэч). 2. Чарада шпакоў, якія ляцяць у вырай (Слаўг.). 3. Драўляныя хлявы для буйной рагатай жывёлы і авечак (ЖС, 511). □ в. Стайкі Карм., Віл., Мін., Барыс., Лаг. (Лемц. Дыс., 221), в. Стаішча Чашн.
СТАЛІ'ЦА. Вялікая і старажытная вёска Зімніца (Слаўг.). □ в. Сталіца Дзіс.
СТАН. 1. Месца для стаянкі жывёлы ў поўдзень на полі або ў лесе (Быx., Жытк., Кліч., Краснап. Бяльк., Мін., Пар., Слаўг.). Тое ж *становішча* (Кузн. Касп.), *станок* (Слаўг.). 2. Начная паша (Жытк.). 3. Дарэвалюцыйнае адміністрацыйна-паліцэйскае падраздзяленне павета (БРС); месцазнаходжанне станавога прыстава (Дэмб.). 4. Месца, выбранае для стаяння (Нас.). 5. Стаянка, лагер войск (БРС). □ ур. Арлоў Стан, Асінавы Стан, Цімошанкаў Станок (месца ў лесе) каля в. Шаламы Слаўг., Васількоў Стан (поле на месцы лесу, пчальнік) каля в. Дабранка Слаўг.
СТАР. Месца, дзе знаходзілася паселішча або старажытнае месцажыхарства (Віц. Нік. 1892, 36, Выс. Касп., Слаўг., Смален. Дабр.). □ в. Стар Арш.
СТАРАДРЭ'ВІНА. 1. Засохлае на корані дрэва (БРС). 2. Старое амаль без абалоні дрэва; стары лес (Слаўг.).
СТАРАДРЭ'ВІЦА. 1. Стары лес; пушча (Жытк.). 2. Цалінная зямля на месцы лесу (Смален. Дабр.).

СТАРАЖЭ'Ц. 1. Старое рэчышча, якое звязана з ракой (Слаўг.). 2. Месца, дзе быў вартавы пункт, пагранічны рубеж (Слаўг.). □ ур. Старажэц (луг, старыца) каля р. Сажа Слаўг.

СТАРАНА'. 1. Край, дзяржава (БРС). 2. Месца абапал тока ў гумне, дзе складваюць збажыну (Нас., Сал., Слаўг.). 3. Вялікае поле ў адным масіве (Сал., Слаўг.).

СТАРАПО'ЛІЦА. 1. Абложная зямля (Гом., Слуцк., па цячэнню р. Убарці ДАБМ, к. 275). Тое ж *стараполь, стараполле* (Гом., Слуцк. ДАБМ, к. 275). 2. Месца, дзе поле апрацоўваецца з даўніх часоў; спадчыннае поле (Стол., Хойн.). Тое ж *стараполь* (Хойн.). □ ур. Стараполіца Славіцка (поле, выдзерак) каля в. Кароцічы Стол.

СТАРАСЕ'ЛЛЕ. Месца, дзе здаўна знаходзіцца населены пункт, двор або дзе быў дом, сяло (Слаўг., Смален. Дабр.). □ ур. Стараселле (луг, поле) каля в. Казакоўка Слаўг., воз. Стараселле каля в. Ст. Каменка Слаўг., в. Стараселле Крыч.

СТАРО'ЖКА. Хата ў лесе, каля дарогі для паляўнічых, вартаўнікоў (БРС). □ Старожка (адзін двор каля моста цераз р. Проню) Слаўг.

СТАРЫ'НА. 1. Месца, дзе раней быў населены пункт (Слаўг.). Тое ж *старына́* (Слаўг., Стаўбц.). 2. Даўняе месца пасялення вёскі, двара (Слаўг.). 3. Ст.-бел. Поле сярод лесу здаўна (Слаўг.). Тое ж *старына́* (Слаўг., Ст.-дар., Стаўбц.). □ ур. Стары́на (лес) каля в. Пруды Стаўбц., в. Ста́рына Чэрв.

СТАРЫ'НКІ. Сядзібныя месцы, якія зараслі кустамі (Смален. Дабр.). □ в. Старынка Слаўг.

СТА'РЫЦА. Старое рэчышча ракі; водны рукаў (БРС). Тое ж *старарэчышча* (Слаўг.), *ста́рка, стары́к,* (Падняпроўе), *стару́ха* (Макс., 197), *ста́рац, стары́к* (Жытк.), *стары́к* (БРС). □ ур. Ста́рац каля в. Беражцы Жытк., Стары́к (заліў р. Дняпра) Бых., Стары́к (заліў р. Сажа) Слаўг.

СТАЎБЕ'Ц. Слуп (Слаўг.). Параўн.: стлъпъ 'вежа' (Астрамірава евангелле). □ ур. Стаўбцы́ (поле) каля в. Цераxоўка Слаўг., г. Стоўбцы Мін. вобл.

СТАЎБІ'ШЧА. Начная паша, начлежны стан (Жытк.).

СТАЎНЫ. Месца паабапал тачка ў гумне (Азяраны Тур. «Беларуская медычная думка», 1929, № 2—4, 79).

СТАЎПО'К. Прамавугольны выступ лесу (Кам.).



СТА'ЦЫЯ. Прыпынак (у бел. літ. канец XIX і пачатак XX ст.).

СТАЯ'ЛЕЦ. Стаячая вада (Стаўбц.). □ ур. Стаялец (старое рэчышча р. Нёмана) Стаўбц. (Прышч. 31, 179).

СТАЯ'НКА. Месца, дзе падоўгу стаяць людзі; тачок (Рэч.). Тое ж *стойня* (Слаўг.).

СТО'ЙБІШЧА. Месца стаяння чалавека або групкі людзей, а таксама знаходжанне хаты або пабудоў (ЛіМ, 1968, 26 красавіка, Рэч., Слаўг.).

СТО'ЙЛА. 1. Месца для адпачынку жывёлы на полі, у лесе (Брэсц., Ветк., Рэч., Ст.-дар., Стол.) або ў хляве (БРС). 2. Сасна ў лесе, на якой стаіць вулей (Жытк.).

СТОК. 1. Паглыбленне на схіле гары, па якому сцякае вада (Слаўг.). 2. Ручаёк ад сцёкавай крыніцы; канава на балоце (Слаўг.).

СТО'КІ. Месца ў лагчыне, куды сцякаюць ручаі; дзе зліваюцца рэкі (Слаўг., Смален. Дабр.). □ в. Стокі Свісл.

СТО'ЎБІШЧА. 1. Збор вады ў вадасховішчы; басейн (Слаўг.). Тое ж *стоўпішча, стоўплішча, стаўпе́нне, стопішча* (Слаўг.). 2. Затор вады пад снегам (Слаўг.). 3. Месца, дзе стаяў слуп (Слаўг.). Тое ж *стаўбе́нішча* (Слаўг.).

СТРА'ВА. Страўлены луг або пасеў (Слаўг., Шэйн, 28).

СТРАЛА'. Месца ў рацэ, дзе ўпадае ў яе другая рака (Слаўгарад).

СТРАМНІНА'. 1. Высокае месца; круча (Нас.). 2. Месца хуткага цячэння ў рацэ (Слаўг.). Тое ж *страміна* (Нас.).

СТРАХА'. Навіслы бераг над вірам, які падмывае вада (Рэч.).

СТРО'МА. Абрыў, круча (БРС). □ ур. Строма (лясок) каля в. Яскавічы Сал.

СТРОЎ. Востраў (Арш.). □ ур. Строў (луг) каля в. Бабінавічы Арш.

СТРУ'ГА. 1. Фарватэр ракі (Слаўг.). Тое ж *стружавіна, струга́* (Слаўг.), *стру́жка* (Баркалабаў Бых. 1641 МЕВ, 1906, № 11, ч. аф., чэрвень, 415, Усх. Палессе Талст.). 2. Ручай, рачулка, зарослая травой (Слаўг.). Тое ж *струга́* (Глуск. Янк. II, Нас., Кап.). 3. Затока, рукаў ракі (Сміл. Шат.). 4. Равы і нізіны, куды вада заходзіць з ракі ў час разводдзя, а пры спадзе на вузкім

месцы робіцца запруда для лоўлі рыбы (Смален. Дабр.). 5. Невялікае цячэнне на балоце або часовае ў вузкай сцёкавай лагчыне (Палессе Талст.). □ в. Струга́ Стол., в. Стру́га Круп., ур. І′нская Струга́ (балоцісты луг, алёс) каля г. Слаўгарада, ур. І′вінская Струга́ (луг) в. Ржаўка Слаўг.

СТРУГА′. 1. Высокае месца, узвышша (Слаўг.). 2. Роў, выбіты ручаямі, якія сцякаюць з высокага месца (Маг. Лемц. Айк.). □ ур. І′венская Струга́ (узвышша сярод лугу) каля в. Крамянка Слаўг.

СТРУ′МЕНЬ. Крыніца (Стол.).

СТРУМЕ′НЬ. 1. Хуткі паток вады ў рацэ; бягучая вада (БРС). Тое ж *струміна́* (Мін.). 2. Маленькія струменьчыкі вады; невялікія патокі (Палессе Серб. 1912, 99). □ в. Струмень Віл., в. Струме́нь Карм.

СТРУ′ШНЯ′. Руіна; вайна (Слаўг.). □ Стру́шня — частка г. Магілёва (Археагр., 2, 1867, XCXIX).

СТРЫ′ЖАНЬ. 1. Фарватэр ракі; галоўны паток (БРС). Тое ж *стрэжынь* (Слаўг.). 2. Гнілое месца на балоце; крыніца ў рацэ, дзе вада не замярзае (Стол.). Тое ж *стрыжэнь* (Я. Колас, 1952, т. 4, 154), *сцёржань* (Слаўг., Смален. Дабр.).

СТРЭ′ЛІШЧА. Месца, дзе вучацца страляць; адлегласць, на якую далятае стрэл (Слаўг., Смален. Дабр.). Тое ж *стрэльбішча* (Слаўг.). □ ур. Стрэлішча (узвышша, узгорак) каля в. Юркавішчы Ветк., ур. Стрэльнішча каля в. Васькавічы (Слаўг.).

СТРЭ′ЛКА. Пясчаны намыў у рацэ (Слаўг.).

СТРЭ′ЛЬБІШЧА. Прастора на тры стрэлы з лука (Гом. 1752 АВАК, XIII, 372, 375).

СТУДЗЯНЦЫ′. Месца на балоце, дзе заўсёды халодная вада (Глуск. Янк. II). □ м. Студзяне́ц Крыч. (Меер, 81), с. Студзяне́ц Касц.

СТУ′ДНЯ. 1. Калодзеж (БРС); калодзеж з асверам або з драўляным шосцікам ці калаўротам (Віц. Нік. 1895, Докш., Ів., Лаг., Маг. 1745 ІЮМ, вып. XXX, ч. 1, № 139, Навагр., Нясв., Паст., Сен., Касп., Смал., Смарг., Сміл. Шат., Стаўбц.). Тое ж *сту́льня* (Ваўк. Сцяшк.). 2. Прасечаная палонка на рацэ (Лёзн.). □ в. Сту́дзіна Рэч (Макс. Пр. 62), в. Студзя́нка Барыс. (Макс. 332), в. Студзянец Клім.

СТУ′ПА. Ст.-бел. Куча зямлі, каменняў. □ ур. Сту́пішча (поле) каля в. Беражцы Жытк.



СТУПА′. 1. Ледзь прыкметная сцяжынка (Слаўг.). 2. Месца паміж каляінамі на дарозе, дзе ступае запрэжаны конь (Слаўг.). 3. След ад нагі (Слаўг.).

СТУПЕ′НЬ. Крок (Мсцісл., Слаўг., Ст.-дар.).

СТУС. 1. Капец бульбы або ямка для захавання бульбы (Стол.).

СТУСІ′ННІК. Зараснік сітняку Scirpus lacustris L. (Брасл.). Тое ж *стусіна* (Вілен.).

СТЫРНЯ′. Зжатае поле наогул або на якім расло жыта (Брэсц. ДАБМ, к. 269, к. 271). Тое ж *сцёран, сцерань* (Гом. ДАБМ, к. 269, к. 271), *сцерэн* (Гом. Маг. губ. вед., 1854, № 48, 865), *сцярнішча* (Лях.).

СТЫРЧ. Зламанае дрэва, куст; злом (Жытк., Стол.).

СУБО′Р. Куча сабраных каменняў (Азяр. Касп.).

СУБУЛДЫ′ГА′. 1. Цвёрдая няроўнасць на разбітай дарозе, замерзлая гразь у выглядзе выступаў (Слаўг.). Тое ж *субулдыжына, субулдыжжа* (Слаўг.). 2. Скіба дзярністай зямлі на ворыве; кавалак сухой зямлі на заскароджаным полі (Слаўг.). Тое ж *субулдыжка* (Слаўг.).

СУ′ВАРАТЫ. Частка поля, сервітут (Слуцк. Сержп. Грам., 54).

СУВО′РЫНА. Дзёран, падняты сахой (Нас.).

СУГЛЕ′Й. Глей; неўрадлівая зямля (Лёзн.).

СУГЛІ′НАК. Гліністая зямля з пяском (БРС).

СУГЛІ′НІШЧА. Зарослае глінішча (Слаўг.).

СУГО′Н. Сцяжынка, пратаптаная жывёлай (Слаўг.).

СУГО′РАК. 1. Невялікі ўзгорак (Лёзн.). Тое ж *сугор* (Лёзн.). 2. Гурба снегу (Лёзн.).

СУ′ГРАВА. Зацішнае, сонечнае месца (Слаўг.). Тое ж *су́граў* (Слаўг.).

СУ′ДНЯ. Ст.-бел. Месца старажытнага суда. □ р. Су́дня, в. Судня Віц. (Рам. Мат.), в. Су́днікі Кузн., Валож.

СУКМЕ′ННІК. Невялікае ўзвышэнне на балоце з менш цвёрдай глебай, чым каля грудка; падсохлая глеба каля берага (Зах. Палессе Талст.).

СУКНАВА′ЛЬНЯ. Майстэрня, у якой валілі сукно (БРС).

СУМЁТ. Гурба намеценага снегу (БРС). Тое ж *сугроб* (Ветк., Лёзн., Крыч., Рэч., Слаўг., Хоц. Бяльк.), *ку́ча, сугон, сугор* (Слаўг.).

СУ′ПЕСАК. 1 Глеба з сумесі гліны і пяску (БРС); пескаватая зямля (Росл. Дабр., Стол.). Тое ж *су́песь*

(Слаўг.). 2. Чарназёмная глеба з прымессю пяску (Стол.).

СУПЕ'САК. Пясчаны намыў з рэдкай травой і парасткамі лазы (Рэч.); замыты пяском луг (Слаўг.). Тое ж *супёзак* **(Слаўг.).**

СУ'ПЛАЎ. Дрыгва, плаў (Пар.).

СУ'ТКІ. 1. Праход паміж гумнамі (Жытк.). 2. Вузкі прамежак паміж глухімі сценамі суседніх хат, дзе амаль сыходзяцца стрэхі (Рэч., Сал., Слуцк. Сержп. Грам., 48, Ст.-дар., Стол.). Тое ж *суток* (Жытк.), *сýтачкі* (Рэч., Сал., Ст.-дар.), *сýдачкі* (Глуск. Янк. I, Жытк., Стол.).

СУТО'КІ. 1. Месца злучэння рэк, ручаёў (БРС). Тое ж *суток* (Слаўг.), *сутока* (Нас., Слаўг.). 2. Месца, дзе сыходзіцца некалькі дарог (Тал. Мядзв.). 3. Стар. Перакрыжаванне граніц, межаў (Сразн., III, 630). □ в. Сутокі Віц. (Рам. Мат.), в. Сутокі Лёзн., Чав., пас. Сутокі (Міхайлаўка) каля в. Б. Хутары (1929) Краснап.

СУТО'Н. 1. Тонкі лядок на рацэ ўвосень (Жытк., Стол.). Тое ж *сутýн* (Жытк.), *сытон* (Стол.). 2. Мароз, іней на зямлі (Жытк., Стол.).

СУ'ХА. Суша, сухое месца (Жытк., Стол.).

СУХАДО'Л. 1. Сенажаць на нізкім, але сухім месцы (БРС). Тое ж *сухадоліна* (Віц. Нік. 1895, Нас.). 2. Роў з крутымі берагамі, які ўтварыўся ад веснавых вод (Слаўг., Шчуч.).

СУХАДО'НЬ. Высокае месца (Докш. ДАБМ, п. 230).

СУХАПУ'ЦЦЕ. 1. Дарога па сушы (БРС). 2. Суша, паверхня зямлі (БРС).

СУХАСТО'Й. Участак лесу, у якім багата засохлых на корані дрэў; плошча сухіх дрэў у лесе; павал (БРС). Тое ж *сухалéссе* (Зах. Бел. Др. Падб.), *сухапастой* (Смiл. Шат.), *суш* (Нас.), *сушнíк* (Слаўг., Смiл. Шат.), *сушня́к, сушняўнíк, сухастоўнік, сушнявíк* (Слаўг.).

СУХЛІ'ЦА. Сенажаць, парослая сіўцом Nardus stricta L. (Лёзн.).

СУХМЕ'НЬ. Сухое месца (Нас., Слаўг.); сухое месца сярод балота (Цэнтр. Палессе Талст.). Тое ж *сухмінь, сухатá, сухоцце* (Слаўг.).

СУ'ША. Зямля, грудок (Бяр.). Тое ж *сушынá* (Стол.). □ ур. Сушова (луг) каля в. Заспа Рэч.

СУ'ШКІ. Мелкая частка возера, якая высыхае летам (Уш.). □ ур. Сýшкі (частка Чарсвяцкага возера) Уш.



СУ'ШНЯ. Будынак, у якім сушаць і труць лён (Лях., Ст.-дар.). Тое ж *сушылаўка* (Гродз.), *сушылка* (Слаўг.).

СХІЛ. Пакаты бок узгорка (БРС). Тое **ж** ***схон*** (Слаўг.).

СХО'ВІШЧА. 1. Месца, будынак, дзе што-небудзь захоўваюць або хаваюць (БРС). Тое ж *сховы* (БРС), *схоў, схрон* (Слаўг.). 2. Акоп, бліндаж; патаемнае месца (БРС). Тое ж *сховы* (БРС), *схоў, хаўня́* (Слаўг.), *схрон* (Стаўбц.).

СХОД. Месца, дзе сыходзяць з гары (Слаўг.).

СХО'ДБІШЧА. Бойкае месца, куды сыходзяцца людзі; тачок (Слаўг.). Тое ж *сходзішча, схадня́* (Слаўг.).

СЦЕЖ. Месца ўздоўж ракі, дарогі, наўсцяж чаго-небудзь (Беласточчына ПНР, Гродз.).

СЦЕ'ЖАР. 1. Памост, месца, дзе быў стог (Зэльв. Сцяцко, Слуцк. Сержп. Грам., 48). 2. Жэрдка, вакол якой кладзецца стог (Пар.).

СЦЕ'ЖКА. Вузкая пешаходная дарожка; прыкметная лясная пуцінка (БРС); пагон (Слаўг.); глухая дарога (Жытк.). Тое ж *сцёжка* (Ветк., Рэч.), *трапінка* (Докш., Лёзн., Стол.), *трапіна* (Жытк.), *тропка* (Зах. Бел. Др.-Падб.).

СЦЕ'ЛІШЧА. Месца, дзе звычайна сцелюць лён, каноплі, пасконні (БРС). Тое ж *слішча* (Барыс. Валож. Пух. Стаўбц. МДС, Краснап. Бяльк., Сал., Смален. Дабр., Стаўбц., Стол.), *сцільшча* (Віл. МДС), *сла́нне, слаццё* (Слаўг.).

СЦЕ'НКА. 1. Шырокая мяжа (БРС); межавая дарожка (Слаўг.). 2. Дарога да гумна (Нясв., Слаўг.); сцежка паміж гумнамі і полем (Уздз.); нешырокая дарожка за агародамі (Нясв.); вузкая дарожка паміж палеткамі (Мсцісл. Бяльк.). Тое ж *сцéначка* (Слаўг.). □ в. Сценкі Докш., ур. Сцéнка (поле, палявая дарожка) каля в. Церахоўка Слаўг.

СЦЕП. *м.* Вялікі абшар поля, пасеваў (Мсцісл. Бяльк., Слаўг.).

СЦЁК. Месца, па якому сцякае вада; цячэнне вады па нахільнай у рэчышчы (БРС).

СЦЁРАН. 1. Поле, з якога зжалі збожжа (Рэч.). 2. Пакоша (Рэч.).

СЦІЖА'РКА. Пляцоўка на двары (Стол.).

СЦІ'ЛА. Неаранае цвёрдае роўнае поле пасля зімы; ялавіна (Ст.-дар.).

СЦЯГА'. Бойкая сцежка; пагон (Віц. Нік. 1895, Лёзн.).

СЦЯЖ. 1. Абшар поля ў адным масіве (Слаўг., Чэр. Бяльк.). 2. Месца паабапал дарогі, ракі, каля лесу (Беласточчына ПНР, Гродз.).

СЦЯЖЫ'НА. Глухая, ледзь прыкметная лясная сцежка (ЛіМ, 1966, 25 студзеня).

СЦЯКУ'Н. Незамёрзлая сярэдзіна ракі (Ваўк. Сцяшк.).

СЦЯНА'. 1. Тое, што і сценка 1; межавая дарожка для аддзялення розных палёў (Нас. АУ). 2. Абрывісты бераг (Ветк.). 3. Лінія; мяжа (Шпіл.). 4. Адно звяно ў прасле з дзвюх пар калоў і жэрдак (Слаўг.). □ ур. Сцяна́ (стромы бераг Сажа) недалёка ад в. Шарсцін Ветк.

СЫПАНКА. Загачаная каменнем і засыпаная зямлёй дрыгва; штучная выспа; гарадзішча (Ковенская губ. 1914 L. Krzywicki. Pilkalnia pod wsią Petraszunami).

СЫРАБО'ЙНЯ. Гумно (Пух. МДС, Сміл. Шат.).

СЯДЗІ'БА. 1. Участак зямлі калгасніка, селяніна (БРС); месца, дзе знаходзіцца хата, с.-г. пабудовы, сад, агарод (Гарад. Касп., Нясв., Слаўг., Тал. Мядзв.). Тое ж *уся́дзьба, уся́дзібка* (Слаўг.), *ся́дзьба* (Краснап. Бяльк.), *уса́дзьба* (Жытк., Мсцісл. Юрч., Рэч., Слаўг.). 2. Лепшая, урадлівая зямля, якую адводзяць пад агарод, каноплі, ячмень (Слаўг., Хоц. Бяльк.). □ ур. Сядзібы (поле) каля в. Серкаўка Слаўг., ур. Сядзіба (поле, б. пас.) каля в. Целяшы Слаўг.

СЯЛІ'БА. Месца пад жылым домам і с.-г. пабудовамі; двор; хутар; пасяленне; сядзіба 1 (БРС). Тое ж *сялі́дзьба* (Рэч., Сен. Касп., Слаўг., паўн. паветы Чарнігаўскай губ. П. А. Расторгуев. Сев.-бел. говор, 1927, 152), *сялі́дба* (Нас. АУ, Слаўг.), *сялі́цьба* (Слаўг.), *сялі́бка* (Слаўг.). □ в. Сяліба Бярэз., в. Сялібка Віц. (Рам. Мат.).

СЯЛО'. Сельскі населены пункт, у якім да рэвалюцыі была царква або адміністрацыйныя будынкі; цэнтр навакольных вёсак (БРС). □ Сяло — частка в. Малева Нясв., в. Старое Сяло Зэльв.

СЯЛЬЦО'. Фальварак; маёнтак, ферма, бровар, віла (XVIII — пач. XX ст.). Тое ж *сялцо, сяле́ц.* □ в. Сяльцо Люб., в. Балонаў Сялец Бых., р. Сялец — л. пр. Дняпра, сялцо Дужаўшчына (в. Дужаўшчына) Чав., сялцо Лапацічы (в. Лапацічы), сялцо Гіжэнка (в. Гіжэнка) Слаўг. (1783 ЦДАСА, ф. 1355, Межавы архіў, спр. 11, Магілёўская губ., Старабыхаўскі пав.), в. Сялецкая Крыч. (Меер, 1786, 121).



СЯННІ'ЦА. 1. Хлеў для сена (Кап., Нас., Слаўг.). Тое ж *сяльнік* (Ветк.). 2. Месца, дзе стаяў сянны хлеў (Слаўг.).

## Т

ТА'БАРЫШЧА. 1. Месца, дзе стаяла войска; качэўе цыганоў; бойкае месца (Краснап. Бяльк., Слаўг.). Тое ж *та́бар* (БРС). 2. Выган, паша (Краснап. Бяльк.). □ ур. Та́барышча (месца, дзе стаяў лагер Пятра I у 1708 годзе) каля в. Лясная Слаўг.

ТАКАВІ'ШЧА. 1. Месца ў лесе, дзе такуюць цецерукі (Рэч.); месца, прыстасаванае для лоўлі звяроў, птушак (БРС). Тое ж *такаўішча* (Лёзн.). 2. Месца, дзе вядуцца змеі (в. Губеншчына Камаровіцкай вол. Чэр. пав. — Маг. губ. вед., 1889, № 1, 161). 3. Месца, дзе раней быў ток у гумне (Лёзн., Слаўг.), дзе было гумно (Віц. Нік. 1895, Паст.). 4. Цэментавая пляцоўка, куды ссыпаюць зерне ў час малацьбы (Лёзн., Слаўг.). Тое ж *такаўішча* (Лёзн., Слаўг.), *ток, тачок* (Слаўг.). 5. Месца, прыстасаванае для спаборніцтваў, гульняў (Слаўг.). Тое ж *точышча* (Слаўг.).

ТАКО'ЎНЯ. Пляцоўка для малацьбы (Віц. Касп.). Тое ж *тачок* (Слаўг.).

ТАЛ. Месца, дзе растаў снег (Зах. Бел. Др.-Падб.).

ТАЛАСА'. Дробныя хвалі на вадзе; зыб (Слаўг.). Тое ж *тамаса́, валва́* (Ашм., Лід.), *тусме́нь* (Ветк.), *плесь* (Смален. Дабр.). □ в. Таласкоўшчына Тал.

ТАЛАЧЭ'Я. Вытаптанае месца ў пасеве, на раллі, траве (Слаўг.). Тое ж *талчачэвішча, талчачэя* (Слаўг.), *талкавіска* (Слонімскі пав. 1598 АВАК, XVIII, 154), *тулкавіска* (Слон. 1598).

ТАЛО'. Палонка, багатая рыбай (Азяр. Касп.).

ТАЛО'КА. Абложная зямля (адзін год), узараная пад азімыя (Гом. Нарысы, 372, Краснап. Бяльк.).

ТА'ЛЬКА. 1. Зараснік лазы Salix rosmarinifolia L. (Рэч.). 2. Гліна, якая ўжываецца пры вырабе валенкаў (Гродз.), мінерал тальк сілікат магнію (БРС). □ в. Талька Пух.

ТАЛЧАЧЭ'Я. Месца, дзе збіраюцца людзі (Слаўг.). Тое ж *калчачэя* (Слаўг.).

ТАЛЧАЯ́. Прадпрыемства для апрацоўкі пянькі (с. Камаровічы і в. Задобрасць на р. Добрасці Крыч. староства Меер, 1786, 102).

ТА́МА. Ст.-бел. Гаць, застава, насыпаны вал.

ТАНЯ́. Затока каля ракі, на абалоні ў час разводдзя ці паводкі (Стол.). □ ур. Таня́ Любінская, ур. Таня́ Хвастоўская каля в. Кароцічы Стол.

ТАПІ́ЛА. Непраходнае месца на дрыгвяністым балоце; багністая бездань (Ветк., Жытк., Палессе Талст., Рэч., Сал., Стол., Уздз.); невялікае прыроднае азярцо сярод балота (Палессе Талст., Рэч.) або выкапанае (Лун. Талст.); гразкае месца (Жытк.); нізкае поле, якое ў час разводдзя і паводкі затапляецца вадой (Стаўбц. Прышч.). □ ур. Тапіла (балота) каля в. Заспа Рэч.

ТАПІНА́. Багна; забалочанае, гразкае месца (Нас.); твань у рэчцы; адталая зямля (Кап., Слаўг.); гразкая дарога (Слаўг., Смален. Дабр.). Тое ж *тапінь* (Кап.), *тапіня́* (Слаўг.).

ТАПО́РНІК. Малады лес, драбналессе, зараснік (Нясв., Слаўг., Шчуч.).

ТАР. Месца, дзе ходзіць паром; плыт (Нас.). Параўн.: стар. тара 'паром'.

ТАРАС. Стар. Земляны вал, насып, заслона. □ ур. Тара́сенка (луг) Стаўбц. (Прышч.), в. Туроса Уш.

ТАРПА́. 1. Вялікая ўкладка снапоў на полі (БРС). Тое ж *сці́рта* (Ваўк. Сцяшк.). 2. Тарфяное балота; торф (Ваўк. Сцяшк., Глуск. Янк. II, Чашн. Касп.).

ТАРТА́К. Лесапільны завод (Гродз., Мін.).

ТАРФЯ́НІК. 1. Тарфяное балота (БРС). 2. Поле на месцы асушанага балота (Сал., Слаўг.). Тое ж *тарфя́нікі* (Жытк.), *тарфя́нне, тархвянішча, тарховінне, тарховішча, таршы́шча* (Слаўг.).

ТАРФЯ́НІШЧА. 1. Асушанае тарфяное балота (БРС). 2. Балота, дзе нарыхтоўваюць торф (Лёзн., Слаўг.). Тое ж *тарпя́нішча* (Мін.), *тархвянішча, тархвя́не, тарховінне, тарховішча, таршы́шча, тархінне, тархішча* (Слаўг.).

ТАЎКА́Ч. Ст.-бел. Востраў сярод балота. □ ур. Таўка́ч (гарадзішча на астраўку сярод балота, парослае лесам) каля в. Гаравыя Пол. («Савецкая краіна», 1932, № 5, травень, 76), в. Таўкачоўка Слаўг.

ТАЧА́. Цеча; месца на рацэ, якое не замярзае (Стол.).



ТАЧО́К. 1. Месца, дзе малоцяць збожжа; глінабітны ток у гумне, пад паветкай; цэментаваная пляцоўка каля калгаснага свірна; расчышчаны ўчастак для малацьбы збожжа, ільну (Лёзн., Слаўг., Сур. Касп.). 2. Гумно, дзе складваюць і малоцяць збожжа (Мін., Я. Купала. Вершы. Паэмы, 1958, 18). 3. Бойкае месца, дзе збіраюцца людзі; пляцоўка, плошча (Нясв., Слаўг.). □ Стралецкі тачок перад стралецкім замкам у Полацку, Княжы тачок перад замкам у Навагрудку.

ТАШ. Ст.-бел. Сяло, сяліба (1596 «Лексіс» Л. Зізанія. Хрэст. па гіст. бел. м., 1961, 256). Тое ж *намет, кучка, ме́шканье*.

ТВАНЬ. 1. Багністае і вязкае месца (БРС); гразь, іл на дне вадаёма (Нас., Палессе Талст., Рэч., Слаўг., Стол.); гразь у час разводдзя (Палессе Талст., Слаўг., Ст.-дар.). Тое ж *ту́на, тынь, тунь, тынявішча, ты́нішча* (Слаўг.). 2. Зараслае возера, плаў; балота, зараслае трысцём (Кап., Палессе Талст., Слаўг.).

ТЛО. Зямля; попел, прах, пыл (Нас.). Тое ж *тлень* (Нас.), *тлен* (Зах. Бел. Др.-Падб.), *тля* (Нас.).

ТОК. 1. Глінабітная пляцоўка ў гумне для малацьбы; гумно (БРС). Тое ж *малатня́* (Паст.). 2. Высокае роўнае месца, плошча; месца, шырэйшае за вуліцу, дзе збіраецца народ (Слаўг.); прытаптанае цвёрдае месца без травы (Лёзн., Слаўг.); убіты, цвёрды грунт (Слаўг.). Тое ж *точышча* (Слаўг.). 3. Глінабітная падлога (БРС). 4. Месца, дзе такуюць цецерукі (Бых., Тур.). 5. Цячэнне вады (Слаўг.). 6. Пляцоўка для малацьбы на полі, для збожжа каля зернясховішча (Бых., Слаўг.). □ Тураў ток — месца каля калодзежа у г. Тураве.

ТО́КАВІШЧА. Месца, дзе быў ці ёсць ток для малацьбы (Лёзн. Касп., Слаўг.).

ТОНЬ. Месца на возеры або рацэ, якое зарасло трысцём (Мін.).

ТО́НЯ. 1. Месца на возеры, у рацэ, дзе ловяць рыбу закідным невадам (БРС); зручнае для рыбы месца (Люб. ГР, 98); месца ў рацэ, возеры, якое ахопліваецца невадам (Стол.). Тое ж *тонь* (Стаўбц. Прышч.). 2. Вір, бяздонне (БРС); найбольш глыбокі ўчастак возера (Стол.). □ Тоні на возеры Іўным, Тоня рыбна на возеры Пішчаным у Прапойскім старостве (1681 ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 4, інв. № 1556, л. 199; Дэмб., т. 2, 1884, 572), в. Танеж Тур.

ТО'ПАЛЬНІК. Зараснік топалю Populus nigra L. (Лёзн.); таполевыя прысады (Слаўг., Уш.). Тое ж *топалі* (Слаўг.), *топілі* (Уш.).

ТОР. Санны след; працёртая, пратаптаная дарога на снезе (Зах. Бел. Др.-Падб., Маладз., Слаўг.).

ТО'РАК. 1. Месца, дзе пастаянна ходзяць звяры (Стол.). 2. Палянка, дзе такуюць цецерукі (Жытк.).

ТОРГ. 1. Месца гандлю; рынак (Зах. Бел. Др.-Падб.). Тое ж *торжышча* (Нас.). 2. Кірмаш; базарны дзень (Слаўг.). □ ур. Авéчы Таржок Стаўбц.

ТОРФ. 1. Залежы торфу; тарфяное балота (БРС). Тое ж *тор* (Вет.), *торх, торхель, тархéль* (Слаўг.). 2. Поле на месцы асушанага балота; чарназём, алювіяльная глеба (Слаўг.). Тое ж *торшышча* (Слаўг.).

ТО'ЎШЧА. Таўшчыня зямлі (БРС); вышыня строма-га берага (Зах. Бел. Др.-Падб., Слаўг.). Тое ж *тоўчышча, тоўшч* (Слаўг.), *тэўшч* (Навагр.).

ТО'ЧКА. 1. Забіты ў дно ракі кол, да якога прывязваецца рыбацкая лодка (Маз.). 2. Хады шашка, мышы пад зямлёй (Стол.).

ТРАЕ'ННЕ. Тройчы ўзараная ралля перад пасевам (Слаўг.). Тое ж *троенне* (Слаўг.).

ТРАКЕ'НЯ. Гразкае, багністае месца, дзе можна правáліцца (Зэльв. Сцяцко).

ТРАКТ. Вялікая езджаная дарога; шлях (БРС). Тое ж *трахт* (Слаўг., Тал. Мядзв.). □ Слуцкі тракт, Даўгінаўскі тракт.

ТРАНСА'ВА. Багністае балота (Бераст. Ваўк., Гродз. ДАБМ, пп. 347, 348, 371). Тое ж *трэпяць* (Ваўк. Сцяшк.), *транцавіца* (Зэльв. ДАБМ, п. 386).

ТРАП. Сцежка, дарога; след, кірунак; крок (Нас., Слаўг.). Тое ж *троп* (Зах. Бел. Др.-Падб., Нас., Сур. Касп.).

ТРАСІ'НА. Дрыгва; багністае месца на балоце; зыбкі плаў; багністы зарослы чаротам бераг возера (Віц., Гродз., Крыч., Маг., Палессе Пол. Слуцк. ДАБМ). Тое ж *трасавінá* (Палессе ДАБМ, Слаўг.), *трасíя* (Крыч., Мсціcл. Бяльк., Слаўг.), *трасýн* (Пол.), *трасціна* (Слон. ДАБМ, п. 421), *трасяніна* (Хоц. Бяльк. 444).

ТРАСКО'ВІШЧА. 1. Месца, дзе распілоўваюць і колюць дровы (Слаўг.). Тое ж *трэснік* (р. Пціч Серб. 1915, 53), *трасочнік* (Глуск. Янк. II, Рэч.), *траскоўнік* (Слаўг.). 2. Закінуты кар'ер, роў, куды ссыпаюць пілавінне, розныя адкіды; сметнік (Слаўг.). Тое ж *трасочнік* (Глуск. Янк. II).



ТРА'ЎНА. Сенажаць з сакавітай травой (Слаўг.). □ в. Трáўна Краснап.

ТРА'ЎНІК. Паласа паміж праезджай дарогай і тратуарам у горадзе, дзе растуць дрэвы, кветкі, трава (Гродз.).

ТРАЦЦІ'НА. Трэцяя частка дзесяціны зямлі; трэць ураджаю (Слаўг.). Тое ж *трацяк* — 3/4 га (Ваўк. Сцяшк.), *трайцяк* — да 8 га, *трайцінá* — 7 га (Зэльв. Сцяцко), *трэціна* — палавіна з чацвёртай часткі га (Стол.).

ТРОСЦЬ. Зараснік рагозу Typha latifolia L. (Лёзн.).

ТРУБА'. 1. Рэчышча ракі (Лёзн. Касп.). 2 .Пастухова двухметровая жалейка (Краснап.). □ в. Трубільня, або Трубілна (1750 ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 4, інв. № 1556, л. 225) Краснап.

ТРУШЧО'БА. Глухія мясціны (Слаўг.).

ТРЫБ. 1. Квартальная прасека ў лесе (Пруж. Весн. БДУ. Серыя IV, 1971, № 1, 76). Тое ж *трыба* (Ашм., Шчуч.). 2. Граніца, мяжа (Брэсц. 1577 АВАК, XVIII, 29). 3. Прамая дарога; шлях, кірунак (Вілен. 1596 АВАК, XI, 64, 68). 4. Лясная дарога (Пруж.). Тое ж *трыба* (Зэльв. Сцяцко, Шчуч.). □ в. Трабы Іў.

ТРЫЗНІШЧА. Месца, дзе былі паядынкі (Бяр. 1655).

ТРЫСНЁГ. Зараснік чароту Phragmites communis Trin. (БРС). Тое ж *траснік* (Леп., Лёзн., Шчуч.), *трасцінá* (Ваўк. Сцяшк., Слаўг.), *трасцéлкі* (Смален. Дабр.), *трысцё* (БРС), *трыснік* (Беш. Касп.), *тросць* (Слаўг., Уш.). □ в. Трасціно Хоц., в. М. Трасцянéц Мін., в. Трасцянец Чарнігаўскай вобл., ур. Яўрэйская Тросць (чаро-цістая частка Чарсвяцкага возера) Уш. (Кавал.).

ТУПІ'К. Месца, вуліца з выйсцем у адзін канец; закавулак (БРС). Тое ж *турок* (Краснап. Бяльк., Слаўг.). □ в. Туркова Дзіс., Люб., ур. Ваўчкоў турок (лог) каля в. Шаламы Слаўг.

ТУР. 1. Тупік (Слаўг.). 2. Паводле паданняў. Цэнтральная частка населенага пункта (Жытк.). 3. Слуп пры печы ў курных хатах (вв. Ямна і Буды Дзіс.). 4. У актах. Апорны слуп пасярэдзіне святліцы старажытнага жылога дома. 5. Лекавая трава Arnica montana, лісты якой сцелюцца па зямлі, а на высокай кветаножцы жоўтыя краскі (Жытк., Стол.). □ в. Турна Кам.

ТУРУСНЯ́К. Затор лёду на рэках і азёрах (Дзіс.). Тое ж *турýн, турунты́* (Дзіс.). □ в. Туроса Уш.

ТУРЭ́Ц. Быстрыня, хуткае цячэнне на рацэ (Сміл.). □ в. Турэц. Сміл., в. Турэц Кар.

ТХЛАНЬ. Бездань, нетры; балота (Слуцк. Сержп. Прымхі, 24).

ТХЛО. Палонка, прасечаная ў лёдзе, куды выходзіць рыба (Пол.).

ТЫЛ. 1. Другі ад дарогі канец паласы (Шчуч.). 2. Месца ў канцы агародаў, за вёскай; глухое месца (Рэч.).

ТЫЧО́К. Верх узгорка, гары; адкрытае месца (Слаўг.).

## У

УБО́РАК. Падэшва ўзвышэння, якая заліваецца вадой (Слаўг.). □ ур. Уборак (астатак ніжняй тэрасы на лузе) каля в. Рудня Слаўг.

УБО́ЧЫНА. Пакаты бок, пакатасць (Зах. Бел. Др.-Падб.).

УВЫ́ГАР. Месца, дзе згарэў лес (Слаўг.).

УГАМО́НІШЧА. Урочышча (Слаўг.).

УГЛЫБЕ́ЖЫНА. Паглыбленне, заглыбленне (Слаўг.).

УГО́ДА. Выгода, прыволле (Стол.). Тое ж *удоба* (Слаўг.).

УГО́ДДЗЕ. Прыродная выгода («Звязда», 1966, 4 мая, Нас., РБС).

УГО́ЛЬШЧЫНА. Месца, дзе выганялі дзёгаць і выпальвалі драўняны вугаль (Бых. Рам. 1912, 3). Тое ж *уголле* (Бых. Рам. 1912, 3). □ вв. Угольшчына, Уголле Бых. (Рам. 1912, 3).

УГО́РАК. Поле, якое пакінута пад папар (Крэцінская вол. 1566 АВАК, XIV, 104). □ в. Угорак (Узгорск) Слаўг. (1786 Публічн. бібл. імя С.-Шчадрына ў Ленінградзе. Аддзел рукапісаў, ф. 342, № 231).

УГО́Р'Е. Узгоркавая мясцовасць (Слаўг.) □ ур. Угор'е (узгоркі, ямы) каля в. Дабранка Слаўг.

УГРУ́Д. 1. Лоўж галля (Нясв., Слаўг.). 2. Мёрзлая зямля да снегу (Слаўг.).

У́ГРЫВА. 1. Высокае месца, дзе сонца грэе цэлы дзень (Нас., Слаўг.). Тое ж *угрэй* (Бял. Матэр.). 2. Зацішнае, сонечнае і сухое месца (Слаўг.).



УГРЭ́Х. Прапушчанае месца пры ўзорванні, сяўбе, баранаванні (Краснап. Бяльк., Слаўг.). Тое ж *узгрэх* (Нясв., Слаўг.), *заагрэх* (Смал. МДС, Сміл.), *загрэх* (Чэрв.), *заўгрэх* (Бярэз. МДС), *узрэх* (Нясв., Сеп. Касп.), *урэх* (Лях.).

УЖАЛЮ́ННЕ. Глухое лясное месца; змяіннік (Краснап.). Тое ж *ужалённе* (Краснап.). □ ур. Ужалюнне каля в. Калінаўка Краснап., ур. Ужэўскі лес каля в. Дабранка Слаўг., б.в. Желивье (XVII ст.) Слаўг.

У́ЖАР. Выгаралае месца на балоце, залітае вадой (Палессе Талст.). □ в. Ужар Чав.

У́ЗБАЛАЦЦЕ. Месца ўздоўж балота (Слаўг.). Тое ж *ýзбалаць, узболацце* (Слаўг.). □ в. Узбалаць Валож.

УЗБО́ЧЧА. Бок канавы, схіл дарогі, гары (Слаўг.). Тое ж *узбокінне, узбокічча* (Слаўг.).

УЗБЯРЭ́ЖЖА. Пабярэжжа (БРС). Тое ж *ýзбéражжа, узбярэж, бярэжжа, узбераговішча* (Слаўг.), *узбéраж* (Зах. Бел. Др.-Падб.), *узбярэж* (Слаўг.).

УЗВА́ЛАК. 1. Высокае, узвышанае месца (Слаўг.). 2. Край нізіны (Слаўг.).

УЗВА́ЛЛЕ. 1. Падэшва гары ў выглядзе некалькіх спадзістых выступаў; адхонная частка гары (Слаўг.). Тое ж *узвáл* (Пол., Смален. Дабр.). 2. Стромы бераг ракі (Чашн. Касп.). 3. Узвышша, поле над рэчкай; узгорак (Сен. Касп., Слаўг., Смален. Дабр.). 5. Месца за валам (Маг. губ. вед., 1854, № 49, 884). □ ур. Узвалле каля х. Ланіца Карм.

УЗВО́З. Уз'езд на гару (Слаўг.). Тое ж *увоз, узывоз* (Слаўг.). Параўн.: увозъ Боричевъ у г. Кіеве (Лаўрэнцьеўскі летапіс, стар. 5; Іпацьеўскі летапіс, стар. 5).

УЗВЫ́ШАК. Высокі асобны ўзгорак на ўзвышшы (Мін.).

УЗВЫ́ШША. Высокая гарыстая мясцовасць; высокае месца (БРС).

УЗГА́НАЧЧА. Месца, дзе быў ганачны памост, ганак (Слаўг.).

УЗГО́РАК. Невысокае ўзвышша, горка (БРС). Тое ж *узгорачак* (Сміл. Шат.).

УЗГО́Р'Е. 1. Мясцовасць узгоркавая (Слаўг., Смален. Дабр.). 2. Невялікае пагоркавае ўзвышэнне (БРС); падэшва ўзгоркаў (Зах. Бел. Др.-Падб., Слаўг.). 3. Схіл гары, узгорка (Слаўг.). Тое ж *ýзгар'е, узгорынне, узгорычча* (Слаўг.).

УЗГО′РСК. Узгоркавае месца (Слаўг.). □ в. Узгорск Слаўг., вул. Узгорская (1803) у Віцебску.
УЗГРАНІ′ЧЧА. Ускраіна поля каля мяжы (Слаўг.). Тое ж *узмежжа, вузмежжа* (Слаўг.).
УЗДУХАВІ′НА. Непраходнае, зыбкае балота (Навагр. ДАБМ, п. 440), *зухвіна* (Івац. ДАБМ, п. 716).
УЗЛЕ′САК. Малады лес на краю старога лесу (Слаўг.). Тое ж *узлёсак* (Слаўг.).
УЗЛЕССЕ. Край лесу, прылесак (Зах. Бел., Др.-Падб., Слаўг.). Тое ж *паналессе* (Беш. Касп.).
УЗЛО′БАК. Узгорак, невысокі бугор, узвышша (Азяр. Касп., Слаўг.). Тое ж *узлоббя* (Слаўг.).
УЗЛО′Б'Е. Схіл гары, узгорак (Слаўг.). Тое ж *узлобічча, узлобаўе* (Слаўг.).
УЗЛО′ЖЖА. Месца каля логу (Слаўг.). Тое ж *узлагоўе* (Слаўг.).
УЗЛУ′ЖЖА. Узбярэжжа заліўнога лугу; луг каля поля (Слаўг.). Тое ж *узлужнішча* (Слаўг.). □ ур. Узлужжа (поле, луг) каля в. Папараткі Слаўг., Узлужжа (вуліца) у в. Віравая Слаўг., ур. Улужжа (поле на правым беразе р. Сажа) Карм.
УЗМЕ′ЖАК. 1. Вузкая, незасяваемая паласа паміж раллёй і дарогай з канавай ці раўком (Віц. Нік. 1895). 2. Бакавая частка, край шырокай мяжы на агародзе, які звычайна зарастае травой (Бял. Матэр.). 3. Частка неўзаранай зямлі ў канцы поля; край сенажаці каля нівы (Беш. Касп., Докш.). Тое ж *памежак* (Мін.).
УЗМЁТ. Першае ворыва ўвосень, зябліва; пустуючае адзін год поле (Крыч. да 1772 АВАК, XXXV, 5—7, Лёзн., Слаўг.).
УЗМУ′ЦЬ. Глыбокае месца ў возеры (Слаўг.). □ воз. Узмуць каля в. Віравая Слаўг.
УЗНІ′ЗЗЕ. Нізіна паміж гор; мясцовасць у ніжнім цячэнні ракі (Слаўг.). □ ур. і б.х. Узніззе каля в. Васькавічы Слаўг.
УЗНО′Р. 1. Крыніца, струмень вады, які выходзіць на паверхню зямлі (Віц. Нік. 1895). 2. Крыніца або непарасыхаючы вадаём, копанка (Лёзн.). 3. Нізіна (Кузн. Касп.). □ в. Узнор Гарад.
УЗО′ЛІШЧА. Ст.-бел. Падзолістая глеба.
УЗРО′ЎЕ. Месца ўздоўж рова (Маладз., Слаўг.). Тое ж *узровічча, узроўнішча, узраўе* (Слаўг.).
УКЛО′Н. Спуск або пад'ём дарогі (Слаўг.).



УКЛЯ′СЛАСЦЬ. Паглыбленне, западзіна; уцісненне, след (Бельск Беластоцкага ваяводства ПНР, Гродз. Вал.). Тое ж *укляктанне* (Гродз.).
УКРА′ІНА. Краіна, край, вобласць, якая знаходзіцца каля мяжы або за межамі айчыны (Нас.); пагранічнае месца (Нас. АУ). Тое ж *украйна* (Слаўг.).
УКРЫЖАВА′ННЕ. Месца, дзе перакрыжоўваюцца дарогі, вуліцы (Зах. Бел. Др.-Падб.).
УЛАТО′ЎК. Курган (Чашн. Касп.). Тое ж *уссопак* (Сіроц. Касп.).
УЛО′ВЫ. Месца, дзе ловяць звера, птушку, рыбу (Слаўг.).
УЛУ′КІ. Выгібы ракі (Слаўг.). □ в. Улукі Слаўг., ур. Улукі (луг) каля в. Улукі Слаўг.
УЛУ′С. 1. Месца здабычы, палявання (Слаўг.); чужая паша (Смален. Дабр.). 2. Казённы лес, які адведзены сялянам для карыстання (Смален. Дабр.). Параўн.: *улус* *'вуліца'* (Каверынскі р-н Горкаўскай вобл. РСФСР Рус., 14).
УМЕ′ЖАК. Мяжа (Сміл. Шат.).
УМУРАЖЭ′ННЕ. Дзірван, мурожны пласт (Слаўг.).
УПА′ДЗІНА. Паглыбленне на паверхні зямлі (БРС). Тое ж *упад* (Нас.).
УПЫ′Н. Запруда, гаць, шлюз; стаячы вадаём (Слаўг.).
УПЯРО′ЧКА. Папярочны ўчастак у канцы доўгай паласы; кароткая папярочная баразна (Слаўг.). Тое ж *упярока, упярэчка* (Слаўг.). □ ур. Упярочкі (поле) каля в. Серкаўка Слаўг., ур. Вялікія Упярочкі (поле) каля в. Кульшычы Слаўг.
УРО′СКІДКА. Узаранае ўроскідку поле з разорай пасярэдзіне (Рэч). Тое ж *уроскід* (Навагр.), *уроскідзь, уроскід* (Слаўг.), *уроскідзь* (Жытк., Краснап. Бяльк., Стол.), *уразору* (Паст.), *уразорыну* (Дубр.).
УРУ′ГА. Выгода, прыдатнае для жыцця месца; прыволле, добрая паша (Клім. Бяльк., Лёзн., Сен., Сур., Касп., Слаўг., Смален. Дабр.). Тое ж *уружжа, урожжа* (Слаўг.), *урунь* (Міласл. Бяльк.).
УРУ′Н. Поле з азімымі ўсходамі (Стол.). Тое ж *уруна* (Рэч.).
УРУ′ЧЧА. 1. Лагчына, дзе цячэ некалькі ручаёў; месца, дзе зліваюцца малыя рэчкі (Слаўг.). Тое ж *урэчча* (Слаўг.). 2. Выгода, прыволле; зручнае для сельскай гас-

падаркі месца (Слаўг.). □ в. Уручча Мін., ур. Уручча (поле, бярэзнік) каля в. Любаны Слаўг., в. Урэчча Слаўг.

УСКЛА'Д. Узаранае поле, загон з двайной баразной пасярэдзіне; двайная баразна (Дубр., Краснап. Бяльк., Паст., Слаўг., Стаўбц.).

УСКРА'ЕК. Самы край, канец, ускраіна поля, лесу, берага ракі (БРС). Тое ж *ускра́й* (Нас., Слаўг.), *ускрэм'е* (ст.-бел.), *карёмачка* (Слаўг.), *ускра́іна* (БРС).

УСО'ДЗІШЧА. Месца першапачатковай аселасці (Віц. Рам. Мат.). □ воз. Усодзішча Віц. (Рам. Мат.).

УСО'Х. 1. Рэчышча высахлай ракі (Сразн. Мат., III, 1270). 2. Засохлы на корані лес; смалакурнае месца (Слаўг.). □ в. Усохі Слаўг., в. Усох Папоўскай вол. Гом. пав. (1886), ур. Усоха (балота, лес) каля в. Пасека Ст.-дар.

УСПЕ'ЗАК. Пясчаная паласа на раллі; месца на полі, дзе пад тонкім пластом глебы знаходзіцца пясок (Слаўг.).

УСПЛА'ВІНА. Покрыва моху і травы на беразе возера або ракі, сярод балота (Пух. Шат.).

УСПО'Л. 1. Штучная вялікая сажалка, пераважна сярод вёскі (Віц. Нік. 1895). 2. Рака ніжэй плаціны (Беш. Касп.).

УСПО'ЛЛЕ. 1. Зямельная выгода, якая прылягае да поля (Нас., Слаўг.). 2. Плошча, якая прылягае да прадмесця (Нас. АУ).

УССЫ'ЛКА. Месца ссылкі (Жытк.).

УСТА'Ў. Ставок, пруд (Ваўк. Сцяшк.).

УСХО'Д. 1. Частка свету, па напрамку супрацьлеглая захаду; частка гарызонта, дзе ўзыходзіць сонца (БРС). Тое ж *усток* (Грыг. 1838—1840, Хрэст. па гіст. бел. м., 1961, 505). 2. Парасткі збожжавых, якія толькі паказаліся з зямлі; рунь (Зах. Бел. Др.-Падб., Слаўг.). Тое ж *усходы* (БРС). 3. Пад'ём на гару (Слаўг.).

УСХО'ДЦЫ. Выкапаныя ў зямлі ступенькі пры пад'ёме на гару (Рэч.).

УСХО'ДЫ. Ловы, бортныя дрэвы, рыбныя азёры (Jan Jakubowski. Mapa wielkiego księstwa Litewskiego w połowie XVI wieku, 1928, стар. 21. Atłas historyczny polski, № г. 1).

У'СЦЕ. Месца, дзе адна рака ўпадае ў другую (Рэч.). Тое ж *уток, улíў, злíў, улéва* (Слаўг.).

УСЦЮ'Г. Сярэднеазёрная водмель, якая зарасла чаротам Phragmites communis Trin., сітняком Scirpus lacustris L. і багатая рыбай (Віц. Нік. 1895). □ г. Вялікі У'сцюг Валагодскай вобл. РСФСР.

УСЯ'НІШЧА. Поле, дзе рос авёс (Мсцісл. Бяльк., Слаўг.).

УТАЛА'З. Узвышша сярод нізкага лугу; глухое месца (Слаўг.). Тое ж *аўтула́з, утула́з* (Краснап.). □ ур. Утала́з (узвышша на нізкім лузе) каля в. Кліны Слаўг., ур. Утула́з (глухое, лясістае, балоцістае месца) каля пас. Каліна ўка Краснап.

УХА'БА. Ямка на разбітай коламі дарозе (БРС). Тое ж *уха́б* (Слаўг.).

УХАЛО'ДА. Цяністае або халоднае крынічнае месца (Слаўг.). □ в. М. Ухалода Барыс. («Звязда», 1966, 9 снежня).

УХЛЯ'СЛАСЦЬ. Багна, гразкае месца, адталая глеба, мяккая ралля (Слаўг.).

У'ХЛЯСЦЬ. Заліў, затон; старык, які злучаецца з рэчышчам ракі (Жучк., 1968). □ р. У'хлясць ці Хлясць (Слаўг.).

УЦЯ'ТНІК. Трава аўсяніца Festuca fluitans Lin., якая расце на нізкіх лугах на правым баку р. Сажа (Крыч. староства Меер, 1786, 166) або на сухіх пясчаных глебах, лугах (Слаўг.). □ ур. Уцятнік (поле) каля в. Гайшын Слаўг., ур. Уца́тнік (луг) в. Папоўка Слаўг.

УЧА'СТАК. Кавалак зямлі (БРС); сядзіба калгасніка (Жытк., Слаўг.); паласа, пайка (Жытк., Слаўг.); водруб, хутар (Слаўг.).

## Ф

ФА'БРЫК. Месца, дзе было прадпрыемства для вытворчасці гудрону (пікаварня); фабрычны раён (Слаўг.). □ Фабрык — вуліца ў г. Слаўгарадзе.

ФАЛЬВА'РАК. Невялікі маёнтак, хутар (БРС); асобная частка вёскі, панскі двор у вёсцы, жыллё арандатара, ферма (Гарб.). Тое ж *фаліва́рак, фоліварак, хваліва́рак, холіварак, больвар, хольварк, хольварак* (Слаўг.), *фальба́рак* (Нясв.), *фольварак* (Грыг. 1838—1840, Мсцісл., Слаўг.), *хвальва́рак, хвольварак* (Сен. Касп.). □ пас. Фальва́рак Люб. (Лемц. Дыс., 209), ур. Фальва́рк (поле) каля в. Целяшы Слаўг., ур. Больвар (поле) каля в. Улукі Слаўг.

ФАШЫ'НА. Насціл; дарога, насланая з бярвення, галля і зямлі на балоце (Сал.).

ФО′ЛЬВАРЫЧЧА. Месца, дзе быў фальварак (Слаўг.). Тое ж *хольварычча, хольвар'е, халівáрня* (Слаўг.).

ФО′ЛЮШ. Сукнавальня (Берасцейскае ваяводства 1579 АВАК, XIV, 104, Нас. АУ). □ Фолюш — занёманскі раён г. Гродна.

ФЕРМА. Месца каля фермы або дзе стаяла ферма (Слаўг.). Тое ж *хірма, хвірма* (Слаўг.). □ ур. Херма (месца каля калгаснай фермы) каля в. Пасека Ст.-дар., вв. Херма і Новая Херма Краснап.

ФУНДУШ. Ворная зямля, ралля (Гарб.).

## X

ХАЛАДНІ′К. Балота (Лун. ДАБМ, п. 803).

ХАЛАДО′К. Цянёк (БРС); зацененае месца пад густой каронай дрэў (паўсям.).

ХА′ЛЕПА. Вадкая гразь на полі, дарозе ад дажджу, або мокрага снегу; слата (БРС). Тое ж *хáліпа* (Краснап. Бяльк., Мсцісл. Юрч., Нас., Слаўг.), *шліхота* (Пух. Шат.), *слатá, хліхацінне, слацццё, хляпоцце, хля́па, хлюпоцце, хлюпінь, кля́ча, хлюпота, хліпатá* (Слаўг.), *хлюда* (Маг. губ. вед., 1854, № 49, 884), *хвіля* (Слаўг.), *хлюпá* (Нас.), *хля́каць* (Рэч.), *шáліпа* (Лёзн. Касп., Слаўг.).

ХА′ЛІ. Крыты базар (Гродз.).

ХАЛМІ′НА. Круглая катлавіна, дзе заўсёды вільготна (Слаўг.). Тое ж *халмінка* (Слаўг.).

ХАЛУ′Й. У РСФСР (Мурз., 242). Падводны камень на рацэ (Паўночны край). Завалы на рэках ад падмытых дрэў (Комі АССР). Наносы, якія засталіся на лугах пасля разліву рэк (Прыўралле, Кіраўская, Валагодская вобл.). □ в. Халуі (Салаўіная з 1964) Глыб., в. Халуй (Ліпень з 1930) Асіп.

ХАМЁЛКА. Вяршыня дрэва (Слаўг.).

ХА′ТКА. 1. Баброва збудаванне ў выглядзе лаўжа з ламачча ў рэчках і азярынах (басейн Бярэзіны і Сажа). 2. Невялікая, простая сялянская хата (паўсям.). □ ур. Хáткі (поле на месцы хат радзівілаўскіх парабкаў) каля в. Малева Нясв. (Юшк.), в Хáткі Нар.

ХА′ТНІШЧА. Месца, дзе стаяла хата; невялікі ўчастак зямлі (Жытк., Лёзн., Сал., Слаўг., Ст.-дар., Стол.). Тое ж *хáцішча* (Ветк., Слаўг., Смал.), *хáта* (Слаўг.).



ХАШЧ. Гушчар, зараснік, буралом, нетры (Стол.).

ХВА′ЛЯ. Вадзяны вал, зыб на рацэ, возеры ў ветранае надвор'е (БРС).

ХВІ′ЛЯ. Бездань, прорва, прадонне і наогул усякае благое месца (Грыг., 1838—1840).

ХВІ′ШКА. Тое, што і вітка (Слаўг.).

ХВО′ЙНІК. 1. Сасновы лес, сасоннік (БРС). Тое ж *хвоя* (Глуск. Янк. I, Жытк.), *хвайня́к* (Ветк., Кузн. Касп.), *хваіна, хвоя* (Маг. губ. вед., 1854, № 49, 884, Палессе Талст.). 2. Зараснік хвоі, ельнік (Крыч., Лёзн., Нясв., Слаўг., Ст.-дар.). Тое ж *хвайня́к* (Ветк., Слаўг.), *цёмны ле́с* (Арш., Гор., Сен., Чав. пав. Дэмб., т. 2, 1884. Карта Могил. губ. почв и лесов). 3. Сасновы і яловы лес (Ветк., Ст.-дар., Стаўбц., Хойн.). □ ст. Цёмны Лес Гор.

ХВО′РАСТ. Кусты; галлё, сучча (Крыч.). □ в. Хварася́ны Слаўг.

ХВОШЧ. 1. Зараснік хвашчу Equisetum балотнага, палявога, лугавога (БРС). 2. Прыбярэжнае месца ў балоце, возеры (Жытк.).

ХЕХЛА. Балоцістая нізіна (Віл., Дзіс., Мат. по ист. и геогр. Дисн. и Вил. уездов Вилен. губ. Витебск, 1896, 178). Тое ж *холхла, хелхло, хоўхла, халхоліца* (Лемц. Айк.). □ в. Халхоліца Барыс., в. Холхлава Маладз., в. Хоўхла Буда-Каш., в. Хохлава Навагр. (Лемц. Дыс., 165).

ХІБ. Верх узгорка, грэбень; узгорак (Слаўг.). Тое ж *хібе́нь* (Віц., Слаўг.), *хібок, хібянёк* (Слаўг.). □ в. Хібні Віц. (Рам. Мат.).

ХІ′ЖА. Прымітыўнае жыллё (Слаўг.).

ХІЗО′Н. Пчаліны вулей (Слаўг.). Тое ж *хвізон, хівізон* (Слаўг.). □ в. Хізы́ Гом.

ХІЛ. Схіл (Слаўг.). □ в. Хільчыцы на месцы г. Хіл (паводле падання) Жытк.

ХІМ. Нізкі лес, хмызняк, пераважна альховы, з вербалозу; нетры (Слаўг.). Тое ж *хімінá* (Слаўг.).

ХЛЁХАЦЬ. Вадкая багна (Слаўг.). Тое ж *хліхацінне, хліхаццё* (Слаўг.). □ ур. Хлёхаць (балота) каля в. Бахань Слаўг.

ХЛУДЫ′. 1. Падмыў прыбярэжных дрэў, кустоў, пад карэннямі якіх хаваюцца рыбы, выдры і нарыцы (Віц. Нік. 1895). 2. Нанос у часе разводдзя раслінных рэштак на бераг, кусты і ў заліў (Віц. Нік. 1895).

ХЛЯВІ′ШЧА. Месца, дзе быў хлеў (Лёзн., Сал.). Тое ж *хляўнішча* (Ветк.).

